грошай перапала б куча! Прыкмета такая ёсць, ведаеш... А так – наяве... Ды яшчэ спатыкнуцца баюся... Ногі ўжо не надта трымаюць, а нырца ў гэта дабро даваць не хочацца. Пад самы канец выбраўся на прыступкі. Здагадаўся, што ля выхаду знаходжуся. Ліхтарык ужо не свяціў, таму намацваў адтуліну ў дзвярах рукамі, а дзверы ж над галавой... Даволі доўга намацваў. Звязаў дзве паловы кубка разам, як было... І ўстаўляць баюся. А што, калі не адчыніцца? Калі над плітой – зямля ці ўвогуле якое збудаванне? Карацей, натузаўся я з гэтымі дзвярыма так, што не памятаю, як выпаўз... Ну і на свежым паветры адключыўся. Апрытомнеў – нада мной дзявочая істэрыка.

Апошняя фраза прагучала гэтак самазадаволена, што Арсенія проста павінна была абурыцца, але яе адразу ж пацягнулі за руку, і вось яна ўжо цалуецца з прычынай абурэння... Ад гісторыка прыемна пахла шампунем для мужчын “Дав”, і Ася з іроніяй успомніла, як адчайна граф адмываўся ад набытага ў сутарэннях водару, і ўмудрыўся скарыстаць за раз тры бутэлечкі гэтага шампуня.

– Чакай.... — Ася вызвалілася і палезла ў сумку. – Мне сказалі, што цябе нельга хваляваць, але я ведаю, што ты мне не даруеш, калі я не дам табе адразу ж пачытаць...

І працягнула пергамент з тэстаментам. Даніла Раманавіч, прымацаваны да кропельніцы, заварушыўся ў ложку, спрабуючы зручней уладкавацца, каб прытрымліваць шорсткі ліст, Ася дапамагла...

Ён чытаў старажытную вязь, вядома, хутчэй, чым Вячка. Прачытаў і адкінуўся на падушку, заплюшчыўшы вочы. Пергамент з ціхім шоргатам звярнуўся ў трубку, як змяя, якая ўкусіла ахвяру і лена скручваецца ў кольцы. Ася маўчала, даючы магчымасць нашчадку Корб-Варановічаў асэнсаваць і перажыць прачытанае.

– Братняя кроў... – прашаптаў Даніла, не адплюшчваючы воч. – Божа мой, колькі мы адзін аднаму пралілі тае братняе крыві... Уся Беларусь залітая. Колькі маны. Колькі дарэмнай нянавісці. Здрады. Дурасці.

Ён паглядзеў у шэрыя вочы Вяжэвічаўны сваймі шэрымі вачыма, у якіх пульсаваў боль.

– Ты казала, я завернуты на чысціні крыві... Толькі для мяне гэта значыць зусім не тое, што для дбайцаў пра арыйскую расу. У нас жа – і ў ва мне, і ў табе – столькі ўсяго, напэўна, намешана за стагоддзі, і беларускага, і габрэйскага, і расейскага, і украінскага, і польскага, і татарскага... Якая розніца! Не гэта вызначае прыналежнасць да роду, да зямлі, а толькі любоў да гэтай зямлі і гонар за свой род. Вось і ўсё.

Корб-Варановіч правёў здрапанай рукой па арыстакратычным твары, які яшчэ нядаўна знаходзіўся ў ганебнай блізкасці да натуральнага дзярма.

– Што з таго, што Калантай – беларус па нараджэнні? Яму тут усё чужое, усё малацікавае і недаразвітае, ён адчувае сябе на маргіналіях, правінцыялам вялікай імперыі, цэнтр якой не тут. А мой сябар Алесь, археолаг – са смілавіцкіх татар, калі да бацькоў у Смілавічы прыязджае, у мячэць ходзіць. І ён галаву скласці гатовы, калі спатрэбіцца, каб адратаваць якую старажытную царкву ад разбурэння, вочы сапсаваў, начыма разбіраючы старасвецкія хронікі, абы белай плямай у нашай абылганай гісторыі сталася меней... У яго не толькі дзеці, але і ўнукі на чысцюткай

беларускай мове паўсюль размаўляюць! Мы з ім таксама адной крыві. Аляўціна Пятроўна з Ройна – з патомных сялянаў. Але яна ведае свой род да восьмага калена, пра кожнага з продкаў адсачыла звесткі... І яна больш радавітая, чым які-небудзь прамы нашчадак князя, якому пляваць на ўвесь гэты продкавы ланцуг, і добра, калі дзеда ўласнага памятае, і жыве ён толькі тут і цяпер. Ведаць свой род – гэта яшчэ і мець адказнасць перад сваёй зямлёй. Разумееш, малая?

Корб-Варановіч трымаў Арсенію за руку, і яна адчувала, што да яго вяртаецца ранейшая моц, небяспечная і надзейная. І пачуццё гумару, чорнага, як ройнаўскія сутарэнні.

– А ты ўсё-ткі арыстакратка! Арсенія Варановіч! Ах, як шкада... А я ўжо склаў у галаве сюжэт кшталту беднай Лізы... Я ўвесь такі радавіты, адорваю сваёй міласцю сціплую пейзанку! А пейзанка ўся такая сарамлівая... Каханка па начах кіпцюрамі не драпае...

– Мярзотнік! Я цябе ненавіджу! – Арсенію ажно затрэсла ад абурэння – а яна і забылася за апошнія дні, як яе можа злаваць гэты... Гэты...

– Узаемна! – расплыўся ва ўсмешцы Корб-Варановіч. Раптам павярнуўся да сваёй правай рукі, падключанай да кропельніцы, твар у яго зрабіўся знаёма шалёны.

– А, пайшло яно... – і рашуча пацягнуў з вены голку.

– Што ты робіш! Ненармальны! Асцярожна! – заверашчала Ася. Але Даніла ўжо грэбліва адкінуў катэтар, які абурана загайдаўся, па кроплі губляючы гаючую вадкасць. Граф схапіў Асю за руку, змусіў упасці на вузкі ложак побач з сабою, нахіліўся над ёю на адлегласць апошняй пяшчоты, прашаптаў:

– Я здагадаўся пра сакральны кубак, напоўнены змяшанай братняй крывёй, які трэба паставіць на алтар... Ён у нас народзіцца. Месяцаў праз дзевяць. Мы панясем хрысціць, а паколькі ён хлопчык, яго абнясуць вакол алтара, уводзячы ў храм!

Ася няёмка закруцілася на ложку – а раптам зойдзе хто! І ўвогуле...

– Па-першае, чаму хлопчык? Па-другое, я яшчэ не згадзілася на шлюб! Па-трэцяе, ты мне яшчэ ні разу не сказаў, што кахаеш!

Даніла крануў вуснамі яе шчаку, зашаптаў на вуха, казычучы цёплым подыхам.

– Па-першае, мне, па-праўдзе, усё роўна, хлопчык ці дзяўчынка. Па-другое, інтэлігентная гарадская паненка, аматарка кавы-латэ і срэбных пярсцёнкаў, якая абцалоўвае мужчыну, які толькі што вылез з каналізацыі, альбо вычварэнка, альбо сапраўды яго кахае. І па-трэцяе, хіба я выбраўся б з-пад усіх гэтых завалаў, каб не кахаў цябе?

І нахіліўся яшчэ бліжэй... Амаль наваліўся... І яна абхапіла яго, і вусны яе цяпер сустрэлі зусім не пустэчу...

– Хворы Варановіч! Як вам не сорамна! Чым вы займаецеся!

Медсястра, маладая і сімпатычная, як тэлевядучая, чырванела ад абурэння.

– Кропельніцу знялі... Гэта парушэнне рэжыму! Вы забыліся, што вы не дома, а ў бальніцы! Дзяўчына! Пакіньце палату!

Ася паспрабавала ўскочыць з ложка, але Даніла магутнай рукой затрымаў яе, прыціснуў да сябе, нязмушана разваліўшыся.

– Дзяўчына застанецца, колькі захоча, таму што яна мая нявеста, і мы занадта доўга не бачыліся. Таму давайце мяне выпішам з бальніцы за парушэнне рэжыму. Я ж зусім здаровы, самі бачыце...

– Гэта галоўны ўрач будзе вырашаць, каго калі выпісваць! А мы толькі супакаяльнае можам укалоць! Ачысціце палату ад староннix!

– Мая нявеста не старонняя!

Медсястра раззлавалася наўсур'ёз, нeяк аж занадта ўсхадзілася... Ася ўспомніла, што калі першы раз яе пабачыла і папрасілася ў палату да Данілы, тая нeяк асабліва пазмрачнела... М-да, а ў Данілы яшчэ і студэнткі ёсць... І супрацоўніцы маладыя...

Трэба адразу ж выкінуць ружовыя пантофлікі з ягонай кватэры на сметніцу.

Крык стаяў на ўсю бальніцу, як на Ракаўскім кірмашы, што, падобна, графу прыносіла шчырае задавальненне. Хіба ён і праўда спланаваў, каб яго зараз адсюль выкінулі са скандалам?

– Усім добры дзень! Што за бітва на Сіняй Вадзе, а татараў не відаць?

Гэта ў палату зайшоў Вячка Скрыніч, вясёлы, іранічны, імклівы... Праўда, убачыўшы Асю пры баку Данілы, таксама на імгненне пазмрачнеў. Але тут жа з уласцівым яму імпэтам і хітраванскай дыпламатыяй пачаў улагоджваць медсястру, вывеў яе ў калідор, прыабняўшы, нешта інтымна нашэптваў...

Арсенія прыслухоўвалася да дыялогу ў калідоры, але перашкаджаў Даніла, бо калі ён да яе дакранаўся, свядомасць нeяк імглілася. Нарэшце паслядоўніца Флорэнс Найтынгел, заснавальніцы медсястрынскага руху, гучна сказаўшы наастачу нешта кшталту “Зусім сумленне страцілі”, але ўжо без ранейшай злосці, змоўкла і сышла. Па калідоры гучна прастукалі яе абцасікі. Вячка вярнуўся ў палату. Арсенія ўсё-ткі выслізнула з абдоймаў графа і ўселася на зэдлік, прыгладжваючы валасы.

Скрыніч ужо не ўсміхаўся. Ён апусціўся на акуратна засланы пусты ложак і кінуў каля сябе на падлогу заплечнік.

– Пастарайцеся да раніцы не патрапіць у псіхушку, і тады, магчыма, заўтра вас выпішуць...

Корб-Варановіч незадаволена паморшчыўся.

– Мне тут пю-рэ даюць... А я хачу адбіўную. З кетчупам.

– Адбіўную табе пакуль нельга... Ну што ты, як малое дзіця... – нервова азвалася Арсенія, якой было страшэнна няёмка перад аўтарам культавага фэнтэзі – за сваё шчасце, за тое, што яна і сама марыць проста зараз збегчы з Данілам дахаты...

– Просьбу выканаў, вашую спявачку наведаў...—змрочна працягваў Скрыніч адчытваццa перад недысцыплінаваным пацыентам. – У хаце, здаецца, экзатычных гасцей няма, занёс хлеб, малако, яек, сасісак... Сасіскі яна ж можа зварыць? Выслухаў дзве арыі, паабяцаў букет белых ружаў.

Даніла пасур'ёзнеў.

– Дзякуй вялікі... А то ейныя сябры, што цягаюцца выпіць ды пагудзець, і не падумаюць нешта ёй прынесці з прадуктаў. А яна забываецца на такія грубыя матэрыяльныя рэчы, як абед. Праз пару тыдняў яе зноў у Навінкі кладуць.

Вячка запытальна зірнуў на Арсенію: як яна ставіцца да падобных

клопатаў? Ася нязмушана вытрымала ягоны позірк. Кепска было б, каб гісторык у сувязі з аднойдзеным маладзенькім шчасцем забыўся на старое сваё няшчасце, і няхай жыве бедная вар'ятка, як атрымліваецца. А ягоны альтруізм Ася як небудзь перажыве. Скрыніч апусціў вочы, палез у заплечнік і дастаў запаветную сінюю тэчку, распухлую ад аркушаў. Беражліва ўзважыў... Наўрад ездзіў збіраць старонкі з падлогі Асінай кватэры – пэўна ж усё вывеў наноў.

– Ну вось, практычна закончыў.

Корб-Варановіч зацікаўлена прысеў на ложку.

– Ну і як атрымалася?

Скрыніч сумна ўсміхнуўся.

– Здаецца, някепска. Гэткая кальцавая кампазіцыя: пачалося ў шпіталі, заканчваецца ў шпіталі. Не хвалюйцеся, я не садыст, прозвішчы ў рамане трохі змяніў.

Арсенія нерашуча спытала, па-ранейшаму адчуваючы віну.

– А як з... ролевай гульнёй? Ты пражыў свой раман, як хацеў?

– Пражыў, халера! – Вячка кінуў рукапіс побач з сабой на ложак. — Уражанняў атрымаў з накрыўкай! Суперрэалістычна! Асабліва апошні тыдзень.

Раманіст правёў рукой па худым твары.

– І вось што цікава, спадарства... Я часта ўжываю ў раманах і аповесцях такую схему: галоўная гераіня, побач два героі. Адзін – асноўны, каханне да якога ў гераіні выспявае паступова, супроць ейнай волі, і дадатковы герой, уведзены ў тэкст проста для таго, каб паненцы было з каго выбіраць. Бо я ж загадзя ведаю, што яму нічога не свеціць, і лёс ягоны – да апошняга тупіць і не верыць у сваё фіяска. Таму гэты герой выпісваецца больш блякла, інэртна, толькі надзелены некалькімі характэрнымі рысамі для запамінальнасці, ну і каб гераіню нечым адштурхнуць. І вось я – я! – апынаюся ў ролі гэтага дадатковага героя! Проста ўлёт!

Вячка істэрычна зарагатаў, але рэзка абарваў смех. Памаўчаў, утаропіўшыся ў падлогу, пакрытую выцертым зялёным лінолеумам.

– Так што я вам удзячны. Вы свае ролі выканалі.

Корб-Варановіч зірнуў на Арсенію, якая пунсавела ад няёмкасці, падняўся, стаў над Вячкам, як ганаровая варта.

– Вы не можаце быць дадатковым героем, спадар Скрыніч. Вы – аўтар. І гэта мы вам удзячныя. Без вашага ўмяшальніцтва мы б не сустрэліся з Арсеніяй. Не адкрылася б таямніца нашага роду. Не выканаўся запавет продкаў. Не з'явіўся б ваш выдатны твор.

– І фіг з ім, каб не з'явіўся... – прабурчэў Вячка, без былой крыўды, затое з ранейшай мізантропіяй. — Усё роўна чытач наш на адной канапе змяшчаецца.

– Усе вялікія справы пачыналіся з кола аднадумцаў, якія змяшчаліся на адной канапе, – усміхнуўся Даніла. – І толькі што на прыкладзе Вяжэвічаў і Корб-Варановічаў вы самі давялі, чаго вартыя ўсе варагаванні беларусаў і іх схільнасць падзяляцца на групоўкі.

Скрыніч тужліва ўздыхнуў, зірнуў у шэрыя вочы графа, устаў і працягнуў яму руку.

– Спадзяюся, мне не давядзецца перапісваць шчаслівую канцоўку... Пра тое, як нарэшце – і навекі – з’яднаўся срэбны кубак.

– Не давядзецца, — цвёрда прамовіў гісторык, паціснуў пісьменніцкую руку і азірнуўся на Арсенію. Тая, як прыцягнутая нябачнай вяроўкай, стала побач, і адразу ж яе прыабняў той, з кім можа разлучыць толькі смерць.

– А, дарэчы, дзе ён, той кубак? — пацікавіўся Вячка. — Гэта ж якая рэліквія... Увесь раман – вакол яго лёсу, фактычна... У Ройна царкву амаль раскапалі, зараз да магілы продка Асі дабяруцца. Можа, і кубак можна знайсці?

Корб-Варановіч спахмурнеў.

– Не чапаў бы я магілы Юрыя Варановіча... Ён і так пры жыцці пекла зведаў, і пасля смерці спакою няма. А кубак тым болей шукаць не стану. Няхай сымболь раз’яднання родных братоў застаецца там, дзе зараз знаходзіцца. Лепей паставіць помнік па Алесю Вяжэвічу і Апанасу Корб-Варановічу... Хаця б крыж які. Месца прыблізна ведаем...

У калідоры загрукатала каталка, пачуліся сярдзітыя галасы санітараў... Ася зразумела, што зараз у палату прывязуць яшчэ аднаго хворага. Вячка схаваў рукапіс у заплечнік, закінуў яго за спіну, выпрастаўся – іранічны, шалёна-вясёлы, адчайны беларускі пісьменнік, не патрэбны масаваму чытачу...

– Ну, чым жа завяршыць нашую эпапею? – падумаў. – Вось што, скажыце мне, спадар Даніла, як у рамане Булгакава гаворыць Майстар Понцію Пілату: “Свабодны!”.

Корб-Варановіч сур’ёзна паглядзеў на аўтара і без ценю іроніі прамовіў адведзеную рэпліку:

– Свабодны!

– І вы таксама! Жыве Беларусь!

Раманіст падняў руку ў развітальным жэсце і выскачыў за дзверы палаты нумар шэсць, паспеўшы ў апошні момант размінуцца з каталкай, на якой везлі чарговага скалечанага незалежным жыццём беларускага індывіда ў абдоймы самай бясплатнай у свеце медыцыны.

*2009-2010*

Аксана Данільчык



...ступай асцярожна,
і табе пакінуць жыццё...

# Нанова вучуся хадзіць

* * *

намацваю прастору
вывучаю структуры сказаў
структуры міністэрстваў і установў
абрэвіятуры
значэнне якіх напаўняецца сэнсам
настолькі канкрэтным што нават няёмка
дзе я была ўвесь гэты час
у якім існавала свеце

на дахах старога горада
чаіцы чаіцы чаіцы
сотні ці можа тысячы
быццам зараз не снежань
быццам зусім не менск
быццам пад мостам аператар Хічкока

а яны чакаюць каманды
гэтыя дрэсіраваныя птушкі
што крычаць так пранізліва
быццам крыкам можна разбурыць
гіпсакардонавыя інсталяцыі
пабудаваныя вакол узлётнай паласы
быццам крыкам можна нешта спыніць

дзе я была ўвесь гэты час
адкуль вярнулася

горад нібы калаж
успамін на ўспаміне
і памяць – старая сцяна
заклееная газетамі
абдзіраю адну за адной
да самае тынкоўкі
адштурхоўваюся ад сцяны
адштурхоўваюся ад парэнчаў
іду ад
іду да

нанова вучуся хадзіць
мой крок паступова робіцца
цвёрдым

* * *

Кропля вады апякае далонь ландрынкай,
на вуліцы мінус -надцаць.
Светапогляд не ёсць нязменнай адзінкай,
у гэтым можна не сумнявацца.

Не выклікаюць ніякіх сумненняў змены
ў прыродзе сэнсу, у прыродзе навокал,
вадкасць, што запаўняе нашыя вены,
змяняе свой склад – працэсы нябачныя воку

ці бачныя не адразу, напрыклад, плесня
спачатку ўсярэдзіне, потым – звонку.
Грыбніцай запоўненая паверхня
зусім інакшая з цэнтру і збоку.

Быццам усмешка, што недзе ў куточках вуснаў

застыла ў нязручны момант,
непадуладныя форме пісьмовай ці вуснай
думкі сціскаюцца – холад.

Але міжвольным уцелаўленнем
словаў, якіх нам заўсёды мала,
працягваецца трансфармацыя ценяў.

Пра гэта я б вам расказала,
таварыш Бродскі.

* * *

пад мікраскопам
пад пільным вокам старэйшага брата
пад пільным вокам старэйшых сёстраў
што жадаюць пранікнуць глыбока
па калідоры нібы па моры
дзе кожны кільватэр навідавоку
і думка бязлітасна душыць
што так прэпаруюць чужыя душы
што ў гэтай нацятай прасторы
іх вывучаюць нібы інфузорый
дай мне руку тваю чалавек
твая безабароннасць палохае
твая постаць здаецца крохкаю
а праца розуму спыненай
плямы шэрыя плямы сінія
словы маніпулятыўныя

надыходзіць вечар
і праз ваконную раму вялікая поўня
разглядае напружаныя фігуркі
дзетак якія ўжо выраслі
але яшчэ хочуць гуляць
чаму ж не ў мячыкі
хлопчыкі-зайчыкі
чаму ж не ў чароўныя карцінкі
дзяўчынкі-мальвінкі
свет падзелены на дзве палавінкі
нашую і не нашую

пад мікраскопам

* * *

Што азначае рух па жыцці аўтастопам –
пошукі спадарожніка ці сродку перамяшчэння?
Я па прасторах скептычнае маці-Еўропы
спрабую дайсці да гэтага
ўласным сваім разуменнем.

І паступова мне адкрываюцца новыя дзіўныя рэчы,
і паступова мне спасцігаюцца новыя дзіўныя людзі,
а потым мне застаецца вольны пранізлівы вечар,
і колаў віскат, і болем прабітыя грудзі.

А здрадца мой і дарадца –
зноў у адным флаконе,
а лініі на далонях зблыталіся да неверагоднасці.
Пытанне жыцця і смерці – калі пісталет ля скроні,
але і гэта не можа быць апраўданнем подласці.

Мой асабісты адказ на вечнае "хто правакатар?"
не зменіць раскладу, таму даволі:
мяняю краіну з пераважнай большасцю фіятаў
на краіну з пераважнай большасцю вольва.

* * *

Статак сланоў ідзе мэтанакіравана,
маршыруючы па зялёнай вадзе,
і запаланяе сабою ўсю прастору.
Гэта шэрыя рулі дрэваў,
як тонкія шэрыя ногі,
пераступаюць з месца на месца,
але рухаецца толькі вецер.

Ступай асцярожна,
і табе пакінуць жыццё.

### *ПАЭЗІЯ Ў ВЯЛІКІМ СВЕЦЕ*

І кім была тая, што разглядала вітрыны Max Mara
і Cerruti, і швэдры Marina Militare, простыя лініі,
якія злучалі простыя рэчы, і хацела выйсці
праз вялікія вокны на лётнае
поле аэрапорту Malpensa,

і пра што яна думала? Не, зусім не пра тое. Яна згадвала юную жанчыну, якая пайшла ад мужа, і перад тым, як пакінуць на доўгі час сваю краіну, стаяла перад шапікам з каляровымі снікерсамі, і думала, што ўсё няўдала і бесперспектыўна. І ў гэты самы момант паміж снікерсамі ўзнікла белая скрыначка з намаляванымі бананамі. Маленькая-маленькая... Шчаслівая ўсмешка асвяціла юны твар, і стала зразумела, што трэба рабіць.
А дзе ж тут паэзія?
А паэзія ў тым, што нават калі пакутліва балюча
за бязмэтна патрачаныя хвіліны ўласнага жыцця і болей
жыць не хочацца, купляйце прэзерватывы
з бананавым пахам.
Дасць Бог, спатрэбяцца.

* * *

ты пісаў пра вуліцы незнаёмага горада
схаванага ў ракавіне
з якой аднойчы выйшаў світанак
схаванага ў кроплі бурштыну
разам з усімі яго насельнікамі і
ўсімі яго раслінамі
а я збірала твае вершы як дзіця
збірае скарбы ў бляшаную скрынку
з упэўненасцю што яны ніколі не згараць
вазіла іх з сабою па прасторах жытнёвых палёў
толькі жыта шумела на розных мовах
не ведаючы як гэта расці самому
прарастаць самому не зважаючы
на орды чужых плямёнаў
гэта крапіва ведае як жыць
гэта крапіва ведае як выжываць
крапіва што вучыць мяне трыванню
яе дотыкі яшчэ доўга паколваюць рукі

* * *

У ціхую купальскую ноч
мятлікі здаюцца такімі пяшчотнымі,
у ціхую купальскую ноч
сэрцы робяцца шчодрымі-шчодрымі.
Вядзьмаркі валодаюць найбольшай сілай,

раскрываюцца старыя магілы,
раскрываюцца магілы новыя,
душы выходзяць з іх адмысловыя.
І вось тады мае нерукатворныя стварэнні
змогуць напоўніцу
матэрыялізавацца на непадуладных адлегласці
інтэрнэт-старонках,
і вось тады яны пачнуць сыпаць іскрамі,
а ты зразумееш як і пра што,
бо ў ціхую купальскую ноч
табе ў вокны пастукаюць тутэйшыя кажаны,
і прыпаўзуць нетутэйшыя скарпіёны,
а мая прысутнасць зробіцца неабавязковай,
таму я проста пакіну табе на доўгую памяць

Анатоль Івашчанка



...Не вижу во всех этих брожениях большого смысла. Народ их все равно не поддержит. Пока *ха*вает. Выходят одни и те же пару тысяч на двухмиллионный город. Не смешно ли?...

# Плошча Перамогі

***Тры аповеды***

## Гледачы

*Декан Свифт нанял актёров,*
*чтобы те несли людям его мысли.*
*Но наш губернатор оказался хитрее –*
*он нанял зрителей.*

(З кінафільма “Дом, который построил Свифт”)

У двары патыхала восеньскай цвіллю. Дрэвы стаялі амаль голыя, і, адпаведна, лісця пад імі было па шчыкалатку (*каму – дрэвам? – заўв. рэд.*).

У неасветленым двары, па выцвілым лісці каталі дзяўчо. У апошнім сказе процьма алегарычных недакладнасцей. Бо насамрэч дзяўчо білі. Моцна. Ёсць у братняй мове слова, якое больш ёміста перадало б сэнс. Нават не адно, але чорт з імі... Дый ці “дзяўчо”? Па ўзросце – так. Але толькі па ўзросце...

---

*Апавяданне друкавалася на сайце: www.svaboda.org*

Сяржук з жонкаю йшоў па парку. Там, як ні парадаксальна, была гэткая ж карціна, што і ў двары (у сэнсе, лісце). Яны вярталіся дахаты як людзі, для якіх не было, папросту не магло існаваць нічога па-за імі й тым, што ў іх. Гэтае апошняе дэ-факта знаходзілася (то бок рухалася, харчавалася, а калі каго цікавяць дэталі, – выбудоўвала свой косны мозг) у жонцы, але, далібог, Сяржук таксама пачуваўся цяжарным. Прынамсі, жорсткі жончын таксікоз, відаць, часткова перадаўся й яму (як гэта заўжды здараецца з хворасцямі тых, каго любіш)...

Яны зайшлі ў двор, і жонка вымавіла: “Божа...”

“Хадзем, хадзем”, – з ненатуральнай бадзёрасцю вымавіў Сяржук.

Яны ўвайшлі ў пад’езд, падняліся на сямнаццаць прыступак – першы пралёт, дзе вакно – і жонка сказала: “Пачакай. Трэба. Вярнуцца”. “Так”, – адказаў ён, але спярша, з хвіліну, яны глядзелі з вакна на гэты мортал комбат.

(Трэба сказаць, што некалькі жыхароў таксама назіралі за збіццём – са сваіх гаўбцоў. Палілі, глядзелі... Чырвоныя кропачкі іх недапалкаў то раздзьмуваліся, то затухалі)

Дзяўчо каталі па лісці, з кута ў кут, ад сценкі да сценкі гэтага абгароджанага ліпамі двара-пакою, і зразумець тое, якія вялікія адлегласці пераадольвала цела пасля чарговага ўдару, можна было па хрыплых, і кожнага разу ўсё менш упэўненых воклічах ахвяры. Дэталяў у цемры разабраць было нельга. Толькі цені. Удар – храбусценне лісця (ці костак?) – вокліч...

Сяржук з жонкай спусціліся й падыйшлі да бардзюра – мяжы, што раздзяляла пляцоўку й асветленую едкімі пад’ездавымі ліхтарамі частку двара. Біў адзін, астатнія моўчкі стаялі. Той, які біў, часам прамаўляў.

Яны пазналі ахвяру. Найперш па голасе. Гэта была дзяўчынка-падлетак, што часцяком сядзела на лаўцы каля “сіняга” пад’езду, у адной з “сініх” кватэраў якога і жыла разам з маці. Так ужо нейк склалася, што ў гэты пад’езд перабраліся ўрэшце ўсе “сінякі” хрушчоўкі (яны ж алканаўты, булдосы, аматары вадкасці № 2 й гэтак далей). На дзвярах гэтага пад’езду, у адрозненне ад усіх астатніх, не было дамафону – яны былі гасцінна расхінутыя і ўдзень, і ўночы. Як, дарэчы, і большасць паштовых скрыняў, якія ў лепшым разе былі падвязаныя дротам ці падлепленыя скотчам. Нягледзячы на выгоднае размяшчэнне дому, шэраг кватэраў пуставаў, паколькі чалавек, як вядома, смяротны. І не існавала такога, нават “чорнага”, рыэлтара, які б прымусіў кагосьці туды засяліцца. Тыя ж нешматлікія нармальныя *(тут пальцамі робіцца дзвюххкоссе ў паветры)* людзі, што заставаліся ў пад’ездзе... Зрэшты, цяпер гаворка не пра іх.

Такім чынам, там (на лісці) была дзяўчынка з сіняга пад’езду. Сяржук, стараючыся рабіць гэта гучным нізкім голасам, запытаў у накірунку пляцоўкі: “Что вы делаете?!” Яму адказалі: “А ты че здесь делаешь?” На гэта ў яго не было адказу. Разам з жонкай яны адышлі да лаўкі (дзе лямпачка)... “Трэба выклікаць міліцыю”, – сказала жонка. “Так. Патэлефануй”. Ён не хацеў, каб жонка бачыла, што ў яго падрыгваюць пальцы.

Покуль жонка чакала адказу апаратаркі, ён, каб нешта рабіць, вярнуўся да бардзюра. Ахвяра, мабыць, добра ведала таго, хто яе б’е: “Ну всё, бля, – скавытала яна, – теперь я точно в ментовку заявлю”, – і атрымлівала

новы ўдар "пырам". Да Сержука звярнуўся хтосьці з "назіральнікаў": "Всё нормально. Брат сеструху воспитывает. А хто ты ваще такой?.." Тым часам сямейнае выхаванне працягвалася...

Ён вярнуўся да жонкі. "Выклікала?" "Так, сказалі, нарад выехаў". "Ну, то хадзем". Яны падняліся ў кватэру. "Пастаў імбрык. Я пайду выкіну смецце. Дарэчы, ты прозвішча называла?". "Так". "Дарма". "Глядзі там, калі ласка, асцярожна..." – гэта ўжо ў зачыненыя дзверы.

Сяржук паставіў закручаны пакет са смеццем каля лаўкі й прысеў. "А можа й сапраўды нармальна? Можа, хоць мазгі ёй трохі ўправіць", – не падумаў, а чамусьці прамармытаў ён...

...З дзяцінства яго выхоўвалі абаронцам *(радзімы, малодшай сястры, футбольнае брамы... – патрэбнае падкрэсліць)*. Да пэўнага моманту ён быў перакананы, што гэтак жа і з усімі... Гэты пэўны момант надышоў у другім класе. Тады настаўніца выйшла кудысьці пасярод уроку, пакінуўшы класу колькі хвілінаў на шаленства. Як толькі дзверы за ёй зачыніліся, галоўны двоечнік і хуліган *(адкрыць/закрыць дзвюхкоссе)* з прозвішчам Садзін, якое цалкам адпавядала яго садысцкай натуры, ускочыў з месца й пачаў корпацца ў торбачцы настаўніцы. Тады Сяржук, як гэта і належыць герою, падышоў да адмарозка й адабраў торбу. Садзін, які быў на галаву вышэйшы й на парадак шырэйшы, з цікавасцю паглядзеў на Сержука й сказаў: "Ну, пойдём. Выйдем". Яны выйшлі. Садзін адыйшоў у канец пустога калідора, разбегся і з усяе моцы наскочыў на Сержука. Яны ўпалі, і Садзін, вядома ж, апынуўся зверху. Далей, седзячы на грудзёх і прыціснуўшы рукі да паркету, ён распавёў і паказаў, што мог бы зрабіць з ім далей ("бычок", галавой аб падлогу, вочы й да т. п.). "Ну, што, понял?" – пасля гэтай вучэбнай дэманстрацыі сілы запытаўся хуліган. Сяржук, вядома, "понял" (і дзякуй Богу, што ніхто з класу ўсяго гэтага не бачыў)...

Пасля ён быў сведкам шматлікіх падлеткавых боек – асабліва ў піянерлагерах, дзе рэалізоўваўся прынцып вайсковае дзядухі, які заахвочваўся кіраўніцтвам гэтых установаў. І заўжды, калі кагосьці "апускалі", з'яўлялася гэтае... так бы мовіць, апраўданне жорсткасці. Не заўсёды нават прамоўленае. Нібыта самамэтай была не бойка альбо доказ уласнае крутасці, а – нейкае сцверджанне вышэйшае праўды... І калі нейкага хлопчыка, які чымсьці вытыркаўся з агульнае масы, змушалі, прыкладам, станавіцца на калені пасярод лагернае палаты на вачох ва ўсяго атраду, хтосьці салодка намармытваў на вушка: "Усё нармальна, усё нармальна..." Хто? Закон самазахавання...

Сяржук назіраў, як пры набліжэнні патрульнае машыны хлопцы нетаропка рушылі прэч, пакінуўшы дзяўчо на лісці. Задаволеныя гледачы вызвалілі гаўбцы. *(Гаўбцы! Заслона.)*

Яны пілі гарбату, і жонка хітнула ў бок вакна, за якім у выцвілым лісці па шчыкалатку стаялі, пра нешта перамаўляючыся, дрэвы, і запыталася: "І што з гэтым усім рабіць?" Сяржук, хітнуўшы ў бок яе жывата, прамовіў: "Рабіць сваю справу. Каб нас было болей. Чым іх". "Так. Сваю справу. Але яна, – ізноў кіў у бок двара, дзе на падваконнях курчыліся бычкі, а сярод лістоты – цела трынаццацігадовае істоты, – таксама будзе. Рабіць сваю справу..."

*11 верасня 2009 г.*

## Сын палка

“Ну, не выкідаць жа ўсё гэта”, – звыкла падумаў К., разграбаючы стосы газетаў за год. З большага тое быў, як ён гэта называў, “агітпроп”, які ён раз на год раскідваў па скрынях суседніх дамоў. Без нейкае сістэмы і думкі “а раптам прачытаюць і на іх спусціцца прасвятленне”. Не, ілюзіяў адносна суграмадзянаў К. не меў. Але напраўду рука не падымалася выкідаць “нячэсную” прэсу, якую ён сам, хаця й мог бы цалкам абмежавацца інтэрнэтам, прачытваў даволі падрабязна.

Ён быў падпісаны на два тыднёвікі. Плюс розныя газеткі-ўлёткі, што траплялі да яго падчас “акцыяў апазіцыі”. Агулам каля ста розных нумароў за год асядала пад кампутарным сталом – дзесьці на два пад’езды дзевяціпавярховіка.

Хаця ілюзіяў К. і не меў, але яму ўсё ж цікава было б паназіраць, як адрэагуе які-небудзь дзядок на газету, прыкладам, паўгадовае даўніны, дзе вядзецца пра несанкцыянаваны мітынг ці палітвязняў. І таму адзін адмысловы нумарок ён падкінуў у скрыню да суседа. Нумар цалкам быў прысвечаны шматлюднаму веснавому шэсцю й быў аздоблены вялікай колькасцю дыхтоўных фотаздымкаў.

Назаўтра, на Каляды, да К. меліся прыйсці сябры і ён у кожным разе збіраўся завітаць да суседа па зэдлікі. Сам К. здымаў аднапакаёўку ў цэнтры, навучаючыся на завочным аддзяленні тэхнічнай ВНУ. Зарабляў усталёўкай шафаў-купэ. Не шмат, але на аплату вучобы й кватэры хапала.

Увечары, калі сябры разыйшліся, трошачку нападпітку, ён панёс зэдлікі назад. Сусед быў дзядуля-ўдавец. Сын палка ці нешта ў такім духу. Рэгулярна браў удзел у парадах перамогі, дзе бадзёра выкрочваў у першых шыхтах сярод гэткіх жа бадзёрых сівых франтавікоў.

Разам з зэдлікамі К. захапіў і ладны кавалак торту. Дзядуля, як і чакалася, прапанаваў застацца на гарбату, паколькі «в одиночку такой кусище одолеть уже не в силах». К., паадмаўляўшыся, застаўся. Газетку запрыкмеціў адразу як увайшоў у пакой. Яна ляжала на часопісным століку ў варожым акружэнні святочных выданняў, дзе падводзіліся бліскучыя вынікі чарговага году Свінні. Дзед, падобна, таксама атрымліваў дзве газеты. Вядома, трошкі іншага зместу. Сядаючы, К. намацаў нагой штосьці драўлянае. Зірнуў пад столік – малаток.

Пасядзелі, утыркаючы ў вечаровую шоў-праграму. К. няўзнак пачаў перабіраць газеты. Узяў у рукі свой пакамечаны нумар.

– Интересно, это когда же такое было? – удаючы здзіўленне запытаў К.

Дзед устаў і прыглушыў гук старэнькага “Гарызонта”.

– А-а, как раз хотел спросить. Вот, достал сегодня из ящика. Видать, ошиблись. Может, тебе хотели бросить?

– Да что вы. Я газет вообще не читаю. Интернет же есть. Да тут посмотрите – мартовский номер. Десять месяцев газете.

– Полистал я, – працяжна вымавіў стары. – Занятная газетёнка. Пишут, будто семь тысяч на митинг вышло. На годовщину бэнээфа ихнего. Не, не бэнээфа. Бэнээра. И фотографии. Милиция будто бы в подземном переходе кого-то ногами била. Пишут, что сидит кто-то. «Политвязьни», кажись. Это, конечно, правильно, что разгоняют. Отморозков... Но вот все

равно не понимаю. Семи тысяч там, понятно, не было. Это оппозиция п... дит, как обычно. Ну пусть две тысячи. В новостях, кажись, такую цифру называли и показывали фашистов этих...

Дзед тыцнуў пальцам у газетны фатаздымак, дзе маладзёны, захутаныя ў шалікі, неслі вялізную расцяжку:

– Ну вот скажи ты мне – чего они выходят? Неужто у запада бабок столько, что всем заплатили? Мне вот психология их интересна. Молодежи на фото много. Вот ответь мне, ты, молодой: что их не устраивает?

К. чакаў падобнага пытання, але ўсё адно сумеўся. Нават трошкі пачаў хваляваца. Як тут адказаць?

– Ну, не знаю. Вон пишут, что в Европу хотят. Что БССР надоел. Хотят этих, честных выборов. Студенты против распределения...

– Гаўнюки! – грозна перапыніў дзед. – Президент им возможность учиться дал, стипендию. А они – «у Эўропу»! И, главное, ездят и повсюду трындят, чтобы санкции ужесточили. Хорошенькие патриоты, ага. Или еще беларускамоўные. Видел я как-то на почте одну бабу. Возмущалась, что бланки только на русском. Надменная такая, как будто самая главная, как там па-ихняму – «з пыхай». «Ганьб*а*» – говорит. Ну, и все в таком духе.

Памаўчалі.

– Ну, я, наверно, пойду.

Дзед не чуў.

– Да я в ваши годы фашиста бил, а они готовы за зелёные на ганса вкалывать. Вон внук мой – эмигрант, бля. Живет в этом, как его, слово такое мудацкое... А, в Дортмунде. Звонит: “Дедуль, приезжай. Так хорошо здесь живется”. Тьфу ты! Небось сортиры бюргерам вылизывает, другую работу русским там не доверяют. Сам-то явно, если б возможность дали, за бугор свалил? – дзед сувора паглядзеў на ці, дакладней, скрозь К., бачачы ў ім зборны вобраз моладзі. У галаве ўзнікла фраза з фільму: “Я вообще-то это, Родину люблю”. Але К. прамовіў іншае:

– Меня и здесь устраивает. Зарабатываю нормально. В Европу могу и так, на экскурсию съездить.

Дзед паспакайнеў.

– А давай, сосед, с Новым годом, – падыйшоў да шафы й дастаў спалавіненую пляшку каньяку. Наліў. Выпілі.

– Ну, хорошо. А что они знают о БССР? Только то, что им ихний Позднок в уши вдул? Да и внук, ну, тот, что в Германии, тоже трындит. Это чтобы перед братишкой двоюродным повыделываться, вторым моим внучком. А тот по митингам не шлялся. Окончил Академию управления. С отличием. Сейчас государство ему квартиру строит. А что там, в Этом Мунде? Че-че-вэ? Человек человеку волк. Ну, давай. С Новым годом, – стары кульнуў кілішак.

У кватэры зверху гучна заенчыла дзіця. Дзед зірнуў на гадзіннік і раптам схапіўся за малаток. З нечаканым спрытам падбег да вакна й сем разоў грукнуў у батарэю. Дзіцё не супакоілася.

– Житья от них нету. Одиннадцатый час. Весь день ляпают, прыгают, топают по голове, так и ночью отдохнуть невозможно.

Дзед падыйшоў да тэлефона й пачаў па памяці круціць дыск. К. цішком рушыў у вітальню. Апранаючы боты, ён чуў, як дзед кляне суседзяў, па-

гражаючы грамадзянскім кодэксам. Што праўда, тэлефанаваць было не абавязкова: раз'юшаны лямант суседа мусіў быць добра чуцён і так.

К. збягаў па лесвіцы, несвядома намармытваючы грэбеньшчыкоўскае: “Вперед-вперед, плешивые стада, дети полка и внуки саркофага...” З сабой ён аўтаматычна прыхапіў з вітальні зэдлік (рыхтык торбу ці кейс, з якімі прыйшоў). Схамянуўся толькі на вулцы. Паставіў зэдлік, сеў, запаліў. Скрозь каламутнае покрыва змяшанага з туманам снегу перад вачыма К. праходзілі кадры: нарыхтоўка курапацкіх крыжоў, бульдозеры, начоўкі ў намётах – у Курапатах і на асфальце галоўнага пляцу Краіны... Не, сам ён не стаяў ні ў катлаване будаванай МКАД, ні ў ачапленні намётавага мястэчка. Кадры тыя К. ведаў з газетаў ды Нэту.

І яшчэ бачылася К., як заўтра ён ідзе з заплечнікам, бітма начыненым свежымі газетамі, улёткамі ды налепкамі. Гэткі гібрыд шахідскага Дзеда Мароза й тэрарыста Івана Памідорава. Ідзе па сон і спакой невядомых яму сыноў і дачок палка.

*28-29 снежня 2007 г.*

## Save

Ён яшчэ не бачыў, але цудоўна ведаў, што за кутом яго чакае чарговая зграя монстраў. Адчуваў іх смярдзючы ядавіты подых, чуў іхную бесталковую валтузню ў цемры. Ён набраў паветра, ускінуў кулямёт і запаліў ліхтар на касцы. Пачвары беглі проста на яго кулі, на да чырвані разагрэтую рулю кулямёта... Ён змушаны быў прыціснуцца да сцяны, распыляючы монстраў у мяса, у чырвона-зялёныя смаркачы. Цэліў проста ў агідныя пашчы, у вантробы, што расцякаліся па сценах, крывава распырскваліся па жалезнай мэблі й дымлівых маніторах. Самыя дужыя паспявалі драпануць яго па брані, але не болей. Наперадзе, ён ведаў, мусіць быць аптэчка. Сапраўды. Можна перавесці дых. Размяць здранцвелыя ад напружання пальцы і... захавацца.

Звон адстрэленых гільзаў рэхам разыходзіўся па апусцелых калідорах. Разрабы выдатна папрацавалі з гукам.

Амаль поўнае здароўе й браня. Файна. Цяпер у ліфт. Ніжэйшы ярус – апошні на гэтым узроўні. Прайсці яго ён беспаспяхова спрабаваў ужо тыдзень. Нават пачаў з нейкай сярэдзіннай захавалкі, каб трапіць сюды з лепшымі паказнікамі. Па выхадзе з ліфту чакала туева хуча стварэнняў, што пачалі гасіць яго ўсім, здаецца, што толькі было прыдумана ў гэтай гульні. Ды яшчэ на ногі кідаліся нейкая пацукападобная поскудзь...

“Кожнай пары – па твары!” – цадзіў ён, коцячы ў агідную гушчу апошнія гранаты, але паказнік здароўя раставаў на вачах. Усё. “Гейм авёр” – амаль весела канстатаваў ён ці то сам сабе, ці то свайму ноўту і зрабіў некалькі кругавых рухаў плячыма. Моцна балелі запясці й правы біцэпс. Гадзіннік на мікрахвалёўцы паказваў 4:00. Пад'ём на працу а палове на восьмую. “Факін шыт!” – інфантыльна мацюкнуўся ён. Вяртанне, як заўжды, было пакутлівым да самабічавання.

Падсвечваючы сабе шлях мабільным тэлефонам, на непаслухмяных нагах, што вярталі сабе валадарства ў гэтай рэчаіснасці, ён пачаў прабірацца па цёмным калідоры ад кухні да спальні, дзе мірна дыхала жонка. З

чорных кутоў пазірквалі крыважэрныя вочы. “Севочка!” – паўз сон прамармытала жонка. Апошняе, пра што паспеў падумаць наш герой перш, як патануць у абдоймах Марфея, – падабенства свайго імя з ангельскім словам “save”. І як гэта ён раней не заўважаў?

...

Севу сніліся зялёныя літаркі. Яны даміношкамі падалі ўніз, пакідаючы па сабе каламутны шлейф. Затым Сева прачнуўся (вядома ж, у сне). Ён сядзеў на кухні, перад выключаным ноўтам, як раптам манітор ажыў, і зялёныя літаркі пасаскоквалі ў фразу: “Тук-тук. Ідзі за белым трусікам”. І тут жа прагучаў званок у дзверы. Па спіне прабегла дрыготка, але Сева рашуча падыйшоў да дзвярэй. Адчыніў іх. Там нікога не было. Тады ён збег уніз. Паўз яго двор беглі людзі. “Наступаем?” – спыніў ён кагосьці ў палітоне. “Адыходзім. Плошча перакрыта. Усе бягуць да Парку”. І Сева таксама пабег.

У Парку калыхаўся немалы шэры натоўп, над якім разносілася: “Ідзі за белым трусам! Ідзі за белым трусам!” Прыслухаўшыся, Сева зразумеў, што насамрэч скандуюць: “Ідзі за Беларуссю!” Раптам з усіх бакоў, бы прусакі, вельмі хутка пачалі выскокваць аднолькавыя чорныя амапаўцы. Людзі кінуліся наўцёкі. Севавы ногі сталіся ватнымі, і ён толькі стаяў і назіраў, як невялічкая купка маладзёнаў голымі рукамі спрабуе аказваць супраціў дручкам ды кірзачам жаўнераў Урфін Джуса. Ён схапіў тронак ад сцягу, што ляжаў на ходніку, й пачаў раскідваць амапаўцаў, бы тыбецкі манах. Амонаўцы адступілі, перагрупаваўшыся ў ланцуг. Сева зароў: “За Беларусь!” і пабег проста на чорны ланцуг. За ім беглі астатнія. На ім была лепшая браня. Плазменны кулямёт распыляў амап у хлам, у чырвона-зялёныя смаркачы...

На ранак усё балела, нібы пасля сапраўднае бітвы, але галава была ясная. З люстэрка ў лазенцы вінавата пазіралі напаўзаплюшчаныя (ці напаўрасплюшчаныя?) вочы з жоўта-чырвонымі бялкамі.

На працы да абеду адчувалася мулкая спустошанасць. Дзесьці на перыферыі свядомасці пазумквала думка: “Ну, добра. Хрэн з ім са здароўем. Хрэн з ёй з бранёй. Хрэн з ім з агнямётам ды поўным боекамплектам. Набыць плазменны кулямёт на ўсе, а там паглядзім...”

Насамрэч Сева не быў геймерам-псіхапатам з тых, што лепшыя гады жыцця бавяць у замацюканых ды прасмярдзелых потам кампутарных клубах. Дарэчы, ён памятаў, як з’яўляліся іх першыя аналагі, што месціліся ў павільёне метрапалітэна. “Байты”, “спектрумы”, “еэскі”... – ад адных гэтых назоваў тады беглі дрыжыкі. Толькі тыднёвых адкладанняў грошай, якія даваліся “на булачку”, ледзь хапала на адну імклівую гульню.

З параметрамі яго цяперашняга компу можна было дазволіць сабе самае свежае ды накручанае, але, паўторымся, маньякам Сева не быў. Яго мала цікавілі пакрокавыя ці рыал-тайм стратэжкі ды іншыя эрпэгэ, за якімі праседжвалі ўвесь магчымы час многія ягоныя калегі-супрацоўнікі. Наогул гуляць на працы ён сабе ніколі не дазваляў, адкрыта пагарджаючы тымі, хто патрапіў “у сістэму”. Вядома ж, і жонка не ведала пра Севаву слабасць, засынаючы з пэўнасцю, быццам муж па начах дарабляе справаздачы (падчас гульні левая рука заўжды памятала пра спалучэнне альт-таб).

І чаго ж яго настолькі зачапіла звычайная офісная гулька, гэтак званая

ізаметрычная стралялка? Ён адчуваў, што за ўсім гэтым стаіць штосьці большае за тупы азарт. Тое была ў пэўным сэнсе разрадка... Трэба было прайсці гульню да канца, завяршыць місію. Пакончыць кібенематары з усім гэтым лайном і – вярнуцца ў жыццё!..

На абедзе Сева дазволіў таварышу ўгаварыць сябе ўзяць па піву, і стала зусім хораша.

"Хочешь, расскажу последний анекдот про Штирлица?" – запытаўся таварыш. "Валяй", – млява адказаў Сева, не дужа верачы ў тое, што такая показка існуе. "Слушай. Штирлиц шел по лесу с автоматом. Вдруг в ближних кустах что-то зашуршало. Штирлиц выпустил несколько очередей, сделал два шага назад и... сохранился".

<Shift – F12>

***

У офіс Сева падымаўся з намерам дакапацца да сутнасці. Ён набраў у пашукавіку назву гульні й даволі хутка знайшоў форум яе заўзятараў. Той ракавы ўзровень цікавіў не аднаго яго. Усё было проста. Трэба было дабегчы да жоўтага пагрузчыка, што стаяў ля супрацьлеглай сцяны, й прабівацца на ім паўз калатушу монстраў да наступнага ліфта. У гэтай місіі не было ўмовы забіць усіх...

Цікава, што форум, на які ён натрапіў, меў беларускі дамен. Знізу быў прычэплены даўжэзны банер, што заклікаў прыйсці на мітынг. Сева клікнуў па ім. Аказалася, што якраз сёння *опы* ладзяць святочнае шэсце. Міма праходзіў супрацоўнік з суседняга століка. "Собираешься сходить?" – запытаў ён. "Да ты что. Одному стрёмно. Пойдём вместе?" – сур'ёзным голасам прапанаваў Сева. "Не вижу во всех этих брожениях большого смысла. Народ их все равно не поддержит. Пока хавает. Выходят одни и те же пару тысяч на двухмиллионный город. Не смешно ли?" "В десятимиллионной Москве еще меньше выходит," – з усмешкай парыраваў Сева. "Ну, в Москве!" – апошняе слова сусед вымавіў працяжна, амаль праспяваў. – "Нам до Москвы-ы-ы. Беражы ныркі, змагар..." – павучальна-спачувальным шматкроп'ем скончыў размову сусед.

Ясна, Сева нікуды не збіраўся. Апошні раз ён хадзіў на падобнае мерапрыемства хіба ў школе, то бок больш за дзесяць гадоў таму, калі не лічыць плошчы ў сакавіку 2006, дзе яны былі разам з гэтым самым супрацоўнікам. Ну, зрэдку праглядаў на ютубе відзюшкі з разгонаў акцыяў ці, каб пасцябацца, навагоднія звароты дамарошчаных лідэраў нацыі да апошняй. Не болей...

<Shift – F12>

***

Сыходзячы з працы, Сева абдумваў гульню. Ад гэтага ў копчыку крыху свярбела. Ён спусціўся ў фае й пабачыў невялічкі натоўп.

"Что такое?" – запытаў ён у жанчыны, што стаяла ля дзвярэй, не рашаючыся іх адчыніць. "Шествие какое-то. Вроде несанкционированное". Сева адчыніў дзверы. У вялізны праём ўціснулася некалькі супрацоўнікаў у ваганні – ці перачакаць, ці падбегчы сто метраў да метро. Па ходніку праспекту, праз квартал ад будынку яго працы, у бок Плошчы Перамогі,

рушыла шэсце. Над ім луналі бел-чырвона-белыя ды блакітныя сцягі. Раптам з-за рогу вуліцы выбег чорны ланцуг з дручкамі. Шалёныя вочы. Іклы. Смярдзючы подых з ядавітых пашчаў. Касманаўт, што бег наперадзе, зароў: "Назад-суки-блядь!" Людзі шаснулі ў будынак. Сева за імі. У скронях крыху стукала.

Ён падняўся ў свой працоўны пакой. З вакна ён бачыў, як у двары чорныя даганяюць дэманстрантаў, ламаюць тронкі сцягоў, валяць на зямлю, б'юць, б'юць, цягнуць у арку, да аўтазакаў... «Грамотно работают. Блакируйце и рассякайце», – без асаблівай інтанацыі вымавіў хтосьці за спінай. Сева ізноў спусціўся ўніз і вызірнуў на вуліцу. Бойка яшчэ працягвалася, але ўжо без сцягоў. Толькі шэры натоўп. Пад'язджалі новыя цёмна-зялёныя аўтазакі – Сева налічыў сем. Нейкі маладзён кінуў у шкло брудны сняжок і адбег у арку.

На ходніку ляжаў сцяг з шасціканцовым крыжам, на якім адбіліся некалькі вялізных чорных слядоў. Доўгая тэлескапічная вуда-тронак была цэлая. Сева ізноў вярнуўся ў будынак. Нетаропка зняў з пляча торбу з ноўтам, паставіў яе за фіранку ля стала вахцёркі й выйшаў вонкі. Калі прыходзіць наканаванасць, страх знікае – прыгадалася яму чыёсьці выслоўе. І яшчэ ўзнікла бязглуздая думка, якая ў той момант падалася амаль дасціпнай: шкада, што ў гэтым месцы нельга захавацца. Ён падыйшоў да вуды, узяў яе, астылую, у далонь і рушыў у бок Плошчы Перамогі, высока падняўшы сцяг.

*Сакавік 2009 г.*



Сяргей Балахонаў



...як-ніяк
мы мушкі ў павуціне.
добры знак,
што сеціва не згіне...

# Перламутравае порна

### *ДАЧКА*

Мая дачка па горадзе ідзе
з сяброўкамі ці з новым кавалерам.
І палымнее ў бліскавіцах дзень,
І пасняшае рух нябесных сфераў.

Мая дачка – наіўнае дзіцё,
што мроіць пра марозіва й каханне.
А перад ёй вялікае жыццё
на трыццаць восем тысячаў світанняў.

Мая дачка гуляе ў партызан
паміж басейнам і кавярняй з піцай.
Яна сябе не хоча увесці ў зман,
бо ёй ад зманаў вельмі кепска спіцца.

Мая дачка – крыху фотамадэль –
саромеецца ўласнай прыгажосці.

Вясновы дождж ёй дорыць акварэль.
Яна ў адказ ласкава шэпча штосьці.

Мая дачка – расейка, як мы ўсе.
Москва, Москва, как много в этом звуке...
І нешта ў сэрцы чэзне пакрысе,
як сонца напярэдадні разлукі.

*Вясна, 2009 г.*

## ЯРКАЯ

Пахмурны дзень свінцоваю заслонаю
спрабуе скасаваць абвесны лад.
На шызым даляглядзе войска коннае
ідзе няспешна з боку серных шахт.

Не страшна мне, што сонейка за хмаркаю,
і вораг блізка пад саўндтрэк грымот!
Са мною ж парасон і мая яркая
дзяўчынка, што падасць гранатамёт...

Сем тысяч крумкачоў чакаюць допінґу
і трызнай правакуюць дэжавю,
нібы ўжо быў калісь мой плач па сонейку,
нібы да заўтра я не дажыву.

Што мне з таго! Няхай крумкачык каркае,
як знак бяды, як роспачы пін-код!
Са мною абярэг і мая яркая
дзяўчынка, што падасць гранатамёт...

За сеткаю дажджоў у здрады мудыркі:
разлікі дасканалым целам стаць,
каб спакусіць схаванае ад публікі,
каб заюрыць свядомасную гладзь.

Хай здрада выйдзе пад прыстойнай маркаю
на подыум пякельных насалод!
Не пахіснуся – побач мая яркая
дзяўчынка, што падасць гранатамёт!

*Чэрвень, 2009 г.*

## ЗА МЕДЫЙНЫМ ТУМАНАМ

Рух транспарту на вуліцы Ангарскай
змяніўся ў звязку з нейкай цьмянай казкай.

Газеты, тэлевізія, парталы
маўчаць пра войскі Ашурбанапала,
а цвердзяць пра рамонтныя работы,
пра восеньскія клопаты, турботы,
пра роспач і ўздыханні цеплатрасы,
пра горы іншай пазітыўнай трасцы.
Але ні я, ні мой чароўны трусік,
ні лялечка, каторай я баюся,
не схільныя даваць ні кроплі веры
медыйным крыжакам і флібусцьерам.
Мы ведаем – Ангарскую закрылі,
каб не псаваць ідылію з ідылій,
каб войска войскаў Ашурбанапала
ўрачыста песню песняў заспявала
для каралевы блогінгу з Ангарскай
і прынцу, што яе ўзяў казкай
ды лепшай доляй Перскае дзяржавы.
Картэж вясельны – стужкі і ўсе справы –
імчыць зухвала па гасцінцах менскіх.
Нявесту з жаніхом чакае пісар земскі.
З пяром гусіным і пасмешкай рымскай
у хаце абвязанай прапіскай
пад перашэпт дажджу й прагнозы сцюжаў
ён іх абвесціць жонкаю і мужам.
І ўсцешаныя гэткім добрым конам
яны шчаслівыя памкнуць над Рубіконам
па мосце і прычэпяць на парэнчы
замок ад клеці, каб па-чалавечы
замацаваць свой шлюбны звяз трывала
пад гімны войскаў Ашурбанапала.

*23.10.2009 г.*

## ДЗЯЎЧО І КЛУНІ

Пад снегам зніклі гарады і руні.
Сядзіць дзяўчо на троне ледзяным,
чакаючы з-за мора Джорджа Клуні,
каб трохі пазапальваць ночы з ім.

Ад ветру гнуцца сотавыя вежы,
трымцяць кантынентальныя масты.
Зіма кранула кожны кут мядзвежы,
прынесла Вавілону змрок густы.

Дзяўчо сядзіць, нібыта каралева,
і мружыць вочы, каб схаваць іх сум.
Навокал снег. Снег справа і снег злева.
З-за далягляду нарастае шум.

На суперрэактыўным самалёце
ляціць герой дзявочых мрой і мар,
ляціць канец заснежанай самоце,
ляціць ключоў чароўных уладар.

Я вылезу з-пад снегу колкай кветкай,
сусветным дрэвам рушу да нябёс,
прамоўлю сцішана: «Не цешся, дзетка,
бо гэты шум нікольki не ўсур'ёз,

бо гэта ўсё аблудны хіжы вецер,
бо гэта ўсё са снегу палатно,
бо ўжо даўно няма нічога ў свеце,
апроч кахання, што лягло на дно».

Фінал у эпасе зусім не прадказальны.
Працяг у эпасе няўпэўнены ў сабе.
Дзяўчо і снег знарочыста сусальны.
Дзяўчо і Джордж, якога ўразіў бес.

*Снежань 2009 - люты 2010 г.*

## ДОЖДЖ НА ДОЖДЖ

Дождж на дождж.
І мы нібыта квіты.
Што ж? Зніштож
мяне й парожні твітэр.

Як-ніяк
мы мушкі ў павуціне.
добры знак,
што сеціва не згіне.

Два на два –
займальная мацеша.
Рым, Масква,
Берлін цябе суцешаць.

Я ж, заўваж,
у паралельным свеце –
верны паж
тваім чаканым дзецям.

Дождж на дождж.
І мы нібыта квіты.
Што ж? Зніштож
мяне і рэшту світы.

*6 ліпеня 2010 г.*

## *КОНЬ У ЛЕТНЮЮ НОЧ*

Маладая кабыліца
па асфальце б’е капытцам.
З-пад капытца мкне агонь,
каб стары пабачыў конь.
Спёка, танкі, светлафоры.
Конь стары чакае форы.
Кабыліца маладая
паддавацца не жадае,
хоць на ёй дыміцца скура.
Ноч, фантаны, дэсантура.
Конь стары ў хвасце пляцецца.
Тлее кволае цяпельца.
Не хапае конскіх сілаў,
каб іржаць з кабылкай мілай.
Ліхтары, сцягі, маршруткі.
Жарабец гарцуе хуткі
напярэймы кабыліцы.
Скура чорная ільсніцца
ў ліхтароў лімонным ззянні.
Дрэвы, фабрыка, іржанне.
Набівае ноч аскому.
Час ісці каню старому
спаць і бачыць фуфел розны
пра псаваныя барозны.
Маладая кабыліца
па асфальце б’е капытцам.

*2-3 жніўня 2010 г.*

## *ПЕРЛАМУТРАВАЕ ПОРНА*

Вочы прагнуць Персіяд,
ды чамусь у небе чорна.
Ты сказала: “Спі, салдат”.
Перламутравае порна
б’ецца ў шыбку матыльком
і гарыць у пекле лямпы.
Сэрца тахкае крадком,
бо не мае праў на залпы.
І таму без кананад
сэрца бавіць гэты вечар,
п’е халодны ліманад,
назірае думак веча.
Думкі страцілі імпэт,
думкі вянуць перад плошчай,
праўда, маюць піетэт
да тэматыкі любошчаў

у кантэксце ўсіх эпох,
у разрэзе пэўных ложкаў.
Ты сказала: “Спі, мой бог”.
Твой маленькі б’ецца ножкай
у легендзе пра сябе
для саплівага татулі,
што пакуль яшчэ не збег
рваць у іншым садзе дулі.
Ты ўсміхаешся скрозь сон.
Паміж намі дзесяць вёрстаў
і малочны Рубікон
з навігацыяй няпростай.

*12-13 жніўня 2010 г.*

## *BOSCH*

Калі я бягу па піва,
што восеньскі заяц зварыў,
дарогай здараецца дзіва,
для нашых краёў эксклюзіў:
мне шчасціць пабачыць Маркеса
ў сяйве вечаровых свяціл.
Ты нават пра гэта не мар, кіса,
хоць сотку, хоць дзве накаці.
Ён ціха ідзе між выбоін
па трасе асфальтных хвароб.
Ён велічны стомлены воін.
Ён вольны душой хлебароб.
Ён бачыць мяне дазвання,
як бацька, як лекар, як жрэц.
Ён чуе маё хваляванне.
Ён знае – я жнец, швец, ігрэц.
Ды, зрэшты, ён блытае з Кафкам
мой вобраз, мой імідж, гештальт...
Эх, колькі яшчэ маім стаўкам
быць бітым аб звонкую сталь?!
Мне Маркес пра тое не скажа.
Падумаю сам: “Не трывож”
і ўрэшце заўважу паклажу –
валізку інстру́мантаў “Bosch”.

*2007, 2009-2010 гг.*

Алесь Тарановіч



...штораз, калі сыходзіць “бабіна лета”,
падаецца, што сыходзіць
часцінка самога сябе...

# Бабіна лета

***Паэма Берліну***

*“У жыцці мне шчасціла. Амаль кожны дзень*
*я спазнаваў, або бачыў што-небудзь новае.*
*А чым больш ведаеш, тым больш цікавым*
*і таямнічым робіцца жыццё...”*
(К. Паўстоўскі “Кідок на поўдзень”)

Плюс дваццаць у верасні.

Ціха. Суха. Сонечна.

Усё вакол заўсміхалася макава-пунсова.

Плаўна ляціць павуцінне. Сцелецца па зямлі, чапляецца за кусты і дрэвы.

Дэсант вечнага ў часе...

Гэта значыць... што Бог пасылае нам тэлеграму радасці.

Што наступіў канец дажджам, якія прасочваюцца ў ранішнія газеты.

Што цяжкі і шумны свет вялікага горада судакрануўся з іншым светам, і тыя хто не страціў свежасці ўспрымання прыроды, змогуць паглыбіцца ў аазіс радасці...

Што можна выправіцца на пошукі шчаслівага сябе.
Бабіна лета.
Як стан.
Як чаканне.
Як жаданне.
Як выклік штодзённасці.
Маё дзясятае "бабіна лета" ў Берліне.
Хтосьці нябачны ўключае кнопку з надпісам "Play" і на ўскрайках маёй свядомасці пачынае граць "Jehtro tull". Аксамітная флейта і магічны голас Андэрсана будуць гучаць цэлы тыдзень...
Рамантычны шлюб мараў з рэчаіснасцю.

Вось і зноў я загаварыў пра "бабіна лета", якое пасялілася ў Кройцбергу.

Не трэба болей маляваць на небе сонца.
Зараз галоўнае – наладзіць струны сваёй душы ва ўнісон "бабінаму лету".
І тады можна будзе знайсці сцяжынку ў залюстроўе, не выходзячы за межы звычайнага.
Засведчыць сваю капітуляцыю перад багаццем і разнастайнасцю жыцця...

Са стратай пачуцця меры я руйную цвярозую плынь прозы, кідаюся ў абсяг новых гукаў і новых спалучэнняў фарбаў, нябачных улетку. Жаданне перадаць іншым сваё бачанне свету бывае настолькі моцным, што патрабаванне сувымернасці адыходзіць...

Нешта кліча – хутчэй з хаты!
І я разумею – гэта знак.
Цяпер можна будзе знайсці сябе ўсярэдзіне аповеду пра "бабіна лета".
Гэта значыць, што несамавіты, стандартны свет адмераных будняў скончыўся.
Што на нейкі час перажыванні страцяць сілу, скурчацца і паменшацца, як шчыгрынавая скура...
"Stop" пакету праблемаў, напоўненаму стрэсамі.
Прырода і я, мы даем свой асіметрычны адказ на ўсю гэтую змушаную рэмарку нашых будняў...
Як там у песні: "А я сяду ў кабрыялет і паеду куды-небудзь...".
Я сядаю на свой старэнькі ровар і выпраўляюся ў падарожжа па кутках чароўнага свету старога Кройцберга, каб у чарговы раз здзівіцца незразумелай невынішчальнасці прыроды, бессэнсоўна паматляцца сярод гарадскіх атавізмаў, паралельна асэнсоўваючы сябе...

Вуліцы, якія прымыкаюць да гары Кройцберг.
Гэта раён для тых, хто ўмее лавіць далікатныя гукі паэтычных струнаў Берліна.

Калі вы чалавек, у якога сябруюць між сабою паўшар'і галаўнога мозгу, калі вашая васьмёрка не распалася на два нулі, калі ў вас адчыненыя каналы духоўнага зроку і наладжаны гарманічныя суадносіны з рытмам Берліна – значыць вам туды...

* * *

Я выязджаю са свайго логавішча раніцай, калі коўдра смугі яшчэ нацягнутая да самых шпіляў сабораў, і груваcткая цішыня ловіць у свой невад ціхія гукі ранішняга горада, які прасыхае ад сну.

Раніца ляжыць ціха і свежа...

Спачатку яна не адрозніваецца ад іншых.

Сцягі на ратушы перасталі даваць поўхі ветру.

Млявы блінец сонца павольна выбіраецца з бялявага булёну, які зліваецца ў рэкі і каналы.

Палатно неба хтосьці павольна залівае блакітнай акварэллю, каб затым павесіць на ім залаты злітак...

І птушкі нешта малююць на ім крыллямі.

У паветры вісіць павуціна, яна злучае тонкай ніткай учора і сёння, і ты разумееш, што Кройцберг адчынены вечнасці, але не часу, і што ў яго габелене перапляліся мінулае, будучыня і сучаснасць.

Час гэты адчувальны, важкі, бачны, надзейны.

Ён размешчаны ў прасторы памяці.

У Кройцбергу ўсім дастаецца па кавалачку часу, які, бы думка, працуе неўпрыкмет. Калі я бачу, як мігцяць аблiччы часу, хочацца вырваць якоенебудзь з іх і павесіць у пакоі ў рамцы.

У прыроды няма межаў.

Яна ўпускае пад сваё крысо ўсіх і не ставіць шлагбаўмы, як гэта робяць людзі, якія не пускаюць у свой свет іншых.

Кожнаму гораду ўласцівае сваё біяполе. У чым яго прырода – мне невядома. Але ведаю, што ўмею знаходзіць кантакт з ім.

Штораз адкрываю Кройцберг зноўку, падобна дзіўнай ракавіне, якую невад прынёс з вялікай глыбіні.

Я клічу яго вуліцы, пляцы і кірхі па імёнах.

І нават называю кожнае дрэва....

* * *

У Берліне шмат не менш вядомых і выдатных мясцінаў.

Чаго варты Альтштадт Шпандау, у вузкіх вуліцах якога згубілася вечнасць.

Каго не вабіла вытанчанасць Вікторыі Плац і хто не адчуваў подых гулкіх стагоддзяў Мікалайфіртэля...

А якая асалода згубіцца на лодцы на прасторах Мюгельзэе, каб уварвацца затым у лабірынт каналаў Новай Венецыі...

Чаго варты адзін Шпітэльмаркт з яго шхунамі, якія заснулі навечна каля старажытнай прыстані...

І што можа супрацьстаяць раскошы кварталаў, нанізаных на сцябло Кудамма...

Альбо задавальненню паблукаць па закутках Хакішэс Хофэн...

Але толькі Кройцберг – гэта месца, якое закранае адчувальныя струны маёй душы, толькі тут растуць спакуслівыя фантазіі, міражы эпохі, якія утвараюць імглу мінулага...

Чаму люблю Кройцберг – не ведаю.

Можа быць за тое, што яго вуліцы і пляцы дбайна захоўваюць свае загадкі і не спяшаюцца іх аддаваць. Можа быць таму, што з яго біяполем у мяне ёсць кантакт...

Гэта немагчыма растлумачыць.

Каханне, якое магчыма растлумачыць – гэта ўжо не каханне, а разлік.

І чаму любоў да горада можа быць такой поўнай і не пакутлівай? Паспрабаваць бы перанесці гэта ў сферу чалавечых адносінаў...

Я ўяўляў сабе Берлін менш цікавым, чым ён аказаўся.

Я закаханы ў душу гэтага горада, і яна адказвае мне тым жа.

Калі я прыехаў сюды, ведаў толькі адну славутасць – Рэйхстаг і тое толькі таму, што яго штурмавалі савецкія войскі.

Цяпер я ведаю іх мноства.

Ці не самападман гэта?

Зусім не.

Я ведаю немцаў закаханых у Піцер і Маскву, якія жывуць у Берліне...

Я ведаю, што ў Расіі жыве паэт, закаханы ў Берлін, хоць ён ні разу тут не быў...

* * *

Гара Кройцберг.

Пахне цішынёй, аблокі гойдаюцца на галінах дрэваў.

Тут не адчуваецца праца кравецкіх нажніцаў гісторыі.

Тут разумееш, што ты апынуўся дзесьці паміж мінулым і будучыняй.

Тут трэба ўмець адчуць адмысловую энергетыку гары, якая, літаральна, заварожвае цябе з першых нотаў...

Калі глядзіш з яе на Берлін, падаецца, што ты вялікае дзіця, а ўсё вакол – макеты дзіцячых цацак. Нібы хтосьці паваротам ключа запусціў гэта мернае цацачнае жыццё.

Вагончыкі метро спяшаюцца з пункта А ў пункт Б і назад.

Чалавечкі бачацца ў нямецкіх каўпаках, у паласатых панчохах і з парцалянавымі трубкамі ў зубах.

Падаецца, што і сам сусвет прыводзіцца ў дзеянне завадным ключом...

Берлін, як на далоні.

Тут не пульсуе сэрца вялікага горада, яго гулкія ўдары не даходзяць сюды.

Не чуваць "рэйв" сірэн паліцыянтаў.

Месца, дзе вы адчуваеце, як далёка зайшліся ў гісторыю...

Куды ні кінеш погляд, усюды стрэхі – рой стрэх са сваімі грабянямі, перакатамі, хрыбтамі, бародаўкамі і пухірамі.

Званы ўжо сплюнулі клубок аморфных калыханняў набату, і нават усюдыісны “сі мінор” “хуткай дапамогі” не далятае сюды.

Гара нараджае ўсе ноты цішыні.

Адчуванне, што не ты глядзіш на горад, а горад на цябе.

Паўсюль стаяць гмахі ў прыгожых карункавых сукенках, захоўваючы пад вэлюмам паветра чыстыя дзявоцкія перамогі і летуценні, якія ніколі не падманваюць.

Уплеценыя ў тканіну часу шпілі сабораў і цэркваў патанаюць у смузе, пакідаючы адчуванне фантому...

Свет мастакоў Хайнрыха Цылле і Отта Нагеля.

Першая думка: як хараша!

Другая даганяе першую – гэта падарунак...

Тут я хачу паспрабаваць абысціся без сваёй галоўнай зброі – метафары, якая перакладае рэч у слова, а слова – у знак. Метафара стварае ўмовы для скачка ў глыбіню – і змаўкае, калі даводзіць цябе да ўваходу, туды, куды можна прайсці толькі па адным.

Стаю побач з помнікам перамогі над Напалеонам – цудам разьбярства Шынкеля.

Унізе грукоча па камянях вадаспад, праразаючы лясны гушчар. Тут шмат што нагадвае тэатральныя дэкарацыі.

Прах стагоддзяў на рэштках сцяны крэпасці раўніва захоўвае свае загадкі.

Тут часта грукаталі гарматы. Змяняючы адзін-аднаго, стаялі аўстрыйскія, швецкія, французскія і рускія артылерысты.

Але сёння я не апісваю гісторыю гары, гэта “Lange Geschichte”, як кажуць немцы.

Лепш кінуць свой ровар уніз са стромкага схілу, паблізу прорваў, прапахлых грыбным водарам, скрозь тунель з вялізных чорных елак, дзе рэдкія промні сонца, якія прабіліся скрозь сеткі галінаў, слізгаюць у імглістым паветры па замшы каменнай сцяны...

Успамінаецца Феліні: “Ніякая, нават самая дасканалая тэхніка перадачы святла не зможа сказаць больш, чым прамень святла, які прабіваецца скрозь лістоту”.

І сажалкі пад гарой, і смарагдавы лужок пакрыла апалая лістота...

Увесь Кройцберг затоплены гэтым амлетам, і старыя камяні брукаванкі, і пляцы, і паркі, і каналы... і толькі флатылія беласнежных караблёў непадуладная яму.

Ровар нясе мяне скрозь ціхую алею... кадмій зверху і знізу, вугальныя целы дрэваў застылі ў летаргічным сне, як салдаты на парадзе...

Атмасфера сноў.

Густое, як дзікі мёд, цягучае паветра.

Раптам – жураўліны крык. Клін велічна і годна праносіцца і знікае ў сініх хвалях яснага неба...

* * *

Восень прапаноўвае сваю палітру колераў: охра, кармін, пурпур, барва, біруза, кадмій у сваім ашаламляльным спалучэнні. Яны прыходзяць на змену дакучлівай за лета бляклай зяляніне.

Што далей?

А далей Кройцберг размножвае мяне па сваіх вуліцах, пляцах, каналах.

Абмінуўшы замкі і пампезныя старыя будынкі са слядамі ганарыстасці імперскага Берліна, мой ровар выносіць мяне на Бергманнштрасэ – гэта каўчэг для мастакоў, паэтаў, музыкаў, пісьменнікаў.

Гэта Монмартр Берліна, дзе ёсць вузкія гарбатыя, брукаваныя вулачкі, свой Сакра-Кёр, галерэі, атэлье, майстэрні мастакоў, тэатры і кабарэ.

Гэтае месца, дзе жыццё застыла, не патурбаваўшы тонкага пылку часу.

Тут няма вавілонскага гармідару народаў, як на Котбусер Тор, дзе кожная сустрэтая пара гаворыць на новай мове.

Гэта ўжо не той крымінальна-багдадскі Кройцберг. Гэты свой куток горад не аддае сучаснасці, тут ён хавае каханне ў сваю юнацкасць...

Тут можна заблудзіцца ў бясконцых тунелях, зарослых плюшчом, прахадных дварах, закалыханых цішынёй. Поруч са старажытнай круглай вежай на Федыінштрасэ можна зайсці ў панадворак мастакоў, абстаўлены скульптурамі і вазамі з экзатычнай флорай, дзе на сцяне вялізнымі літарамі выведзена: “Мы і жабы патрабуем свежага паветра”.

Тут паліраваны стагоддзямі брук абсыпаны грукочучай бляхай лістоты. Яшчэ крок і трапляеш у ціхія каменныя панадворкі, якія ўтвараюць анфіладу, дзе час размеркаваны па розных эпохах... лысы камень, блакітны квадрат неба, урэзаны паміж стрэхамі, залацістае марыва сонца...

Бергманштрасэ – стрыжань гэтага жыцця. У сапраўднай гішпанскай “бадэге” сапраўдныя гішпанскія сяляне будуць перабіраць струны гітараў, а вам пададуць пяць гатункаў “Сангрыі” і сапраўдную “паэлью”.

Утульныя паўпадвальныя кавярні, памерам з пакой, дзе збіраецца андэграўнд, дзе маладзіцы, узыходзячыя басанож па прыступках выпрабаванняў, прайграваюць першы раздзел прадказанага лёсам рамана...

Шэрагі прышпіленых адзін да аднаго будынкаў з аперэтачнымі балконамі і ляпнінай, якія часам перагрызае пашча скрыжаванняў. Стыль эпохі грундэрства, позняга класіцызму, характар якога вызначыў Карл Фрыдрых Шынкель. Дамы гэтыя крыўдзяцца на гукі рока і тэхнамузыкі, якія раздражняюць іх густ, выхаваны XIX стагоддзем. Сумуюць, калі замест гусараў, стацкіх саветнікаў і дам у крыналінах, з іх выходзяць хлопцы ў ірваных джынсах з іракезамі на галовах і татуіраваныя дзяўчыны з пірсінгам...

На гэтых вуліцах усюды бачыцца чыгунны крок часу.

Тут адчуваеш, як ідзеш па кальцы Мёбіуса, па шляху з аднаго свету ў іншы.

Іржавеюць старажытныя ліхтары, гэтыя вялізныя дзьмухаўцы, якія спрабуюць адарвацца ад зямлі, узляцець.

Жывыя фрагменты мінулага – літыя вадакалонкі, у якіх захавалася патрыярхальная годнасць страціўшых сваё прызначэнне рэчаў. Іх свет жыве асобным ад горада жыццём... Адзін крок і вы трапляеце ў эпоху Кайзера Вільгельма II, яшчэ крок – у эпоху Бісмарка...

Але не старажытнасць вызваляе ад часу.

Сама прырода і ёсць час, ва ўсякім разе, яго злепак. Калі мы прыпадабляемся флоры, нічога не адбываецца, але ўсё змяняецца.

Час, як думка, працуе непрыкметна і бесперапынна...

Тут на маленькім «блышыным рынку», які прытуліўся ля фантана на Мархайнікеплац, дзе вяленая лістота пахне азоўскай воблай, можна купіць кавалачак шчасця ўраздроб.

Гэты пляц адразу ж бярэ ў палон своеасаблівасцю.

Сюды прыходзяць, каб паглядзець, што прадаюць і на тых, хто прадае... Змяніць волю перамяшчэння ў прасторы на волю перамяшчэння ў часе.

Гледзячы на некаторыя тыпажы, думаеш, што яны засталіся тут закладнікамі з часоў Карла Вялікага і Барбаросы.

Сярод іх вы сустрэнеце персанажы, што таўкуцца за кулісамі, але якія патрабуюць для сябе выхаду на авансцэну, каб згуляць лёс на “біс”...

Павольна ападае лісцё на памаранцавыя, зялёныя, белыя і нават чорныя гарбузы, якія спяць у плеценых кошыках. Я раю вам купіць букет позняга іранскага бэзу, дзе ў кожным кубачку хаваецца маленькая кропля халоднай вільгаці, рэзкай на смак...

Залаты крыж Пасіонскірхе дзярэ бірузовую парусіну неба.

Царква гэтая, як разьбяная скрыначка, з палісандравага дрэва, выдатная і знадворку, і знутры. Да яе прыляпіўся маленькі цуд — белы дамок ў пяць паверхаў, па адным акенцы на паверсе. Ён не шырэй размаху рук дарослага чалавека...

Далей, як і ў Парыжы, ідзе збой балконаў з дзівоснай ляпнінай і кованымі кратамі, “гранитные надбровья”, як называла іх Марына Цвятаева.

Тут усякія там osteria, pizzeria, kaffeteria, vineria, trattoria, напаўняюцца мастакамі, паэтамі і музыкамі і проста “лебенскунстлерамі”, як яны самі сябе называюць, рэфлексіруючымі на ўсё інтэлігентамі...

Тут, седзячы за ўтульным столікам італьянскай “vineria” з келіхам віна пад назовам “бабіна лета”, разумееш, што жыццё складаецца з рознакаляровых прыгожых момантаў і трэба проста ўмець атрымліваць асалоду ад іх...

Увечары я скончу свой маршрут на турэцкім рынку – аазісе Усходу, які размясціўся ўздоўж старажытнага канала пад кронамі платанаў... Але аб турках у наступны раз...

Куплю сыр “Spagetti”, падобны на бараду аксакала, аліўкі і лаваш.

Мой шлях ляжыць паблізу кафэ “Ankerklause” з якарам на фасадзе. На яго тэрасе, якая навісае над вадой, шугаюць вогнішчы герані...

Я прыходжу сюды, каб паслухаць Хасэ, які спявае ў натоўпе на маленькай пляцоўцы над каналам, дзе стогадовыя вербы палошчуць свае доўгія валасы ў цёмнай вадзе.

Ён малы, хударлявы і непрыгожы, гэты гішпанец з вялікімі пралысінамі на галаве. Рэдкая бародка робіць яго падобным на Чэ Гевару.

Ён заўсёды басанож, як выхадзец з ірацыянальнага свету...

Але калі ён выконвае “Фламенка” сваім тэмбрам, ломкім, як клёкат арла, і ў слове “гітара” робіць пяць “р” за адну секунду, усё ўсярэдзіне перакульваецца, і я бачу, як зрываюцца імгненні жыцця і ўзносяцца ўвысь...

Успамінаю Барселону, Гаудзі, Ла Рамбла, Ларэт дэ Мар, бронзавыя скалы, чорныя галовы ўцёсаў, апранутых у белую пену хваляў... горы, якія лёгка перацякаюць адна ў адну, пакрытыя каталонскай мазаікай алеандраў... навіслыя над зеленаватым морам блакітныя кактусы...

Сёння нават птушкі не выказваюць свае крытычныя меркаванні...

Дзесяткі людзей сядзяць на зямлі, падціснуўшы ногі і слухаюць.

Вакол ходзяць трохгадовыя белагаловыя здаравякі з прыгожымі хустачкамі на шыях, пляскаюцца на няўмела расстаўленыя ручкі, падаюць у дыван з жоўтага лісця... і не плачуць...

А іх маці з заніжанай энергетыкай таксама сядзяць вакол, утаропіўшыся ў адну кропку. Гэта жанчыны з няяркімі адбіткамі алкагалізму на твары падобнымі на сляды мужнасці, якія не навучыліся плыць па жыцці... яны расслабляюцца, блукаючы па лабірынтах свайго ўнутранага свету...

Апускаючыся, сонца выцягвае вогненым бізуном паверхню вады, над якой у імгле завіслі старажытныя саборы... Апошні промень выхоплівае шматпавярховыя каскады зялёных вербаў, якія схіліліся над цёмнай вадой, з прыклеенымі да яе лебедзямі. Дэкарацыі да “Лебядзінага возера”. Усё становіцца больш выпуклым і важкім. Фарбы набываюць гушчыню, далёкі план сыходзіць у бясконцую празрыстасць. Вечар, зацягнуты бэзавым налётам, прыносіць на сваіх крылах цішыню.

Рэдка каму пашанцуе ўбачыць “зялёны” промень сонца на заходзе. Я бачыў яго двойчы.

Мяне навучыў гэтаму Клод Манэ.

Як двойчы бачыў і “бітву” на Варшаўскім мосце паміж Кройцбергам і Фрыдрыхсхайнам, чаго не бачыў ніхто з маіх землякоў...

* * *

Хочацца не адпускаць гэты дзень, учапіцца ў яго зубамі і ўсімі фібрамі душы...

Перакуліўшы пару кілішкаў “Ramazotti”, кружляць да стомы па пустэльнай Шамісо Плац, над якой далікатна разліў сваё срэбра месяц, які вяжа з думак мудрагелістыя заслоны...

Баразніць коламі гурбы шапатлівай лістоты.

Потым кінуць ровар дзе патрапіла і рабіць толькі тое, што жадаюць твае ногі... рэалізавацца ў паэтыцы і эстэтыцы абсурду...

Напрыклад, змяшацца з натоўпам турыстаў, якія размаўляюць на мове Рамазоцці, і бязмэтна блукаць па бліскучых чарапашыных спінах гарбатых вулачак...

Шукаць ці то цень самога Шамісо, ці то яго сябра, казачніка з утрапёнай душой Э.Т.А. Гофмана, які ўмеў ператвараць рэальнасць у паэтычны сон...

Зазірнуць у старажытны туалет-васьмікутнік на рагу (месца сустрэч “гомікаў”), кавярні, у вакне якой намаляваны Навуханаданосар, чамусьці, на пару з Чэ Геварам.

Пры святле паходняў удыхаць гукі класічнай гітары...

І усё гэта ўпісваецца ў тканіну аповеду пра “бабіна лета”...

Мінулае – аб’ект экспансіі сучаснасці, і турысты – авангард яго войска.

Іх патрабавальнае каханне прасейвае стагоддзі...

А людзі не заўважаючы гэтага, праносяцца паблізу ў сваіх бляшаных трунах...

Яны жывуць у шалёным тэмпе, стала спяшаюцца за чымсьці і да чагосьці, не прыкмячаючы таго, што атрымалі, што складае іх сапраўднае жыццё...

Хто ведае, Берлін, можа быць і я твая часцінка і змагу рэалізавацца ў эстэтыцы твайго вялізнага быцця...

На такой ноце добра б скончыць гэтую іскрамётную рэлаксацыю...

Штораз, калі сыходзіць “бабіна лета”, падаецца, што сыходзіць часцінка самога сябе.

Потым будзе ўсё зноў, – новая праца, новыя сустрэчы, праблемы і поспехі.

Кароткае яно, “бабіна лета”, але замест «бывай» – да наступнай сустрэчы!

І я кідаю манетку ў канал...

Юрась Шамецька



...я шукаю ад дня нараджэння
сэнс свайго на зямлі прызначэння...

# Атаўскага неба палёт

* * *

Пасталелі дахі вышыні...
Я вярнуўся, каб цябе пабачыць,
горад мой, які, на жаль, я страціў
ў пошуках праўдзівай цішыні.
Зноў душа без права на змаганне
мітусіцца, моўчкі спадзяецца,
адчувае новае вяртанне
і шчаслівай нават падаецца.
Я стаю, – усё мне цешыць зрок
на праспекце у пачатку лета.
Трэба перайсці на іншы бок,
каб купіць апошнюю газету.
Не скажу, што зараз я адзін, –
мой няўдзячны лёс ідзе павольна.
Каб адчуць насычанасць хвілін,
проста так стаю, стаю спакойна.
Дзе зноў буду? Паглядзім пазней, –
верыць не жадаю ў спадзяванні...

Час ідзе – мне робіцца працей
цёмных вокнаў адчуваць дыханне.

* * *

Час вяртання яшчэ не прыйшоў,
я шукаю ад дня нараджэння
сэнс свайго на зямлі прызначэння,
і яго яшчэ я не знайшоў.
Ці знайду, – вельмі цяжка прадбачыць,
замірае на сэрцы спакоем
адчуванне: не стаў я героем
і свабоды прысутнасць не бачыў.
Прыгажосцю тваёй любавацца,
горад мой, я вярнуўся назад, –
буду ўдзячныя словы казаць
дрэвам сталым, што  просяць застацца.

* * *

Ну вось і ўсё: закончыўся палёт, –
мой час прайшоў, Атава пахне домам.
На гэтым не спыняецца жыццё,
а я – ужо ляцець назад гатовы.
Дом – гэта тое, што заўжды чакае
раскіданых па вуліцах жыцця...
Усё часцей, як жыць, – не выбіраем
у адчуванні свята хараства.
Ляцім туды, дзе цёпла нам і ўтульна,
дзе сэрца марыць быць заўжды ў спакоі,
каб ведаць, што і сёння нас ратуе
цяпло вяртання прыляцець дадому.
Калі ж іх два – за гэта дзякуй Богу.
Зноў мару пра далёкую дарогу...

## ШУКАЮЧЫ КВАДРАТ

*З цыкла "Надпіс на здымку"*

Была пара... Я адбіраў па слову,
каб запісаць у свой пацерты сшытак...
Мне ўсё жыццё здавалася умовай,
каб не рабіць у ім зашмат памылак.
Я чуў адно: каб быць суцэльным,
мне трэба знаць, як напісаць квадрат,
круг упісаць ў яго прамыя сцены,
як, гэта ўмеючы, рабіў мой брат.

Пайшоў у Луўр – адвечнасці парад,
каб паглядзець Малевіча квадрат.
Хадзіў і бачыў фараонаў твары,
Хрыстос распяты, грэчаскія дамы
былі са мной. Я бачыў іх бліжэй.
Танчоны торс даўнішняга мастацтва
быў не па мне між сённяшніх падзей...
Але ўсё змянілася раптоўна, –
я ўзбагацеў, нібы сівы магнат:
ў вялікай зале я знайшоў Джаконду,
шукаючы квадрат.

* * *

Будзь са мной, калі выпадзе час, –
сёння горад збірае на джаз...
Гэтым вечарам усё напачатку:
круглы месяц, нібы залатая пячатка,
патаемныя гукі жывога мастацтва
нас наблізяць напеўна да Вялікага Княства.
Ты са мной. Ноч раскрые канверт, –
там білет на вячэрні канцэрт...
Ўсё змяшалася неяк адразу:
гул машын, святлафоры на Ottawa road,
музыканты без фракаў,
атаўскага неба палёт,
пачуццё неабсяжнасці часу.

* * *

Вецер. Атава. Хочацца верыць,
што неабсяжнасць цяжка памераць.
Час безумоўнасці з’явіцца ўранку,
зноў падтрымае птушка на ганку,
што не ляціць, бо нешта чакае...
У спадзяванні неба світае
і пры жаданні зноў выклікае
радасць пявучасці роднага краю...
Мне не патрэбна ехаць у Мінск –
сёння у Мінску сябе адчуваю.

***МАНРЭАЛЬ***

Не ходзяць цягнікі – хайвэі,
тут Манрэаль – амаль што Вільня.
Каб зноў адчуць, як вецер вее,

я выключаю свой мабільны.

Гатэлі, паркі, гандляры,
забыты порт на тым жа месцы,
французы... Неба ад зямлі
вышэй ў Мак-Гілаўскім прадмесці.

Хаджу не так, як па сцяжы,
і брук на слых кладзецца лёгка.
Касцёлы, шопы, калажы
і цені хуткія аблокаў...

Пабудзіць раніцай анёл:
“Вярнуцца ты яшчэ павінен...”
І еду, еду цягніком,
бо Манрэаль – другая Вільня.

* * *

У дзедавай хаце вяртаецца мова, –
тут час зноў знаходзіць таемныя словы,
хоць карткі старыя зжаўцелі, вядома.
Сюды б я заўсёды вяртацца хацеў
і еду у дзедаву хату – дадому, –
адкуль бы ні ехаў або не ляцеў.

Пытацца не варта, на мове якой
я вас зразумею на ростанях часу.
О продкі, мы разам адчуем спакой,
калі я нябёсы бяздонныя ўбачу –
сустрэньце пяшчотай і мудрасцю вашай –
вы бачылі болей за часам вякоў.

Падлога памыта і паліцца печ...
Усё, бы ў маленстве, мне хочацца мець.
Са здымкаў спакойныя твары глядзяць...
Гадзіннік стаіць, бо ніхто не заводзіць,
а час патаемна і цвёрда падводзіць
да думкі: тут нашыя продкі не спяць.

* * *

Прыйшла вясна.
Чарнее снег на полі,
сыходзіць лёд
з закованай ракі.
Зноў хутка зелень

вырвецца на волю,
і птушкі прыляцяць
 на сараці.
Настрой святочны.
 Сонца свеціць ясна.
І цеплыня да сэрца
 ўсё мілей.
Жыццё, ў жаданні
 поўнае падзей,
На хвалях вечара,
 стварае неабсяжнасць
вясны...

* * *

Усё часцей хачу пабыць адзін,
паліць агонь на апусцелым полі,
дзе вецер лёгкі думкі мне прагоніць,
не злічыць лёс бязлітасных гадзін.

Усё часцей мне хочацца спазнаць
сэнс існавання у святле бязмежным,
закон сакральны неба разгадаць,
каб зразумець, каму мы ўсе належым.

Усё часцей хачу я аднаўлення –
больш у сабе, – хай будучыня скажа.
Не будзе нас, а вынікі стварэння
сам лёс пакіне для нашчадкаў нашых.

Палю агонь на апусцелым полі,
ламаю сучча і ў агонь кідаю,
а цеплыня ахвярна нагадае,
што час ідзе, ідзе пакуль паволі...

Рыгор Сітніца



...Што з намі адбываецца? Куды вядзе нас нашая нецвярозая доля? Дзе паратунак? Не знаходжу адказу...

# Ой хадзем жа мы...

***Калядная паэма***

## I

Тое, што чуў я, са мною было заўсёды, як заўсёдныя з намі паветра, вада, альбо хлеб; прынамсі з маленства ведаю тую калядку на памяць, і ў мяне аніколі не ўзнікала думка, – чаму столькі разоў чутае-перачутае не здаецца мне звыклым, будзённым, банальным. Ды ці ж могуць зрабіцца звыклымі паветра, вада, хлеб?..

Колькі хвілінаў мы сядзім моўчкі. Млявая ўтульнасць сутоння ды цяпло ад напаленай печы робяць маўклівае наша сумоўе дзівосна прыемным. Я вельмі люблю гэткі стан.

І раптам зноў напаўголаса:

“Ці дома, дома сам пан-гаспадар,
Святы вечар шчодрым людзям.
А хоць і дома, то не гуляе, —
У новым гумне пшаніцу вее,

Святы вечар шчодрым людзям.
Ой хадзем жа мы, папрасем жа мы
Недавеечку на гарэлачку,
Святы вечар...”

Нібыта спахапіўшыся, Хрысця змаўкае амаль на паўслове, і дзіўны неспакой, мільгануўшы на твары, авалодвае бабулінымі ўчарнелымі рукамі. Яна цярэбіць, перабірае худымі пакручанымі пальцамі, быццам спрабуе адшукаць і ніяк не знаходзіць ім месца. Гэта ані мяне не дзівіць, тым больш не турбуе: так яна робіць заўсёды, калі прыгадвае штосьці сваё-сваё.

Трохі памаўчаўшы ды з ледзьве ўлоўным прывідам усмешкі ўглядаючыся ў нейкую, толькі ёй бачную далячынь, зноў раптоўна распачынае гаворку.

— А во нядаўна зноў заходзіў, акурат перад Калядамі. Падхапілася я, а ў хаце светла-светла, як удзень. Ажно спужалася. Я да вакна — дзіва дый годзе: нябёсы ўсе ў зорках, ды такіх вялізных — зроду гэткіх не бачыла. А Ён ідзе сабе, — ступае проста па небе, — увесь у белым; вышыванка як у нашых, і сам ён бы наш — тутэйшы, зусім не такі, як на абразах малююць — малады, вясёлы, ды такі харашэнны! Вось толькі дзірачкі на руках...

Перахрысцілася я тройчы, а Ён ужо зусім блізка падыйшоў, — а Божа ж мой! — завіс акурат над калодзежам: глядзіць на мяне, усміхаецца. А мне страшнавата зрабілася, ажно закрычала: “Госпадзе, глядзі, не ўпадзі ў студню”. А Ён яшчэ больш заўсміхаўся і гэтак лагодна-лагодна адказвае мне: “Не пужайся, Хрысцінко, не ўпаду, я ж — Бог”. А тады ўжо зусім на дол спусціўся, пастаяў трошачкі і да паветкі падыйшоў — там, дзе ў мяне дрывотня: агледзеў усё, сякеру ўзяў, трохі бруском пагайстрыў. Дзіўлюся на Яго — ну зусім просты хлопец. Ажно бачу — папляваў на далоні і давай мне дровы секчы. А я й зноў Яму: “А мой жа ты Божухна, не сячы, то ж грэх вялікі перад Калядамі, людзі ж абгаворваць будуць”. “У Бога, Хрысця, грахоў нямашака — адказаў, — дый праца грахом ці ж можа быць?” Ну, думаю, калі сам Госпад гэтак кажа, то хай сабе й так.

А як пасек, — у хату зайшоў. Добра, што хоць прыбрала да свята. Пасядзелі, пагаманілі: распытваў пра ўсё-усенька. Я Яму таксама пра што толькі ні парасказвала: і як за Мікалаем было, і як саветы прыйшлі, і ў вайну як гаравалі, — ох, Божа ж мой літасцівы, — і як пасля... І пра нашых усіх расказала, і пра цябе таксама... А самой так добра, так хораша, як з братам родным. Частавала Яго, — а як жа? Дужа гурочкі мае ўпадабаў, нахвальваў. Гарэлкі, праўда, не ўзяў, — сказаў, што пост, дый наогул не ўжывае і мне не раіў.

Во, як з табой зараз, сядзім з Ім, гамонім. А пасля чую — мілы ж ты мой — просіць мяне што-якое нашае заспяваць. Дык я й зацягнула:

“...Ці дома, дома панава жана,
Святы вечар, шчодрым людзям.
А хоць і дома, то не гуляе, —
У новай хаце бел кужаль чэша,
Святы вечар, шчодрым лю-у-у.
Ой хадзем жа мы, папрасем жа мы
Недачэсачку нам на свечачку,
Святы вечар...”

Ажно чую — сядзіць Ён дый ціхенька мне падцягвае: “Святы вечар шчодрым людзям...” і ўсё ўсміхаецца, усміхаецца. А мой жа ты залаты!

А як развіталіся, — здароўя мне пажадаў. Абняліся. Хацела ў кішэню яму гарбузікаў насыпаць. Падзякаваў, але не ўзяў.

А тады ўжо я дзячыла Яму моцна, моцненька. Нават на каленцы спрабавала стаць — не дазволіў. Прасіла Яго за ўсіх: і за сваіх, і за чужых, і за жывых, і за тых, хто ўжо не тутака. Божа ж мой, Бож...

Хрысціна змаўкае. Ужо некалькі хвілінаў яна сядзіць амаль нерухома з кволаю ўсмешкаю ды непрамоўленымі ўголас словамі на выцвілых вуснах; пазіраючы ў мой бок, але, відавочна, зусім не на мяне, а кудысь далёка-далёка; і лішне гадаць, у Чые вочы яна глядзіць і Каму ўсміхаецца.

А я, гледзячы на Хрысцю, марна спрабую ўявіць, што яе маглі б назваць неяк іначай; спрабую і ўявіць не магу, бо іншага імя ў яе проста не магло быць. Ну, канечне — Хрысціна. Таму й не дужа дзівіцца, што менавіта ў ейную хату, хай сабе і ў снах, заходзіць Той, у гонар Каго яе й назвалі.

Хрысціна — мая родная бабуля па кудзелі. Ёй дзевяноста гадоў і яна не ведае, што мае яшчэ пяць гадоў у запасе. Пра гэта не ведае ніхто, акрамя Таго, хто зрэдку заходзіць у Хрысціны сны адведаць ейную старэчую самоту, а заадно й памагчы што-кольвек па гаспадарцы: скасіць атаву, насекчы дроў, прынесці вады...

Я люблю Хрысціну. І яна мяне таксама. Але Яго яна любіць болей. І гэта справядліва, бо Ён з Хрысцінаю заўсёды, а я — толькі прыязджаючы з Менску на вакацыі. Аднак жа пяшчоты бабулінай мне заўсёды ставала напоўніцу. Дый як жа іначай, калі цябе любяць трошкі меней за Госпада.

Зрэшты, Хрысцінае любові хапае на ўсіх. Гэтак яно й бывае, калі любоў сапраўдная. Бо як ні ўвіхалася доля за дзевяноста гадоў навучыць Хрысцю хоць кволай нянавісці, ды нічога з тае доўгае падманнае навукі не атрымалася й не магло. Бо калі любіш Звышняга, дык якая ж тады нянавісць. Ну хіба што... Дый то несапраўдная.

Сапраўдная толькі любоў, бо яна — Бог.

## II

Дабраслаўлёны той час, калі дні былі доўгімі-доўгімі і смутак у іх хаця й надараўся, дык толькі з прычыны тваіх шматлікіх напаўдзіцячых закаханасцяў. Дый ці было тое смуткам, калі аб ім так соладка згадвацьмеш некалі потым, зведаўшы напоўніцу ўсё, што смуткам называцца мае поўнае права. Але гэта ўсё калісці, а можа й зусім ніколі. А пакуль дні твае сапраўды доўгія-доўгія, здаючыся, што такімі яны будуць заўсёды і заканчэння не мецьмуць; прынамсі ты пра гэта не думаеш, бо ў васемнаццацігадовым веку гэткім тлуміць сябе зусім неабавязкова. Дастаткова ведаць, што ты малады, здаровы, некаторыя кажуць, што й здольнасцямі такімі-сякімі не абдзелены. Ты не дужа пярэчыш гэтаму, а таму ўсё навокал ёсць лепшым на свеце і належыць, вядома, табе, а ў жыцці тваім усё проста, лёгка, зразумела.

Галоўнае ж, — усе, каго ты любіш — жывыя і жыцьмуць так доўга, што пра гэта проста не варта й думаць. І пра любоў іхнюю ты не думаеш таксама, бо ці згадвае хто пра паветра, калі яго дастаткова. Дакладней

было б сказаць, ты проста шчаслівы, хоць пра гэта таксама ніколі не думаў і нават не здагадваўся, што сапраўдным шчасце бывае акурат тады, калі яго не заўважаюць.

Табе хораша і ўсё. І ўсім, здаецца, гэтак жа хораша, як і табе.

І без аніякіх высілкаў можна пераўвасобіцца са сталічнага мастака-студэнта ў вясковага калядоўшчыка. Бо ты дома, ты сярод сваіх і заўтра Каляды.

І дастаецца з гарышча вартая музейных збораў калядная зорка, ды не музейная — “жывая”; і выварочваецца стары бацькаў кажух... І вось ужо ідзем ад хаты да хаты — вясёлая, маладая сябрына: песні, жарты, смех, рогат...

“...Ці дома, дома ды панаў сынок,
Святы вечар, шчодрым лю-у-у.
А хоць і дома, то не гуляе, —
У новай стайні коніка куе.
Святы вечар шчодрым лю-у-у.
Ой хадзем жа мы, папрасем жа мы
Нам падковачку на дарожачку.
Святы вечар.”

О, гэтае Свята! Да позняе начы гарэцьме святло ў прыветных хатах, а па-над вёскаю ледзь не да раніцы будзе гучаць, паўтарацьмецца нашае “Ці дома, дома...”

І выходзіцьмуць на панадворак усцешаныя гаспадары. І выносіцьмуць шчодрыя пачастункі. І спявацьмуць разам з калядоўшчыкамі шчыра ўдзячныя, што іх не абмінулі — ушанавалі... І ніхто з нас тады не ўсумніцца, — як выглядае тое, што бацькі нашы называюць шчасцем — словам даволі рэдкім, амаль нетутэйшым. Як не сумняваюся цяпер я, прыгадваючы адно з ягоных аблічаў, якое з’яўлялася мне ў вобразе вясёлае каляды, а значыць — было сапраўдным. Сапраўдным як вада, як паветра, як хлеб — як усё, што немагчыма падрабіць, ці замяніць нечым іншым; пра што памятаеш не таму, што помніць трэба, а таму, што забыць не можаш, бо заўсёды жывеш з гэтым як з паветрам, вадою, хлебам...

## III

“...Ці дома, дома...” — праз гады лунае ў марозным паветры.

“...Ой хадзем жа мы...” — кліча мяне мая прыціхлая памяць.

Хто мы перад Вечнасцю без гэтае памяці, а нашыя ўяўныя ўзвышэнні без яе ці пакінуць па сабе хоць кволае водгулле?

Ды памяць у кожнага свая. І марна даводзіць, што ў цябе яна больш праўдзівая. Але й з чужое пабірацца не варта:

“Мы выраслі на “The Beatles” — часам хвацка, з выразным пачуццём уласнае перавагі ды абранасці прамовіць хтось з аднагодкаў, які наўрад ці палічыць цябе сваім сучаснікам. Колькі разоў раней, чуючы гэткае, ты маўчаў, саромеўся, не наважваўся запярэчыць, бо й самому падабалася шмат што з праспяванага славутымі ліверпульцамі. Дый сёння часам тое-сёе даляціць да сэрца. Але ж сябе не падманіш, — вырастаў ты на іншым.

Бо маеш сваю памяць. Бо верыш сваёй душы. Бо ў тваім жыцці было Свята. Бо й дасёння Яно не дае на сябе забыцца:

“...Ці дома, дома панава дачка,
Святы вечар шчодрым лю-у-у.
А хоць і дома, то не гуляе, —
Ў новай святліцы кудзельку прадзе.
Святы вечар шчодрым лю-у-у.
Ой хадзем жа мы, папрасем жа мы
Недапрадачку нам на латачку,
Святы вечар добрым лю-у-у...”

Ты вырастаў на Калядах, хоць, вядома, далёка-далёка не толькі на іх.

Ды ўжо не боязна быць незразуметым і не саромеешся падацца несучасным, і ўжо ведаеш з кім табе варта быць сучаснікам, а з кім неабавязкова ці нават не пажадана. Бо, як ісціну, разумееш, што не заганна вырастаць на тым, на чым выраслалі бацька, маці, Хрысціна...

Бо маеш адказ на пытанні: “Хто ты?”, “Адкуль?”, “Навошта?”. А калі й згадваеш іх зноўку, дык не дзеля адказу, а таму, што стаміўся чакаць Свята!

Бо даўно ўжо спарахнела на гарышчы саламяная калядная зорка, калісьці вартая найлепшых музейных збораў; і дабівае моль у старой каморы колішні бацькаў кажух, які столькі разоў быў “го-го-го казою”; і наўрад ці хто з маладых вяскоўцаў прыгадае тое нашае “Ці дома, дома...” — хіба што ў Менску нехта яшчэ памятае, а хутчэй ведае з кніжак. Ды ці ж яму падпяе Сын Божы, як калісьці падпяваў ён старой Хрысціне.

І што казаць, калі казаць няма чаго, каб не паўтараць столькі разоў казанага-пераказанага, адказам якому толькі скруха, што гнётам каменным цісне на сэрца ды правакацыйна казыча вейкі.

Што з намі адбываецца? Куды вядзе нас нашая нецвярозая доля? Дзе паратунак? Не знаходжу адказу.

Бо даўно ўжо няма на гэтым свеце маёй Хрысціны, і нямашака каму запытацца пра ўсіх нас у ейнага Звышняга Госця. І хаты Хрысцінінай, гэтак упадабанай калісьці Сынам Божым, таксама ўжо няма. Нават пракаветны вяз — гаспадар бабінага панадворка, колькі гадоў як паваліўся: не ад сякеры і не ад ветру, а таму, што час прыйшоў. А час ведае, калі яму належыць прыходзіць.

Але застаецца памяць, якой даўно зразумела: усё прамінае, ды не знікае нічога, а толькі змяняецца.

І зусім не цяжка мне ўбачыць, як Душа-Хрысціна шчыруе цяпер у нябеснай Гасподзе, дапамагаючы Звышняму, як і Ён ёй калісьці памагаў: можа грады поле на Божым гародзе, можа, бульбу абірае...

А можа ў перадкалядны вечар віншуе Божага Сына з днём народзінаў, ды, як некалі, разам спяваюць:

“Ці дома, дома
Сам Пан Гаспадар...”

Амін.

*2005 – 2010 г.г.*

Віктар Вабішчэвіч



...У нашым вечна юным свеце
Дарогі іншае няма...

# Паратунак знаходжу я ў слове

## СЛОВЫ

Паломніцтва. Вандроўка. Жыццё. Адвечны ход.
Дзяцінства. Спадзяванне. Бязлітасны ўзыход.
Заданні. Тэарэмы. І контуры пакут.
Сусвет. Планета. Космас.
Мой мілы родны кут.

Падзенні. З'явы. Кветкі. Адчайны лістапад.
Памкненні. Думкі. Згадкі. І шчасце нарасхват.
Старэнне. Прымірэнне. Бяскрайні краявід.
Гарэнне. Азарэнне. Паветра. Дух. Граніт.

Істоты. Здані. Дрэвы. І светлы зорны шлях.
Апошні. Змрочны. Першы. Ускормлены ў баях.
Паданні. Замкі. Словы. І песні салаўя.
Паэзія. Размовы. Сусвет. Бязмежжа. Я.

## СЭРЦА

Студзень. Дажджы. Пагражаюць грымоты.
Людзі. Натоўп. Дэградацыя. Хто ты?
Ты – напаўняльнік крывавай ракеты.
Ты – асалода і драма Сусвету.

Праўда. Давер. Нараджэнне падману.
Ранак. Святло. Валадарства туману.
Дрэвы – насельнікі сумнай планеты.
Дрэвы як лёсаў людскіх сілуэты.

Зло. Неўміручасць. Знішчэнне кахання.
Дзеці. Жыццё. Для ўсяго ратаванне.
Сэрца сваё аддаваць не стамлюся
Богу Айцу і маёй Беларусі.

## ЛАБІРЫНТ

Калісь
У часе раннегістарычным
Быў лабірынт заблытаны,
Адзін,
На Крыце –
Ніхто на волю выбрацца не мог.
А зараз колькі
На зямлі тых лабірынтаў?
Дзесяткі тысяч
Ці мільёны,
Ці мільярды.
Ты кажаш іх няма?
Дзівак.
Лепш глянь вакол сябе.
Ты ўбачыш,
Што ў сучасным свеце
Сярод людзей –
Што ні душа, то таямніца,
Што ні душа –
Сапраўдны лабірынт.

## ЗЯМЛЯ

Зямля даўно ўжо не крыўдуе
На наш упарты, грэшны люд.
Яна клапоціцца, шкадуе
І нас ратуе ад пакут.

Яна ратуе нас ад пекла,
Якое творым мы штодня,
Якое лёсам нас пасекла,
Якое нельга ўжо суняць.

Яна ратуе нас ад злога,
А злое лезе і паўзе.
Шчыльнее пошасцяў аблога –
Дабро змяншаецца ў вазе.

Зямля ратуе нас, як можа,
Гадуе ўсіх і кожны край.
Даруй правіны нашы, Божа.
Ва ўсім зямлі дапамагай!

* * *

Я гартаю забытыя кнігі –
Спасцігаю пасланні вякоў
І чытаю завеі, адлігі,
Каб не бачыць жандарскіх акоў.

А вакол мітусня, таўкатнеча:
Абыйшоў, падмануў ці прыдбаў –
Разрастаецца ў душах пустэча –
Панаванне грахоўных забаў.

Халуёўскія танныя кпіны
Як ніколі жывуць і ў цане.
Выдаюць за геройства правіны,
Нараджаюць жаданні ў віне.

А вакол зневажаюць паэтаў –
На алтар фарысеяў вядуць.
Не хаваюць звыродлівых мэтаў
І памкненняў сваіх каламуць.

Паратунак знаходжу я ў Слове
Праз пакуты, сумненні і плач.
У адвечнай прыродзе-аснове,
Бог Святы, калі зможаш – прабач.

## ШЛЯХ

Сказаў і зморшчыўся ў пагардзе,
Што шлях мой збіты ўжо ў вяках:

Пятрарка, Дантэ, Леапардзі
Такі даўно прайшлі ўжо шлях.

Яны даўно ўжо напісалі,
Як люд кахаў, змагаўся, жыў.
Усё ўжо ўзважылі на шалях –
І больш пра тое не кажы.

Няўжо не трэба пра каханне,
Пра неўтаймоўны новы дзень,
Пра надгарынскае світанне,
Пра час усмешак і надзей?

Няўжо наступных пакаленняў
Не варты ўвагі будзе след?
Не будзе песняў і натхненняў –
І не патрэбен больш паэт?

Не трэба доказаў, спасылак,
Не пераконвай ты мяне:
Не паўтару тваіх памылак,
Мяне мой лёс не абміне.

Не здраджу я абранай мэце,
І не схіляй мяне дарма,
Бо ў нашым вечна юным свеце
Дарогі іншае няма.

проза

Паліна Качаткова



...калі трапляеш туды,
адчуваеш сябе ў змененым свеце...

# Чалавек-жанчына

***Кароткія аповеды***

## Развагі

Як прыгожа назваць сяброўку, але каб вызначыць ступень сяброўства – не самая блізкая сяброўка?

Прыяцелька? Знаёмая? Каляжанка? Таварышка? Знаёміца?

Такіх называюць менавіта прыяцелькамі, але часам яны крыўдуюць – гавораць пра гэта. Паплечніца...

Канструкцыя «адна з сяброўак» як мне падаецца адэкватна адлюстроўвала б стан «не самая блізкая».

Вось я і буду казаць “адна з сяброўак”.

Адна сяброўак на днях напісала пра сябе, што з «чалавека-жанчыны», яна ператвараецца ў чалавека-выканальніка працы», “і гэта становіцца маім жыццём” – піша яна.

Я спытала:

– Дзе ты такое знайшла «чалавек-жанчына»? Сама прыдумала?

– Сама... – і смайлік: сонейка ўсміхаецца.

Проста неверагодна, я кажу:

– Афармі аўтарскае вынаходніцтва!

А яна:

– Дзялюся!

## Купальскае паветра

Дзея адбываецца на беразе Дняпра ў Воршы, дзе паганскае капішча. Апошнім часам у прэсе яго ўсё часцей называюць “беларускім стоўнхеджам”. Там ёсць каляндар каменны, ахвярны камень і крыніца. І да гэта часу там праводзіцца Купалле.

На Купалле сустракаюцца мясцовыя людзі і прыезджыя “нацыяналісты” з Мінску ды іншых гарадоў Беларусі.

І вось пачынаецца вячэра з бальзамам “Чорны рыцар”. Побач апынаюцца малады хлопчык-нацыяналіст ў вышыванай кашулі і Наташа мясцовая жанчына за трыццаць, вельмі прыгожая – яе бабуля была грэчанка, якая прыехала ў Воршу з Афону па вялікім каханні. Таму твар ў Наташы, нетутэйшы, незвычайны, як з камеі, фігура, як у антычнай статуі.

Наташа выпівае і звяртае ўвагу на прыгожага бландына ў вышыванай кашулі і робіць яму камплімент:

– Вот, типично русская внешность.

У хлопца ажно мову адняло.

– Не руская, а беларуская... беларуская, гэта нацыяналіст беларускі, – стала падказваць сяброўка. – і адначасова заступілася за сяброўку:

– Наташа памылілася, яна не хацела пакрыўдзіць.

– А... ну, я хотела сказать славянская, то есть белорусская, да типично белоруская внешность, – загаварыла Наташа.

– Для Наташы слова “нацыяналіст” напэўна мацернае..., – сказаў хлопец.

Пасля выпілі за паразуменне і пайшлі голымі купацца ў Днепр. Хуткая плынь падхапіла і пацягнула Наташу.

– Я тону, тону, – закрычала яна.

Нацыяналіст паспеў схапіць яе за руку:

– Паветра набірай, паветра.

– Я не понимаю, что такое паветра, я тону! Говори, по-русски!

– Не буду гаварыць па-руску! Паветра набірай!

А месца рэальна незвычайнае. Месца, дзе цэлы год нічога не адбываецца – ляжыць камень, цячэ рака... і ўсё. Але, калі трапляеш туды, адчуваеш сябе ў змененым свеце.

## Слімак

Атрымала ліст са Швецыі, ад сяброўкі, якая раней жыла ў Калінінградзе, а пасля выйшла там замуж за шведа і нарадзіла дзіця, яна піша пра дачку: «Паказвала Санне слімака на дзвярах... Высуне рожкі, я паднясу палец – хавае. Глядзі, Санна, у слімака хатка на спіне. Дзіця ў трансе –

павага да формы жыцця, я ўся такая педагагічная. І тут Санна гаворыць – глядзі, яна... какае! Слімак!!! І сапраўды, наш слімак утварыў кучку, якой заганарылася бы і больш буйная форма жыцця. Відаць, моцна мы яго досталі".

## Каментар

У мяне ёсць жывы дзённік. http://kyta-kyta.livejournal.com/. Неяк увечары я пагуляла па беразе, усё мне там спадабалася, прыйшла дамоў і зрабіла запіс: "Я ішла па начной сцежцы ўздоўж ракі, побач са мной бег кот. А ў небе свяціла белая поўня".

Назаўтра паглядзела, а там каментар:

Anonymous напісаў: Aug. 5th, 2009 08:40 am: "І што ж тут каментаваць – ідыятызм нейкі..."

## Прыйшоў Ілля

У Воршы на пляжы пачапілі абвестку «Купаться запрещено с 20.07.09. Штраф от 1 до 3 базовых величин».

Падыходзяць хлопцы, чытаюць. Меншы пытаецца?

– А што было 20 ліпеня?

Большы адказвае:

– Прыйшоў Ілля.

– Ілля прыйшоў і патануў? Таму тут нельга купацца?

– Не, Ілля пусціў ільда...

– Пусціў ільда? І патануў?

– Вось паглядзі, – тлумачыць большы, – вада быццам бы цёплая. А нырнеш, там лёд.

– Які лёд?

– Халодная вада...

– Дык так заўсёды бывае.

– Не, толькі пасля Іллі.

– Пасля таго, як Ілля патануў?

## Мужагон

Прыйшла да сяброўкі Ленкі. Яна жыве ў прыватным доме, таму я зайшла сама – мне ніхто не адчыняў. Убачыла сяброўку яна сядзела ў зале і засяроджана разглядала расліну – манстэру.

– Кажуць, гэта мужагон, – звярнулася яна да мяне. – Мужыкоў з хаты выганяе.

– Не, не мужагон, гэта манстэра, мужагон – гэта ліяна.

– Ай, ўсё роўна, я цяпер не магу на яго глядзець. Можа ўсё праз яго. Мне ж яго некалі немец з Германіі прывёз. Каму б падсунуць.

Я сказала, што расліна дастаткова модная і дарагая, можна і прадаць.

– Каму я яшчэ не сказала, што гэта мужагон? – задумалася сяброўка.
Праз некалькі дзён яна патэлефанавала мне.
– Сонейка, маё, у мяне тут ёсць такая расліна... Можа табе трэба?
– Мужагон?
Паўза.
– Адкуль ты ведаеш?
Манстэру я забрала. Дакладней Ленка сама завезла мне яе на машыне.
Пасля гэтага Ленка сказала:
– Ты сапраўдная сяброўка, ведаеш, што мужагон, і ўсё адно бярэш.

## Жаба

Наташа (гл. "Купальскае паветра") патэлефанавала з польскай мяжы (яна чарговы раз з'язджае з Беларусі назаўсёды ў Германію) і сказала:
– Я ведаю, чаго не хапае ў тваёй сажалцы...
– Чаго?
– Качкі ( у сэнсе птушкі).
– Навошта, там жа лілеі, балотныя касачы, стрэлаліст, куды яе, яна ж вялікая...
– Дык не жывую.
– А якую?
– Пластмасавую, яна прадаецца ў краме, дзе кветкі. Каштуе 28 тысяч. Купі абавязкова.
– Не, такое я ў сваю сажалку не хачу.
– Чаму, так прыгожа будзе. Яе там не хапае.
– Не хачу.
– Ну, жабу пластмасавую купі...
– Там у мяне жывыя жабы.
У голасе сяброўкі гучала крыўда. Так мы і перагаворваліся, аж пакуль не знікла сувязь, Наташа пераехала на тэрыторыю Еўразвязу.

## Язмін

Увесну Наташа з букетам язміну ў руках і дачкой Мэгі ішла па Оршы.
У раёне старога аўтавакзала, да іх падыйшоў чарнявы хлопец:
– А где тут наши кафе открыли?
– А "нашы" – гэта хто?
– Ну... азербайджанцы.

## Рамантычная вячэра

У Наташы быў муж грузін. Таму ўсе сяброўкі называлі Наташу Грузінкай – каб адрозніваць ад усіх астатніх Наташ.

Аднойчы Наташа паехала ў Германію ў госці да сяброўкі. Там ёй вельмі спадабаліся вячэры пры свечках. Наташа купіла прыгожых свечак і вярнулася ў Воршу. Вырашыла зрабіць сюрпрыз грузіну. Прыгатавала смачную вячэру, дастала з лядоўні пляшку гарэлкі. Пакуль грузін мыўся, яна паставіла стравы на стол, патушыла святло і запаліла свечкі.

З лазенкі выходзіцьгрузін, перавязаны па пояс рушнікам, і ў жаху нерухомее на парозе кухні. Пытаецца, што гэта так? Наташа робіць прыгожы жэст рукой і запрашае яго за стол.

– Што гэта? – яшчэ раз пытаецца грузін і агрэсія нарастае.

– Свечкі, рамантычная вячэра...А што?

Грузін:

– У нас дома 10 гадоў святла не было...

## “Бывший беларус”

У ліпені ў Воршы на пляжы з’явіўся джып з расейскімі нумарамі. У джыпа быў прычэп, на прычэпе быў кацер. З джыпа выскачылі два хлопцы, пачалі адчапляць кацер. Пасля з джыпу выйшаў чалавек. На ім былі акуляры ў залатой аправе, залаты ланцуг на шыі, пярсцёнкі. На ім былі ружова-фіялетавыя трусы-шорты з пальмамі і стракатая майка. Кацер паставілі на ваду. Чалавек улез у кацер і зрабіў некалькі заездаў па Дняпры насупраць пляжа.

– Хто гэта? – спытала я.

– Ясно кто, – адказала Наташа, – бывший белорус.

– А чаму ён катаецца на сваім кацеры тут?

– Наверное, его тут когда-то обидели.

## Выратавальніца

Бачыла, як плынь ракі цягнула п'янага. Выратавальнікі хацелі яго ратаваць, а ён пасылаў іх на ўсе літары... Выратавальнікі на маторцы ад'язджалі, кідалі п'янага ў вадзе. А цётка на беразе абуралася, крычала, што трэба ратаваць. Высокая пасля дажджоў вада ўсё цягнула п'янага, далей і далей аж пад самы мост. На трэці раз яго ўсё ж выцягнулі. А на беразе пад ліпамі выратаванага чакаў прыгожы аўтобус чырвонага колеру з надпісам «спецмедтэхніка» – з выцвярэзніку.

дэбют

Рыта Тарайкевіч



...шэрае-шэрае неба, і больш
мне нічога
не трэба...

# ...А ноч працуе і маўчыць

## *ВЕЦЕР МЕНСКІ*

Зашпілі мае гузікі,
вецер
менскі,
і злучай пацямнелы асфальт
з небам...
Буду распавядаць,
калі трэба, –
як
у нас
добра жывецца:
“Там лясы і лясы,
і дзікі,
і шматпавярхоўкі,
шэрае-шэрае неба, і больш
мне нічога
не трэба”.
Затульвай твар мой

шалікам,
вецер менскі;
хоць падполле – зусім
не мая стыхія,
але ж трэба яшчэ
працаваць, вучыцца.
Узгадай тыя тангі
і паланэзы
і абцасы шляхецкія,
вецер
менскі.

### *ДЗЯДЫ*

хвоі. крыжы. няроўнасць
зямное паверхні – ямы. гэта месца
дзе падкошваюцца
ногі. і я дайшла да гэтага месца
нарэшце, з усімі
разам. фатаграфавалі
вавёркі з дрэваў, і не казалі, калі
фоткі будуць гатовыя. падшывалі
нашыя душы, нашыя твары ў файлы
захоўвалі.
гэтае месца, гэты горад, гэтую...
я з’ехала б, калі б не была
паэткаю.

* * *

Між астатніх пагроз нетрывалага часу
мне скалечыла лёс “беларуская кляса”,
і збываюцца бела-чырвоныя сны
ў дні вялікай айчыннай ідэйнай вайны.

### *С. СОКАЛАВУ-ВОЮШУ*

Спадар Сяржук! Як вашыя там справы?
Як вашыя сыны-рэспубліканцы?
Ці чуеце, як кліча з дальніх даляў
вас беларускі край? Ліхтар па столі
паўзе бялявай нетутэйшай плямай?
Нагадвае пра Мінск якімсьці чынам,
пра дзіўны сон забытых дзевяностых
(бандыцкіх ды акультных, адраджэнскіх,
ды ўрэшце – з Боскім ветрам пераменаў...)
Спадар Сяржук, як па начох Вам спіцца?
Я слухаю ўсё вашую кружэлку,

яна не горшая за хэві-метал...
Пра гэную палітыку – не трэба,
а лепей пра гісторыю, пра мову,
пра перспектыву... Урэшце – пра рэальнасць!
Спадар Сяржук! Часцей, хаця б на тыдзень
(прашу вас без падтэкстаў) – прыязджайце!

* * *

дождж. майская ноч.
лужыны. ліхтары.
вокны патухлі, апроч
тых, што глядзяць дагары
болем дзіцячых вачэй,
працаю дзёрзкіх сноў,
каб дагарэць ярчэй,
нават калі льле дождж.

* * *

для лірыкі надта многа
крыві. запалала сонца
у жылах. ляціць дарога,
дзе шанец – не абаронца.
абрыўкі начныя вершаў,
запіскі дзяцей-вар'ятаў...
хто ведаў каларыт тутэйшы,
той бачыў у натоўпе брата.

* * *

Я стаўлю чайнік на агонь
у засяроджанай начы,
і небяспека за вакном
ці спіць, ці проста так маўчыць.
Акенцаў жоўтых між гадзін
адной ці дзвюх – усё менш і менш,
але не страшна, што адзін,
без крыку ў цішыні расцеш.
І небяспека за вакном
размазаная між гадоў,
а вецер экстрэмісцкіх сноў
паклаў запалку на далонь.
Але маўчыць, як горад, дом
сярод адмеранай начы.
Я стаўлю чайнік на агонь,
а ноч працуе і маўчыць.

Алеся Іванькова



...паліто было ейным целам, светачам, хаўруснікам ейнае маленькае трагедыі...

# Чырвонае паліто

***Аповед***

*– Я пра тое, што мы ў цемры, як у смерці,*
*і ў смерці – як у цемры. Мы не бачым рэчаў –*
*а толькі асвятленне іх. А самі мы, на зямлі,*
*дзе мы ёсць, сярод сябе, жывём у цемры.*
*І мёртвы – больш рэальны стан, чым жывы.*
Андрэй Бітаў, “Апантаныя”

Ранак пачаўся трохкутным. Адчуванне геаметрыі вярталася да яе штораз, калі бровы трагічна сыходзіліся на пераноссі – яны нагадвалі дзве вектарныя прамыя, якія ўпарта паказвалі на лыжачку лоба. Якраз туды, дзе красавалася вялікая радзімая пляма.

Ужываючы ўласцівую ўсім жанчынам крывадушнасць, яна бесперастанку пацiскала рукі калегам і ўсміхалася кліентам так асляпляльна, як, пэўна, згараюць пылавая блікі на спіралі распаленае лямпы. Яна любіла пацiскаць іх са сваёй вышыні, прытуліўшы лямпу між сваіх каленяў; і ейныя пальцы заўжды былі чырвоныя ад апёкаў. Ёй падабаўся чырвоны колер – ён быў жыццём. Само

жыццё яна з пагардай адхіляла, лічыла яго дэструктыўнай праявай індывідуальнасці, па-за калектыўнай з’явай, пазбаўленай маральных нормаў і рэлігійных канонаў. Яна ненавідзела сябе за цяжкі чорны трохкутнік на белым авале ейнага твару, які падобна крыжу раскідаў крылы над ейным добрым імем, над ейнай ідэальнай, нічым некранутай рэпутацыяй. Думкі пра гэты зневажальны недахоп увесь час турбавалі яе, і штораз, калі яна сутыкалася з адмысловай разнавіднасцю люстэрак, якія дэманструюць усё без вынятку, ёй падавалася: яна глядзіць у бездань. Але было наадварот, гэта бездань глядзела ў яе. Сваім не ў прыклад самастойным жыццём, якое напінала і распальвала ёй скуру непрымальным чорным індывідуалізмам, яно цягнула жанчыну ўсярэдзіну.

І яна апускала вочы, ахінала галаву худымі, доўгімі рукамі ды імкліва крочыла праз натоўп, кідаючы прыгнечаныя погляды сабе пад ногі: на асфальт, на маленькія камяні ды буйныя галовы каменных плітаў. Ёй падавалася, што ўсе, хто ёсць навокал – ці то свае, ці то чужыя – не крычаць ёй услед толькі таму, што з нейкай невядомай прычыны пазбаўленыя такой магчымасці – не маюць ратоў. Затое вачэй у іх звышдастаткова, яны быццам абсыпаныя імі, як калядныя дрэвы бліскучым шклом цацак. І кожнае вока прагне стрэліць па ёй, уджгнуць вельмі балюча, і турзаць столькі часу, пакуль не хопіць ёй рук настолькі, каб цалкам укрыцца. І ўва ўсёй той непамыслоце вінаватая была пляма.

Аднойчы ёй пагрукалі ў дзверы. Стук быў нясмелы і слабы, ледзь распазнавальны ў гучнай цішыні. Над ганкам лунаў кранальна прыгладжаны скрутак са шчыльнай галантарэйнай паперы. Ён быў такі прыгожы і прыцягальны, што жанчына не вытрымала: узяла на рукі, абняла і прытуліла да сябе як мага мацней. Але не забыла паглядзець па баках: ці не заўважыў хто з суседзяў?

У скрутку было паліто. Яно было мяккім, чырвоным і з пачварнай настойлівасцю распаўсюджвала прагу да жыцця на вялікай прасторы вакол сябе. Яно было той зброяй, якой так не хапала стомленай фантомнай барацьбой жанчыне. Паліто было ейным целам, светачам, хаўруснікам ейнае маленькае трагедыі – страчанага жыцця.

– Ніколі, ніколі не буду здымаць гэтае паліто! – вырашыла яна і ў той самы момант з задавальненнем заўважыла, як гарманічна злілося яно з ейным уласным целам.

Вуліца была ў выглядзе кола: ззяла сонейка. Пад яго бесцялесным святлом нават радзімая пляма набыла нерэалістычнае бежавае адценне і падавалася смяротна хворай.

– Мае сцёгны такія самыя мяккія і круглыя, як сонца, – прашаптала жанчына, ловячы ласкавыя погляды тых, чые вочы яшчэ ўчора падаваліся ёй смяротнай зброяй. Яна адчувала, і сведчаннем таму былі гукі, выразна ўспрыманыя ейным нутраным слыхам: уся тая непрыязнасць да сябе, да свету, якая шмат гадоў урастала ў яе, цяпер раставала й памірала з дэманічным шыпеннем і кроплямі поту выступала на скуры. Паліто не варушылася.

– Яны ўжо шмат часу на мяне глядзяць. Хіба гэта правільна? Няўжо гэта прыстойна, раз яны ўсе так робяць? – жанчыне стала боязна. Жыццё

без паліто зрабіла яе недаверлівай і асцярожнай, і нават чырвоны колер, на пэўны час схаваўшы спешчаныя кветкі неўрозу ў ейным розуме – у цэлым не меў цяперака ніякой сілы.

Ёй карцела праваліцца, знікнуць, проста не быць. Чырвонае паліто прыгнятала: яно звісала з яе, як чырвонаяануча на руцэ тарэадора – і ў гэтым не было лірычнай метафары. Пакора змянілася на супрацьстаянне. Яна думала: мы ўжо не адзінае цэлае, мы непрыемныя адно адному, у яго сваё жыццё, а ў мяне сваё. Яна жадала знішчыць яго, адарваць ад сябе, кінуць тварам у бруд. Але яно ўжо было ейнай часткай, як вялікая радзімая пляма. Трывала ўмацавалася ў ёй сваёй чырвонай існасцю. Яна амаль ужо ненавідзела чырвоны колер. Упала на калені і пачала заклінаць сваю радзімую пляму:

– Мілая, мілая пляма! Ты заўжды са мной, ты ўсё пра мяне ведаеш... Дапамажы, уратуй! Ад сораму згараю!

Але пляма не адказвала. Сонца схавалася, ад гэтага пляма пашырылася і стала яшчэ чарнейшая, чым раней.

Трамвай быў чырвоны, як паліто. А скрыгат, які ён даставаў з шырокіх рэек, быў яшчэ чырванейшым. Яны ішлі паралельна, але неаднолькава, як правады на слупах: з процілеглых бакоў вуліцы. Імгненне за імгненнем яны прасоўваліся наперад, і ніхто не меў ніякіх сумневаў, а магчыма нават быў шчыра перакананы, што калі-небудзь наперадзе з'явіцца чырвоны бок такога самага паралельнага з трамваем гуку.

– Цікава, а ці ёсць такія трамваі, што ездзяць не па рэйках, а па асфальце, дробным камені, вялікіх галовах каменных плітаў? – разважаў трамвай і ад здзіўлення сваім уласным думкам спыніўся.

Жанчына ўпала, нібы яе пераехалі пярэднімі коламі трамвая.

– Эй, чаму стаім? Кіроўца заснуў ці што?! Табе добра, а людзі спяшаюцца!

– Ды тут кагосьці пераехалі! Выклічце хуткую дапамогу!

– А-а-ай... Якую там дапамогу, яна проста п'яная...

Прыбеглі людзі, пачалі глядзець, шукаць...

– Гэта ж паліто...

– Глядзіце! Паліто!

– Шыкоўнае паліто... Чырвонае...

І людзі ўсміхнуліся. Хоць і было ў іх вачэй столькі, колькі бліскучых цацак на калядным дрэве. Але яны былі добрыя і любілі трамваі. За тое, што яны адвозілі іх куды трэба, і ніколі не збівалі людзей.

Уладзіслаў Ахроменка, Максім Клімковіч



...Няхай ты мудры акадэмік,
Калдыр ці офісны планктон,
Імкніся жыць у той сістэме,
Дзе валадарыць пан Закон!..



# Русалка Камсамольскага возера

## *Фарс у двух актах*

Дзейныя асобы:

М е н т – праваахоўнік-ідэаліст;
Р у с а л к а – каменная фізкультурніца з вяслом;
В а д з я н і к – гаспадар азёрнага дна;
Х а ч ы к, Г і в і – каўказскія камерсанты;
П р ы в і д б а б у л і – ўяўны вобраз бабулі Мянта;
Г о л а с з р а ц ы і – належыць начальніку Мянта;
А с я, К а с я – русалкі-малалеткі, памагатыя Вадзяніка;

Падзеі адбываюцца ў нашы часы на ўзбярэжжы Камсамольскага возера горада Мінска, а таксама ў яго акваторыі і на яго дне.

*Тэксты зонгаў – Сяргей БАЛАХОНАЎ.*

**А к т 1**

С ц э н а

*З’ява 1*

Русалка, Гіві, Хачык.
На беразе Камсамольскага возера пастамент, абмаляваны раз-

маітымі графіці. На ім класічная паркавая скульптура “Фізкультурніца з вяслом”, яна ж Русалка.

Да берага пад гукі лезгінкі падплывае вадаплаўная рэстарацыя з надпісам “ГІВІ & ХАЧ” па борце. На палубе Гіві з Хачыкам, углядаюцца ў залу.

ГІВІ. Усё, Хачык, тут швартуемся, колькі плыць можна, ногі, панімаеш, баляць! Глядзі, які парк прасторны, мусор саўсэм не відаць...

Гіві і Хачык сыходзіць на бераг. У руках Хачыка рэкламны банер.

ХАЧЫК. Какой мусор, дарагой! Гэта ж табе не Масква. Цэнтр Еўропы!

ГІВІ *(аглядае залу)*. Дэвушкі такія прыгожыя! М-м-м! Я калі прыгожы дэвушка пабачу – потым саўсэм спат нэ магу. Усю ноч сныцца, панымаеш!

ХАЧЫК. Каб табе п’яны скынхэд увес ноч сныўся! Не дэвушк трэба разглядаць. Мы нашто ў гэтую краіну прыплылі?

ГІВІ *(загінае пальцы)*. Пагуляць, выпіць, закусіць, пагуляць, выпіць... *(глядзіць у залу)*. Дэвушк, а дэвушк! Ага, ты! Тэлефончык дасі?

ХАЧЫК. Вай мэ! З кім я звязаўся? Грошы трэба рабіць, да? І прытым – у любы спосаб. Тут, напэўна, пра нас з табой яшчэ не чулі. Міліянэрамі станем!.. *(надзявае Гіві банер на шыю, што адразу ператварае таго ў “чалавека-бутэрброд”. На банеры надпіс “ХУТКА, СМАЧНА, ПА-КАЎКАЗСКУ”)*. Іды, рэкламуй. І штоб назаўтра пра нашую рэстарацыю ўвесь Мінск ведаў!

Гучыць лезгінка. Гіві і Хачык танчаць і спяваюць:

ХАЧЫК

Грошы – найгалоўнае у свеце,
Будуць грошы, іншае дакупім.
Любяць іх дарослыя, і дэці.
Хіба толькі дурні іх не любяць!

Вах! Любы капрыз за вашы грошы!
Рыбу запячэм, засмажым рака!
Кожны, хто з грашамі, той харошы
Кожны, хто без грошай – небарака!

ГІВІ

Тут для вас шашлык-машлык, рабяты!
Тут для вас каньяк-шманьяк, панове!
Тут для вас гарачае, дзўчаты!
То прыходзьце, усіх вас задаволім!

Выпіць, закусіць, гульнуць па кайфу
Зможа кожны ў нас, вай, бэз базару!
Задамо мы дзеўкам мэгадрайву!
Задамо сапраўднага мы жару!

ГІВІ і ХАЧЫК *(дуэтам)*

Зробім тут Каўказ сабэ, як дома!
Будэт клас вышэйшы ўдэнь і ўночы!
Здэйснім з вамі звычай наш вядомы
І пасля паўторым нэаднойчы!

Падчас танцу Гіві адступае назад, натыкаецца на пастамент з каменнай Русалкай з вяслом.

ГІВІ. Вах!

ХАЧЫК. Ой, мама-джян!

Аглядаюць статую. Хачык па-гаспадарску мацае вясло. Гіві хцівым позіркам ацэньвае вабныя формы Русалкі. Хачык вагаецца, але ж спрабуе адабраць вясло. Гіві асцярожна мацае статую за ногі.

ХАЧЫК. Халодны, да? А ты ў нас гарачы мужчына. Табе нэ падайдот.

ГІВІ. Слухай, Хачык. Я гарачы мужчына. Працую. Этат цяжар на сабе нашу! *(нервова папраўляе рэкламны банэр на шыі)*. Яна халодны жэншчын. Нэ працуе. З вэслом тут стаыт і з мэнэ смэёцца. Гэта справядліва?

ХАЧЫК. Гэта страшэнна нэсправэдлыва, дарагі Гіві. Я абураны да глыбіні душы, да? Што прапануеш?

ГІВІ. Каб яна замест мяне рэкламным агентам працавала. Глаўнае – у яе нават дазволу пытацца не трэба!

ХАЧЫК. Галоўнае, што ёй за працу плаціць не трэба!

Гіві здымае банер. Хачык падстаўляе яму рукі, той лезе на пастамент. Хачык падае Гіві банер, той вешае яго на шыю Русалцы.

ГІВІ *(злазіць)*. Работа зроблена. Ну што – гуляць?

Русалка ніжа плячыма – банер звальваецца.

ГІВІ. Аджыла! Слушай, проста містыка нейкая...

ХАЧЫК. Ты містык, да? Ты не містык, ты алкагалістык. Я табе, Гіві, даўно гаварыў: не пі з раніцы “Кіндзмараулі”, пі “Баржомі”. Вось вачам жывыя статуі і мрояцца. Ніводная статуя ніколі не аджыве... Нават калі ёй усе грошы свету прапанаваць. Глядзі, як трэба!

Хачык з дапамогай Гіві забіраецца на пастамент, нахіляецца, каб узяць банер.

ХАЧЫК. Мэртвый пэтля зраблю – ніколі не зваліцца!

У гэты момант Русалка канчаткова “ажывае”: б’е Хачыка вяслом, той ляціць на Гіві.

ГІВІ. Ну што – скаштаваў, Хач? А ты не верыў. Дык хто з нас жыве няправільна?

ХАЧЫК *(уцякае ад Русалкі)*. Які агрэсіўны баба!

ГІВІ *(спрабуе адабраць вясло)*. Ты на каго рука падняў, жэншчын?

ХАЧЫК. Балік-джан, дарагая, ну нашто біцца, да? Давай пагаворым, як белыя людзі!

ГІВІ *(заходзіць статуі за спіну)*. Э-э-э, ты ёй зубы загавары, а я...

Русалка адмахваецца вяслом. Хачык і Гіві са зверскімі тварамі ідуць на Русалку... Святло згасае, у цемры чуюцца крыкі і гукі ўдараў.

ГІВІ. Шэні дэда!

ХАЧЫК. Вай-вай-вай!

Чуваць гук, нібы нешта цяжкое плюхаецца ў ваду.

Знянацку цемру працінаюць сполахі міліцэйскай мігалкі, гучыць сірэна. Запальваецца святло. Русалка знікла з пастаменту. Раскудлачаныя Гіві і Хачык хуценька прыводзяць сябе да ладу.

ХАЧЫК. Э-э-э, і навошта мы з Масквы сплылі? Я чуў, тут не мянты, а проста звяры нейкія! Нават хабар не бяруць!

ГІВІ. Нэ вэру!

*З’ява 2*

Гіві, Хачык, Мент, Голас з рацыі.

Перад Гіві і Хачыкам Мент – прыкладае руку да фуражкі, у другой руцэ рацыя.

МЕНТ. Парушаем?

ХАЧЫК. Які парушаем, камандзір! Нэ паспэлі ў вашу Сынэвокую прыплыць, як на нас хуліганы напалі!

ГІВІ. Саўсэм забіць хацелі!

МЕНТ. Дакументы, калі ласка!

Хачык з павагай падае рэкламны банер. Мент пераварочвае яго, чытае з адвароту.

МЕНТ. Спадар Гіві – шашлычнік-віртуоз. *(глядзіць у твар Гіві)*. Супадае! *(пераводзіць позірк на Хачыка, зноў чытае)*. Спадар Хачык – дыпламаваны шаурміст. Таксама супадае. Та-а-ак, а хто выпісаў? Ліцэнзія Старажоўскага райвыканкама. Пячатка... Подпіс... *(Глядзіць на пусты пастамент)*. А статуя дзе?

ХАЧЫК. Не бачылі мы ніякіх статуй!

МЕНТ. Паўгадзіны таму ж была!

ГІВІ. Я так думаю, што яна, напэўна, гуляць пайшла. Ці ў Камсамолскі возера паплаваць. Вада які цёплы, м-м-м!

МЕНТ *(дбайна аглядае падлогу вакол пастамента)*. Не супадае. Слядоў жа няма! *(сувора глядзіць на Хачыка з Гіві)*. Так. Прыехалі ў нашу краіну – паважайце яе галоўны закон, Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь!

ХАЧЫК. Очэн дажа паважаем, да?

ГІВІ *(дастае партманэтку)*. Колькі ты хочаш?

МЕНТ. Грамадзяне, пройдземце!

Нечакана праз шумы і перашкоды эфіру прабіваецца Голас з рацыі.

ГОЛАС З РАЦЫІ. Восьмы, восьмы, я першы. Слухай загад: неадкладна адпусціць гасцей нашай сталіцы і працягваць патруляванне ўзбярэжжа.

МЕНТ. Мне толькі што хабар прапаноўвалі!

ГОЛАС З РАЦЫІ. Ды яны ж з Масквы, тутэйшых завядзёнак яшчэ не ведаюць. Даруем для першага разу.

МЕНТ. А як жа зніклая статуя?

ГОЛАС З РАЦЫІ *(спагадліва)*. Слухай, восьмы, а табе гэта трэба? У нас тут людзі бясследна знікаюць. А статуя не чалавек. Загад зразумеў? Выконвай!

МЕНТ *(крыху вагаецца, але ж пераводзіць позірк на Гіві і Хачыка, прыкладае далонь да брылька)*. Можаце ісці.

Гіві з Хачыкам адыходзяць, сінхронна прыкладаючы рукі да сэрцаў, сплываюць на рэстарацыі.

*З'ява 3*

Мент, Прывід бабулі.

Мент перад пустым пастаментам. Узважвае рацыю на далоні. Нечакана ўзнікае Прывід бабулі.

ПРЫВІД БАБУЛІ. Унучак, унучак... І што ж табе ў роднай вёсцы не сядзелася? Скончыў пэ-тэ-ву, адслужыў у войску. Ну, і вярнуўся б, як усе нармальныя хлопцы! Нашто ў горад падаўся?

МЕНТ *(напружана азіраецца)*. Бабуля, ты? Цябе ж з намі даўно няма.

ПРЫВІД БАБУЛІ. Гэта цябе з намі няма. А я заўсёды з табой. Назіраю, перажываю. Думала, як павернешся з войску, то са старшынёвай дачкой шлюбам пабярэшся. Механізатарам якім будзеш рабіць, ці камбайнёрам. Брыгадзірам абяруць. На "Дажынках" пераможаш. Кабанчыка станеш гадаваць. А я праўнучкаў дачакаюся. Не паслухаўся ты мяне...

МЕНТ. Бабуля, ну якая вёска? Што я там забыўся? Тая старшынёва дачка мяне з войску не дачакалася, да бульдазерыстаў пасля танцаў бегала, "чарнілы" з імі піць! Дый бацька ў яе – яшчэ той калдыр: сваіх кабанчыкаў крадзеным камбікормам гадуе! Парадку няма!

ПРЫВІД БАБУЛІ. А то ў вашым горадзе парадак ёсць! А то ў вас не крадуць, не п'юць! Ты на свой райаддзел паглядзі! Спрэс хаблы і мацяршчыннікі!

МЕНТ. Калі ўсе так стануць разважаць, нічога ў свеце не зрушыцца. Будзем жыць, як у балоце. А тут у мяне хоць нейкая ўлада ёсць. Калі нават адзін міліцыянт будзе рабіць усё чыста па законе – гэта зменіць да лепшага і жыццё... і нават наш райаддзел.

Зонг МЯНТА

Ніколі зверу не забыцца
На родны ўтульны свой бярлог.
А людзям трэба клапаціцца,
Каб кожны права ведаць мог!

Няхай ты мудры акадэмік,
Калдыр ці офісны планктон,
Імкніся жыць у той сістэме,
Дзе валадарыць пан Закон!

Няхай ты хакер ці даярка,
Цясляр, прадзюсер, дэпутат –
Бяры, вучы законы шпарка!
Любі, любі законны лад!

ПРЫВІД БАБУЛІ. А цяпер ты ўсё па законе зрабіў?
МЕНТ. Бабуля, у мяне ж загад...
ПРЫВІД БАБУЛІ *(спагадліва)*. Унучак, унучак...

Прывід Бабулі знікае.

С ц э н а 2

*З'ява 1*

Вадзянік, Русалка, Ася, Кася.
Дно Камсамольскага возера. У інвалідным вазку сядзіць Вадзянік – немалады мужчына падобны да састарэлага мафіёзі. Насупраць, падціснуўшы пад сябе ногі, сядзяць гламурныя водныя істоты Ася і Кася, з выглядам першакурсніц канспектуюць Вадзяніка.

ВАДЗЯНІК *(робіць рукой паўкола, пранікнёна прамаўляе)*. Вы гляньце – дзе яшчэ така краса? Нідзе няма такога дна, як наша! Сядзіш ў затоцы, тоішся ў дрыгве, ці нават трапіш у плынь – паўсюдна прыгажосць! Шчыруюць п'яўкі, сноўдаюць вужакі, жабкі скачуць. Па-над вадой шалеюць камары. І ўсюды бросня міла зелянее. Не, наша дно – найлепшае ў сусвеце!
АСЯ. Цуд некранутай прыроды!
ВАДЗЯНІК. Але ж нашае самае любае, самае прыгожае дно – у шчыльнай варожай аблозе. Тыя, хто вышэй за нас, прагнуць тут усё панішчыць.
АСЯ. Людзі?
ВАДЗЯНІК. Яны!
КАСЯ *(падымае руку)*. Можна спытаць?
ВАДЗЯНІК. Што, Кася?
КАСЯ. Бос, а чаму гэтыя людзі хочуць тут усё панішчыць?
ВАДЗЯНІК. Зайздросцяць.
КАСЯ *(крыху разгублена)*. Хіба ў іх наверсе няма ані жаб, ані п'явак?
ВАДЗЯНІК. Такіх – няма!
АСЯ *(штурхае Касю ўбок)*. Што за недавер? Вадзянік нам, як бацька родны! А бацька ніколі не хлусіць!

З паверхні сыплецца аднаразовы пластыкавы посуд. Ася спрытна бяжыць да Вадзяніка, раскрывае над ім парасон.

АСЯ *(абярэжна здымае з Вадзяніка патрушчаную пластыкоўку)*. Вас не параніла, бос?

ВАДЗЯНІК. А-а-а, што я казаў? Добра, што яшчэ не граната. Гэтыя людзі толькі і могуць, што паскудзіць на беразе, каламуціць ваду і падпускаць да нас бацылу. Добры чалавек – мёртвы чалавек!

КАСЯ. Дык нашыя хлопцы акурат на бераг і выбраліся... Каб людзей бязлітасна нішчыць!

ВАДЗЯНІК. На сувязь яшчэ не выходзілі? Русалка Ася, дакладай аператыўную абстаноўку!

АСЯ. Агент Тапелец пад выглядам інтурыста дэсантаваўся на бераг, удала ўвайшоў у давер да людзей і атабарыўся ў прыбярэжным бары. Чакае вашых інструкцыяў.

ВАДЗЯНІК. Узброены, як заўсёды?

АСЯ. Каністра атруты.

Вадзянік глядзіць на Касю, шчоўкае пальцамі. Тая прыносіць спод са старым эбанітавым тэлефонам. Ася здымае слухаўку апарата.

АСЯ *(ў слухаўку)*. Тапельчык? Любы мой! Ну як ты там? Людзі хоць не крыўдзяць? Ды ў мяне ўсё нармалёва. Беражы сябе! З табой бос хоча пагаварыць.

Ася перадае слухаўку Вадзяніку.

ВАДЗЯНІК. Колькі народу атруціў? Ты што – нават яшчэ карную акцыю не распачаў? Як гэта “атруту прапіў”? Што, і вяртацца не збіраешся? Назаўсёды сярод людзей застаешся? Ат, пашкадуеш! Я табе гэта абяцаю. Шчупальцы ў мяне доўгія, паўсюль дастану!

Вадзянік злосна кідае слухаўку, глядзіць на Асю.

АСЯ *(усхліпвае)*. Ён жа мне абяцаў...

ВАДЗЯНІК. Жаніцца? Здрадзіў ён табе! *(глядзіць на Касю)*. А што твой хлопец, агент Лазнік?

КАСЯ. Атрымаў загад зрабіць дыверсійны акт у сауне. Выправіўся сёння з раніцы. На месцы.

Кася накручвае тэлефонны дыск, перадае слухаўку Вадзяніку.

ВАДЗЯНІК. Алё, Лазнік? Нешта кепска чуваць... Хто там рагоча? Прыкольныя дзеўкі? Дык чаму ты іх дагэтуль не спаліў разам з саунай? Яны пяшчотныя і вясёлыя? А як жа твая Кася? Занадта халодная? Ды калі гэты рогат скончыцца! Яны што – цябе лашчаць? Ты іх? *(кідае слухаўку)*. Цьфу! У масажысты падаўся... Пярэварацень!

КАСЯ *(трагічна енчыць)*. Як ён мог! На цёплую дзеўку мяне прамяняў! Была б я сапраўднай дзяўчынай – утапілася б!

ВАДЗЯНІК. Вось што значыць бацыла чалавечнасці! Варта нялюдскай істоце якісь дзень сярод людзей пакруціцца – і яна атручваецца на ўсё жыццё! Нішчыць, нішчыць і яшчэ раз нішчыць усе праявы людскасці! Без жалю і літасці!

Чуецца ўсплёск, следам – грукат. Асю, Касю і Вадзяніка хістае, нібыта, прайшла хваля. Усе глядзяць угару. Кася і Ася бягуць са сцэны.

ВАДЗЯНІК. Якая яшчэ трасца на нашу галаву?

*З’ява 2*

Тыя ж, Русалка.

Ася і Кася цягнуць паўпрытомную Русалку, ставяць перад Вадзянікам. Кася забірае ў яе з рук вясло.

Ася кратае лоб Русалкі далонню.

АСЯ *(радасна)*. Халодная, бы той камень!

ВАДЗЯНІК. Значыцца, нялюдская істота!

КАСЯ. Сястрычка, што гэтыя паганыя людзі з табой зрабілі?

РУСАЛКА *(падымае голаў, шэпча)*. Хто вы? Дзе я?

ВАДЗЯНІК спявае, АСЯ і КАСЯ падпяваюць, катаюць, круцяць інвалідны вазок. РУСАЛКА – пантаміма марыянеткі.

АСЯ і КАСЯ *(дуэтам)*

Не звяры мы і не людзі,
На азёрным дне наш дом.
Мы былі, мы ёсць, мы будзем,
А чужынцам тут гамон.

ВАДЗЯНІК

Чыстакроўная мы нечысць,
Мы за мокры лад жыцця.
Не прымаем чалавечнасць,
Як адзін, сямейка ўся.

Калі раптам на ўзбярэжжы
Пойдзе з кветкай напралом
Да цябе хлапчына гжэчны,
Што рабіцьме?

АСЯ і КАСЯ *(дуэтам)*

Бі вяслом!

ВАДЗЯНІК

Калі раптам у кустоўі
Выкшталцоны забулдон
Прапануе сёе-тое,
Што рабіцьме?

АСЯ і КАСЯ *(дуэтам)*

Бі вяслом!

ВАДЗЯНІК

Калі раптам з вудай стане
Ці пачне шпурляць прыкорм
Рыбачок прыгожым раннем,
Што рабіцьме?

АСЯ і КАСЯ *(дуэтам)*

Бі вяслом!

Падчас спеваў Кася і Ася бяруць русалчына вясло, па чарзе танчаць вакол яго, нібы вакол шаста на подыуме. Русалка паціху аджывае, уключаецца ў танцы. Ася і Кася падводзяць яе да Вадзяніка, Русалка становіцца перад ім на адно калена.

Вадзянік урачыста датыкаецца вяслом да пляча Русалкі, нібыта пасвячае ў рыцары.

КАСЯ. Віншую, сястра! Цяпер ты стала адной з нас!

АСЯ *(паказвае на Вадзяніка)*. Слухай бацьку!

ВАДЗЯНІК. Дык хто мы цяпер?

РУСАЛКА. Адна сям’я!

Вадзянік складае тэлескапічнае дзяржальна вясла, урачыста перадае яго Русалцы. Ася і Кася дапамагаюць ёй падняцца.

ВАДЗЯНІК, АСЯ і КАСЯ *(у адзін голас):* Бі вяслом!

Зверху прабіваюцца гукі лезгінкі. Над галовамі насельнікаў дна праходзіць сетка з заблытанымі ў ёй рыбінамі. Усе прыгінаюцца.

ВАДЗЯНІК *(да Русалкі).* Яны?
РУСАЛКА. Так!
ВАДЗЯНІК. Дзейнічай!

Русалка намерваецца ісці.

ВАДЗЯНІК. Пачакай, Русалачка... Але ж на нашае роднае дно трэба павярнуцца да ўзыходу Зоркі Венеры. А то і ў чалавека ператварыцца можна!

Сцэна 3
*З’ява 1*

Гіві, Хачык.
Вадаплаўная рэстарацыя. Гіві з Хачыкам выбіраюць з вады рыбацкую сетку. Кідаюць на палубу рыбін.

ГІВІ. І гэта ўсё?

ХАЧЫК. Ва, а ты што хацеў? Закінуць сетку і адразу мільён даляраў выцягнуць?

ГІВІ. Канечне! А яшчэ лепш – адразу два мільёны! Мы б іх з табой у нашай рэстарацыі і пракайфавалы. Прыкінь, які пад’ём?

ХАЧЫК. Э-э-э, Гіві. Баюсь, нікакога бізнэсу з нашай рэстарацыяй тут не атрымаецца.

ГІВІ. Нэ кажы такой кіслы слоў! Што ў нас нэ так? Ліцэнзый ёсць? Самы сапраўдны! Шашлык смачны? Слушай, сам бы кушаў, праўдзівая каніна... Каніна? *(бярэ пляшку, чытае налепку).* “Арагві”, сорак градусаў! Хочаш – болшэ градус намалюю! Хочаш – мэншэ. Любы капрыз за вашы грошы!

ХАЧЫК *(задуменна).* Гіві, пакуль ты свой палёны каньяк спіртам мацаваў, я нэвялікі маркетынгавы даследванне правёў. Тут усё не так, як у нас. Тутэйшы люд па рэстарацый амаль нэ ходзіць. Часу, маўляў, бракуе. Працы, кажуць, замнога. А п’юць яны толькі пасля працы, на кухнях ці ў гаражах. Іх каньяк называецца “чарніла пладова-ягаднае”. А замест шашлыка яны ядуць нейкую дрэнь... Во! Бульбяны блінчык са шкваркай!

ГІВІ. Дзікія людзі, чэснае слова! *(глядзіць на Хачыка).* Пра што думаеш, Хач?

ХАЧЫК. Пра што яшчэ Хачык думаць можа? Як грошы зарабіць!

*З’ява 2*

Тыя ж і Русалка.
На вадаплаўнай рэстарацыі з’яўляецца Русалка. Сядае за столік, ладкуе побач складзенае тэлескапічнае вясло.

ХАЧЫК. Нарэшце! Першы пасэтытэл!

ГІВІ *(падбягае да століка, кладзе меню, становіцца побач са столікам).* Што кушат будэм? Рэкамэндую шашлык. Яшчэ ўчора траўка шчыпаў.

РУСАЛКА. Дзякуй.

ГІВІ *(натхняецца).* А што пыт будэм? *(выцягвае пляшку)* Вай! “Арагві”! Частую! Усё для цябе! *(хціва аглядае наведвальніцу).*

ХАЧЫК. Ты што, Гіві, какой частую! Я табе зараз гэтую пляшку ведаеш, у які месца ўстаўлю?

ГІВІ *(да Хачыка)*. Ведаю. Нэ трэба.

ХАЧЫК *(да Русалкі)*. Ты на яго нэ зважай, да? Яму нават у Маскве дэвушкі нэ вэраць!

ГІВІ. Гэта ты на яго нэ зважай! Які ён сквапны, слушай! Хачык нават каўбасу так тонка кроіць, што скрыгалікі ў паветры вісяць!

ХАЧЫК *(гартае перад Русалкай меню)*. Каўбаса. Сацывi. Хаш. Самы недарагі цана. Краявід з вадаспадам бэсплатна *(паказвае ўбок, чуецца і сціхае гук вады, што падае з грэблі)*. Хаця ён, знаэш, колькі каштуе? Дык што заказваем?

ГІВІ *(да Русалкі)*. Што маўчыш, а?

РУСАЛКА *(цікаўна аглядае гаспадароў)*. І даўно вы, такія, на нашым Камсамольскім возеры?

ГІВІ. Які "вашым", панымаеш? Наш гэты возера! У нас і ліцэнзія ёсць.

ХАЧЫК. На які хочаш гаспадарчы дзейнасць.

ГІВІ. Захочам – кракадзілаў тут будэм разводзіць і скуру з іх на рэдыкюлі лупіць. Не захочам – не будэм. Захочам – на русалак станэм паляваць і шашлык з іх рабіць...

РУСАЛКА. Ды саміх вас на шашлык!

ХАЧЫК. Э-э-э. Мы з Гіві нясмачныя. П'ем, палім.

ГІВІ *(раздражнёна)*. Маўчы, жэншчын!

РУСАЛКА. Русалкі – знікаючы біялагічны від. Занесеныя ў "Чырвоную кнігу Беларусі".

ГІВІ *(абурана)*. Эколаг, да? *(дэманструе кінжал)*. – А я – гін-эколаг!

Русалка рассоўвае тэлескапічнае дзяржальна вясла, б'е Гіві, кінжал выпадае з рукі, насоўваецца на Хачыка.

РУСАЛКА. Зараз рыбам на харч пойдзеш!

ХАЧЫК. Гэта параізвол!

ГІВІ. Ты што сэбэ дазваляеш?! На гаспадара руку падымаць?

РУСАЛКА. Гэта мы на сваёй вадзе гаспадары!

Гіві хапае з мангала шампур з кавалкамі шашлыка, імпэтна фехтуе з Русалкай.

Хачык бярэ вядро, спрабуе зайсці Русалцы за спіну, каб надзець ёй гаспадарчую прыладу на галаву. Пры гэтым ён паказвае на мігі Гіві, каб той падганяў кліентку да яго. Русалка ўхіляецца, вядро аказваецца надзетым на галаву Гіві.

Русалка накідае на Гіві з Хачыкам сетку, заблытвае іх, яны валяцца на палубу. Становіцца да штурвала.

РУСАЛКА *(глядзіць на неба)*. Акурат да ўзыходу Зоркі Венеры і паспею вас патапіць! *(абарочваецца да Хачыка з Гіві)*. Пагуляем у "Тытанік"?

Чуецца, нарастае гук вады, што падае з грэблі.

ХАЧЫК *(енчыць)*. Карасавыца! Даруй нам! Гэта я лайна ў рот набраў, калі табе такі абыдны слоў гаварыў! Нэ трэба вадаспад! Я плаваць не ўмею!

ГІВІ. Адапусты! Скрыню каньяку стаўлю!

Русалка не рэагуе. Гук вадаспаду мацнее.

ХАЧЫК. Куды глядзіць міліцыя?!

*З'ява 3*

Тыя ж і Мент

Над палубай вадаплаўнай рэстарацыі на канаце пралятае Мент з мегафонам на шыі,

саскоквае, закручвае канат за парэнчы. Пагрозліва раве вадаспад на грэблі. Канат нацягваецца. Рух рэстарацыі спыняецца.

МЕНТ *(у мегафон)*. Спакойна! Працуе беларуская міліцыя!

ГІВІ і ХАЧЫК *(у адзін голас)*. Міліцыя з народам!

МЕНТ *(у мегафон)*. Грамадзянка з вяслом, вы ўчыняеце супрацьпраўныя дзеянні. Неадкладна адпусціце штурвал. Паўтараю: грамадзянка з вяслом...

Русалка адпускае штурвал, падымае рукі з вяслом над галавой, нібыта падпарадкоўваецца, ідзе да Мянта. Мент адкладае мегафон.

РУСАЛКА. Каго ратуеш? Прыхадняў?

МЕНТ *(цягнецца да кабуры)*. Неадкладна пакладзіце зброю на палубу і падыміце рукі ўгару!

ХАЧЫК *(зларадна)*. Цяпер турэмны баланда кушат будзеш!

ГІВІ. І нашую рэстарацыю згадваць!

РУСАЛКА *(наступае на Мянта)*. Бі вяслом!

Мент і Русалка валтузяцца, у чатыры рукі ўхапіўшыся за вясло.

ГІВІ. Такі харошы мент толькі ў казках бывае!

ХАЧЫК *(да Мянта)*. Іды суды, дарагой! Дай я цябе пацалую!

Русалка працягвае валтузіцца з Мянтом, амаль перамагае яго. На небе запальваецца Зорка Венера. Русалка ляціць у ваду, у Мянта ў руках застаецца яе вясло.

Гіві і Хачык выблытваюцца з сеткі, цікаўна зазіраюць за борт.

МЕНТ *(роспачна)*. Яна патанула...

Мент, не зважаючы на Хачыка з Гіві, сыходзіць на бераг.

*З'ява 4*

Гіві, Хачык.

Вадаплаўная рэстарацыя плыве ў супрацьлеглы ад вадаспаду бок. Хачык круціць штурвал. Гіві з падводнай стрэльбай бегае каля борта, раз-пораз цэліць у ваду. Шум вадаспаду аддаляецца.

ГІВІ. Гэта быў той самы камэнны баба!

ХАЧЫК. Ва! Чаму ты так думаеш?

ГІВІ. Толькі яна так вяслом біцца можа!

ХАЧЫК. Мы з табой самі вінаватыя. Жэншчын на п'едыстал для таго і ставяць, каб ад грошай і бізнесу падалей трымаць... А мы яе адтуль зрынулі!

ГІВІ. Які зрынулі, слухай! Працу гэтай лайдачцы прапанавалі? Яна адмовілася. Шашлык частавалі? Пагрэбавала. Каньяк налівалі? Не схацела! У ваду ўцякла!

ХАЧЫК. У нашу ваду, Гіві! Слухай... Атрымліваецца, што яна ў нашым з табой возеры жыве... Квартырантка, панымаеш! Мы з гэтага што-небудзь маем? Гэта справядліва?

ГІВІ. Э-э-э, Хачык! Думай, што гаворыш! Какой "справядліва"?

ХАЧЫК *(бярэ ў Гіві падводную стрэльбу, аглядае)*. Ёсць у мяне адзін план, Гіві. Можам вялікія грошы зарабіць. Скажы мне сумленна, дарагой: калі спатрэбіцца – рука нэ дрогнэт?

ГІВІ. За вялікія грошы? Мамай клянус!

С ц э н а 5

*З'ява 1*

Мент, Голас з рацыі.

Бераг Камсамольскага возера. Мент кладзе на пусты пастамент рацыю, прытуляе вясло, дастае аркуш паперы, піша на ім і прагаворвае ў голас.

МЕНТ. ...даводжу да вашага ведама, што я здзейсніў учынак, несумяшчальны з высокім званнем беларускага міліцыянта... падчас выканання службовых абавязкаў перавысіў дапушчальную ступень самаабароны, чым спрычыніўся да гібелі маладой прыгажуні з вяслом *(закрэслівае)*. Не так. Прыгажуні без весла. Згрызоты сумлення не даюць мне спакою ані ўдзень, ані ўначы. Хай мяне спасцігне суворая, але справядлівая кара ўсяго нашага райаддзела...

Мент складае заяву самалёцікам, пускае за сцэну, здымае фуражку, стаіць перад возерам у жалобе. І тут “аджывае” рацыя.

ГОЛАС З РАЦЫІ. ...восьмы, восьмы... я першы. Што за дэпрэсіўны стыль? Вышэй галаву, баец! Заява аб знікненні была? Не паступала. Цела патанулай грамадзянкі знайшлі? Нават не шукалі. Дык што ты так пераймаешся? Вісякоў у райаддзеле замала? А можа служба надакучыла, ці пагоны на плечы ціснуць?

МЕНТ. Грамадзянку шкада. Маладая. Ладная. Ёй бы яшчэ жыць і жыць...

ГОЛАС З РАЦЫІ. Каго шкадуеш! Гэтую хуліганку? Яна ж антысацыяльны элемент, на яе палову Крымінальнага кодэксу можна вешаць! Думаеш, як ты мяне не бачыш, то я за табой не сачу? Так, восьмы, працягваем патруляванне. А твой пратакол...

Чуецца шоргат паперы. Зверху на Мянта сыплецца папяровая церуха. Мент надзявае фуражку.

МЕНТ *(падымае вясло)*. А з рэчавым доказам што?

ГОЛАС З РАЦЫІ. Ды ну яго ў балота, твой рэчавы доказ!

*З’ява 2*

Мент, Прывід Бабулі, Русалка.

Мент з русалчыным вяслом стаіць каля пустога пастамента. З’яўляецца Прывід бабулі.

ПРЫВІД БАБУЛІ *(з дакорам)*. Ну што ўнучак... Змяніў жыццё да лепшага?

МЕНТ. Ой, бабуля... І без цябе моташна. А што рабіць?

ПРЫВІД БАБУЛІ. Гэта не ты жыццё да лепшага мяняеш. Гэта яно цябе мяняе да горшага.

МЕНТ. Можа, сапраўды дахаты вярнуцца? У нашай вёсцы цяпер акурат бульбу капаюць, бацьвінне паляць, кабанчыкаў б’юць. Свежаніну смажаць, водар па ўсёй вёсцы! Жанчынкі на стол збіраюць, мужыкі з крамы вяртаюцца, ва ўсіх у валізах дзінькае...

Прабіваюцца гукі вёскі: крычаць пеўні, вішчаць свінні, брэшуць сабакі... Мент расчулены.

ПРЫВІД БАБУЛІ. Не атрымаецца ў цябе ўнучак, павярнуцца. Не прымуць цябе нашыя хлопцы. Ужо і сама бачу.

МЕНТ. Ды я ж свой, вясковы!

ПРЫВІД БАБУЛІ. І тут ты сваім не стаў. І ў роднай хаце ўжо чужы.

МЕНТ (разгублена). Нідзе парадку няма! Дык што мне цяпер рабіць?

ПРЫВІД БАБУЛІ. Служы спраўна. Выконвай загады. Слухайся начальства. Начальства – яно ж святое!

Прывід Бабулі знікае.

МЕНТ *(аглядае вясло)*. Выконваць – дык выконваць. У балота – дык у балота. Па вадзе прыплыло, з вадой і сплывеш.

Мент азіраецца па баках, пускае вясло па вадзе, атрасае далоні. Нечакана па-над вадой выторкваецца русалчына рука, зацягвае вясло.

С ц э н а 6

*З'ява 1*

Вадзянік, Ася, Кася.

Дно Камсамольскага возера. Вадзянік у інвалідным вазку. Насупраць Ася і Кася.

КАСЯ *(чыхае)*. Нешта цяжка стала дыхацца на родным дне. Напэўна, кісларод з вады знікае.

АСЯ *(выцірае насоўкай вочы)*. Каламуці штодня большае і большае. Вочы рэжа. Так і саслепнуць можна!

ВАДЗЯНІК *(пераканаўча)*. І кісларод, і чыстая вада надзвычай шкодныя для здароўя. Думаеце, я не быў маладым? Думаеце, мне чысціні і свежасці не хацелася? Праз што і пацярпеў.

АСЯ. Ды няўжо ў нас на дне калісьці чыстая вада была?

КАСЯ. І нават кісларод?

ВАДЗЯНІК *(трагічна)*. Былі... Нажаль. Памятаю, яшчэ хлапчуком знайшоў на дне кіслародны балон. Ужо потым скеміў, што гэта людзі супраць нас, донных нелюдзяў, падступную дыверсію зладзілі! А тады быў малы, цікаўны... амаль як вы цяпер. Венціль адкруціў – а мне гэтая кіслародная атрута так у твар і шуганула! Я ж па дурасці ўзяўся твар яшчэ і чыстай вадой адмываць. І вось вам вынік! *(паляпвае рукой па інвалідным вазку)*. Спаралізавала!

КАСЯ. А дзе вы, бос, чыстую ваду ўзялі?

ВАДЗЯНІК. З адной паганай крыніцы. Я яе потым перакрыў, каб іншыя нашыя істоты не атруціліся *(зыркае на дзевак)*. Вы што, гэтай дрэні хочаце?

АСЯ. Хаця б паглядзець, як тая чыстая вада выглядае. Ніколі ж не бачылі! Напэўна, так прыкольна!

КАСЯ *(умольна)*. Ну хоць трошачкі!

ВАДЗЯНІК. Катэгарычна нельга нават глядзець! Гэта ж як наркотык. Спярша на чыстую ваду падсядзеце, жыць без яе не зможаце. Потым захочацца кіслароду паболей. А як хапанеце свежага паветра – усё, вашае існаванне назаўжды атручанае! Будзеце штодня мроіць пра сонца, паэзію, гуманізм. Глядзіш – і людзьмі захочаце звацца. Не паспееце міргнуць – і вы ўжо здрадніцы роднага дна! Не-не-не, лепш якога стрыхніну наесціся, мыш'яку ці нават хлоркі! Вы, дзеткі, мяне слухайцеся, ветэрана вайны з чалавецтвам. Я кепскага не параю! Вы ж для мяне, як родныя! Не забыліся, што з людзьмі трэба рабіць?

АСЯ і КАСЯ *(паслухмяна ў адзін голас)*. Бі вяслом!

*З'ява 2*

Тыя ж і Русалка.

З'яўляецца Русалка з вяслом. Выструньваецца перад Вадзянікам, трымаючы весла, нібы стрэльбу.

РУСАЛКА. Агентка Русалка з баявога задання вярнулася...

ВАДЗЯНІК. Вольна! *(абарочваецца да Асі і Касі)*. Вось у каго вучыцца трэба! Вось дзе сапраўдная гераіня! Першае ж заданне – і адразу поспех. Вадаплаўную рэстарацыю, праўда, не патапіла, але ж людзішак зацкавала да смерці. А як вяслом білася, як білася! Якая шалёная нянавісць да чалавецтва!

КАСЯ. Як хоць надвор'е наверсе? Што там цяпер носяць?

АСЯ. Усіх вяслом паклала?

РУСАЛКА. Прыхадняў мне не шкада. Яны зневажалі нашы гонар і годнасць. Дый прыроду нашую не любяць. А вось той, з мегафонам, у форме... Сказаць па-праўдзе? Ён мне нават спадабаўся.

ВАДЗЯНІК *(здзіўлена адкочваецца ў вазку)*. Мент? Спадабаўся? Табе?

РУСАЛКА. Ён гжэчны. Мужны. Справядлівы. Парадак любіць.
КАСЯ. У вас з ім нешта было?
АСЯ. Ты яго хоць паказытала?
ВАДЗЯНІК *(зыркае на дзевак)*. Цыц, малалеткі дурныя! *(звяртаецца да Русалкі)*. Значыцца, па-твойму, ужо і мянты – людзі?
РУСАЛКА. Ён мне нават вясло вярнуў!
ВАДЗЯНІК *(выцягвае руку)*. Пакажы.

Русалка аддае вясло. Вадзянік падазрона яго аглядае, нюхае, ліжа, сплёўвае.

ВАДЗЯНІК. Хутчэй за ўсё, атрутай нашмараваў. Ты яго прадэзінфікуй.

Донныя дзеўкі навыперадкі пытаюць у Русалкі.

АСЯ. Ён бландзін ці брунет?
КАСЯ. У цябе з ім сур'ёзна?
АСЯ. Непітушчы?
КАСЯ. Можа, у яго такія ж прыстойныя сябры ёсць?
РУСАЛКА. Мяркую, я магла б з ім пасябраваць.
АСЯ. Няўжо ты верыш у сяброўства паміж русалкамі і мужчынамі?
КАСЯ. А я нават веру ў большае... *(глядзіць на Вадзяніка, прыкрывае далонькай рот)*.
ВАДЗЯНІК *(ціха і злавесна)*. Вось вы сваё сапраўднае аблічча і выявілі! Вось вы нарэшце і выказаліся, пра што марыце! *(да Асі)*. Думаеш, я не заўважыў, што ты на свята Івана Купалы вусны падфарбоўвала? Для каго хочаш вабнай быць?! *(выцягвае руку)*. Ну?

Ася неахвотна аддае Вадзяніку памаду.

АСЯ. Даруйце мне, бос. Гэта першы і апошні раз.
ВАДЗЯНІК *(да Касі)*. А ты... Ты да апошняй ступені скацілася! Так неўзабаве і чалавекам станеш! Ану, пакажы, што хаваеш?

Кася ўсхліпвае, аддае Вадзяніку ілюстраваны часопіс.

КАСЯ. Прабачце. На дне знайшла. Выпадкова.
ВАДЗЯНІК *(чытае)*. Хочаш быць стыльнай? У гэтым сезоне папулярны вобраз жаноцкасці і рамантычнасці, каторы... Цьфу! *(выкідвае часопіс і памаду. Падкочваецца ў вазку, пільна ўглядаецца ў твары дзевак)*. Я разумею, чаго вы прагнеце. Кахання! А гэта нават горш за кісларод! Вы мроіце, каб вашая халодная кроў закіпела, каб вы начамі не спалі, а мроілі... пра спатнелага валасатага мужыка! Бегаць да яго на спатканні, цалавацца ў пад'ездах, пісаць цыдулкі... Так? Вы – спрактыкаваныя здрадніцы роднага дна. А ведаеце, што са здраднікамі і здрадніцамі бывае? Што ў вочы не глядзіце?!
АСЯ. Дык мы ж ні ў чым, ні што, ні Божа ж мой!
КАСЯ. Мы больш не бу-удзем!
ВАДЗЯНІК. Зрэшты, я сам крыху вінаваты. Развёў тут дэмакратыю. Вы, напэўна, лічыце, што роўныя мне? Па тварах бачу! А каб не думалі – трэба ці вас прынізіць, ці мяне ўзвысіць.
РУСАЛКА. Дык куды ўжо прыніжаць? Тут і так дно.
ВАДЗЯНІК. Слухайце загад. Вы, *(касавурыцца на Асю і Касю)*, плывіце ў далёкую затоку. Вазьміце скрыню, дзе чэрап з косткамі намаляваныя, і чакайце майго сігналу *(пстрыкае пальцамі)*.
АСЯ і КАСЯ *(у адзін голас)*. Будзе зроблена, бос!

Ася і Кася сыходзяць.

ВАДЗЯНІК *(да Русалкі)*. А ты плыві наверх. Прытарабань мне свой пастамент.

Давядзецца на ім ў вазку ўвесь час стаяць. Цяжка, вядома... Але для вашай жа карысці – каб мяне лепш бачыць і бацькоўскія загады слухаць.

Русалка паслухмяна сыходзіць. Вадзянік шаргаціць газетай.

*З'ява 3*

Вадзянік, Гіві.
Дно. Вадзянік у інвалідным вазку чытае газету.
Нечакана з'яўляецца Гіві, апрануты аквалангістам: маска, трубка, ласты. У яго руках падводная стрэльба. Гіві рухаецца як спецназавец, паводзіць стрэльбай ва ўсе бакі.

ГІВІ. Дэвушк, а дэвушк? Дзе ты? Дэвушк, выходзь, размова ёсць!

Вадзянік спрабуе адсунуцца ў вазку. Гіві яго заўважае, пераследуе. Вадзянік ад пераляку прыкрывае твар газетай. Гіві падскоквае, скідае.

ГІВІ. Вах! Ты хто?
ВАДЗЯНІК *(ганарліва)*. Я – гаспадар усяго гэтага дна!
ГІВІ. Колькі самазванцаў развялось, да? Што – і ты ўжо гаспадар?
ВАДЗЯНІК. Так. Самаўладны!
ГІВІ. Я на Камсамольскі возера самы галоўны гаспадар! Ну, і яшчэ крыху Хачык... Гаспадар той, у каго зброя ў руках! *(прыстаўляе стрэльбу)*.
ВАДЗЯНІК. Мы можам дамовіцца.
ГІВІ. Какой дамовіцца? Кліэнт мне ў рэстарацыю са свайго дна пастаўляць будзеш, да?
ВАДЗЯНІК. Што ты хочаш?
ГІВІ. Камэнны баба з вэслом – альбо смэрць! Гавары, дзе яна!

**А к т 2**
С ц э н а 1
*З'ява 1*

Русалка, Мент, Голас з рацыі.
Бераг Камсамольскага возера. Каля пустога пастамента – Русалка.

РУСАЛКА *(праводзіць рукой па пастаменце)*. І як Вадзянік тут у інвалідным вазку стаяць збіраецца? Дый дзе тады роўнасць? Гаварыў жа, што мы ўсе – адна сям'я!

Русалка сіліцца зрынуць пастамент, не атрымліваецца. Чуецца гук міліцэйскай сірэны, Русалка спрабуе схавацца за пастаментам, з'яўляецца Мент, выцягвае Русалку за руку.

МЕНТ. Мала таго, што статуі крадуць, дык ужо і за пастаменты ўзяліся!
РУСАЛКА. Я не краду! Гэта мой пастамент!
МЕНТ *(глядзіць на Русалку, пазнае)*. Вы? Жывая? Дык вы не патанулі?
РУСАЛКА. Вада – мая стыхія. А возера – мой дом.
МЕНТ. Дык вы цяпер русалка?
РУСАЛКА. Так. Куды яшчэ няшчаснай дзеўцы ад прыхадняў падзецца? Шкада, што вы...
МЕНТ. Я сам шкадую. Прабачце за непаразуменне! *(гжэчна цалуе Русалцы руку, адступае, вымахвае фуражкай, нібыта капелюшом з плюмажам)*.
РУСАЛКА. Ніколі б не падумала, што мінскія міліцыянты такія інтэлігентныя.
МЕНТ *(глядзіць на вясло)*. А я не ведаў, што нашыя беларускія русалкі так добра халоднай зброяй валодаюць! Вы якое адзінаборства вывучалі? Тэйквандо? Кун-фу? Джыў-джыцу?

РУСАЛКА *(сціпла)*. Я самавучка.
МЕНТ. Народны талент! Я ўражаны...
РУСАЛКА. Мне так сорамна перад вамі...
МЕНТ. А мне як! Падняў на вас руку.

На небе запальваецца Зорка Венера. Русалка задзірае голаў, спяшаецца да вады.

МЕНТ. Куды ж вы! Мне так шмат словаў хочацца вам сказаць!
РУСАЛКА *(спыняецца)*. Праўда?
МЕНТ. Я гатовы гаварыць іх вам усю ноч!
РУСАЛКА *(крыху вагаецца, але ж рашуча адыходзіць ад вады)*. А я гатовая ўсю ноч іх слухаць!

МЕНТ і РУСАЛКА *(спяваюць разам)*
Мы розныя з табою – гэта праўда.
Аднак супольны клопат лучыць нас,
І ты, і я клапоцімся зацята.
Дык можа нам стварыць цудоўны звяз?

МЕНТ
Я родную зямлю ад рознай трасцы
Па абавязку сэрца бараню.
Штодня іду я з набрыддзю змагацца.
Змагаюся й спакой я толькі сню!

РУСАЛКА
А я вады трымаю абарону,
Каб родную стыхію не змаглі
Загнюсіць разнашэрсныя муфлоны,
Каб белыя хадзілі караблі!

МЕНТ і РУСАЛКА *(спяваюць разам)*
У клопаце супольным наша доля!
На ніве гэтай высілкі з'яднаць,
Нам трэба, каб скарылася сваволя,
А мы маглі б шчасліва пакахаць.

Мент і Русалка кранальна спяваюць дуэтам, глядзяць адзін аднаму ў вочы, развязкай відавочна мусіць стаць пацалунак. Але ў гэты момант "ажывае" рацыя Мянта.

ГОЛАС З РАЦЫІ. Восьмы, восьмы, я першы!.. Што за неслужбовыя спевы пры выкананні?
МЕНТ *(выструньваецца)*. Вінаваты.
ГОЛАС З РАЦЫІ. Працягваем, працягваем патруляванне!..

Русалка прыкладае палец да вуснаў, адступае да пастамента, дасылае паветраны пацалунак. Мент папраўляе фуражку, сыходзіць.

*З'ява 2*

Русалка, Прывід бабулі, Гіві, Хачык.
Русалка стаіць каля пастамента, глядзіць у той бок, куды сышоў Мент.

РУСАЛКА. Напэўна, я памылялася наконт людзей. Не ўсё яны зладзюгі. Не можа быць, каб наш беларускі Мент няпраўду гаварыў! Якія ў яго вочы! Які імпэт! Як ён сваю зямлю любіць!

З'яўляецца Прывід бабулі, замілавана глядзіць на Русалку, але тая старую не заўважае.

ПРЫВІД БАБУЛІ. Ён добры, справядлівы, непітушчы. А які працавіты! Яшчэ жэўжыкам калгасных свінак пасвіў!

РУСАЛКА. Мне здаецца, з яго б атрымаўся і азёрны фермер, дбайны гаспадар. А што? Паставіў бы сядзібу. Прыгожую і светлую, як звон, з альтанкай крытай чаратамі, з крынічкай бруістай, абкладзенай бліскучымі прыгожымі каменчыкамі. Гадаваў бы самоў, разводзіў лотаць. Па вечарах цешыўся б родным краявідам – барвовым сонцам па-над зялёнай бросняй... А, можа, і не адзін...

З-за пастамента крадком вылазяць Гіві і Хачык з вялізнай сеткай. Накідаюць на Русалку. Русалка спрабуе вырвацца, але ж яшчэ больш заблытваецца. Гіві і Хачык цягнуць яе на вадаплаўную рэстарацыю.

ГІВІ. Нэ будзеш скандаліць – усё даруем.

ХАЧЫК. Слушай, які даруем? Яна з рэстарацыі ў ваду ўцякла. Не заплаціла!

РУСАЛКА. Рату..!

Хачык заціскае Русалцы рот.

ПРЫВІД БАБУЛІ. Унучак! Унучак! Ратуй сваю дзяўчыну!

Гіві і Хачык цягнуць заблытаную ў сетку Русалку на борт рэстарацыі, адплываюць, знікаюць з далягляду.

*З'ява 3*

Выбягае Мент, разгублена спыняецца каля вады.

МЕНТ. Любая...

ПРЫВІД БАБУЛІ. Яны туды паплылі *(паказвае і знікае)*.

МЕНТ *(у рацыю, прыклаўшы яе да вуха)*. Першы, першы, я восьмы!.. Толькі што два тыпы каўказскай нацыянальнасці выкралі прыгожую грамадзянку. Трэба тэрмінова задзейнічаць план “Перахват”! Паўтараю, толькі што... *(мяняецца з твару, няўцямна глядзіць на рацыю)*. Як гэта – да дупы?

Мент рашуча скідвае боты, кіцель.

С ц э н а 2

*З'ява 1*

Гіві, Хачык.

Палуба вадаплаўнай рэстарацыі, на ёй стаіць вялізная бочка, накрытая зверху рэкламным банерам. На банеры сядзяць Гіві з Хачыкам.

ГІВІ. Сёння ж купляй самы вялікі акварыум з цвэтамузыкай.

ХАЧЫК *(няўцямна глядзіць на яго)*. Ну і?

ГІВІ *(саскоквае на палубу і ўяўляе-паказвае)*. Саджу яе туды. Прыходзіць кліент. Глядзіць у акварыум – а там яна ляжыць, на ядвабный падушка. Такі белы, млявы, семкі лузае, бурбалкі пускае. Кліент пытаецца: дзе ўзяў, Гіві? А я яму: ды закахалася ў мяне, адагнаць не магу. У мяне такіх цэлы гарэм. А кліент мне рука пацiскае: э-э-э, Гіві, які маладзец!

ХАЧЫК. А потым, калі кліент сыходзіць, я табе па галава б'ю і прыгаворваю: ідыёт ты, Гіві, самы настаяшчы. І ўвесь твой сямейны альбом ідыёт і, нават, цвік, на каторым ён вісіць, такі ж самы. Хто так бізнэс робіць? Цябе самога ў акварыум пасадзіць і за грошы на Камароўцы паказваць.

ГІВІ. Не кажы такіх абыдных слоў. Дык што, акварыум не хочаш купляць?

ХАЧЫК. Тут не купляць трэба, а прадаваць. Ёсць у мяне за мяжой адзін сябра. Вялікі чалавек. Сутэнёрам працуе!

*З’ява 2*

Гіві, Хачык, Вадзянік, Ася, Кася, Русалка.
На палубу заязджае Вадзянік у інвалідным вазку.

ГІВІ. Зноў ты? Слухай, колькі можна?
ХАЧЫК. Інваліды абслугоўваюцца па двайным тарыфе!

Вадзянік не зважае, насоўваецца ў вазку на Хачыка з Гіві.

ГІВІ. Мы ж пра ўсё дамовіліся. Табе – жыццё, нам дзеўка *(бярэ падводную стрэльбу)*. Можам і перагуляць.
ХАЧЫК. Слухай, ты кушат суды прыехаў? Заказ будзем рабіць? Альбо як?
ВАДЗЯНІК. Альбо як... *(пстрыкае пальцамі)*.

Выныраюць Ася і Кася, ставяць на палубу скрыню з выявай костак і чэрапу.

АСЯ. Гахне так, што нават на Каўказе пачуюць *(падпальвае кнот)*.
КАСЯ *(ставіць на скрыню вялізны будзільнік, той гучна тахкае)*. Адлік пайшоў, бос.

Ася і Кася даюць нырца. Гіві са сполаху выпускае стрэльбу, тахканне паскараецца.

ХАЧЫК *(да Вадзяніка)*. На лічыльнік ставіш?
ВАДЗЯНІК. У вас хвіліна, каб выслухаць мяне і даць адказ. Так хто на возеры гаспадар?
ГІВІ. Слухай, спыні гэты страшны гадзіннік!
ХАЧЫК. Грошы вазьмі! Апошні штаны забяры! Толькі не забівай!

Будзільнік тахкае ўсё хутчэй і хутчэй. Вадзянік паціху адкочваецца назад да борта, дзе стаіць бомба з будзільнікам.

ВАДЗЯНІК. Катапультуюся! *(спыняецца на самым краі)*.

Будзільнік тахкае ўжо шалёна хутка. Хачык саскоквае з бочкі.

ХАЧЫК і ГІВІ *(разам)*. Ты тут гаспадар!

Хачык і Гіві хапаюць рэкламны банер, якім была накрытая бочка, апускаюць перад Вадзянікам, нібы палонныя вайскоўцы – свой сцяг, падымаюць рукі ўгару. Вадзянік выторгвае кнот з бомбы, тахканне будзільніка спыняецца.

ВАДЗЯНІК. Цяпер мы адна сям’я.

З бочкі высоўваецца галава Русалкі.

РУСАЛКА. Бос, я верыла, што вы прыйдзеце па мяне!
ВАДЗЯНІК. А як жа інакш? *(заязджае паміж Хачыкам і Гіві, панібрацкі абдымае іх за плечы)*. У мяне ёсць для вас прапанова, спадары бізнесоўцы, ад якой вы проста не зможаце адмовіцца. Ды не калаціцеся так! Усё толькі пачынаецца. Поўны наперад!

Вадаплаўная рэстарацыя рушыць пад гукі лезгінкі. Выплываюць Ася з Касяй.

КАСЯ. Вачам сваім паверыць не магу. Наш бацька абдымаецца з людзьмі?
АСЯ. Напэўна, нейкі падступны ход. Хоча ім галовы задурыць. Цікава, а што ён задумаў?

Ася і Кася, асцерагаючыся, сплываюць за рэстарацыяй.

С ц э н а 3

*З'ява 1*

Прывід бабулі, Мент.

Пусты пастамент на беразе Камсамольскага возера. Гукі лезгінкі паволі заціхаюць. З'яўляецца Прывід бабулі.

ПРЫВІД БАБУЛІ *(тужліва спявае "Купалінку")*.

Купалінка-купалінка, цёмная ночка,
Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка,
Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка.

Мая дочка у садочку ружу, ружу поліць,
Ружу, ружу поліць, белы ручкі коліць,
Ружу, ружу поліць, белы ручкі коліць.

Кветачкі рвець, кветачкі рвець,
Вяночкі звівае,
Вяночкі звівае, слёзкі пралівае,
Вяночкі звівае, слёзкі пралівае.

Купалінка-купалінка, цёмная ночка,
Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка,
Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка.

Падчас спеваў паўцемру працінаюць сполахі міліцэйскай мігалкі. Выплывае Мент, ён у трусах, майцы і фуражцы. Рацыя і кабура таксама пры ім. Мент раз-пораз выцягвае шыю, аглядаецца, папраўляе фуражку, сплывае за сцэну. Прывід бабулі знікае.

*З'ява 2*

Мент, Ася, Кася.

Камсамольскае возера, вада.

Ася і Кася плывуць па возеры ад таго боку, куды ішла вадаплаўная рэстарацыя.

КАСЯ. І гэтага нелюдзя ты называеш родным бацькам?

АСЯ. Як той казаў, нашая Русалка сама ва ўсім вінаватая. Маўляў, перараджэнка. Ментоўскімі серэнадамі заслухалася. На Зорку Венеру загледзелася. Вось і вынік, ачалавечылася.

КАСЯ. Зайздросціш?

АСЯ *(пасля выразнае паўзы)*. Яшчэ як! Даруй мне, наша сястрычка з вяслом, што я цябе крытыкавала. Ты хоць раз паспела чыстае паветра ўдыхнуць ды крынічнай вадой умыцца. А, галоўнае, шчасце кахання зведала. Мы ж з Касечкай, бы тыя жабоцькі, толькі мулю з бросняй месім.

Кася з Асяй абдымаюцца, плачуць.

КАСЯ. Нядзіва, што ад Вадзяніка ўсе ўцякаюць. Тыя ж нашы хлопцы, Лазнік з Тапельцам.

АСЯ. А што мы з табой можам?

КАСЯ. Як гэта што? Звярнуцца ў праваахоўныя органы!

АСЯ. Мянты ж таксама людзі!

КАСЯ. Яны і разбяруцца.

Бліскаюць сполахі міліцэйскай мігалкі. Выплывае Мент.

МЕНТ *(крычыць)*. Удзельніцы воднага руху! Неадкладна прыняць управа! Прыцiснуцца да ўзбярэжжа!

АСЯ. Во! Органы самі да нас плывуць.

КАСЯ. Таварыш міліцыянер!

АСЯ. Родненькі!

Мент прыкладае руку да брылька фуражкі, працягвае плыць. Ася з Касяй прыстройваюцца побач. Ася і Кася навыперадкі звяртаюцца да Мянта.

АСЯ. Прыхадні яе ў бочку пасадзілі!

МЕНТ. У якой шашлыкі марынуюць?

КАСЯ. Яны ўтрох ужо пра ўсё згаварыліся! Хочуць вашу дзяўчыну ў сексуальнае рабства прадаць! За мяжу!

АСЯ. А заўтра і нас туды прададуць!

КАСЯ. Там у беларусак правоў ніякіх!

МЕНТ *(выхоплівае пісталет)*. Зараз я ўсіх закрыю!

Ася, Кася і Мент сплываюць.

С ц э н а 4

*З'ява 1*

Вадзянік, Гіві, Хачык, Мент, Русалка.

Бераг Камсамольскага возера. Каля рампы Вадзянік у інвалідным вазку, побач стаіць Гіві. За імі праглядаецца вадаплаўная рэстарацыя з бочкай на палубе. Зверху банер прыціснуты да бочкі вялікім каменем.

Гіві з падводнай стрэльбай у руках нервова ўглядаецца ўдалячынь. Вадзянік дрэме, на каленях у яго спод з вялізным будзільнікам.

ВАДЗЯНІК *(трызніць праз сон)*. Шчупальцы ў мяне доўгія...

Гіві, баючыся, паглядае на рукі Вадзяніка, знізвае плячыма.

ВАДЗЯНІК *(праз сон)*. Паўсюль дастану... усіх перадушу...

Гіві торкаецца, зазірае Вадзяніку ў твар, водзіць перад ім рукой, крыху супакойваецца. І тут гучна звініць будзільнік на сподзе. Гіві адскоквае. Вадзянік прачынаецца, спакойна спыняе будзільнік.

ГІВІ *(дэманструе стрэльбу)*. Калі гэты Хачык праз пяць хвілін не вернецца, я яго застрэлю! І ўвесь яго сямейны альбом! І нават той цвік, на якім ён вісіць!

ВАДЗЯНІК. Паслухай, Гіві, а твой Хач... камерсант сумленны? Ён жа мамай пакляўся.

ГІВІ *(абурана)*. Гэта Хач сумленны? Ды гэта афэрыст вісшай маркі! Ты ведаеш, за што яго з Каўказа выгналі? Чача на клапах настойваў і сапраўдны каньячны этыкетка клеіў!

ВАДЗЯНІК. А ты чым свой “Арагві” разбаўляеш?

ГІВІ. Чыстым фурацылінам!

З'яўляецца задыханы Хачык, у руках у яго перавязаная крыж-накрыж важкая паштовая пасылка.

ГІВІ. Што твой дырэктар публічнага дома сказаў?

ХАЧЫК. Слушай, наш Русалка ў інтэрнэце так усім спадабаўся, што ён нават аванс за яе прыслаў!

Хачык урачыста ставіць і распакоўвае паштовую скрыню, запускае ў яе рукі, сыпле грашыма пад ногі.

ГІВІ. А я што гаварыў? Наш Хачык самы сумленны чалавек у свеце. Мог жа скрасці! Але не скраў.

ВАДЗЯНІК. Будзем дзяліць па справядлівасці.

ГІВІ. Канечне!

ХАЧЫК. Мы ж адна сям'я.

Хачык з Гіві збіраюць банкноты, раскладаюць іх на тры стосікі пад позіркам маўклівага Вадзяніка. У гэты час за іх спінамі на борт вадаплаўнай рэстарацыі забіраецца Мент, бярэцца здымаць камень, якім прыцiснуты да бочкі банер. Камень цяжкі, Мент ледзь не упускае яго. Русалка скідае банер, падымаецца з бочкі.

РУСАЛКА. Каханы!

МЕНТ. Гэта – выконваў свой абавязак *(абдымаюцца, прыкрываючыся банерам, цалуюцца).*

Гіві з Хачыкам ужо падзялілі грошы на тры роўныя часткі.

ВАДЗЯНІК *(глядзіць на тры пачкі)*. Правільна падзялілі?

ГІВІ *(паглядае на Хачыка)*. Я за ім сачыў.

ХАЧЫК. Пароўну.

ВАДЗЯНІК. А я казаў – па справядлівасці!

Вадзянік складае пачкі адзін на адзін, выдае Гіві з Хачыкам па банкноце, астатняе скідае ў пасылачную скрыню, якую ўладкоўвае ў сябе на каленях. Гіві з Хачыкам слупянеюць. Усё знікае ў цемры.

### Сцэна 5

*З'ява 1*

Вадзянік, Гіві, Хачык, Мент, Голас з рацыі.

На палубе вадаплаўнай рэстарацыі з'ўляюцца Гіві з Хачыкам. Яны коцяць вазок з Вадзянікам. На каленях Вадзяніка пасылка з грашыма. Бочка па-ранейшаму прыкрытая банерам, які прыцiснуты каменем.

ХАЧЫК. Вы, бос, аказваецца, такі аферыст, што нават я так не ўмею!

ГІВІ. Які гэта аферыст? Гэта ж проста беспрэдэльшчык нейкі!

ВАДЗЯНІК. Вось і вучыцеся, пакуль я жывы *(грукае па бочцы)*. Дачушка-рыбанька! Як ты там?

ГІВІ *(ставіць стрэльбу, сядае, прыкладае ба бочкі вуха, прыслухоўваецца)*. Ва! Задыхнулася без кіслароду!

ХАЧЫК. А як жа мы тады рэшту грошай атрымаем?

Камень з грукатам звальваецца, злятае банер. Мент з пісталетам напагатове выскоквае з бочкі.

МЕНТ. Вы затрыманыя па падазрэнні ў гандлі людзьмі!

ХАЧЫК. Грамадзянін начальнік! Гэта ён ва ўсім вінаваты! *(паказвае на Вадзяніка)*.

ГІВІ. Сабалазніў нас абяцанкамі! Вы яго трымайце, пакуль з грашыма не ўцёк!

Вадзянік прымірэнча прыўздымае далоні, удае, што супрацiўляцца не будзе.

МЕНТ. Рукі!

Гіві і Хачык выцягваюць рукі перад сабой. Мент прышпільвае іх да парэнчаў кайданкамі. У гэты час Вадзянік ліхаманкава рассоўвае грошы па кішэнях.

МЕНТ *(у рацыю)*. Першы, першы. Я восьмы. Мною затрыманая злачынная групоўка ў складзе трох асобаў...

ГОЛАС З РАЦЫІ *(перапыняе)*. Не злачынная групоўка, а таварыства добрасумленных прадпрымальнікаў. Што ты на іх павесіць сабраўся?

МЕНТ. Яны ж нашу дзяўчыну выкралі, за мяжу прадаць збіраюцца! Артыкул Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь "гандаль людзьмі".

ГОЛАС З РАЦЫІ. А дзе ты людзей бачыш? Дзеўка твая – не чалавек, а ру-

салка. Водная істота. Пра гандаль падобнымі істотамі ў Крымінальным кодэксе нічога не напісана. Загадваю неадкладна вярнуць улоў законным гаспадарам Камсамольскага возера.

ХАЧЫК. Які мудры чалавек, слухай!

ГІВІ *(да Мянта).* Загад чуў? Выконвай, да? А то пад суд пойдзеш!

Мент нібыта ўзважвае ў руках рацыю і пісталет, затым рашуча выкідае рацыю, становіцца да штурвала.

МЕНТ. Ёсць і найвышэйшы суд. У райаддзел!

Вадзянік тым часам пацiху коціць задам да борта, каб уцячы.

*З'ява 2*

Тыя ж, Русалка.

Калі Вадзянік ужо гатовы з'ехаць у ваду, вынырвае Русалка.

РУСАЛКА. Бі вяслом! *(засаджвае вясло ў колы інваліднага вазка, падбягае да Мянта, абдымае яго).* Мой каханы! Ты – сапраўдны герой!

Вадзянік торгаецца, але не можа зрушыць вазок з месца – вясло замінае.

МЕНТ *(вызваляецца ад абдымкаў, папраўляе фуражку).* Не час пра пачуцці думаць, калі закон і грамадскі правапарадак у небяспецы! *(паварочваецца да Хачыка з Гіві)*

ХАЧЫК *(цягне вольную ад кайданкоў руку).* Станаўлюся на шлях выпраўлення! Гатовы супрацоўнічаць са следствам!

ГІВІ. І чаму я маці не слухаў, э-э-э? І нашто з Радзіма ўцёк? І на халеру з гэтымі аферыстамі звязаўся?

МЕНТ. Не хацелі паважаць Канстытуцыю нашай Сінявокай – зладжу вам правасуддзе па-беларуску! *(абдымае Русалку).* Любая! *(цалуе, стаяць абняўшыся).*

Вадзянік спрабуе дацягнуцца да стрэльбы, якая стаіць каля бочкі, нарэшце яму гэта ўдаецца. Страляе ў Русалку і Мянта. Мент уздрыгвае. Яны з Русалкай паварочваюцца. У Мянта са спіны тырчыць гарпун.

МЕНТ *(расціскае абдымкі, апошнімі намаганнямі вырывае гарпун).* Няўжо ліха заўсёды перамагае? *(падае за борт, пакінуўшы гарпун у руцэ Русалкі).*

РУСАЛКА. Я гэтага не перажыву! Дзе сэрца? Дзе яно? *(у роспачы заколвае сябе гарпуном, валіцца следам за борт).*

ВАДЗЯНІК. Стрэльба з першага акту неадменна мусіць стрэліць у другім *(некалькі разоў нетаропка пляскае ў далоні).*

Вадаплаўная рэстарацыя сама сабой павольна кранаецца з месца. Праразаецца, нарастае гук вадаспаду. Хачык, Гіві і Вадзянік наслухоўваюцца.

ГІВІ. Хачык, гэта ў цябе ў вушах шуміць?

ХАЧЫК. Ва-ва-ва ва-да-спад... *(да Вадзяніка).* Бос, разаб'емся!

Хачык і Гіві торгаюцца, але вызваліцца ад кайданкоў не могуць. Шум нарастае.

ВАДЗЯНІК. А вы думалі, я інвалід? *(падымаецца з інваліднага вазка ідзе да штурвала, круціць яго).* Мент меў рацыю – мы, зладзюгі, непераможныя! *(Рэстарацыя разварочваецца. Шум вадаспаду сціхае).*

*З'ява 3*

Гіві, Хачык, Вадзянік, Ася і Кася.

Вадаплаўная рэстарацыя ідзе ў супрацьлеглы бок. Вадзянік выторгвае вясло з колаў вазка, кідае яго за борт.

ГІВІ *(торгае кайданкі)*. Бос, вызвалі, вельмі прашу. Мы яшчэ зладзім агульны бізнес!

ХАЧЫК *(уражана глядзіць на Вадзяніка)*. Во дзе прайдзісвет! Вось у каго вучыцца трэба!

ВАДЗЯНІК *(нетаропка зараджае падводную стрэльбу шампуром, садзіцца ў вазок)*. Але ж пра гэтую навуку вы ўжо нікому ніколі не раскажаце *(цэліць у Хачыка з Гіві)*.

У гэты момант выплываюць Ася з Касяй, ставяць на палубу скрыню з выбухоўкай).

АСЯ. Бос, выбухоўка таксама была у першым акце! *(падпальвае кнот)*.

КАСЯ. Цік-цік-цік... *(удае тахканне будзільніка)*.

Усе слупянеюць. Ася і Кася даюць нырца. Рэстарацыя выбухае: мільгае страбаскоп, у паветры лунаюць банкноты.

## Сцэна 6

*З'ява 1*

Ася, Кася.

Бераг Камсамольскага возера. Пад пустым пастаментам Ася і Кася сплятаюць вяночкі.

АСЯ *(напявае)*. Купалінка, Купалінка...

КАСЯ. Цё-ёмная ночка *(адкладае вянок)*. Ты заўважыла, як дыхаць лёгка стала?

АСЯ. І каламуць кудысьці сплыла.

КАСЯ. Нават нашыя хлопцы павярнуцца абяцаюць!

АСЯ *(задуменна глядзіць на пастамент)*. Новыя часы, новыя героі... Цікава, а каго цяпер сюды паставяць?

КАСЯ *(паказвае рукой на ўзбярэжжа)*. Лепш падумай, хто цяпер усім нашым Камсамольскім возерам будзе кіраваць!

АСЯ. Як мне Мянта і сястрычку нашую Русалку шкада! *(усхліпвае)*. Такое каханне, такое каханне! Толькі ў казках такое бывае!

КАСЯ. Жыццё ж працягваецца!

Ася з Касяй вешаюць вяночкі на пастамент, сыходзяць.

## Сцэна 7

*З'ява 1*

Мент, Русалка, Прывід бабулі.

Бераг Камсамольскага возера. Чыста пабелены пастамент. На ім стаіць Мент-статуя. Да пастамента прымацаваная шыльда, на ёй напіс “МЕНТ”. З'яўляецца Прывід бабулі, трагічна глядзіць на помнік.

ПРЫВІД БАБУЛІ *(галосіць з фальклорнымі інтанацыямі)*. Аёй, гэта ж мая правіна, унучачак! Гэта ж я цябе вучыла справядлівасці шукаць! І нашто тая справядлівасць? Жыў бы, як усе. Хадзіў бы па беразе. Слухаўся б сваю рацыю. Можа, на павышэнне пайшоў бы! Сам бы ў тую чорную скрыначку перабраўся ды іншым загады аддаваў? А так стаіш тут, бы той слуп. Халодна табе і самотна...

На небе запальваецца Зорка Венера. З'яўляецца Русалка.

РУСАЛКА. Каханы мой *(цягне да яго рукі, выразна глядзіць на неба)*. Помніш, калі мы спаткаліся з табою, Зорка Венера ўзышла?

На набёсах ярчэй мігціць Зорка Венера. Мент аджывае, сыходзіць з пастаменту, прыціскае да сябе Русалку.

МЕНТ. Любая мая... мокрая, халодная...

ПРЫВІД БАБУЛІ *(замілавана глядзіць на Мянта і Русалку)*. Дзетачкі ж вы мае, дзетачкі. А я, як адчувала, што ўсё добра скончыцца!

РУСАЛКА. Мы будзем жыць з табой доўга і шчасна. У нас абавязкова народзіцца дзяўчынка, для якой стануць роднымі і беларуская вада, і беларуская зямля!

ПРЫВІД БАБУЛІ. Толькі б не было вайны!

МЕНТ. Калі дзяўчынкі нараджаюцца – гэта добра. Гэта азначае, што вайны не будзе! Затое, калі потым у нас народзіцца хлопчык, у яго будзе старэйшая сястра, якая навучыць яго справядлівасці.

РУСАЛКА. І павазе да законаў.

МЕНТ. Але не да бязглуздых загадаў!

Выплываюць Ася і Кася.

АСЯ *(да Мянта)*. Віншуем!

КАСЯ. Ты перамог!

МЕНТ. Каго?

АСЯ. Усіх!

КАСЯ. Толькі што наш падводны выбаркам скончыў падлік галасоў. Ты абраны новым кіраўніком усяго нашага Камсамольскага возера!

МЕНТ *(прыкладае далонь да брылька, выструньваецца)*. Служу Камсамольскаму возеру і яго народу!

З а с л о н а



## Сільвія Плат



...кажы, маці лісця і асалоды,
Каму стогн гэтых тужліўцаў аддады?..

# Узыход сонца на поўдні

### *МЮНХЕНСКІЯ МАНЕКЕНЫ*

Дасканаласць палохае, бяздзетная,
Халодная бы зімовы подых, яна ўтрамбоўвае чэрава

Дзе нібы гідры квітнеюць цісы,
Дрэва жыцця і дрэва жыцця

Вызваляюць поўні свае, месяц за месяцам, дарма.
Плынь крыві гэта плынь кахання,

Сапраўдная ахвяра.
Значыць: адзіны ідал гэта я,

Я і ты.
У сваім серным харастве, ва ўсмешках

Стаяць нахіленымі манекены ў Мюнхене
Начным, трупярні паміж Рымам і Парыжам,

Аголеныя, без парыкоў у футрах,
На срэбных палках памаранчавыя ледзяшы,

*Пераклад з ангельскай – Вольгі ГАПЕЕВАЙ.*

Без розуму і без шкадавання.
Снег кідае свае кавалкі цемры,

Нікога побач. У гатэлях
Адчыняюць дзверы і выстаўляюць

На чыстку боты
Заўтра ў іх пакрочаць нечыя ногі.

Ах сямейная ўтульнасць гэтых вокнаў,
дзіцячыя карункі, цукеркі ў форме лісця,

Тоўстыя немцы ахутаныя дрымотай у бяздонным Stolz.
І чорныя тэлефонныя слухаўкі на круках

Блішчаць
Блішчаць і пераварваюць

Безгалоснасць. У снегу няма голасу.

*28 студзеня 1963*

## АВЕЧКІ Ў ТУМАНЕ

Узгоркі сыходзяць у белую бездань.
Што людзі, што зоркі
З сумам глядзяць на мяне, іх расчароўваю.

Цягнік выдыхае белую стужку.
Гэй, цішэй
Конь колеру іржы,

Капыты, званочкі панурыя –
Ўсю раніцу
Ранак чарнее,

Забытая кветка.
Цела маё нерухомае, а сэрца
Неабсяжныя растапляюць палі.

Яны прадказваюць,
Што прымуць мяне да неба,
дзе ні айца, ні зорак, толькі возера цемры.

*2 снежня 1962, 28 студзеня 1963*

## УЗЫХОД СОНЦА НА ПОЎДНІ

Казачныя вілы
Колеру цытрыны, манга, марэлі,
Усё яшчэ спяць за
Аканіцамі, узоры на балконах

Разныя нібы
карункі ці вытанчаны малюнак кветак.

Хістаючыся з ветрам,
На ствалах спічастых,
Падобных да лупіны ананаса.
Зялёны месяц пальмаў
Выстрэльвае
Фейерверкам лісця.

Крыштальна чысты досвітак
Па сантыметры
Залоціць наш праспект,
І з блакітнага кісялю
Анёльскае Затокі,
Узыходзіць круглы і чырвоны кавун сонца.

*1956*

## ЗІМОВЫЯ ДРЭВЫ

Атрамант дажджлівага золку распушчае блакіт.
На прамакатцы тумана дрэвы
Здаюцца краслюнкамі з падручніка па батаніцы.
Успамінаў усё болей, кальцуецца час,
Чарада вяселляў.

Не вядомыя ім ані спароны, ані істэрыкі,
Яны дораць насенне жыцця без высілак!
Як ніводнай жанчыне няможна.
Спазнаючы вятры, што не кранаюць зямлі,
Стаяць яны па пояс у гісторыі.

Абрастаючы крыламі, бы з іншага свету.
У гэтым, ім лёс Леды наканаваны.
Але скажы, маці лісця і асалоды,
Каму стогн гэтых тужліўцаў аддады?
Цені лясных галубоў песняй звіняць, але не прыносяць спакою.

*1962*

## МАКІ Ў КАСТРЫЧНІКУ

Нават аблокам, асветленым сонцам, далёка да гэтых спадніц.
Як і жанчыне ў хуткай дапамозе
Чыё сэрца так адчайна квітнее праз
паліто –

Дарунак, дарунак кахання
Нікім не чаканы
Ні небам

Што блякла і зырка
Запальвае свой чадны газ, ні вачыма
Што безжыццёва застылі пад палямі капелюшоў.

Божухна, хто я такая
Што крык раздзірае іх чырвоныя горлы
Сярод лесу сцюжы, на валошкавым золку.

*1962*

### *БАЛОНІКІ*

Ад калядаў яны жылі з намі,
Простыя і наіўныя,
Авальныя душы-звяркі,
Захапіўшы палову прасторы,
Плылі бы па ядвабе

Нябачнае дрэйфаванне ў паветры,
Віскат і лопанне
У час атакі, і ўцёкі ў схованку з ціхім трымценнем.
Жоўтая каціная галава, блакітная рыба –
Такія дзіўныя спадарожнікі жылі разам з намі

Заместа мёртвай мэблі!
Саламяныя посцілкі, белыя сцены
І гэтыя шары-вандроўнікі
Усе з паветра, чырвоныя, зялёныя
Што цешылі

Сэрца як пажаданні ці вольныя
Паўліны што асвячаюць
Старую зямлю пяром
Адкаваным у блішчастай жалезцы.
Твой малы

Брат сціскае
Балонік і той віскоча як кот.
Скрозь яго
Дзіўны ружовы свет які можна паспрабаваць праглынуць,
Ён разяўляе рот,

І падае
Назад, няўклюдны жбан
Здзіўляючыся аглядае празрысты як вада свет.
З заціснутым у кулачку
Шматком чырвоным

*1963*

Рышард Капусцінскі



...я перакладчык не з мовы на мову,

а з культуры на культуру...

# Майстэрства рэпарцёра

*Пераклад з польскай – Рыгора СЕРЫКАВА.*

Я нарадзіўся на Палессі. Я, увогуле, выкаранёны чалавек. З майго роднага мястэчка, Пінска, я распачаў сваю вандроўку. Дзіцём вандраваў усю вайну. Мы пастаянна ўцякалі: спачатку з Пінска на нямецкі бок, а потым ад немцаў. Я пачаў сваю вандроўку, маючы сем гадоў, і вандрую да сённяшняга дня.

Калісьці ў мяне часта пыталі – а здараецца пытаюць яшчэ і цяпер – ці не намерваюся эміграваць. А я адказваю: я ўжо эміграваў. Мой дом недзе там, у іншай дзяржаве. Я мушу падарожнічаць, мушу ездзіць. Калі заседжуся ў нейкім месцы, не абавязкова ў Польшчы – пачынаю нудзіцца, пачынаю хварэць, мушу ехаць далей. Страшна цікаўлюся светам. Заўсёды перажываю, што яшчэ не быў тут і там.

Пішу "з язды". Я не "выдумшчык". Не апісваю нейкі выдуманы свет. Апісваю свет, які рэальна існуе.

Лічу – і заўсёды так лічыў, – што не магу ні пісаць, ні казаць пра тое, чаго сам не бачыў, не перажыў, і ў чым сам не зведаў рызыкі. Гэта адзіны магчымы спосаб пісання. І справа тут не ў маім выдаўцы ці маім рэдактары – я мушу сам сабе сказаць, што заслужыў права пісаць пра гэтыя рэчы.

Калі трапляецца штосьці, што я лічу за падзею, то проста

еду. Не задумваюся над гэтым. Потым бывае, што калі знаходжуся ў сітуацыі, у якой мне могуць праз хвіліну адсекчы галаву, думаю сам сабе: ну і дурань, навошта ты сюды прыпёрся. Але гэта ўсё потым. Бо ездзіў неаднаразова ў такія мясціны, з якіх, лічыў, проста не магу вярнуцца. А вось жа ж не мог гэтаму супраціўляцца, бо гэта інстынкт, захапленне падзеяй, што мушу яе ўбачыць, мушу яе перажыць, быць у ёй.

Рэпарцёр працуе па прынцыпе акумулятара: збірае, паглынае ў сябе рэчаіснасць і складвае матэрыял, бо тады няма часу на пісанне. Парадокс маёй прафесіі заключаецца ў тым, што літаратура бярэцца з падарожжа, але само падарожжа робіць немагчымым пісанне. Бо само падарожжа з'яўляецца часам надзвычай каштоўным, каб пісаць.

[Максім] Горкі, як ужо вопытны і сталы пісьменнік, апекаваў маладыя таленты. Да яго прыходзілі, прыносілі тэксты, якія ён з імі абмяркоўваў, крытыкаваў, ацэньваў. Аднойчы да яго прыйшоў малады чалавек, якога звалі Канстанцін Паўстоўскі, і прынёс апавяданне. Горкі прачытаў і сказаў прыблізна так: “Малады чалавек, тое, што ты напісаў, вельмі цікава, і ты павінен пісаць. Але не цяпер. Перапыні пісанне на дзесяць-пятнаццаць гадоў ды ідзі ў Расію. Жыві, працуй. Нічога не запісвай. А потым пачні пісаць. Бо тое, што сапраўды перажывеш – запомніш, а пра тое, што забудзеш – і так не варта пісаць”. Ёсць рэчы, якія сядзяць ува мне і не патрабуюць ніякіх нататак, каб іх апісаць. Мне патрэбны толькі час. Пэўныя фактаграфічныя элементы можна заўсёды знайсці ў энцыклапедыях і бюлетэнях.

Я ўспрымаю сваю працу вельмі сур'ёзна і адказна. Гэта дужа далікатная сфера, яе можна параўнаць з хірургіяй вока. Калі напішацца дрэнны раман, то нічога з гэтага не вынікае, а проста з'яўляецца яшчэ адзін дрэнны раман. Але калі рэпарцёр знаходзіцца ў дзвюх краінах, якія канфліктуюць паміж сабой, і фальшыва апісвае адну з іх, то гэта ўжо абсалютна іншая, значна сур'ёзнейшая сітуацыя. Рэпартаж мае непасрэдную сувязь з жыццём. Таму я за тое, каб трактаваць нашую працу самым адказным чынам.

Я вельмі сур'ёзна працую над кожным сказам. Пазней, яднаючы сказы – над абзацам, потым – над старонкай, затым яшчэ над раздзелам; а ўсе намаганні скіраваныя на тое, каб мінімальнай колькасцю словаў і вобразаў сказаць як мага больш.

Кожны дзень пачынаю пісаць нібыта ўпершыню. Гэта катарга. У літаральным сэнсе, бо пасля напісання адной старонкі магу выціскаць кашулю ад поту. Штодзень адчуваю сябе дэбютантам. Кніга, якая ўжо выдадзена, перастае быць маёй кнігай. Усё трэба пачынаць спачатку. Тое, што дасюль я напісаў, абсалютна не дапамагае, а хутчэй абцяжарвае...

Калі часам у мяне пытаюцца студэнты, што трэба зрабіць, каб стаць замежным карэспандэнтам, кажу, што трэба адпавядаць адначасова васьмі ўмовам: фізічнае здароўе, псіхічная ўстойлівасць, цікаўнасць да свету, веданне моваў, уменне падарожнічаць, адкрытасць іншым людзям, культурам, і трэба мець захапленне, а перад усім – старацца мысліць. Гэта самазнішчальная прафесія. Многія людзі займаюцца ёю толькі пэўны перыяд жыцця, бо не вытрымліваюць.

Я лічу, што добрыя рэпарцёры – даказвае гэта, зрэшты, вопыт і гісторыя – людзі сціплыя, якія могуць выказаць іншым добразычлівасць і павагу. Быць рэпарцёрам – гэта, перш за ўсё, шанаваць іншага чалавека, цаніць яго прыватнасць, асабістасць, а таксама вартасці, якія ён вызнае. Жыццё і плён працы рэпарцёра залежаць ад таго, што ён пачуе, што іншыя для яго зробяць. Каб быць імі ўспрынятым, ён павінен навучыцца жыць сярод людзей. Для мяне рэпарцёр мусіць быць чалавекам пакорным і эмпатычным.

Веды і інтуіцыя гісторыка – гэта фундаментальныя рысы кожнага рэпарцёра.

Добрую і дрэнную журналістыку можна лёгка адрозніць: у добрай журналістыцы, акрамя апісання падзеі, здарэння, ёсць таксама вытлумачэнне іх прычынаў. У дрэннай журналістыцы існуе адно апісанне, без ніякіх сувязей ці аднясення да гістарычнага кантэксту – голая справаздача аб падзеі, з якой мы не даведваемся ні аб яе прычынах, ні аб тым, што ёй папярэднічала. Гісторыя адказвае на пытанне: “чаму”?

Адбор рэчаў, пра якія трэба напісаць, залежыць выключна ад інтуіцыі, ад таленту і ад этычных прынцыпаў. Мы можам казаць няпраўду не таму, што хочам падманваць, а таму, што маем недасканалую памяць, няпоўныя ўспаміны або парушаныя эмоцыі.

Ідэалам з’яўляецца, безумоўна, абсалютная незалежнасць [рэпарцёра], але жыццё далёкае ад ідэалу. Журналіст патрапляе пад многія ўціскі, ад яго патрабуюць, каб пісаў такім чынам, як хоча таго працадаўца. Нашая прафесія – гэта пастаянная барацьба паміж марамі, прагай незалежнасці і рэальнымі сітуацыямі, якія прымушаюць нас да прадстаўлення інтарэсаў, поглядаў і спадзяванняў нашага выдаўца. У краінах, дзе існуе цэнзура, змагаюцца за тое, каб у як мага большай ступені выказаць тое, што хочаш. У краінах, дзе пануе вольнасць слова, свабоду журналіста абмяжоўваюць інтарэсы выдання, на якое працуеш.

Існуюць тры віды крыніцаў [інфармацыі], найважнейшай з якіх з’яўляюцца ўласна людзі. Другая крыніца – дакументы, кнігі і артыкулы. Трэцяя – свет, які нас акружае, у які мы пагружаныя – фарбы, тэмпература... клімат – усё, што акрэсліваецца як цяжкаўлоўныя фактары, але што складае істотную частку нашай працы.

Галоўным з’яўляецца ўспрыняцце ўражанняў. Гэта вельмі адточвае зрок – назіранне і разуменне свету праз бачанне яго. Я быў у краінах, мовы якіх не ведаў, але мусіў інфармаваць, што там робіцца, інтэрпрэтаваць факты, якія там бачыў. Думаю, што пры пэўным вопыце можна стварыць сабе іншыя спосабы ўспрыняцця свету, не абавязкова моўныя. Гэта, канечне, абмежаваны спосаб спазнавання. Пільнае бачанне свету з’яўляецца рысай рэпарцёра, асабліва таго, які займаецца міжнароднай ці міжкультурнай праблематыкай. Гэта рыса яго натуры ці арганізму, біялагічная ўласцівасць, нешта такое, што выпрацоўваецца з узростам.

Я ўспрымаю мову як больш шырокае паняцце. Для мяне “мовай” з’яўляецца сітуацыя, жэсты, колер, кшталт. Я ўспрымаю інфармацыю не толькі з таго, што хтосьці кажа, але з усяго: пейзажу, клімату, паводзінаў людзей, з тысячы падрабязнасцей. Гэта ўсё *гаворыць*: уся тая рэчаіснасць, якая вакол мяне... І гаворыць не мовай, якая выражаецца словам, а мовай сімвалаў, знакаў...

Таму дакладней я акрэсліў бы сваю прафесію як перакладчыцкую. Толькі я перакладчык не з мовы на мову, а з культуры на культуру.

* * *

Мяне часта пытаюць, як стала магчымым, што я змог столькі ўбачыць як журналіст. Я быў сведкам дваццаці сямі рэвалюцый. Акурат гэтага вымагала мая праца. Я быў “адказны” за пяцьдзесят краін. Быў папросту “напоўнены” паведамленнямі.

Сваю першую вандроўку я здзейсніў у Індыю, Пакістан і Афганістан у 1956 годзе, і, такім чынам, ужо больш за сорак гадоў падарожнічаю ў гэтыя краіны. Я жыў у іх без перапынку звыш дваццаці гадоў: нельга ж спасцігнуць іншыя цывілізацыі і культуры за трохдзённы ці тыднёвы візіт. Калі я пачаў пісаць пра тыя месцы, дзе большасць людзей жыве ў жабрацтве, то зразумеў, што гэта якраз тая тэма, якой хачу сябе прысвяціць. Я пісаў пра гэта з этычных прычынаў: таму, што бедныя ўвогуле ціхія. Жабрацтва не плача, жабрацтва не мае голасу.

Жабрацтва церпіць, і церпіць у маўчанні. Жабрацтва не бунтуе. З бунтам бедакоў вы спаткаецеся толькі тады, калі іх жывяць нейкія надзеі – яны бунтуюць, калі вераць, што ўдасца нешта выправіць. Толькі надзея можа ўзняць людзей на дзеянне. Але ўсё ж галоўнаю рысай свету, у якім спрадвеку пануе жабрацтва, з'яўляецца якраз адсутнасць надзеі.

Маё галоўнае жаданне – паказаць еўрапейцам, што нашая ментальнасць вельмі еўрацэнтрычная, што Еўропа не адзіная ў свеце, што Еўропа акружаная невымеральнай і пастаянна ўзрастаючай разнароднасцю культур, грамадстваў, рэлігій і цывілізацый. Жыццё на планеце, дзе паўстае ўсё больш узаемных повязей, вымагае гэтай свядомасці і прыстасавання да радыкальна новых глабальных умоваў.

Тры гады таму з камісарам па справах бежанцаў я паехаў, каб агледзець лагеры бежанцаў на мяжы Судану і Эфіопіі, і пеpажыў нешта выключна драматычнае. Мы паехалі ў самыя жудасныя месцы, якія можна сабе ўявіць. Людзі там атрымлівалі на дзень тры літры вады, чаго павінна было хапіць на ўмыванне, прыгатаванне ежы, пранне, піццё. Яны елі паўкіло кукурузы ў дзень, ніякага мяса, ніякай агародніны. Сотні, тысячы людзей паміралі. Мы вярнуліся ў Адыс-Абебу. Назаўтра я паляцеў у Еўропу. Прызямліўся ў Рыме. Быў летні вечар. На Пляцы Навонэ таўкліся тлумы людзей – вакол агні рэстаранаў, людзі цешыліся жыццём, музыкаю, ежай. А ўва мне пульсавала тое, што ўбачыў перад маім адлётам. Ва ўсім гэтым і ёсьць драма сучаснага свету. Гэтыя людзі з Пляца ніколі не даведаюцца, як жывуць іх браты і сёстры за дзве ці тры тысячы кіламетраў. Я зрабіў масу здымкаў. Тыя людзі – толькі шкілет і скура. Трыццацігадовыя выглядалі, як шасцідзесяці-сямідзесяцігадовыя старыя. І паміралі. Жанчыны з таго лагера былі апранутыя ў мяшкі з-пад кукурузы, мяшкі ААН. Жыццё ў двух настолькі розных светах спараджае, я думаю, маральны абавязак казаць пра гэта.

* * *

Я пастаянна трошкі і ваенны карэспандэнт <...> Быў на вайне, якая сорак гадоў вядзецца ў Судане, хоць няшмат людзей аб ёй ведае. Бо настолькі еўрацэнтрычнае нашае мысленне, што калі нешта здараецца ў Еўропе, то ўсе пра гэта ведаюць, тым часам, на свеце шмат войнаў, якія цягнуцца многа-многа гадоў, але для свядомасці большасьці гэта "незаўважальныя" або "забытыя" войны...

Ваенны рэпартаж мае сваю спецыфіку. Ступень удзелу аўтара агромністы. Каб пісаць пра вайну, сам мусіш знаходзіцца ў сітуацыі вайны. А вайна – гэта стан змагання, стан канфлікту. І ў гэтых адносінах сілаю рэчаў ён [ваенны карэспандэнт] не з'яўляецца назіральнікам з далёкай трыбуны, а сам з'яўляецца ахвярай гэтага канфлікту. Інакш быць не можа, абсалютны аб'ектывізм выключаны па акрэсленні. Справа тут проста ва ўласнай скуры. Кожны журналіст прывозіць з такога падарожжа не толькі поўны інфармацыі нататнік, але часта бывае фізічна і псіхічна параненым, са шрамамі...

Прафесію ваеннага карэспандэнта выбіраюць дабраахвотна, ніхто да гэтага не змушае. Штогод у свеце гіне больш за сто журналістаў. Але прыцягненне гэтай прафесіі – гэта не толькі страх перад смерцю, гэта таксама штодзённая пакута, змаганне з хваробамі, гэта сітуацыі, калі няма чаго есці, няма чаго піць, не вядома, як выбрацца з небяспечных месцаў. Чалавек рашаецца на гэта, бо мае волю і прагу быць на месцы, але ён мусіць таксама разумець тое, што можа трапіць у драматычную сітуацыю. Я веру ў шчасце і лёс, бо вельмі шмат маіх калег, з якімі я працаваў, журналістаў з майго пакалення – загінулі, а я жыву.

Я не рызыкую дзеля рызыкі. Мая пазіцыя – быць на першай лініі падзеяў. Не думаю тады пра рызыку, не думаю, што магу страціць жыццё. Раблю ўсё, каб туды трапіць, цана не іграе ролі. Толькі потым прыходзяць рэфлексіі, што мог адтуль не вярнуцца.

Усе баяцца. Людзі адрозніваюцца толькі тым, у якой ступені могуць перамагчы свой страх. Я думаю, што гэтая здольнасць з узростам можа слабець. Я таксама баюся, калі знаходжуся ў старым, разбітым самалёце, які прызямляецца на аэрадром, дзе страляюць. Але я сеў у гэты самалёт з поўным усведамленнем, што ў яго будуць страляць. Смерць я ўзяў у разлік свайго карэспандэнцкага жыцця. Едучы ў Анголу, я дапускаў, што, хутчэй за ўсё, адтуль не вярнуся. Але гэтага не хапіла, каб адмовіцца і змяніць рашэнне. Такім чынам, відавочна, ёсць нешта мацнейшае ўва мне, чым страх перад смерцю.

Бо сапраўды памятаю сітуацыі, у якіх людзі падалі пад кулямі вакол мяне, і я таксама павінен быў атрымаць кулю...

Часам бываў у такіх безнадзейных абставінах, што пачынаў маліцца: “Божа, зрабі, каб я яшчэ ў гэты раз здолеў выйсці жывым, і я абяцаю Табе, што ўжо ніколі больш не буду так рызыкаваць!” А потым зноў... вяртаўся! <...>

Рэпарцёр ніколі не бывае адзінокім. Ён заўсёды павінен з кімсьці сустрэцца, з кімсьці паразмаўляць. Першы кантакт з чужым чалавекам звязаны з напружаннем, сутыкненнем дзвюх розных індывідуальнасцей. Такое сутыкненне абуджае рэфлекс стрыманасці, недаверу. Гэта датычыць і пагранічных сітуацый, калі мы нарываемся на якісьці патруль, узброеную групу. Абодва бакі ў стрэсе, абодва баяцца. Людзі тады вельмі непрыемныя, глядзяць падазрона, не ведаюць, што хаваецца за такой сустрэчай. Найлепшым выйсцем дзеля пераадолення першага супраціўлення з’яўляецца ўсмешка. Трэба ўсміхнуцца іншаму чалавеку. Гэта рэфлекс, які мае карысны ўплыў на разрадку кепскай сітуацыі. Але не адразу. Падазроныя і тыя, што маюць комплексы, думаюць спачатку, што хтосьці з іх сарвецца, праз момант становяцца яшчэ больш падазронымі. А потым самі пачынаюць усміхацца. Сцяна рассыпаецца, узнікае нешта падобнае да супольнасці і далей ідзе намнога лягчэй.

Дрэнна адчуваю сябе ва ўмовах стабільнасці. Мая школа жыцця – гэта вайна, рух, канфлікты, напружанне, шмат здарэнняў. Таму не цікавіць мяне Еўропа. Я не змог бы напісаць і слова пра Парыж, хаця быў там колькі разоў. Мне трэба моцныя ўражанні, мушу штосьці перажываць, каб быць у стане напісаць рэпартаж.

Пра Польшчу я ўжо не буду пісаць, бо гэта тэхнічна немагчыма. Рэпарцёр мусіць быць ананімным. А я ўжо не губляюся ў натоўпе. Расшыфраваны рэпарцёр губляе шанц на напісанне добрага рэпартажу.

* * *

Усё ў нашай рэпарцёрскай справе залежыць ад іншых людзей; бо калі нам чаго не скажуць, мы не будзем ведаць, што яны думаюць; калі нас кудысьці не завязуць, мы ніколі не трапім на месца; калі нас не накормяць, то будзем хадзіць галодныя...

Рэпарцёр – раб людзей, ён можа зрабіць толькі тое, што яму гэтыя людзі дазволяць. Рэпарцёр цалкам пазбаўлены ўласнай свабоды. Бо калі я з кімсьці сустракаюся ведаючы, што буду размаўляць з гэтым чалавекам толькі гадзіну ў жыцці, а потым паеду далей і ўжо яго ніколі не ўбачу, то мушу ўсведамляць, што я на яго асуджаны. Ён скажа мне ўсяго столькі, колькі захоча мне сказаць, можа нічога не сказаць. Я ведаю, што поспех залежыць ад спосабу, якім я наладжу з ім кантакт. Падобныя сітуацыі здараюцца ў рэпарцёрскіх падарожжах, асабліва ў такіх, як мае, у тыя месцы, дзе няма транспарту, магчымасці праезду, ёсць замінiраваныя дарогі, і я цалкам залежу ад добрай волі чужых людзей, сярод якіх знаходжуся.

Калі, да прыкладу, я знаходжуся сярод намадаў у Сахары, я іх глыбока паважаю, бо калі б я быў на іх месцы, дык без ведання іх спосабаў выжывання, іх культуры, проста б загінуў. Уся еўрапейская цывілізацыя мала што дапамагла б мне.

Мае веды, тое, што я чытаў Спінозу, Канта – ніякім чынам там не спатрэбяцца. Я мушу засвоіць там абсалютна іншы род ведаў, каб выжыць. Паўтараю: толькі выжыць, а не каб яшчэ штосьці зрабіць. Само выжыванне патрабуе максімальных намаганняў у тых умовах.

У краінах трэцяга свету трэба мець адну з двух рэчаў: або час, або грошы. Гэта жалезны рэпарцёрскі прынцып. Можна не мець часу, але калі ёсць грошы, можна ўсё зрабіць. Можна не мець грошай, але калі маеш час, то таксама можна ўсё зрабіць.

Гасцініцы трэцяга класу часта былі непазбежнасцю, але і сёння я аддаю ім перавагу, паколькі там сустракаюцца больш цікавыя людзі. У раскошных гатэлях жывуць мільянеры, банкаўскія чыноўнікі, бізнесмены, міжнародныя бюракраты – таварыства не заўсёды цікавае. А ў сціплых гасцініцах часта можна наткнуцца на захапляльных індывідуумаў.

...У студзені 1991 года я пайшоў у Маскве на Рыжскі вакзал, каб купіць білет да Вільні, дзе якраз адбывалася страшная бойня. Білетаў не было, і я выкупіў білет у нейкага студэнта і паехаў. Вагон быў перапоўнены, але адно купэ, зачыненае, было пустое. Гэта мяне інтрыгавала, бо людзі з-за недахопу месц не змаглі паехаць, а тут купэ пустое. Калі даехалі да месца і яго адчынілі, аказалася, што купэ было напакаванае вадою для піцця супрацоўнікам амерыканскіх тэлевізійных кампаній у Вільні. Гэта была вада нават не з Масквы, гэта былі біклагі і балоны проста з Парыжа, можа, нават са Штатаў... Я лічу, што калі чалавек прымае рашэнне займацца нашай прафесіяй, то павінен разумець усе наступствы гэтага выбару. Інакш нельга нічога перажыць насамрэч... Няма іншай дарогі, бо людзі, бачачы гэтую ваду з Парыжа, разумеюць, што ім не давяраюць, ізалююцца ад іх.

...Мы цудоўна ўсведамляем сабе, што праца шахцёра страшэнна цяжкая. Гэта жыццё, у якім людзі на працягу паўгода не бачаць дзённага святла. Калі яны спускаюцца ў забой, напрыклад, у Сібіры, на двары яшчэ цёмна, а калі падымаюцца наверх, ужо цёмна. У Варкуце шахцёры ідуць на пенсію маючы пяцьдзесят гадоў, але дажывае да гэтага ўзросту ня больш за дваццаць працэнтаў. Знаходзячыся там, няма патрэбы ні пра што пытаць, бо ўсё бачна і так. Гэта па-першае. Акрамя таго, калі задаеш пытанні, адназначна прымаеш ролю журналіста, а тым самым вылучаешся сярод тамтэйшых людзей, а трэба гэтага пазбягаць. Найважнейшай крыніцай інфармацыі для мяне з'яўляецца пранікаючае да глыбіні пачуццё, што знаходжуся сярод людзей, якія ўспрымаюць мяне як кагосьці блізкага, роўнага, і што я ўспрымаю іх гэтак жа. Такім чынам я магу даведацца намнога больш, чым калі б пытаў, колькі яны зарабляюць... Я і ьез таго ведаю, што капейкі.

У мяне была заўсёды адна філасофія – мець як мага больш кніг. Да сёння вязу іх з усяго свету. У шасцідзесятых гадах, калі я сур'ёзна захварэў у Нігерыі, мяне адтуль тэрмінова выправілі самалётам, а рэчы асобна. Мытнік на гданьскім вакзале потым дапытваўся: дзе, уласна кажучы, мой багаж, бо прыйшла скрынка кніг, адны джынсы і патэльня.

* * *

Веды пра свет усё больш пераходзяць да СМІ. Сярэдні чалавек ведае столькі, колькі яму пакажа амерыканскае тэлебачанне. Усё іншае тэлебачанне, уключаючы нашае, купляе матэрыялы ў амерыканскага і бярэ яго за ўзор. Мы ведаем пра свет столькі, колькі хочуць, каб мы ведалі, тры вялікія сеткі амерыканскага тэлебачання. Яны займаюцца не цэнзурай, якую мы ведаем з камуністычных часоў, а маніпуляцыяй. Адыход ад праўды не з'яўляецца фальшам наўпрост, ім з'яўляецца прыняцце фальшу за праўду. На што абапіраецца гэтая маніпуляцыя? На падборку тэм. Паказваюцца толькі некаторыя рэчы, і то ў ненармальных прапорцыях. Напрыклад, беднасць. Глядзячы тэлебачанне, мы маем права думаць, што галоўнай

праблемай у свеце з'яўляецца тэрарызм, розныя фундаменталісты, гандаль наркотыкамі і ўсялякая арганізаваная злачыннасць. Гэта няпраўда. Галоўнай праблемай свету з'яўляецца тое, што дзве трэціх чалавецтва жывуць у нястачы, на мяжы голаду, без шанцаў змены гэтага становішча. <...> Маніпуляцыя заключаецца ў тым, што беднасць разглядаецца як экзотыка. Ёсць спецыяльныя каналы, такія, як Discovery, Travel або турыстычныя каналы. Там беднасць – гэта турыстычнае дзіва: "Калі вы паедзеце на Багамы, то знойдзеце бедную вёску".

Уявіце сабе: у адных і тых жа тэлевізійных навінах мы бачым чатырох карэспандэнтаў. Адзін паведамляе з лагеру руандыйскіх бежанцаў у Заіры. Праз дваццаць секунд мы ў Саратаве, дзе схапілі якраз грознага бандыта. Праз момант маем Бангладэш: пісьменніца, што змагаецца за роўныя правы, выходзіць з суда; яшчэ праз момант карэспандэнт з Лос-Анджэлесу паведамляе пра справу Сімпсана. На працягу адной хвіліны ў нашым памяшканні з'яўляюцца карціны з чатырох бакоў свету. Скасоўваецца частка нашага ўяўлення – прастора. Тое, што адбылося, здарылася ў розныя прамежкі дня і ночы, а успрымаем мы гэта за адну гадзіну, у сем вечара – такім чынам анулюецца час. Чалавек стаіць перад праблемай: як гэта ўсё упарадкаваць?

У выніку рэдакцыйных скарачэнняў і замоўчвання падрабязнасцей праца замежнага карэспандэнта ўсё менш і менш бачная. Прычынай з'яўляецца спажывецкасць – філасофія сучаснага свету. Спажывецкасць патрабуе спакою, добрага самапачуцця, задаволенасці. У адносінах да гэтага неабходна выкідваць, скарачаць да мінімуму ўсё, што разбурае гэты вобраз. Паказваць як мага менш канфліктаў. А іх цяпер у свеце каля сямідзесяці, у тым ліку, "забытых войнаў". Людзі не маюць паняцця, што яны працягваюцца. Існуе вялікая розніца паміж тым, што карэспандэнт хоча паказаць і плёнам ягонай працы, які прачытаны, праслуханы ці паказаны гледачу.

Захад бароніцца, засцерагаючы сваіх грамадзян ад усяго, што не з'яўляецца заходнім. Калі мы прыгледземся да паведамленняў заходніх СМІ са свету, то можам заўважыць: тое, што не з'яўляецца заходнім, разумеецца як пагроза. З Усходу нам пагражае мафія. З Поўдня – пагроза ад фундаменталістаў. З Афрыкі – пагроза ад гэтых шалёных афрыканцаў, якія самі сябе забіваюць. З Азіі і Лацінскай Амерыкі пагражаюць гандляры наркотыкамі. Усё тое, што не з'яўляецца заходнееўрапейскім, – пагроза.

Сённяшнія СМІ рухаюцца стадна, як авечкі. Не ўмеюць узбіцца на свае адметныя шляхі, незалежныя ні ад кога. Па гэтай прычыне мы ўсюды чытаем і чуем тыя самыя паведамленні, тыя самыя навіны. Возьмем, напрыклад, вайну ў Персідскім заліве. Дзвесце тэлевізійных груп засярodзілася ў адным і тым жа раёне. У гэты самы момант многа важных, нават ключавых падзей адбывалася на іншых абшарах зямлі, але гэта аказалася няважным, ніхто пра гэта не паведамляў: усе былі ў Заліве. Бо мэтаю кожнай вялікай тэлевізійнай сеткі з'яўляецца не перадача вобразу сусвету, а жаданне пазбегнуць паражэння ў канкурэнцыі з іншымі сеткамі. І калі здарыцца штосьці новае, усе адразу перамяшчаюцца ў новы рэгіён, будуць знаходзіцца ў тым самым месцы і не будуць мець часу на іншае. І менавіта такім чынам сярэдні чалавек фарміруе сабе погляд на тэму міжнароднай сітуацыі.

*Пераклад зроблены з кнігі Крысціны Стрончак "Аўтапартрэт рэпарцёра", (Кракаў, 2008)*



Алесь Асташонак



...гэта ж хто даў чалавеку права
гэтак распараджацца чужым жыццём,
як сваім уласным?..

# Помнік

## *Спроба эпісталярнай споведзі*

*Публікацыя і падрыхтоўка да друку – Леаніда ГАЛУБОВІЧА.*

*4.05.**

*Прывітанне, дарагі Лёня!*[1]

Карыстаюся тым, што прыехала Таня (тут і далей дачка Алеся Асташонка – *Л.Г.*) 3.05 (паедзе 8-га) і пачынаю пісаць табе ліст. Невядома калі яшчэ будзе ў мяне мажлівасць напісаць табе па-сапраўднаму шчыра, улічваючы факт прапажы папярэдняга ліста. (Дарэчы, у мяне ёсць версія: пішучы індэкс 210103, я замест падкрэсленай адзінкі напісаў нуль і потым тлуста пераправіў; капеек з сабою больш не было і канверт я мяняць не стаў; глупства для пошты – але ж...; два таўшчэзныя лісты, якія я напісаў табе і Барысу (тут і далей Барысу Пятровічу – *Л.Г.*) у верасні 1997 г., не дайшлі да вас таму, як я зразумеў, што не было на канвертах дадатковых марак – я пра іхнюю неабходнасць тады яшчэ не ведаў).

Былі ў мяне, дзядзька, сёлета чатыры шчаслівыя падзеі:

---

[*] 4.05.2010.

[1] Ліст адрасаваны Леаніду Галубовічу.

1) твой цёплы навагодні ліст, 2) твая неспадзявана вялікая бандэроля (дзякуй вялікі, ты дазволіў мне адарвацца ад сумнай маёй рэчаіснасці якраз у не самую вясёлую пару дні аж на два-тры, – толькі не пішы больш на бандэролях, калі такія будуць, Жгіроўскаму: Жгіроўскі я на канвертах, а на бандэролях Асташонак, – бо ж ледзьве бандэролю гэтую атрымаў), 3) твой неспадзяваны красавіцкі ліст, пасля якога я табе патэлефанаваў, 4) і, не смейся, першы гол Хмыля (хакеіст зборнай Беларусі – *Л.Г.*) Украіне: калі ён, закінуўшы шайбу, выехаў за вароты, узняўшы клюшку, я адразу, па ягонай постаці чалавека-арангутана, зразумеў, што разатруць зараз хахлоў у парашок, і так яно і атрымалася, – гэта ж для мяне зусім не хакей, а Беларусь.

Апошняя радасць у параўнанні з трыма першымі невялікая й смешная – але ж... Нягуста ў мяне, бачыш, дзядзька, з радасцямі.

А той мой ліст з памылкаю ў індэксе, можа, таму і не дайшоў да цябе, што напісаў я яго ўпершыню рукою (забабон). А зараз напішу такі, які неадменна трэба пісаць рукою, аднак на машынцы, бо й развучыўся я амаль што пісаць рукою дый стан у мяне зараз такі нервова-псіхічны, што, можа, рука будзе дрыжэць, так што лепш ужо на машынцы. Алкаголь я не ўжываў ужо дзён 8, здаецца, так што не ў ім, вядома, справа. (Дарэчы, язва, якую я, мабыць, нарэшце зарабіў, так і не ўтаймавалася да канца, але ўсярэдзіне ўжо не гарыць, не палыхае, а было пасля другой размовы з табою так, што хоць вый, хоць... Алкаголю цяпер баюся: на Вялікдзень піць не стаў і сёння, на дзень нараджэння Алены (тут і далей дачка другой жонкі А.Асташонка – *Л.Г.*) – таксама прыехала), можа, калі хіба што, як сапёр, прыгублю. Я так тыя дзве ночы, калі ўсё згарала, перадрыжэў, што здохну, – здавалася ўжо, што, як ты кажаш, пайду зараз залыгаюся на вяроўчыне, каб гэткае не цярпець, дальбог, што цяпер здаецца, што ўвогуле піць не буду: не так смерці баюся, як таго болю).

Даканала мяне, дзядзька, гэтая гісторыя з помнікам. Я і так не вядома на чым трымаўся, а тут... Я ж другую прастрацыю перажыў, як высветліў, у чым справа.

Калі памерла мама 1 снежня 1990, дык я праз два гады, увосень, паставіў ёй, разам з бацькам у Ракаве выбраўшы, просты помнічак з акрошкі за сто д. Бацька быў задаволены. Але ўжо гадоў праз пяць, не, раней, ён пачаў асыпацца. Калі была прададзена мая кватэра (першая з трох нашых), то я вырашыў, што бацькі мае пакутныя хоць на тым свеце лепшай памяці заслугоўваюць. Увесну 1996 г., якраз у год майго ад'езду, я заказаў за тысячу д[аляраў] (з грошай за кватэру) цудоўны помнік з рэдкага колеру граніту, з надпісам "Няхай Вам сьняцца сны аб шчасьці", але калі помнік зрабілі, я, то праз уласнае раздзяўбайства, то праз адсутнасць грошай, то праз лёжку ў бальніцы, ніяк не мог яго паставіць – я ж і падумаць не мог, што ўвосень раптам некуды сарвуся!.. І вось калі настаў раптоўны ад'езд, то я перадаў квіткі на помнік з агароджаю сястры і папрасіў яе зрабіць гэта. Грошы сказаў магу пакінуць, але лепш пачакай, бо мы ад'язджалі 1.10 амаль ні з чым, я табе лепш, колькі скажаш, усё перадам з Кіева. Яна кажа не трэба, мы самі паставім. Увосень з Кіева тэлефаную – не паставіла, не змагла: час, людзі і г. д. Увесну я яе забамбіў званкамі. Нарэшце кажа паставіла, распісвае як, калі, з кім, – і які ж прыгожы!..

Не паставіла яна яго. Не хапіла жабрачцы грошай, колькі я ні роў па тэлефоне, што адразу ўсё аплачу, не хапіла людзей, не хапіла часу, – яна ж умудрылася выйсці замуж за абы-каго, жывуць упрогаладзь, накляпалі да 30 гадоў пяцёх (у наш час!) дзяцей, а зяць бацьку ненавідзеў, як і бацька яго, і г. д. А ёй на памяць бацькоў нас...аць, і на братавы пакуты, і на братаву тысячу апошнюю, – бо ж, дайшоўшы да апошняй галечы, абмянялі яны мінулай восенню бацькоўскую кватэру на Свярдлова (на метры ў якой я мог тэарэтычна прэтэндаваць, як быў бы не ведаю кім, як і на

дапамогу ў марках ФРГ бацьку-нябожчыку, як “узнику фашизма”, дапамогу, якую я, вядома, цалкам аддаў ёй нават у год свайго краху) на цыганскую халупу невядома дзе, а тыя цыганы яшчэ і падманулі іх, бо здзелку заключалі, жабракі, з даплатаю, і атрымалі сваё, г. зн. нічога не атрымалі. Абмяняўшы, з’ехалі ў глухмень, нікому з радні не пакінуўшы адраса, не пазваніўшы мне, хоць я даў свой тэлефон і прасіў неадменна паведамляць калі што. І, з’ехаўшы, пра магілу і не падумала. Хоць бы старэнькі помнічак, аднавокі, бо ж фатаграфія толькі матчына, паставілі, а то ж паехалі забраўшы з сабою тое фота, якое бацька сам сабе заказаў у пахавальнай канторы. Робяць зараз, мусіць, шостага, калі ўжо не зрабілі, і чарнеюць з голаду, бо абое нідзе не робяць. О, як бацька яго ненавідзеў!

А род і Асташонкаў, і Жгіроўскіх пераводзіцца, амаль ужо звёўся, Асташонкі тры старыя, ледзь жывыя, два ледзь ходзяць, а трэцяму ступні адрэзалі, а Жгіроўскага аднаго мінулай восенню забілі (я вельмі любіў гэтага дзядзьку, ён шмат мне зрабіў, а на пахаванне ягонае я, вядома ж, прыехаць не змог – але гэта ўжо асобная размова, асобны боль, асобная трагедыя), а апошні Жгіроўскі п’янтос несусветны, жабрак, 61 год, хворы ўжо на сухоты. Ён і заўважыў нарэшце, дужа добры, праўда, чалавек, які добрага зрабіў мне яшчэ больш, але заўважыў, жывучы непадалёку, кіламетры за тры ад могілак, ад міханавіцкіх, што ніякага новага помніка няма, а ёсць толькі стары паваленый помнічак, – праз 3 гады!!! Гэта значыць, што раз ужо ён, як самы добры, тры гады на магіле не быў, дык хто там быў увогуле, і што там за магіла, і хто прыбярэ ўбок гэты аднавокі помнічак і паставіць звычайны крыж?.. Дык навошта бацькі мае пакутавалі, ва ўсім сабе адмаўлялі, каб... навошта яны нас выбл...дкаў нарадзілі? Але... Я вінаваты. Мусіў увесну паставіць. Мусіў не ад’язджаць, не паставіўшы, ведаючы сястру. Але ж – яна. П а м я ц ь... Т ы с я ч а... Той помнік з агароджаю застаўся ў канторы, і людзі, дзіўна пацiскаючы плячыма, горка ўсміхаліся... Я б яе задушыў!.. Яна ж, як нарадзілася, бацькі ўсё перадусім ёй аддавалі, а мне ўжо было 14 гадоў, і я хадзіў у гарадскую школу з зацыраванымі на с...ацы штанамі. Цяпер Ларыса (тут і далей першая жонка – *Л.Г.*) спрабуе ўведаць яе адрас, каб я ёй штосьць адпісаў. Таня мяне суцяшае, кажа, дзядзька нешта там пераблытаў. Пераправерыць кажа. Ды нічога ён не пераблытаў. Я сястру ведаю. Ёй заўсёды было на...раць на ўсялякія сантыменты, у адрозненне ад мяне... А я для яе вар’ят і п’яніца. А зяць неяк Міле (тут і далей другая жонка – *Л.Г.*) сказаў па сакрэце, што я ў іхняй сям’і лічуся ідыётам. Я яго прыдушыў бы, як таго хацеў бацька.

І вось, Лёня, засціла мне гэтая гісторыя усё. Нічога толкам не магу рабіць, ні чытаць газету, ні глядзець тэлевізар (да перакладу справа яшчэ не дайшла): стаяць перад вачыма адно помнік і сястрыца. І, нарэшце, я сам, даўба...б. Усё з рук валіцца. Я часта, Лёня, без радасці думаю, як і дзе пахаваюць мяне, і хто на гэтае пахаванне прыйдзе. У мяне ж тут няма аніводнай хоць здалёку блізкай душы, за выключэннем хіба што камп’ютаршчыка 50 гадоў, з якім мы апошнія 4 месяцы за ягоны кошт (зарабляе 500 д.) часта ходзім у налівайку – любіць ён і выпіць, і са мною пагаманіць. Каплічны (былы футбаліст кіеўскага «Дынама» – *Л.Г.*)? Яшчэ які знаёмец-стаканавы таварыш? У бацькоў хоць людзі на пахаванні былі, якія іх паважалі. Хто прыйдзе на маю магілу ў Кіеве, хто падтрымае крыж? Ну й х... са мною. Як бацькі ляжаць, так і я ляжаць буду. Заслужыў. Мне яшчэ, падле, лепш будзе: помнік ніхто не разверне. Бо не будзе таго ні помніка, ні, можа, увогуле нічога іншага. А ў прынцыпе я ўжо аддаў Міле распараджэнне: каб спаліла і урну перадала Тані. І Тані гэтым разам перакажу.

Пісанні... Якія тут пісанні – жыццё такое для мяне за мяне напісала, што можна пісаць, пра што і навошта?

Ці можа я ўсё гэта, што табе зараз выказваю, перад публікай выварочваць буду... як гэта называецца? любімае булыкіна слова – працэс пераплаву, цьфу ты,

забыўся нешта, як называецца, ну ты разумееш... – ну не. Лепш я перад табою паспавядаюся – я ж забыўся напачатку галоўнае сказаць: застаўся ты адзін у мяне, ну хіба яшчэ Ждан (Алег Ждан, пісьменнік – *Л.Г.*) чалавек чулы, але ён і старэйшы, і халаднейшы, і далейшы ад мяне і г. д. Акудовіч (тут і далей Валянцін Акудовіч, філосаф – *Л.Г.*) кажа: а, не люблю я пісаць. А я люблю? А калі чалавек адзінокі? Нядаўна прачытаў эпіграф перад фільмам, нешта накшталт: "Человек одинок, и все люди безразличны друг другу, и боль его – остров". Арлоў (Уладзімір Арлоў, пісьменнік – *Л.Г.*) кажа: не буду я пісаць лістоў, бо прападаюць лісты, не даходзяць, вось я Надсану (Аляксандар Надсан, беларускі святар у замежжы – *Л.Г.*) напісаў, не дайшоў. Дзе Надсан, а дзе я? Хто хоча, у таго даходзяць. Я лепш патэлефаную, кажа Валянцін. Але ж ніхто і не тэлефануе. Грошай няма. Дык што пі...дзець? Я ж не выпадкова сп'яна Барысу лісток паслаў, на які ён пакрыўдзіўся. А што крыўдзіцца? Ён піша ў сваім адзіным кароткім, праўда дужа змястоўным мне лісце, які прывезла мне Таня разам з тваімі "Зацемкамі", якія я ўвесь час перачытваю, піша: не, не буду шукаць ліста, цытаваць, нешта накшталт – лепш пасядзець разам, памаўчаць, паглядзець адзін аднаму ў вочы... Ды я столькі тут намаўчаўся, калі днямі працую ці шалею, ходзячы цяпер ужо па пакоях (4), калі стаіць тэлефон і маўчыць, і маўчыць, нават у самую цяжкую мне пару – і ніхто не пазвоніць, і мне званіць няма каму, а ў Менск нельга, бо памятаю, што такое разоў пяць на два месяцы па два дні анічога не есці. І калі пазвоніць мне сябра-камп'ютаршчык: "Друг, я тебя уже сто лет не видел" – дык я праз пяць хвілін на вуліцы стаю. А ў вочы нагледзецца магу і ў налівайцы – іх там цераз край. Мутных вачэй і нямутных, у якія можна глядзець.

Вось, гаворачы пра помнік, і адказаў я табе на пытанне:

12 – ці цягне цябе на магілы сваіх бацькоў? У чым ты мог бы пакаяцца перад імі ці перад Богам пры іх? Што мог бы сказаць мёртвым, што не сказаў жывым? (гэта, мусіць памятаеш, з тваёй анкеты).

Як – на такое пытанне!!! – магу адказаць я ў якойсьці газеце?

Паехалі далей. Не. Што хачу сказаць: як пачаў усё гэта, пра магілу, пісаць, дык смешнымі здаюцца мне ўсе мае табе словы ў параўнанні з тым, што ў душы маёй. Але ж і – неспадзявана – палёгка нейкая ўзнікае. І яшчэ, ужо адчуваю: мог бы зараз сесці за гэты бл...дскі мой маразматычны пераклад чарговага рамана для людзей з вывернутымі глуздамі. Аднак – лепш я з табою пагавару. Другой такой магчымасці не будзе. А пераклад нікуды не ўцячэ. Хоць у прынцыпе ўсё ўжо ад мяне ўцякло.

Дык вось, паехалі далей. Кнігі. Што сталася з маёю бібліятэкаю. Можа, я і памыляюся, але здаецца мне, што ні ў кога з пісьменнікаў майго веку не бачыў я такой вялікай бібліятэкі. Смецця хапала, але ж і...

Бібліятэка мая распалася на 5 часцін. Маленькую частачку, самага неабходнага, прывёз у Кіеў – адзін чамадан. Вялікую часціну, як з'язджаў з Чычэрына, пакінуў назаўжды ў суседа. Я разбіраўся з кнігамі ўсю ноч, сілы ўжо не хапала, пакідаў у яго, як мне здавалася, на невялічкі час, месяц-другі, але на ўсялякі выпадак інтуітыўна адбіраў, як мне здавалася, на хаду, самае нязначнае, – засталося там назаўжды. Другую часціну, вялікую, добрую, забраў сабе – дзякуй яму за гэта – Валянцін. Ён цягаў у вялізным мяшку на гарбе сваім, я яму таксоўку аплочваў. Што я ў яго пакінуў памятаю вельмі прыблізна, але ж кнігі, якія я пару разоў ад яго "выпісваў", хоць і пракураныя дашчэнту, мне аж цяжка чытаць, усё ж такі на месцы. (Не буду лічыць тае драбязы, што аддаў Ждану, Шніпу (Віктар Шніп, паэт – *Л.Г.*), Пятровічу і яшчэ аднаму хлопцу падарыў. Хоць Шніпу я аддаў збор Картасара, а Барысу збор Борхеса. А для аматара сур'ёзнай кнігі – гэта ўжо маленькая трагедыя). Нарэшце засталіся дзве трагічныя вялікія часціны.

Адступлюся назад. Застаецца нейкая вар'яцкая надзея на словы Тані. Але калі дзядзька, што фантастыка, пераблытаў, то ўсё роўна стаўленне маё да сястры мала зменіцца. Яна што, бегучы ад галечы, ведаючы, што на ёй пяць, заўтра шэсць дзяцей, не магла халупу бліжэй да Менска адшукаць, каб хоць раз на год на магілу выбрацца? Ведаючы, што ад'язджаў я ў Кіеў ашалелы?

Дык вось: усе зборы твораў і розныя буйнафарматныя кнігі кшталту энцыклапедый, альбомаў і г.д., як самыя дарагія, я аддаў, як самым надзейным людзям, якія мелі мажлівасць (плошчу), адзіным Міліным сябрам, тым самым расейцам, якія пазнаёмілі нас на Ісламы. Усё буйнафарматнае я не запамінаў: якія ж людзі! А вось зборы ўсе, вядома, памятаю. Дык вось, калі пасля працяглай маёй вайны з Мілай, Алёнай, з Мілай, вядома, перадусім, якую я пачаў, адчуўшы нядобрае, – якія ж двубоі былі, хіба што да мардабою не даходзіла, – я расставіў у гэтым пытанні кропкі вось гэтым во прыездам, дык выявілася: зніклі – "их не было" – зборы Булгакава, Пастарнака, Моэма з 10 т. Дастаеўскага вярнуліся 6; з буйнафарматных кніг, сярод якіх былі перадусім каштоўныя для мяне ў рабочым сэнсе энцыклапедыі, засталася самая сімвалічная жменька, я і "иск предъявить" не магу, бо не запісваў, вядома, ашалелы, што пакідаю, тым больш што мінулай восенню, ужо пасля ўсіх гэтых бясконцых падманаў з кнігамі (колькі грошай звялося на тэлефонныя размовы па высвятленні!), "отец семейства", паехаўшы на радзіму, "испустил дух 50 лет от роду". Няхай даруе мне Бог, але кажу гэта не без злосці. Бо што там кнігі: зніклі – "их не было" – Міліна чарнабурка, якая чорт ведае колькі каштуе, серабрыстая, якую яна два гады не рашалася купіць, усё грошай шкадавала, дарагая, выбачай, бялізна, а яшчэ "друг по секрету от жены одолжал у Милы 100 д." – "да не было такого, ничего не было, не припомню". Гэта лепшыя Міліны сябры. Во як. Якія сябры, як кажуць, так і хочацца сказаць... толькі гэта не зусім так... Аж сорамна стала за ўсю гэтую драбязу. Я пра сваю бібліятэку, якая п...зданулася. А гэта "спадарожна". І розныя там карціны, карцінкі, пано, талеркі, вазы, кубкі і г.д.

Выбачай, нешта сорамна стала мне за гэты пасаж, але рваць не буду: я перад табою такі, які ёсць. Так раззлаваўся, што аж на помнік мала не забыўся.

Нарэшце тая, самая істотная, вялікая, каштоўная часціна, з усімі самымі неабходнымі мне рабочымі кнігамі, усе мае лісты, фатаграфіі, выразкі з газет і часопісаў (складаў свой летапіс, ёлуп!), афішы з маіх спектакляў, усе мае часопісныя і газетныя публікацыі, 2 карэктуры "П'янай кнігі", процьма кніг з аўтографамі дарагімі, у т.л. і з тваімі, усё, што трэба мне для працы, часам проста неабходна, – таксама і ўся мая п а м я ц ь, усё маё ж ы ц ц ё, бо ж нічога іншага хоць крыху вартага я не зрабіў, нарэшце ўвесь мой архіў, усе мае чарнавікі, а іх нямала, нерэалізаваныя, усё гэта пачало спадарожнічаць разам з пакінутаю ў Менску адною Аленаю – і нарэшце знайшло спачын на ўскраіне горада, ва Уруччы, у гаражы, як кажуць, цёплым, у былога Мілінага мужа Генадзя. Ужо 2 з паловаю гады як там упавалку ляжыць. Не думаю, што гэта лепшае месца, прыкладам, для шыкоўнага, падараванага мне фінамі ў знак асабістай пашаны, выдання "Калевалы". Генадзь нервуецца, хоць і ведае, што гэта кнігі мае, хоць і ставіцца да мяне з павагаю, як мне здаецца, але на халеру яму ў ягоным не такім ужо і прасторным гаражы гэты вечны склад? Алена кажа: забяру, як кватэру атрымаю. Да таго часу, можа, немцы ў Пухавічах будуць. А галоўнае: мне ж тут пазарэз патрэбныя для працы некаторыя кнігі: ну, прыкладам "Русско-французский словарь" новы-новы я магу і ў Кіеве, адшкадаваўшы, долараў за 10-15 купіць, нічога, яшчэ пару разоў дзён па пяць не паем (і такое было), а вось дзе я знайду, за якія грошы рарытэтнейшы "Французско-русский фразеологический словарь", без якога я пры перакладзе сваіх звышскладаных тэкстаў задыхаюся? Я яго ў

Кіеве нідзе не бачыў, колькі ні шукаў. Гэта таміна 50-х гг., якою чалавека можна забіць, і каштуе яна цяпер ніхто не ведае колькі. Дабрацца да іх Алене далёка, у яе сваё жыццё, яна, патуляўшыся з год па кватэрах, выйшла замуж, добра што, здаецца мне, хлопец неблагі, з бацькам у яе адносіны крыху напружаныя, ён са злосці кідае: "Я эти книги повыбрасываю к черту!". Але ж каб і дабралася яна да гаража, то што яна там, бедная, разбярэ? У мяне самога галава там кругам пайшла б. І такіх кніг, неабходных мне, што там прападаюць, самых-самых, з дзясятак. А "Таемнасць агню" (зборнік Л.Галубовіча – *Л.Г.*) ці "Расколіна" (зборнік А.Мінкіна – *Л.Г.*), а Купала юбілейны, які ці то там гніе, ці то ў тых расейцаў невядома ім нашто застаўся, а ўся беларушчына гістарычная, якую часам мне хочацца, так хочацца пагартаць, і, паўтаруся, зноў жа, усе гэтыя, выбачай, іх не так ужо і шмат, "Прычакаўшы глыбокага снегу" і "Мяне даганяе, якая заўсёды маўчыць" – о, як, каб ты ведаў, не хапае мне ўсяго гэтага!

П...здзец маёй бібліятэцы. Якую я збіраў ад сёмага класа, эканомячы на марожаным. Бярог – "Три мушкетера", "Остров сокровищ", першую кнігу, якую падаравала мне мама – "Хижина дяди Тома"...

Паглядзеў бы ты зараз на маю БІБЛІЯТЭКУ!!! О, гэта трэба бачыць! Гэта відовішча не для "слабонервных". Міжволі не ўстрымаешся ад сустрэчы з камп'ютаршчыкам і Каплічным. БІБІЛІЯТЭКА П І С Ь М Е Н Н І К А, які сочыць за працэсамі, які адказвае на пытанні анкеты "ЛіМа".

Хадзем далей, дзядзька. Не ведаю, як у цябе, а ў мяне яшчэ час ёсць. Прадстаўленне адно пачынаецца. (Друкую, дарэчы, на паперы, падараванай камп'ютаршчыкам. Ён мне гэтай паперы пуд абяцаў прынесці).

А надпіс на паваленым помнічку – па-беларуску. Дзівяцца людзі. Смяюцца. Хоць гэта і могілкі. Не кажу ўжо пра тое, што нехта маё прозвішча ведае – гэта ў параўнанні з галоўным лухта. Лепш бы я, раз так, і не браўся гэтыя помнікі ставіць, а паставіў крыж.

Кніга мая няшчасная. Памятаю, ты, наіўны, усміхаўся: маўляў, Дранько (Леанід Дранько-Майсюк, паэт – *Л.Г.*) казаў, праблема ж проста вырашаецца – каньячку там, цукерак... Лёня, за каго ты мяне прымаў? Гаворка з адпаведным чалавекам ішла пра 500 д. Была дамоўленасць. Грошы тады праз Міліны рукі шалёныя ішлі. Але... Апынуліся тыя грошы (500) скажам так, у Англіі. Я ўжо меўся як не хабар даць, дык выдаць за свой кошт сама болей за 1000 д. Бо нешта ўсё ж у выдавецтве не тое было. Я кажу: 500? 500. Жалезна. Главою кабета ківае. Ці то на камбінаце нейкі штопар ці што... Карацей... Паехала Алена ў Лондан за 1000 д. Аж на 2 тыдні. Я пра гэта нічога не ведаў. Міла ўвогуле чалавек характэрны: скрытны, замкнёны, усе рашэнні прымае выключна сама – і толькі потым ставіць мяне ў вядомасць. (Не заўсёды, вядома). Бі, лупі, скуру здымай, здзірай – марна. "На том стоим". Я нічога не ведаю, я ні ў чым не разбіраюся, "ты в этом ничего не понимаешь", "все будет нормально", "ты, главное, пиши". Паехала Алена ў Лондан, каб лепш уведаць ангельскую мову. За 2 тыдні. Бо наступным годам у іняз паступала. Алена дзяўчына неблагая, разумная, і да ангельскай мовы мае нейкія здольнасці, але ж вось бывае такое невытлумачальнае (і чытала ж нямала) – жахлівай, выключнай непісьменнасці! Колькі я з ёю ні займаўся, што па-беларуску, што па-расейску за дыктоўку ані разу больш за кол у мяне не атрымала. Я Міле і казаў: ну не паступіць яна ў іняз, хоць год у Лондане прасядзіць, бо жах з моваю, усё роўна з якою, што з расейскаю, што з нашаю. Таня паступала без грошай, пры маёй жалезабетоннай падтрымцы, дзякуючы ўсім маім сувязям і вялікай павазе да мяне, як да адзінага пісьменніка-выпускніка іняза, апрача Бондар (Таіса Бондар, паэтка – *Л.Г.*), з выдатным веданнем расейскай і цярпімай беларускай (як для абітурыента іняза). Алена, нягледзячы на ўсю маю падтрымку, на Лондан і ўсіх рэпетытараў, я ўвесь інстытут, каго ведаў, на ногі падняў, атрымала

па ангельскай пяцёрку праз чацвёрку, а па-беларускай – два. Я ў самы апошні момант кінуўся ў ногі да сябра – дэкана французскага факультэта – дапамажы, браце! Той пабег выпраўляць. Вярнуўся: не кажа – паталагічны выпадак.

У Лондане мая кніга. За 2 тыдні лонданскага паветра можна надыхацца. А да камбіната, куды Міла з год абяцала дайсці, бо ж умее справы абцяпваць, не раўня мне, хоць і я не лапух, яна так і не дабралася: справы, справы – якая там кніга. Вось Лондан!

А як ты думаеш, дзядзька, калі б я ў Менску застаўся, нават адзін, я што, не змог бы Марчука (Георгій Марчук, тагачасны дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» – *Л.Г.*) дацiснуць? Ён жа ўвесь час мне як старэйшым сябрам быў, усё казаў, выбачай, што я лідэр пакалення і г.д., дарма што сябрую з гэтым Галубовічам. Ён і перад ад'ездам маім, я да яго на паклон хадзіў, прысягаў мне, што ўжо каго-каго, а мяне дык выдасць. Думаю, пры мне жывым ён бы мяне выдаў.

Ну і дзе цяпер пісьменнік Асташонак? Ці быў такі ў прынцыпе? Я, што б ты ні думаў, перакананы, што мая малая проза была лепшая дзесьці гадах у 90-94. І шмат ад каго пра гэта чуў. І па вачах бачыў, што гэта праўда. І чытаў неаднаразова. Двойчы нават, выбачай, што я, як малое (я ж сказаў, што буду зусім адкрыты), мяне побач з Разанавым ставілі: ён у паэзіі, я ў прозе – самыя інтэлектуальныя... Аж сорамна стала, бляха! Памятаю, мне пра гэта Акудовіч прылюдна сказаў: во як. Глупства ўсё гэта, але ж – быў пісьменнік такі Асташонак. Памятаю, сяджу ў бары нашым і раптам чую: нейкі малады літаратар, здаецца сын Марыі Філіповіч, ківаючы на  мяне, кажа сваёй сяброўцы: “Ты ведаеш, хто гэта? Гэта знакаміты пісьменнік Алесь Асташонак”. Мне аж у вушах заняло. Ужо якім-якім, а знакамітым я сябе ніколі не лічыў. Не ведаю, ці радавацца, ці смяяцца, ці вар'яцець.

П...дзец пісьменніку Асташонку. Бо што я буду пнуцца пасля маёй “П'янай кнігі”? (кніга з такой назвай так і не выйшла – *Л.Г.*) Пачытаў бы ты яе карэктуру. Гэта ж не проста кніга. Яна спланаваная, кампазіцыйная, нават у нечым кшталту рамана ў навелах напачатку – “Пясок і попел” (10 з'ядналых паводле тэмы “Знос” апавядаў). Гэта выбранае маё. Не было б у тыя 2-3 гады лепшае кнігі прозы, я гэта ведаю, а ўжо як шырэй, не мне меркаваць. Бо першы, хто мяне ўразіў, гэта Станкевіч (Юры Станкевіч, пісьменнік – *Л.Г.*). Вось гэты лепшы. З пэўнага пункту погляду. Во, бляха, зусім я ажыў! Але ж... Усё роўна помнік у мяне перад вачыма стаіць, як знак усёй маёй... не ведаю, як і сказаць... п...даватай пазначанасці, мечанасці, “из ряда вон выходящей” няўдаласці. Ну ў каго яшчэ такі лёс? Ну скажы мне, у каго? Каб не ў вайну, не пры Сталіне гэтак жыццё чалавека біла? (Пра гэта галоўнае потым). Я цяпер, дарэчы, не назваў бы кнігу “П'янай”. “Лёс”. Проста “лёс”. Бо гэта мой “лёс”. Хоць гэта і па-дзікунску банальна. Карацей, рэч не ў гэтым. П...здзец пісьменніку Асташонку, і гэта так, бо цяпер няма міласэрнасці, і ўсім Марчукам на мяне нас...аць, а нават калі б Марчук і “снизошел бы”, дык час кнігі, як па вялікім рахунку мінаваў: і імя ўжо сплыло, і, галоўнае, кніга напалову – у перабудовачным часе, пра яго, а на гэты час ужо ўсе забыліся, не да гэтага часу цяпер. Што гэты “Пясок і попел” у параўнанні з “Любіць ноч права пацукоў” (кніга Ю.Станкевіча – *Л.Г.*), хоць ёсць і ў мяне выдатныя старонкі. Ну дзе цяпер вялікі пісьменнік Трыфанаў, перад якім у свой час схілялі галаў як перад ідалам? Ён і застаўся вялікім, гэта не “временщик”, але застаўся як фатограф часу. Вось і “Пясок і попел” перадусім – фатаграфія часу, якая прапала праз няўдалы мой лёс, і фрагменты разарванай гэтай фатаграфіі засталіся ў памяці некаторых блізкіх пісьменнікаў і прыхільнікаў, якія, я іх ведаю сам, ёсць. А галоўнае, самому пісьменніку Асташонку не да пісанняў: яму – чалавеку, трэба выжыць душэўна, фізіялагічна і нават пашпартна, што табе, на шчасце, і не снілася. У цябе ёсць, выбачай, будка, прапіска, працоўны стаж і г.д.

Адхіленне. У цябе ёсць душэўная раўнавага. Нават нейкая гармонія. Ты

шчаслівы чалавек. У цябе пазаду некалькі кніжак, а не брашура “Фарбы душы” (назва першай кнігі А.Асташонка – *Л.Г.*), у цябе няма зруйнаваных раскіданых гнёздаў. Ты, пры тваёй надзейнай Веры (жонка Л.Галубовіча – *Л.Г.*), пры тым, што ты застаешся ў якім-ніякім літаратурным асяродку, у беларушчыне, – найшчаслівейшы чалавек. Ты на курорце. На вечным курорце. А тое, што пучок аўса паскуднае жыццё не выдае, дык гэта ўсяго толькі чарга ў курортнай сталоўцы. Выбачай. Гэта жорстка. Я ведаю, як вам жахліва цяжка. Але ў параўнанні з маімі жахамі – гэта можна цярпець. Я і то цярплю. І большае можна выцерпець. Людзі Гулагі выцерпелі. Так што прывітанне Веры. А пакуль што – яшчэ многае потым. Я крыху стаміўся, не хачу, каб словы абясцэньваліся, паглядзеў на гадзіннік: праз некалькі хвілін пачынаецца хакей Украіна – Латвія. Гэта яшчэ тое нямногае, у чым я хоць крыху забываюся. А яшчэ праз паўгадзіны паклічуць за стол. Можа, сёння болей і не сяду за ліст.

А нашыя зас...анцы прайгралі латышам 3:6. А я ўжо думаў пасля хахлоў пра нашых: якая “моць”!

Апошняе, што цяпер: неяк запісаў у дзённіку па-расейску: “Жизнь надсмеялась надо мной”. (Гэта маё).

Настрой у мяне перад хакеем падняўся, але ж гэта ідавочная эйфарыя.

За стол, дзядзька, пакуль яшчэ не клічуць, а хакей хутка надакучыў, тым больш, што вынік быў прадказальны. Хахлы павялі, але нядаўна атрымалі. 1:1. Мне цікавей з табою размаўляць. Стома прайшла.

Дык што ж, дзядзька, здарылася, што апынуўся я, у рэшце рэшт, у Кіеве? Міла чалавек з многімі вартасцямі, але ж ідавочна авантурнага складу, у адрозненне ад мяне (я ў грашовых справах, апрача п’янкі, чалавек асцярожлівы), і самаўпэўнены: яна вельмі добра ўмее кантактаваць з людзьмі, мае да іх падыход, на гэта многія звяртаюць увагу, многія купляюцца, многія ёй робяць у гэтым плане кампліменты, праз гэта кружыцца галава, а побач – знаёмцы, якія робяць і ўжо зрабілі ў наш новы час бізнес-кар’еру. Усё – пастка закрылася. Яна падумала: чым я горшая? І пераблытала ўменне кантактаваць з уменнем весці бізнес-справы. А гэта ж такія дзве вялікія розніцы, як уменне прыгожа гаварыць і ўменне пісаць прозу. Пачалася трагедыя. Першыя гады нашага сумеснага жыцця чым толькі яна ні займалася, дакладней кідалася займацца, каб зарабіць грошы і, што ў дадзеным выпадку не менш важна, “состояться”, пералічваць не буду. Але за выключэннем трох паездак у Польшчу са мною – скрозь адныя фіяска. Адныя нават страты і ўбыткі. А зарабляў я мала, сам разумееш, яе двое дзяцей плюс мая Таня. Нарэшце мне ўсё гэта абрыдла, а жыццё выпадкова, праз яе, дарэчы, падказала мне варыянт: хопіць тузацца – здадзім кватэру на Чычэрына і жыві як раней, не май клопату, жыві гадоў 5-6-7 ды яшчэ і збірай грошы на будучае жыццё ў кватэру, у якую вернемся. Першым разам мы здавалі кватэру на Чычэрына за 300 д. – І994 г. – ого-го! (Другім – з 1995 г. – за 450 д.) Здаецца, што дурням болей трэба? Дык мне і не трэба было больш нічога. Я ўздыхнуў з палёгкаю. А жыць жа я стаў у гэткай самай кватэры-хрушчоўцы, як ты, – Максіма (сын другой жонкі А.Асташонка – *Л.Г.*) ўжо з намі не было. Але ўсё тая ж авантурная жылка падказвала неўтаймаванаму бізнесмену, які так і не спраўдзіўся ў сваіх пражэктах, што з грошай трэба рабіць грошы.

*Позні вечар.*

Крыху больш як прыгубіў. У страўніку надта блага не было, аднак крыху ў горшы бок павяло. Відаць, уліп я, як цяпер модна казаць на слэнзе, канкрэтна з гэтым, спакутаваным нервамі, а найбольш пойлам, а апошнімі гадамі яшчэ і

спарадычным галадаваннем. Закадзіраваўся. Ну яго нах... з такім піццём. Можа й добра?

Украіна – Латвія 1:2 – фантастычна ўпёрліся хахлы, гэта іхняя мяжа. Беларусы, натуральна, прайгравалі шведам 0:4, як закончылася гульня не ведаю, бо надта ўжо хахлы не любяць гаварыць па тэлевізіі пра хакей...

А як шкада, што французы не закінулі амерыканцам яшчэ адну шайбу! Тады б яны расіянаў з Бурэ і астатнімі энхээлаўцамі высадзілі – і дзе, у Санкт-Пецярбурзе! Вой як шкада! Во было б! Расіяне б ашалелі.

Расія б, уся Расія, якая хоць крыху цікавіцца хакеем, ашалела б. Лінч бы ўтварылі над энхээлаўцамі. Бурэ б перастаў быць нацыянальным кумірам. Як бачыш, дзядзька, хакей цікавіць мяне дужа і з палітычнага пункту гледжання. А ўвогуле, Лёня, калі б я не цікавіўся гэткай, як па вялікім для мастака рахунку, лухтою, дык у маіх абставінах ашалеў бы пэўна. Гэта ж самападман, эфемернае напаўненне жыцця. Якое амаль нічым не напоўнена.

А яшчэ я гавару з табою. Я ж амаль не гавару з людзьмі – з Л Ю Д З Ь М І. І ніколі ўжо тры з паловаю гады не гавару з сябрамі. Хоць бы пра што. Хоць пра якасць прэзерватываў. Даруй.

Ды хопіць і праўда пра неістотнае. З вачэй не выходзіць помнік. І, чым больш часу мінае, тым больш дакараю сябе, забываючыся на сястру. Знайсці ўзімку тысячу, а ўвесну не адшукаць паўсотні! І ці было шмат таго майго размандзяйства ў тую пару? Дакладна не памятаю, але затое выразна згадваецца, што колькі разоў прасіў Мілу адшукаць гэты самы палцінник. Толькі пачаўся ўжо час канчатковага развалу. Не было такіх грошай. Памятаю дакладна, што толькі ў адзін перыяд, зматаны продажамі дзвюх ужо кватэр, запіў. А чаму ж ты, бл...дзь, не кінуўся адразу ўшанаваць бацькоў?! Але ж ці быў тым часам, як запіў, гатовы помнік? Не памятаю. Усё, Лёня, хопіць пра помнік. Ён можа звесці мяне, але гэта ўжо мая асабістая справа. Мая віна і мой грэх. Я спаць не магу праз тое – і гэта мне кара.

Вяртаюся да свайго расповеду, да гэтага, так бы мовіць, запавету. Баюся, што ўва мне міжволі, падсвядома, несвядома жыве цяпер пісьменнік. Хачу проста расказваць табе. І адчуваю, што ён крыху жыве. А гэта вельмі блага.

Непрыгожа, некарэктна гаварыць пра жанчыну, з якою жывеш, шмат і тым больш не ўхвальна. Але як тады распавесці адзінаму сябру пра тое, што са мною здарылася? Значыцца, тады нікому не раскажаш? А я хачу, каб ты хоць прыблізна ведаў хоць бы збольшага часціну праўды.

Дарэчы, успомніў пад канец вечара, як называецца гэты працэс пераплаву, згадаў гэтае ўлюбёнае булыкіна (Галіна Булыка, паэтэса – *Л.Г.*) слова – “сублімацыя”.

Дык вось, вяртаемся да апошняга істотнага радка: “...з грошай трэба рабіць грошы”.

У выніку шэрагу бліскуча праведзеных камбінацый, канечне, без майго ведама (ад траўня да верасня таго злога года, 1994-га, калі памёр Уладзік Рубанаў, калі памёр мой бацька, калі я аднойчы ўлетку, ідучы з вядром смецця да кантэйнера ў двары, адсвяткаваўшы бурліва пару месяцаў назад сваё саракагоддзе і трапіўшы ў выніку на 40 дзён у наркалогію (ананімную), калі я выразна адчуў раптам, што жыць у новых сацыяльных варунках не бачу для сябе вялікага сэнсу, што я гатовы праз год-два-тры памерці, толькі б выдаць кнігу і выдаць Таню замуж, калі яна зрабіла свой вырашальна трагічны “бізнес”-крок), у выніку гэтага маленькага фейерверку непрадуманых глупстваў, выкліканных безупынным жаданнем дзейнічаць, ужо ў кастрычніку яна ўлезла ў першыя пазыкі – і немалыя.

*5.05.*

Не буду, вядома, распавядаць пра гэтыя камбінацыі – навошта? Але на адной трэба спыніцца асобна. Бо ж яна хацела як найлепш. Яна любіла старых бацькоў, і зрабіла, пакуль іх не было, рамонт з поўнай заменаю мэблі на бульвары Шаўчэнкі, які значна перавышаў усе нашыя фінансавыя магчымасці. Ну не падумаў як след чалавек, не параіўся са мною, паставіў мяне перад фактам: я ў наркалогіі, а мне раптам паведамляюць пра кіпучы рамонт, тым часам, як незавершана, кінута пачатая дурная камбінацыя. Ну як тут вінаваціць чалавека? Я кажу гэта з двайным сэнсам. Яна ж хацела ўтулку – і бацькам, і нам, у тым ліку і мне. Кахала мяне. Бегала да мяне штодня ў наркалогію. Усе алкашы дзівіліся-слупянелі. І спраўлялася тым часам рабіць эпапейны рамонт.

Але ж калі б я гарэлкі не піў, не трапіў на бальнічны ложак, дык і рамонту таго б не было. Я б не дазволіў. Яна скарысталася маёй доўгай адсутнасцю. Ізноў гарэлка вінаватая. І ўсё-ткі адна дурная безнадзейная камбінацыя была пачатая: з купленага на тысячу д. “Гербалайфа” не быў прададзены аніводны камплект. Алена давілася “Гербалайфам”. Мы ўсе давіліся ім. Міла збіралася яго распаўсюджваць (набыла, пазычыўшы тысячу), а замест гэтага рабіла рамонт, Сыс (Анатоль Сыс, паэт – *Л.Г.)*, прыходзіўшы да нас, называў нас з нейкаю можа нават і злою ўсмешкаю “неўя...ёнымі гербалайфшчыкамі”. Ведаў бы ён, чым абернецца гэты “Гербалайф”! Я дагэтуль ненавіджу гэтае слова. Яна, дарэчы, не сама, вядома, дадумалася да гэтага бл...дскага “Гербалайфа”. Сяброўка, з тых, што кружылі ёй галаву ўхваламі ейнага бізнесменскага таленту, параіла. Я б ёй цяпер валасы павыдзіраў. Яна ёй багата чаго нараіла. Пра “Гербалайф” я, канечне, і пра пазыку на тысячу, з ім звязаную, даведаўся постфактум.

Не, перачытаў апошнія радкоў трыццаць і выршыў – годзе. Ну навошта табе ўсе гэтыя бясконцыя камбінацыі – ты ж ад усяго гэтага дурноцця, дзякаваць Богу, такі далёкі, табе гэта ўсё вар’яцкая фантастыка, – калі нават я цяпер, аналізуючы ўсе гэтыя зігзагі, блытаюся. Абрыдла мне хутка ўсё гэта, адчуў я сябе выматаным дашчэнту і, зароўшы, адстараніўся і сказаў: выблытвайся з гэтага сама. Яна накупіла процьму, безліч ліфчыкаў “Мілавіца” і, як сказала, выблыталася. (Жыццё маё ўжо ў дурдом ператваралася).

Але ж трэба сказаць пра самую вялікую камбінацыю, ракавую, фатальную, трагічную, пагібельную, той самы згаданы на папярэдняй старонцы “бізнес”-крок. Скарыстаўшыся маім знаёмствам са старшынёю аднаго банка, маім аднакурснікам, таварышам па Алжыры, які сам да гэтага тры разы патанаў, але неадменна адраджаўся, бы Фенікс, з попелу, а потым і з банкам гэтым цалкам збанкрутаваўся, застаўшыся вінным процьме ўкладчыкаў і атрымаўшы інфаркт, – але кажуць, зноў адрадзіўся і вядзе нейкую новую справу, – навошта я гэта табе? а пра той вар’яцкі свет, у якім ты, дзякаваць Госпаду Богу, не жывеш і з якім я крыху сутыкнуўся, – дык вось, скарыстаўшыся гэтым м а і м жа знаёмствам, яна ўзяла крэдыт 30 тыс. д., заклаўшы кватэру на Чычэрына пад невысокі працэнт, і дадумалася аддаць гэтыя грошы – я не ўяляю, як іх у рукі можна было ўзяць, я б затрэсся-закалаціўся – у адныя, ты разумееш, у адныя рукі! Але пад высокі працэнт. Рукі тыя былі, вядома ж, чалавека адной з тых сяброўак, праверанага, ейнага зяця. Ты яшчэ не аслупянеў? Прабач. А неўзабаве правераны гэты, назбіраўшы такіх, як яна, дурняў футбольную каманду, знік. Назаўжды. Прыехаў песец. Я пра гэта, вядома, нічога не ўведаў. Усё нармальна, усё цудоўна. Яна жыла са мною болей як паўтары гады з гэткім цяжарам і нават вокам не павяла! Я, як той казаў, “пребывал в полном благодушии”. Яна мяне так шкадавала, каб не трывожыць, не непакоіць. Годзе тлуміць табе глузды.

Крок апошні вырашальны, ужо мой, – але ж і яе на яго адказ. Увосень наступнага года...

Не, чакай. Трэба яшчэ сказаць, што жыццё маё ўступіла ў татальна-рамонтны перыяд: другі рамонт на Шаўчэнкі, рамонт у так званым офісе на Асіпенкі. Ва ўсім гэтым я быў змушаны браць удзел. Жыў сярод плітак і г.д. Акудовіч смяяўся, што ў цябе не жыццё, а перманентны рамонт. Дранько яшчэ раней, задоўга, здзівіўся: "Што яна робіць?" – гэта калі гарэлку ў Польшчу скрынямі вазілі. А ты, як цяпер памятаю, па тэлефоне: "І як вы яшчэ толькі не звар'яцелі пры такім жыцці?" Я гэтыя ўсе словы выразна памятаю – як горкі напамін пра дурдом, у якім я прапісаўся. Колькі я плітак перацягаў, колькі, з маім астэахандрозам, усяго цяжкога наверх уздымаў! Але трэба было трываць, бо махавік хоць і круціўся рамонтны, але мусіў хутка спыніцца, і спыніўся. Яна стала дырэктаркаю ўласнай фірмы. Паліліся грошы, ад выгляду якіх у майго сябра, аднакурсніка зноў, іншага, які стаў яе намеснікам і прыладзіўся да яе шафёрам, вочы на лоб лезлі. Ну а мне тады чаго было турбавацца? Я ж файна жыў. Нічога не ведаў. Пра вар'яцкі крэдыт. Пра працэнты, што растуць. Пра тое, што яе кінулі. Зарабляючы гэтыя грошы, яна разлічвала выблытацца. Але цудаў не бывае. Пачала набліжацца расплата. Нешта тэлефон хатні пачаў разрывацца, усё забегалася наўкол, замітусілася. Жыццё зноў пачало мяне даставаць сваім дурным неспакоем. І, бачачы, што яна ўблыталася, аднак выдатна зарабляе, параіўшыся з мудрым маім сябрам-суседам Анатолем Жуком (Анатоль Жук, пісьменнік, актор – *Л.Г.*), старэйшым ад мяне, селянінам, я прыйшоў да высновы аддаць ёй сваю кватэру з юрыдычнымі гарантыямі на Чычэрына ў выпадку гіпатэтычнага разводу. Жук мяне блаславіў. (Яна засталася яму цяпер вінная тысячу і яшчэ тысячу ягоным сябрам). Ён да самага апошняга часу, слепа верачы ў Мілу, папракаў мяне ў скептыцызме і дакараў, што я панікёр. (Гэта я да таго, што не ўсё так проста, што старэйшы ад мяне разважлівы чалавек гэтак мысліў).

А вось тут ужо я паведамлю факт без каментарыяў.

Я сказаў ёй, што аддаю гэтую кватэру, але пры ўмове: прадаўшы яе, ты закрываеш усе свае праблемы; ці застанешся ты што-небудзь вінная пасля?

Яна адказала, крыху падумаўшы: а, так, лухта, тысячы тры, ты ж ведаеш, што гэта цяпер для мяне.

Я ведаў, што цяпер для яе гэта і праўда лухта. Я не ведаў, што не тры, а трыццаць плюс невядома якія працэнты. Плюс безліч невядома якіх пазык. Я ж атрымаў юрыдычныя гарантыі. Але на безнадзейна закладзенай кватэры. Не ведаючы праўды, я ўсунуў самаруч галаву ў пятлю. Яна ж, мала не праслязіўшыся, сказала: "Я буду тебе благодарна за это по гроб жизни". (Цяпер ты разумееш, чаму я магу ў Кіеве не атрымліваць анічога ад жніўня мінулага года і не чуць ніякіх папрокаў. Нядаўна яна шчыра сказала мне, што гатовая "содержать меня", толькі б я яе не дакараў).

Цяпер ты разумееш, чаму я табе напісаў, што тваім надпісам на кнізе ты мяне скасіў напавал? "...ды сяброўцы яго й павадыру жыцця..." Куды ж мяне завёў павадыр? Ці ў цябе, даруй, гумар такі?

Я проста скамячыў папярэднія 2,5 старонкі, бо не ведаю, як табе чытаць, а мне дык расказваць ужо пра гэта надакучыла. Але ты прачытай уважліва, нездарма ж я столькі часу ды энергіі аддаю цяпер, каб табе хоць нешта растлумачыць, каб ты збольшага зразумеў, што ж на самай справе са мною здарылася, а то я табе ў Менску нешта крыху расказваў, а ты потым, не памятаю ўжо калі, як выдаў сваю інтэрпрэтацыю сітуацыі, дык мне аж млосна зрабілася.

Міла – чалавек адназначна добры. Але з пэўнымі знакамі, якія ў дадзеным, яе і маім, бацькоў яе і дзяцей, і тых людзей, якім яна назаўжды засталася вінная, зрабілі сваю благую справу. Мая сустрэча з ёю – страшная, вырашальная трагедыя ўсяго майго жыцця. Як сам разумееш, ніводная сцыкуха, афіцыянтка ці калгасніца не прынесла б мне столькі гора, пакутаў, бедаў. Я ўпэўнены, што жыццё маё

ўжо скарацілася чорт ведае на колькі гадоў – і на колькі ж яшчэ скароціцца! Па ім бы праехаў бульдозер, усё змятаючы на сваім шляху. Я ніколі не дарую ёй гэтага. Да канца. Бо часткова ўжо, сам разумееш, раз жывём разам, дараваў. Бо ж яна хацела як найлепш. Бо яна пакарала перадусім самую сябе. Бо яна нічога не выйграла, а займела толькі жудасныя страты. Тры кватэры – 60 тыс. Плюс маёмасць. Плюс... Ды якая маёмасць! Жыццё п... накрылася! І яе, і маё. Пра Алену я ўжо казаў. Максім, развёўшыся, ажаніўся з дзяўчынаю з Мядзеля і жыве там цяпер у яе, зарабляе лоўляю вугроў – ён выбітны, з дзяцінства, дзякуючы бацьку, рыбалоў. Бацькі яе апынуліся ў доме састарэлых пад Браславам. Пазалетась у снежні памерла маці. На пахаванне Міла, вядома, паехаць не змагла. Памрэ ж і бацька... Ён, дарэчы, ужо двойчы, не, тройчы сюды прыязджаў. У 85 гадоў.

Летась увосень забілі, па п’яні, майго любімага дзядзьку. Увесну тую памерла бабуля ў 96 гадоў, якая ўзгадавала мяне і, паколькі ўсе вакацыі і выхадныя я бавіў у яе, яна была мне другой маці. Мне выць хацелася...

Я камячу старонкі, прыспешваюся. Сам разумееш – балюча пра ўсё гэта пісаць. Я, праўда, думаю пра ўсё гэта штодня. Штоночы, прачынаючыся. Гадзінамі, да ачмурэння. 3,5 гады мінула, а я нічога не магу з сабою зрабіць. А калі сустракаюся з камп’ютаршчыкам ці з якім Каплічным (а больш цяпер і няма нікога) – дык не. Таму час ад часу мне, дзеля перадыху, проста неабходна з імі сустракацца. Але вось як толькі, калі ў страўніку палыхае – не ведаю. Пакуль не хачу. А потым – “побачимо”. Буду спярша рабіць УЗІ.

Чаму я прыехаў сюды, а не застаўся ў Менску? Цяпер, заднім днём, кажу цвёрда: нізавошта б не паехаў, як бы там дрэнна ў вас (в а с) ні было. Там у мяне заставаўся хоць нейкі шанц выжыць і жыць, наладзіць жыццё, а не існаванне. Хоць трэба быць справядлівым: пры пэўных адрозных рысах тутэйшай і тамтэйшай рэчаіснасцяў, жыву я ў некаторых адносінах тут, а там якраз існаваў бы). Мікола Капыловіч, няхай зямля яму будзе пухам, прапаноўваў мне бясплатна пажыць у ягонай маладзечанскай кватэры (мы з ім сустракаліся выпадкова час ад часу і выпівалі, і, даруй наіўнага, ён неяк сказаў мне: “А ты на Мішу (Міхась Стральцоў, пісьменнік – *Л.Г.*) падобны” (разумееш, на якога Мішу) – і мне гэта дужа было прыемна, хоць я і ведаю, што на “Мішу” я мала ў чым падобны). Галоўнае ў жыцці – праца і грошы, якія ты ёй зарабляеш. Дык вось: у мяне на Беларусі (на Беларусі, не ў Менску) вялікія сувязі ў тэатральным свеце і немалы аўтарытэт. Прынамсі 5 тэатраў пастаянна давалі мне пераклады, а ў той сітуацыі я мог бы і ў ногі кінуцца. Выдавецтва прыватнае, у якім галоўным рэдактарам працуе Валодзя Марук. Я для яго пераклаў энцыклапедыю “История музыки” – і яны былі задаволеныя, зноў звярталіся да мяне з прапановамі. Але ж, “мы задним умом крепки”. Я адмежаваўся б ад яе пазык. А так – я поплеч. Ты разумееш, што мне можна інкрымінаваць і ў чалавечым, і ў судовым нават сэнсе? Людзі, якія мяне паважалі, любілі і якім яна засталася вінная – што яны цяпер думаюць і пра мяне?.. Калі б мець сённяшняе маё разуменне і волю, якая ўсё-такі тут крыху загартавалася, дык, застаўшыся, ацалеў бы і наладзіўся. А як на той час? Можа, я спіўся б ужо з Сысом дашчэнту. Някляеў (Уладзімір Някляеў, паэт – *Л.Г.*) апошняй маёй менскай вясною казаў мне за чаркаю, слухаючы кароткі мой расповед: “Ах...ець можна, Сашка, ад твайго жыцця... ах... ець...” Ён Сашкам мяне не так ужо і часта называў (Сашкам, а не Сашам), гэта калі зусім па-добраму ставіўся. (Нешта запала мне гэта ў памяць). Вось і мог бы я тады па-сапраўднаму ах...ець. Як пачалі прадаваць трэцюю, апошнюю, кватэру – раптоўна, мне абухом па галаве, як да мяне ўсё дайшло, што яна тады няпраўду мне сказала, што лох я апошні, як пачалі выносіць на маіх вачах з хаты “Панасонік” тэлевізар, “Панасонік” радыётэлефон, “Соні” відэапрыстаўку (замест пазык – грошай жа ўжо зусім не было), як пачалі ўначы гадзінамі ў

дзверы званіць – гадзінамі! – а трэцяй ночы! – як пачаў я выходзіць уранку на вуліцу па хлеб ці газеты, а на мяне налятаюць на лесвічнай пляцоўцы: “Когда ваша жена отдаст мне семь тысяч?”, як прыходзіў дамоў, а па хаце прыяцель-аднакурснік, якому яна вінная (праўда, яму яна была вінная толькі нейкія працэнты – ён ненармальны быў), з манціроўкаю бегае і крычыць: “Убью! В озере утоплю!” – дык, браце... ды хопіць ужо. Я з Ладуценкам (доктар паліклінікі СБП – *Л.Г.*) кансультаваўся, мы тады з ім пэўны час як бы сябравалі, дык ён мне сказаў, што тое, што мне ўначы званкі ў дзверы мрояцца, калі іх насамрэч няма, гэта нармальная справа, звычайная дакладней, бо мяне ўжо проста дасталі званкамі сапраўднымі, гэта ў неўралогіі ці там псіхіятрыі называецца і л ю з і я м і, што трэба мне перавесці дух, каб не пачаліся сапраўдныя галюцынацыі, і, ведаючы ўсё ад мяне збольшага, дапамагаў мне, даведку выдаў, што ў яе цяжэйшай формы неўроз, кажучы мне, што так яно насамрэч і ёсць, ён гэтую даведку для следчага выдаў, да якога я цягаўся замест яе, хворай, – я на яго моўчкі так гляджу, маўляў, не баіцеся, гэтую даведку выпісваючы, са следчымі справу мець, а ён мне, ні слова не пачуўшы, кажа, што паражэнне нервовай сістэмы настолькі відавочнае, што і гаварыць няма тут пра што... Дык вось, гэта ён мне сказаў, калі я вагаўся: нельга чалавека пакідаць у такой бядзе, трэба з’язджаць з ёю... Карацей, я ведаю, што тады я нічога не ведаў. У мяне галава кругам ішла. А якія ў яе пазыкі заставаліся! Былі й такія людзі, што наскоквалі на мяне. Мне маглі б нават (ну хоць адзін з іх) і мазгаўню адбіць. Дзе гарантыя, што ў тым стане, у тых варунках я ацалеў бы? Можа, ёсць адваротная гарантыя – з маёй псіхікай, з маёй схільнасцю да таварыша стакана? Хутчэй за ўсё, так яно і ёсць, так яно і было б. Каб выжыць у тых абставінах, трэба было быць ну зусім іншым чалавекам. (Дый то не кожны, далёка не кожны моцны чалавек мог бы ў іх выжыць). Зусім іншым чалавекам, якім, збольшага, мог бы я быць цяпер. Але ж гэты самы іншы чалавек у такую сітуацыю, як я, і не патрапіў бы. Ніколі. Замкнёнае кола, дзядзька. І яшчэ адзін момант, надзвычай істотны: жанчына для жыцця. Яна мне была ці была б тым часам неабходная. Паспрабуй распазнай яго – жаночае стварэнне. Як гэта ў Шэкспіра: “Мириться лучше со знакомым злом, чем бегством к незнакомому стремиться”. Хоць страшэнна хацелася тады ўсё, ну ўсё памяняць.

Словам, паехаў я ў Кіеў, нічога не ўлічваючы (амаль), нічога фактычна не аналізуючы – уцёк перавесці дух і агледзецца. Меркаваў, наіўны, у снежні пад’ехаць у Менск – атрымаць ганарар пад 100 д. за пераклад п’есы Уільяма Гібсана для Маладзечна. А тут тэлефаную Арлову, а ён: табе ў Менску мільгацець нельга і ўсё ў двух словах зашыфравана распавёў, нібыта ў пракуратуры нейкія паперы па гэтай яе справе з маім подпісам (гэта ён ад Някляева, а той ад нейкага Мачульскага (Уладзіслаў Мачульскі, юрыст, цяпер дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» – *Л.Г.*) ці як яго там уведаў) – сапраўды ж ах...ець можна! Я – якія подпісы, Бог з вамі! Пастка зачынілася. Паехаўшы з ёю, я, так бы мовіць, заручыўся. І яна заручылася.

(Дарэчы, тыя 100 д., вядома, накрыліся – і навошта я перакладаў 125 старонак ангельскага тэксту? Як накрыліся працэнты, адлічэнні ад 5 спектакляў, што ішлі тым часам і мо дагэтуль ідуць у 3 тэатрах паводле маіх перакладаў. Як накрылася і маё найрадзейшае супрацоўніцтва з маладзечанскім тэатрам – я ж пераклаў ім запар 4(!) п’есы – у Міністэрстве культуры адно плячыма паціскалі, што ж гэта за любоў такая ў рэжысёра да перакладчыка – дарэчы, мяне сасватаў тамтэйшаму галоўнаму рэжысёру Някляеў як добрага, замест сябе, перакладчыка – і я ж мог бы ў Маладзечне не толькі ў капыловічаўскай кватэрцы пажыць, але і працаваў бы ў тэатры там загадчыкам літчасткі. Мог бы... мог бы... мог бы...).

Мне вяртацца нельга і з-за сябе, і з-за яе: я ж адразу быў бы змушаны закласці

яе. Не пасадзілі б у КПЗ, дык на вуліцы маглі б па галаўні надаваць, каб сказаў, што, як і куды... Я, бывае, гэтак шалею тут праз адзіноту сваю татальную, ад безвыходнасці, ад жыцця без будучага, што кажу ёй: пайду ў беларускае пасольства здавацца – у мяне ж тэрмін пашпарту закончыўся, як і ў Мілы, 1.06.99. А куды, дарэчы, здавацца? З нармальнай дзяржавы Украіны ў брыгадзіраўскую нэаАлбанію?! У Беларусь-Расею? Сорам. Ганьба. Прыйшоў бы. Прысунуўся. І што?.. Ты хто?.. Адкуль? Чаму? Як? А дзе? Дык куды мне ісці? Мне і тут нельга, і туды нельга. Мне ў якую Новую Зеландыю трэба, каб як мага спакайней – вуліцы падмятаць.

Можа, на той свет мне можна? Дык і туды не выпадае. Нават сваёй смерцю нельга, а ўжо самаруч!.. Не дай Бог – яе ж могуць дэпартаваць. Хоць, зрэшты, не, проста былі б у яе, здаецца мне, вялікія складанасці: ну надта ўжо шануюць тут наверсе брыгадзіра. Скажы адно якому палкоўніку міліцыі альбо супрацоўніку адміністрацыі прэзідэнта: “Лукашэнка” – і адразу з усмешкаю “понимающе” ківаюць галавою.

(Тут Беларусь у СМІ падаюць як пудзіла. Пра Беларусь расказваюць хіба што радзей за якую Расею ці Штаты. Краіна нумар 3 у свеце для Украіны – жахлівы прыклад таго, як нельга. Дзеці, як прыязджаюць на тыдзень-другі, чытаюць газеты, глядзяць тэлевізію, дык адно дзівяцца: колькі ж тут расказваюць і паказваюць таго, пра што мы там і паняцця не маем, – і аператыўна, адразу ж. У свеце для “середнепересічного” ўкраінца ёсць тры галоўных палітыкі: Клінтан, Пуцін – і Лукашэнка. Усе астатнія – далёка пазаду).

Вяртаюся да нас саміх. Мы ж ужо хутка год як з’яўляемся абсалютнымі нелегаламі. Скутыя мы адным ланцугом. Хоць, урэшце, калі б я быў супермэнам, цынікам, думаў адно пра сябе, пляваў на яе і г.д., дык мог бы і паперціся ў беларускае пасольства. А што, што ж там, на Беларусі, паўтараюся?! Ты ж сам пішаш, што там у вас. Дзеці, як сюды прыязджаюць, дык кажуць, што адчуваюць тут сябе як за сапраўднаю мяжою. Таня прысягае, што калі б мела магчымасць сталага тут добрага працаўладкавання, дык не задумваючыся адразу ж пераехала б – і не з-за мяне, вядома. Яна і падумвала пра гэта ўсур’ёз у 97 годзе, як упершыню тут пабывала. А час ідзе – і кантраст павялічваецца.

Словам, дзядзька, калі я пра гэтыя праблемы думаю, дык у мяне дагэтуль галава крыху кругам ідзе. Я, зноў жа, ведаю, што я нічога не ведаю. Мне тут хоць бы на працу ўладкавацца больш-менш сталую. І гэта ўмомант змяніла б істотна мой светапогляд. Але як? У мяне ж ні пашпарту, ні працоўнай кніжкі, – толькі рабочым у пункт прыёму шклатары, па блату, на 45 д. – гэта можна. Выдавецтва маё на ладан дыхае, другое збанкрутавалася, і сам выдавец пазбавіўся за выдавецкія пазыкі кватэры ў 45 гадоў, два часопісы, у якіх я працаваў, збанкрутаваліся, – вось там працоўнай кніжкі ды пашпарту не пыталіся. Я і прадаўцом на базары працаваў, і грузчыкам у гастраноме, і сакратаром у прахадзімца-француза (гэта на самым пачатку, атрымаў за месяц 300 д. плюс пацягаўся па рэстарацыях для іншаземцаў, паеў лягушак...). Калі я кажу на працу ўладкавацца, дык маю на ўвазе працу літаратурнага рэдактара ў газеце. Я чытаў з ручкаю газеты, чарніў, рабіў дасье, і мой узровень ацэньвалі, і ўзялі б – аднак: дзіўны статус, і... і... і... УЗРОСТ! 46 гадоў. Я ўжо стары! Пажадана да 35! Да таго ж я камп’ютарам не валодаю. Гэта я табе ўсё схематычна, згэмтана падаю. Дый адзетым трэба быць і абутым прыстойна: тут у газетах, у якія ёсць сэнс уладкавацца, добра плацяць, і, адпаведна, там па адзёжцы сустракаюць. А я ўжо абнасіўся. Праўда, нядаўна Міла купіла мне туфлі д. за 30 дый сякі-такі прыкід у сэкэнд-хэндзе неблагі, дык лягчэй дыхаць стала. На нешта яшчэ спадзяюся. Вось закончу да верасня свой апошні маразматычны раман на 500 старонак без косак, ад якога глузды заварочваюцца, – і буду аглядацца. Можа, новы дадуць. Вазьму. А куды ж дзецца? А перакладаю я, дзядзька, усе гэтыя раманы з адным ледзь жывым – ён

у мяне з 80-га года – рваным-перарваным французска-рускім слоўнікам, у якім ужо і словы цяжка шукаць. Новы каштуе д. 15. А ўсё, што трэба, ва Ўруччы ляжыць. У гаражы спачывае. Можа, ужо спачыла. У Менску я, вядома, гэткіх праблем з працаю не меў бы, са сваімі дзвюма мовамі і сувязямі ў тэатры. Весела, дзядзька, жыву. Можа, ты, пачытаўшы, крыху з палёгкаю ўздыхнеш: усё-такі ты, мяркую, як у параўнанні са мною, у Майямі жывеш. Хоць часам, пэўна, я лепш за цябе ем і Менск у параўнанні з Кіевам – гэта Міргарад з лужынаю пасярэдзіне. Тут адзін Днепр усяго Менска варты, а як па мне, дык і трох Менскаў.

Браце, а я ж страціў яшчэ і асяродак, людзей свайго кола, з якімі можна кантактаваць, актораў, мастакоў, і тэатры (мяне ў любы з радасцю без квітка пускалі), перыёдыку, беларушчыну і г.д. і г.д. Я ўсё, Лёня, страціў! Маю: чужыя сцены, машынку, тэлевізар з 15 праграмамі – і налівайкі. Калі пакліча камп'ютаршчык. Шырокае поле жыцця!

Міла хадзіла ў адміністрацыю прэзідэнта з заяваю, адрасавалі ў міліцыю, і там, і там добра паставіліся – дужа ўжо тут наверсе брыгадзіра любяць. Але, каб атрымаць украінскае грамадзянства, трэба купіць хоць нейкае жытло і прапісацца у ім. (Праўда, яны збіраюцца адмяніць прапіску). Але гэта ўжо пытанне заўтрашняга, не, паслязаўтрашняга дня – жытло, прапіска... А за гэтым стаіць жа яшчэ вялікае мажлівае поле праблем, ты сам мусіш разумець якіх. А жыву я даўно ужо, прынамсі паўгода, сама болей на паўгода наперад. І, пры такім жыцці, ведаючы, што ніколі не будзе ніякай пенсіі, ніякай сацыяльнай абароны, даруй Божа, малю пражыць сама болей, пры самым лепшым раскладзе, гадоў да 55 (памёр у 50 гадоў – *Л.Г.*). (А ты мусіш зразумець, што такое жыць, ведаючы, што больш як 55 нельга. Пры маёй прыродзе доўгажыхара. Я ж, пакуль страўнік не хапанула, гарэлкаю спадзяваўся свой век скараціць. Я, жыццялюб. Ты разумееш? Чуў калі такое? Я чуў. Мала, але чуў. Я ж, у прынцыпе, здаровы, што бык) – (гэта напісана на палях ад рукі – *Л.Г.*). Але гэта здаецца мне вялікаю фантастыкаю. Не, болей пра гэта не буду, бо істотна змяніўся настрой. Хацеў напісаць табе, Лёня, пачынаючы старонкі з шостай мабыць, грунтоўны падрабязны ліст, нашмат спакайнейшы за гэты, больш разважлівы, тое, што я і меўся лічыць тым самым "запаветам". Але са старонкі 18-й як панесла. З розных прычын. І балюча вярэдзіць раны, і стома, і сябе шкада, і цябе. Але, але, цябе. Ну навошта табе ўсё гэта ў гэткіх памерах? Табе і свайго хапае. Так што, сапраўдны "запавет" не атрымаўся. А нешта накшталт яго. Без асаблівых разваг пра смерць і зусім – што істотна – без разваг пра самазыход – змушаны, а не жаданы, падкрэсліваю, – бо няма на гэта ўжо ні сілы, ні настрою, ні натуральнасці.

Неяк, пішучы табе ліст, крыху акрыяў. Трэба ж жыць, дзядзька, трэба ж спрабаваць неяк жыць, выжываць хоць бы старацца. Замітусіўся я неяк, пачынаючы з 18-й старонкі – прабач. І, дый раней таксама, упершыню ў жыцці нешта пішучы, ігнараваў знакі прыпынку. І за лаянку прабач, асабліва на пачатку. Гэта мне не ўласціва. Прынамсі на паперы. Аднак размаўляў я з табою, а не ліст пісаў. І, можа, гэта добра. І, ведаеш, прыйшла нейкая палёгка. Хоць, вядома, часовая яна. Помнік у мяне яшчэ доўга перад вачыма стаяць будзе. Ён мяне звесці можа, як Акакія Акакіевіча шынэль. Не кажучы ўжо пра ўсё астатняе. Але пакуль што, дзякуючы табе, крыху адпусціла. Хоць не ведаю, як і ўсадзіў сябе за стол.

Але не усё ж сказаў.

Пра маё гіпатэтычнае вяртанне. Часта, амаль заўсёды здаецца, што я з-за аднаго Глёбуса (Адам Глобус, пісьменік – *Л.Г.*) не вярнуўся б. Пісьменнік ён, вядома, за маім часам быў неблагі і як чалавек да мяне ставіўся няблага, і я да яго, але ж уся гэтая камерцыя, дый яшчэ на маім фоне, усе гэтыя эпатажныя паводзіны ў друку! Мне Арлоў раіў выпісаць "НН". Я, можа, яе і ў Менску не чытаў бы. Мне

ад адных толькі няспынных, на кожным кроку згадак пра генія і рэвалюцыянера ванітаваць хочацца. І Дубаўца (Сяргей Дубавец, пісьменнік – *Л.Г.*) шкада. Што за... людства сабралася вакол яго!.. Дык вось: каб мяне розныя “преуспевающие” Глёбусы шкадавалі? Не, лепш ужо тут я буду для ўсіх іх нябачным. А такіх Глёбусаў, самага рознага кшталту, і добрых, і благіх, ведаеш колькі ў мяне? Што зробіш, дзядзька, калі жыццё так склалася...

А колькіх людзей у Менску па-засветам літаратуры і мастацтва хацеў бы я пабачыць хоць раз, самых простых людзей!

Ты кажаш, што хацелі б прыехаць Барыс, Віктар, Андрэй (Пятровіч, Шніп, Федарэнка – *Л.Г.*). Я быў бы рады. Але што мне сустрэча з імі ў параўнанні з табою? Кажаш, да абеду непад’ёмны. Ці ты проста з Мілаю сустракацца не хочаш? Я быў бы шчаслівы перадусім цябе бачыць. Мы запрасілі б і Веру з Ксюшаю (дачка Л.Галубовіча – *Л.Г.*), аплаціўшы і дарогу, і ўсё такое, – трэба ж мне хоць калі зрабіць малой нейкі падарунак (сустрэча з Кіевам на Дняпры, на “холмах”, з усімі незлічонымі купаламі залачонымі на гэтых пагорках, з вялікім д а г л е д ж а н ы м заапаркам была б ёй казкаю), але пакуль што, на жаль, мы на гэта няздатныя матэрыяльна. Што ў цябе за стан, Лёня? Можа, прыедзеш усё-такі? Ці ўжо, як не, напішы хоць, што адбываецца. Я дык істотна састарэў. З твару дык не асабліва, а вось ссівеў дашчэнту, і валасы на патыліцы яшчэ болей зрадзелі, другая, ніжняя, мяжа лысіны пазначылася добра. Ніякі прыкід не ўратоўвае, дужа не маладзіць.

Нешта падабрэў я, Лёня, пагаварыўшы з табою.

Часам гляджу на Мілу – і, здаецца, спапяліў бы адным толькі позіркам: гэта ж хто даў чалавеку права гэтак распараджацца чужым жыццём, як сваім уласным? Бо ж яна, як сказала б мне тады праўду, што не тры, а трыццаць плюс, то ўсё ў мяне даўно ўжо было б інакш...

А часам гляджу – і шкада небараку. Б’ецца ж, як рыба аб лёд. Круціцца, што ўюн на патэльні. Таму я амаль увесь час і адзін. Цяпер яна ўжо на бізнесовыя справы, як на кашмар, забылася, працуе чыстым выканаўцам, “исполнителем”, вядучы спецыяліст фірмы. Спакайней так. І лепей. Чаму ж, думаю, ты да гэтага маклерства з тваімі таленту (так у рукапісе! – *Л. Г.*) ў Менску не прыйшла? (Ты ведаеш, як “преуспел” на гэтай дзялянцы Уладзімір Клімовіч: яшчэ за маім часам, не маючы нічога, малады хлопец кватэру сабе купіў і літарацкую прэмію заснаваў, – гэта бізнес цяжкі, але сумленны). Мы ж... яна ж за адну толькі кватэру 115 д. штомесяц плаціць. І ведае, што да Новага Года я нічога не атрымаю. На нешта спадзяецца... Гасподзь з ёю...

Лёня, дарагі, ты, вядома, разумееш, што ўвесь гэты ліст дужа інтымны, не для паказу, табе аднаму. А калі што збярэшся распавесці каму, дык гэта на твой розум. Люблю. Абдымаю. З нецярпеннем чакаю тваіх лістоў.

Падумаў быў, Лёня, што які-ніякі, а ліст напісаў, пахадзіў трохі, супакоіўся, згадаў, чаго не сказаў. Не сказаў, у якіх халупах я тут жыў. Першая была нармальная, толькі пустая... Ды не, не магу. Я напісаў бы спярша пра сваё, пра пераезды яшчэ, якіх зрабіў у Кіеве пяць, а ў Менску за апошнія два гады можа дзесяць туды-назад (вар’ятня), толькі ж не гэта мяне цяпер за стол усадзіла...

Чаму так асабліва пра пераезды: надта ўжо бацька мяне шкадаваў за тыя шматлікія, што я здзейсніў з Ларысаю, не ведаў, небарака, што паперадзе ў мяне нашмат больш пераездаў. (Патрапляю ўсё ж такі пра сваё сказаць!)

Толькі сабраўся я сесці за стол, каб напісаць пра тыя халупы з чорна-белымі “панасонікамі” трыццацігадовай даўнасці, як пачуў званок у дзверы... Стаіць малое. Бачу – калека. Дапамогі просіць. “Допомоги”. Тут у Кіеве ў гэтым плане машэннік на машэнніку, а гэты дык адразу відаць – такое няшчаснае, што камар носу не падточыць. Разгубіўся я, бо ж грошай дома без Мілы “не мае”, а потым запрасіў у

хату. Давай паабедай. Будзеш? “Істи хочу”. Даў яму макароны па-флоцку, гарбаты і назбіраў сорак шэсць капеек. Дагэтуль злуюся, што забыўся на тры капейкі, што паклаў на развод. Ведаеш, Лёня, друкую цяпер – і слёзы вочы засцяць. А маць яго ...б, выбачай, з такім жыццём!.. Заплакаў я толькі што вось. Памятаеш, Лёня, як ты з прыемнай злосцю казаў, што будуць яшчэ па Менску на грузавіках ездзіць ды камунякаў, бы псоў якіх, у іх загружваць? Ненавідзеў і я камуністаў, і цяпер яны мяне раздражняюць, але ж – ці маглі мы ўявіць такое?

Сімпатычны такі хлопчык. Сашко. Чатырнаццаць гадоў, кажа, а з выгляду сама болей дзесяць. Маленечкі, худзенечкі, вочы вялізныя, віхор. Выхаваны, прыстойны. Ходзіць у школу, а пасля школы з-пад Кіева ездзіць у горад “по допомогу”. Калекам – ногі вывернутыя – стаў дзякуючы савецкім дактарам, як нараджаўся. Аперацыю нельга было зрабіць, бо запазніліся і можна было нерв закрануць, паралізавала б. Двое малодшых, бацькі няма, а маці ў “лікарні”. Упала, спіну разбіла, стаўпур, паклалі на тры месяцы на днях. А самі яны ўвогуле з Малдовы, ён па маці малдаванін, па бацьку ўкраінец. Іх затапіла, там жа, у Малдове, у Прыкарпацці і Закарпацці вечныя паводкі, я тут наслухаўся. Усёй вёсцы кампенсацыю абяцалі і нікому, вядома, не далі. Вёска раз’ехалася хто куды. У іх тут далёкая радня пад Кіевам, жывуць, дзякаваць Богу, бясплатна ў хацінцы. Ён амаль кожнага дня ездзіць, да маці яшчэ ў бальніцу, дзе амаль не кормяць, прадукты, што назбірае, носіць. А з яго яшчэ ў аўтобусах шафёры, не ўсе, вядома, бывае і 75 капеек бяруць.

Даў яму на дарогу новы, большы і крапчэйшы за ягоны, мяшок і малакранутую велікодную булку, дай табе Бог шчасця сказаў. “Спасибі”.

Во гэта, браце, лёс!

Я сабе месца не знаходзіў, пакуль за машынку не сеў, а Таня сядзіць і ў вакно паглядае – хоць і ёй у жыцці не дужа соладка, у тым ліку і дзякуючы тату – мала не плача...

*7.05.*

Учора нічога табе не пісаў, бо... Раскажу, як прабавіў дзень. Зранку выправіўся ў Французскі культурны цэнтр – здаваць кнігу, “Смерць у крэдыт” Сэліна, і ўзяў новую – філасофскія рэчы Камю. Усяго дазваляецца браць на месяц 2 кнігі. Адна ў мяне на руках да жніўня – раман, які я перакладаю.

З кнігамі ў мяне асаблівая справа. Іх амаль няма. Купляць не купляю, сам разумееш чаму. За 3,5 гады купілі: 1) 4 тамы Токаравай (усяго іх за 10), 2) 3-томнік “Великие мысли великих людей”, 3) “Кремлевские дети” і “Кремлевские жены” – Міла купіла, яна ж, дарэчы, і Токараву, 4) “Мертвыя души” (так у рукапісе! – *Л.Г.*), выбранае Блока з БВЛ, раман польскі пра Апалінэра; П’ецуха “Я и прочее”, Катаева том (5 кароткіх раманаў), “Манхэтэн трансфэр” Дос Пасаса, Аляксандра Ніліна “На футболе” з успамінамі пра Стральцова і Вароніна – апошнія 4 кнігі па сімвалічнай цане, у “Букіністе” (50 кап.), 2-томнік Булгакава. Вось, бадай, і ўсё. Маю намер купіць 4 тамы з 5 П а с т а р н а к а за 20 грыўняў (3,5 д.) і мару купіць, я табе ўжо, здаецца, пісаў, Пелевіна. Вось, здаецца, і ўсё. А, яшчэ том Ніцшэ з “Так казаў Заратустра”. Аб тым, каб прачытаць сёмухаў пераклад, і марыць не магу – гараж.

Вельмі часта проста забіваю час – чытаць няма чаго – і гляджу бясконца тэлевізар. Я ад навінаў па УТ-2, УТ-3, СТБ, ТЭТ, НК, РТР (6 – !) чарнею, аднак то гляджу, то слухаю. Па астатніх каналах навіны нявартыя, а то і тыя глядзеў бы. (Гэта калі няма працы, вядома).

Летась прывезлі мне ад тых расейцаў збор Чэхава, дык я яго 3 разы запар перачытаў. Замовіў тады ж Валянціну сваіх “Уліса” расейскага і нашага, двухтомнік Бродскага, вялізнае “Избранное” Хлебнікава і двухтомнік Ніцшэ.

Хлебнікава ўвогуле амаль чытаць не змог. Хацеў быў здаць у "Букініст" – 2 грыўны (!!! – 200 г. гарэлкі ў налівайцы). "Уліс" таксама чытаць не магу. Здаць: таксама 2 гр.! Дарэчы, назіранне: я параўноўваў рас. і бел. пераклады – амаль татальнае супадзенне (?!).

Цяпер прывезлі 22 тамы Талстога, 6 т. з 10 Дастаеўскага і 4-томнік Грына. Адвяду дух.

У Французскім цэнтры пастаянная вялікая культурная праграма: (часта бясплатныя – і неблагія, а то і выдатныя), спектаклі, лекцыі, канцэрты, штотыдня 2 разы кіно. Але я гэтым карыстаўся вельмі слаба: слабы я, відаць, чалавек – то праца, то грошай няма (на праезд), то настрою, то не ў форме, то абутак бязладны... Калі б хадзіў штотыдня на фільмы, то мову ўжо дужа палепшыў бы. Пакуль што вырашыў ад наступнага тыдня хадзіць пастаянна, нават на лекцыі філасофскія! Наступная – пра міф аб Эдзіпе.

Пасля цэнтра ўсе разам (я з Мілаю, Таня з сябрам (ён быў шаферам на вяселлі ў Алены), Алена з мужам – Таня і Алена лепшыя сяброўкі: гады ўжо 2) паехалі ў Цэнтр сучаснага мастацтва...

Водступ.

І, вось так, забіваючы час за скрыняю і ходзячы па кватэры, як часта думаю: я ж спальваю, знішчаю сваё жыццё дзень пры дні, разумеючы гэта, – выходзіць так, што зусім не даражу ім... (А то, бывае, асабліва раней, папруся ў чытальную залу, чытаю газеты – "Факты", "КП", "Известия" – гэта ў мяне выхад у свет. Яшчэ езджу (побач з Французскім цэнтрам) у чытальную залу Фізкультурнага ўн-та (раз на месяц) – чытаю "Команду", "Спорт-экспресс", "Советский спорт".

Жыццё маё, дзядзька, рэзка раздзялілася на 2 паловы з часцінкаю: да 40 гадоў – жыццё, 40-42 – нейкі напаўвар'яцкі пераходны перыяд, ад 42 – ужо ведаеш... Я штучна састарэў: думаю, што ў нармальных варунках, нават у брыгадзірскіх, яшчэ жыў бы сама меней гадоў пяць... А так я ўжо пераў паўсмерці, так што ўсяго іх мне выпадзе паўтары... (Забыўся, калі з кабетаю меў справу – гэта я, – а гэта знак). – (запісана ад рукі – *Л.Г.*).

Можна справядліва запытацца: што ж не пішаш?.. Шастаковіч сказаў, што пісаць можна і ў сабачай будцы, калі ёсць пра што. Мне ёсць пра што, багата ёсць, сам мусіш разумець – такое пераўжыць. Ды нешта... Не ведаю як – у сэнсе літаратурным. Што ні пачынаў – усё лухта па форме. (І яшчэ дужа ціснe на мяне нявыхад маёй кнігі). – (дапісана ад рукі– *Л.Г.*).

Дзіўляюся, як я накрэмзаў той "Анабазіс". А той "Аповед", што вы надрукавалі праз год пасля майго ад'езду, я напісаў стоячы за машынкаю на непадключанай электрапліце ў пустой кватэры. Гэтаксама пераклаў і 10 навел Віяна – нейкі імпэт быў.

Дык вось. Паехалі ў Цэнтр сучаснага мастацтва пры Кіева-Магілянскай акадэміі (самы стары ўн-т Кіева, а мо і Украіны) на выставу. Туды я пастаянна на ўсе гэтыя авангардысцкія выставы езджу. Выстава была Эндзі Уорхала (Андрэя Барголы, дарэчы, па паходжанні карпата-русіна). Дужа спадабалася. Таня была ашаломленая, не хацела сыходзіць. Нарабілі процьму фатаграфій на фоне ягоных выбітных карцін. Я – на фоне крыжа, аўтапартрэта і Мао-цзэ-дуна. Зраблю, вышлю табе якую.

Паехалі потым у Батанічны сад, у бэзавую ("р о щ у" хацеў быў напісаць – разумееш?), у бэзавы гай. Гэта вялізны шматтэрасны гай з бэзу з кветкамі самага рознага колеру. Самае прыгожае відовішча, якое я бачыў у сваім жыцці, пасля ўезда ў алжырскі горны горад Канстанціну. (А пра Канстанціну яшчэ Бунін цытаваў "путеводитель", што гэта так). – (дапісана ад рукі – *Л.Г.*). Папікнікавалі з пляшкаю адметнага пададэскага віна "Венок Дуная". Прыгубіў. (Я яшчэ чаму цябе, апрача ўсяго іншага, запрашаю: у цябе ж "юбілей", а тут гарэлка звычайная

ў 2 разы таннейшая, а віно крымскае, масандраўскае, марачнае, закаркаванае партугальскім сапраўдным коркам, разоў у 5 таннейшае, ніж у вас. (Хоць ты і ў вёсцы схаваешся). – (дапісана ад рукі – *Л.Г.*). Прынамсі так дзеці кажуць.

Запытаўся, што ў менскім метро будуюць. Сказалі, што метро да Сухарава, і, ўвогуле, кватэры ў Сухарава такія дарагія сталі. Мне так балюча зрабілася: у мяне ж кватэра была на Сухараўскім праездзе 153 – у доме насупраць таго, дзе Казлоў (Анатоль Казлоў, пісьменнік – *Л.Г.*) жыве...

А потым пачалі дзеці захоплена параўноўваць жыццё ў Менску і тут, відавочна на карысць Кіева – весялей, цікавей, атмасфера зусім іншая, лёгкая... Адпусціла крыху... Толькі што мне тое жыццё, калі майго жыцця амаль і няма, – мне б працу, працу, без працы і ўласных грошай і жыццё не жыццё, у якіх ты гаях ні сядзі і якое віно ні пі! (Дзівіліся ўсё, што за паўдня сустрэлі толькі аднаго міліцыянта – паказвалі на яго пальцам).

Спусціліся ў Выдубічаўскі кляштар. І тут мне ўжо зусім блага зрабілася: надмагіллі... Яно і так перад вачыма стаіць, а тут дык зусім... Якімі толькі словамі я яе ні абкладваю, галаву ў думках яе адкручваю. Ну, я ўвесну адзін толькі тыдзень, пры грошах, з-за п'янкі (прадаўшы 2 кватэры, энцыклапедыю, што душу з мяне дастала, пераклаўшы), прапусціў. А ў яе ад моманту атрымання квітка да ад'езду ў глухмень мінула роўна 3(!) гады – і ні разу не пабываць на бацькоўскай магіле, дзе 4(!) гады помнічак паваленым ляжыць?! Так, няма мне апраўдання, але ж – навошта яны яе... такую... раджалі? Мама, дарэчы, часта са мною на гэтую тэму, як гэта ні дзіўна, гаварыла. Сястра ў школе да восьмага класа на адныя пяцёркі вучылася, малявала выдатна, у спецшколу пасля школы хадзіла, майстравала дэкаратыўна-прыкладныя рэчы, вершы, апавяданні пісала – а што атрымалася?!..

Прыехаў дамоў сам не свой. З нязвычкі ад свежага паветра – упершыню ў гэтым годзе – вырубіўся. А позна ўвечары глядзеў геніяльны югаслаўскі фільм "Красота порока". Так што, дзень быў багаты! Сёння і заўтра ўвечары мае ўлюбёныя "Ва-банк" і "Ва-банк-2" польскія. Вось так і жыву – ад фільма да фільма. Добрыя фільмы не так ужо і часта паказваюць.

Балдзею ад фенаменальных хакейных поспехаў Расеі. Слухаю Дарэнку, які хвілін 10 пра хакей як пра палітычную з'яву гаворыць. Я як у ваду глядзеў, калі шкадаваў, што французы не закінулі адну яшчэ толькі шайбу амерыканцам. Але што не зрабілі французы, тое ўдалося латвійцам. Чакаю цяпер з нецярпеннем "Вести" ў 12-00, каб уведаць пра вынік матча Швецыя – Швейцарыя і пра лёс Бурэ і кампаніі. Сам разумееш, што не за расіянаў хварэю... На нашых, вядома, не разлічваючы...

Пасля абеду паедзем у Гідрапарк, заплацім лодачніку, ён перавязе нас на востраў – будуць шашлыкі. Холадна (15°), сонца няма, але ім хочацца. І я заадно паеду. Хоць што там мне рабіць? Купацца нельга, есці ёсць што і дома, з Таняю і астатнімі ўжо пра ўсё перагаварыў, а піць не буду – калі што будзе адметнае, дык прыгублю. Страўнік ужо не баліць, але нешта пакуль што не цягне.

Ну, бадай, хопіць пра маё кіеўскае жыццё. Буду апісваць апошняе, што ў мяне звязана з Менскам.

Напішы мне: Ксюша ходзіць, здаецца, у чацверты клас? Як вучыцца? Чым цікавіцца? Якія з ёй маеш праблемы. Як ты жывеш-выжываеш, зарабляючы ў "ЛіМе" на 1/4 стаўкі 6 д.? Што ў "Крыніцы"? Дзе працуе Вера, як зарабляе?

Вельмі прашу сабраць для мяне ўсе 4 нумары з маім перакладам Іянэскі і перадаць Тані. Ці атрымае яна які ганарар? Калі? А прэмія, якую я прапаную вам за маё здароўе выпіць?

Адказы на пытанні анкеты. Я адказаў бы на твае пытанні, Лёня, толькі, выбачай, калі б быў у "Крыніцы" мой "Анабазіс" (які я ўжо даўно скараціў якраз на

12 старонак, сам, яшчэ да твайго пераказу Галінага (тагачасны налоўны рэдактар часопіса “Крыніца” Галіна Булыка – *Л.Г.)* меркавання) у рамках... ну як табе сказаць... ты ж сам пісаў, што вы там нешта збіраецеся рабіць пра тых, хто працаваў у часопісе... А ў “ЛіМе” проста так свяціцца не хачу – не ў маім становішчы гэта рабіць і не ў маім настроі. Давай пра гэта памаракуем. Але ж калі ён можа быць – той в е р а с н ё ў с к і нумар? Бачыш, мне ўжо і слова гэтае смешна пісаць. Перадай абавязкова Галіне маю ўдзячнасць за яе добрае, у рэшце рэшт, да мяне і гэтага злашчаснага “Анабазіса” стаўленне – будзе ён у вас ці не будзе. Як вы выходзіце, то наўрад ці. І што вам толькі там цяпер плоцяць і за што, раз вы так выходзіце? Якую ты ў сябе бачыш тут будучыню? Трэба ж мо ў які “ЛіМ” ці “Полымя” ўладкавацца? А можа, цяпер на тэлевізіі, з якое ты пайшоў, лепей? Ці працуюць там яшчэ Клебановіч (Міхась Клебановіч, пісьменнік – *Л.Г.*), Сцяпан (Уладзімір Сцяпан, пісьменнік – *Л.Г.*)? Мяне ж года ад 89-га Клебановіч, які мяне ўпадабаў дужа, я да яго нават як да старэйшага сябра пастаянна заходзіў, і ён мяне з радасцю прымаў, так настойліва запрашаў да сябе – з такім разлікам, каб я яго потым змяніў. Мне ўсё гэта дужа цікава – чыста гіпатэтычна, што ж са мною магло б здарыцца, калі б я ў Менску застаўся?

З гэтага пункту погляду запытайся, будь ласка (нешта так упадабаў гэтыя “будь ласка”, што не магу нат “калі ласка” пісаць) у Валодзі Марука, як у яго справы ў ягоным прыватным выдавецтве. Ці перакладаюць яны цяпер прозу, ці маюць справу з французскай моваю і як шмат, ці была б у мяне якая праца, хоць бы праз падстаўную асобу, бо ж была ў мяне, праз усю гэтую кватэрную катавасію, з ягоным выдавецтвам праблема – ён яе добра памятае. (Я завальваў, не маючы мажлівасці працаваць, пераклад – і мала не заваліў, так што ў дырэктара можа быць на мяне д о б р а я памяць!). Гэта вельмі важна для мяне, Лёня: а то, можа, марна я свае глузды мучаю – трэ было застацца ці не, – калі б не было б у мяне працы ў Валодзі Марука, то мне ў Менску, мякка кажучы, нашмат цяжэй бы прыйшлося. І перадай, вядома, яму прывітанне – шчырае-шчырае, ён мне, пры ўсёй да мяне непадобнасці, дужа сімпатычны быў: гэта табе не розныя Мазго энд компані – пустыя людзі.

Збірай для мяне, калі ласка, не выкідай, розныя “ЛіМы”, “Свабоды”, “Прессболы” (калі купляеш апошні) і нават “Нашу ніву”. (Неяк Таня ці Алена забяруць. – дапісана ад рукі)

А, забыўся: адказваючы на пытанні анкеты, я добра прайшося б па гэтым адмысловым выданні – надта ўжо моташна мне ад мільгацення ў вачах: як ты пішаш у зацемках: “...круціцца Глёбус... Глёбус... Барселона...”

Апошняя, здаецца, просьба: папрасі Барыса, каб ён распытаў для мяне Лашкевіч (Жана Лашкевіч, журналістка – *Л.Г.*) і Берасцень (Святлана Берасцень, журналістка – *Л.Г.*). Я хацеў бы ўведаць:

ад Лашкевіч – як памёр Юра Кухаронак, ці сваёй смерцю? (актор ТЮГа) Дзе цяпер Маслюк? Чаму яго “пайшлі” з коласаўскага тэатра? Ці ведае яна што пра рэжысёраў Мікалая Гаврдзінава і Міхаіла Кавальчыка? Што з былым акторам купалаўскага тэатра Сашам Уладамірскім? Што з Юрыем Ступаковым, былым акторам рускага тэатра? Як справы ў Вітаўтаса Грыгалюнаса, былога кіраўніка Альтэрнатыўнага тэатра? Яго таксама “пайшлі”?

ад Берасцень – ці сваёй смерцю памёр кампазітар Солтан? Як справы ў кампазітара Войціка? Ці п’е ён, як раней? Нарэшце, як здароўе ў Марыны Кандрусевіч, жонкі кампазітара Валодзі Кандрусевіча, – яна ж ляжала ў год майго ад’езду ў анкалогіі.

Бадай, усё. Лёня, прашу, гэта ўсё былі блізкія і вельмі блізкія мне людзі...

Адышоў ад стала – бляха, антэна знешняя забарахліла, тэлевізар не прымае РТР – гэта ж мне яшчэ 3 гадзіны чакаць хакея Украіна – Францыя па УТ-1, каб уведаць,

што за лёс спасцігнуў расейцаў! Дарэчы, а там ужо час у Гідрапарк выпраўляцца, раптам не паспею ўведаць? (Ты, напэўна, смяешся цяпер, якім клопатам я жыву, што дзіця малое. А я і ёсць дзіця. Мне ўчора Таня кажа: табе ж 4 гады, – а я ў адказ: мне 3 з паловаю – і гэта не поза). А з хакеем гэтым наступным, дык я ў поўнай разгубленасці: за каго хварэць? Я ж са школы і з іняза франкафон зацяты, і Украіна цяпер мая зямля. Я так мяркую, раз французы ледзь з амерыканцамі ўнічыю не згулялі і швейцарцаў абыгралі, няхай яны 1-ае месца зоймуць – і гэта будзе справядліва, а ўкраінцы другое. За аўстрыйцаў я хварэць не буду. А на японцаў злы. Няхай гуляюць у вышэйшай лізе год пры годзе апошняе месца займаючы, але, заплаціўшы грошы, – вопыту набіраюцца, але ж навошта крыўдзіць Казахстан, які заняў у групе “В” другое месца ўслед за Нямеччынай?

Але, адышоўшы ад стала, пачуў надзвычай цікавую думку Севы Наўгародцава (вядучы музычных перадач расейскай Бі-Бі-Сі). У яго пытаюцца: як вы пачуваецеся ў Лондане? Адказ прыблізна: “Пачуваюся настолькі камфортна, наколькі толькі можна пачувацца ў эміграцыі. Эміграцыя ж – працэс ненатуральны. Чалавек, дзе нарадзіўся, вырас і жыў, там і павінен памерці”.

Нешта – паўтараюся – ажыў я, Лёня, пішучы гэты самы доўгі ў жыцці маім ліст. Энергія нават нейкая з’явілася. Здаецца, нягледзячы на адсутнасць працы, заскакаў бы – вось толькі помнік увесь час вочы засціць... Таня ўжо “шарахаецца” ад мяне з гэтым помнікам... Да Мілы лепш ставіцца пачаў. Дый праца ў мяне пакуль што ёсць: пераклад рамана да верасня, а то і да кастрычніка-лістапада – сам уласна пераклад да жніўня, а потым доўгая-доўгая рэдакдатура, і свая ўласная, і праца з рэдактарам... Так што, дзякуй табе вялікі за гэтую палёгку...

Прывітанне: Барысу, Андрэю, В-ру Шніпу, Валодзю Скрыганаву, Сысу, Міколу Сцепаненку, Валеру Будзевічу, што з Сысом і Міколам і мною дружбаніў, з “Крыніцы” – Косцю Дробаву і Марыне Малец, Анатолю Сідарэвічу – усім пералічаным, калі ласка, неадменна перадай. Разанаву. Бур’яну, калі ўбачыш. А, усіх не згадаеш, а абы-каго называць не стану. Ладуценку. Марціновічу ты ўсё роўна не перадасі, а ён да мяне добра ставіўся.

Увесь час думаю: дажыць бы хоць да беларускіх перавыбараў. Няўжо зноў брыгадзіра абяруць?!.. І ведаю, што так яно і будзе – і не магу верыць. Што за няшчасце на гэтую зямлю?! А можа, ейны народ толькі таго й заслугоўвае?.. А з перавыбарамі, цьфу ты! з нявыбарам брыгадзіра, можа і я інакш на свой далейшы лёс паглядзеў бы. Куды ж падзеліся ўсе тыя Дабравольскія сімпатычныя? Пра небараку Статкевіча і асабліва пра ненавісны быдлу Народны фронт з ягоным Вячоркам я ўжо не кажу. А чаму так сышоў у цень Баршчэўскі? Я так мяркую, па справядлівасці дык ён мусіў стаць замест Пазьняка. А што сталася канкрэтна з двума чалавекамі з БНФ, якія былі мне вельмі сімпатычныя, – Заблоцкім і Голубевым? Першы, мабыць, зусім адышоў ад гэтае справы? А Садоўскі – таксама? І яшчэ напішы мне абавязкова, ці атрымаў ужо прысуд Клімаў? І які тады?

Забадаў я цябе ўжо сваімі просьбамі – у цябе галава, мабыць, кругам пайшла, стомішся на адныя пытанні адказваць. Апошняе: як Сыс адрэагаваў на мой ліст?

Калі трое табою пералічаных мяркуюць да мяне прыехаць, то буду вельмі рады. Аднак лепш на чале з табою. То няхай патэлефануюць: 513-53-88. Чакаю іх з процьмаю самых розных газет, нават з “Советской Белоруссией”.

А, яшчэ пытанне. Як уладкаваліся футбалісты Кандрацьеў і Зыгмантовіч – я ж з імі, праз Рыжага, падтрымліваў спарадычныя адносіны і выпівалі разам колькі разоў, у Андрэя нават у гасцях быў. Алейнікаў, мабыць, у Італіі? – з ім Міла добра знаёмая была.

Перадай Барысу, што з улікам раптоўнага цяперашняга пахаладання, дый папярэдняга, нядаўнага, таксама, вада ў Дняпры прагрэецца не раней як з 20 па

30-е. Такога халоднага траўня, такой вады ў Дняпры за маім часам тут яшчэ і блізка не было. Пазалетась я ўжо плаваў 28.04.

*Позні вечар.*

Я падумаў дый напісаў Барысу лісточак, так што ўсё яму перадаў: і пра надвор'е, і запрашаю, вядома, і каб цябе прыцягнулі, і пра тое, што я хачу ўведаць ад Лашкевіч і Берасцень.

Перадай, калі ласка, лісты Пятровічу, Ждану, Акудовічу і Арлову. Выбачай, пісьманоша.

Галоўная падзея сённяшняга дня: нягледзячы на дзённыя ўсяго толькі 15°, сёння на шашлыках – адметнейшыя, дарэчы, атрымаліся, і гэта, уяві сабе, у самым цэнтры горада, хвілін за 15 язды-хады ад дому, ля самага Дняпра (дзеці былі ў захапленні) – упершыню ў гэтым годзе, неспадзявана для сябе, плаваў – і, дзіўна, не проста нармальна, а вялікую атрымаў насалоду! Хлопцы не насмеліліся зрабіць гэта ўслед за мною. Прыгубіў. Таня ўсё дзівіцца, нават Міле казала: як гэта добра, што ён пачаў так мала піць, як палепшаў (выбачай!).

Расія выскачыла і будзе біцца аж за 9-е месца разам з усімі сваімі энхээлаўцамі, якія зарабляюць гуртам, казаў Дарэнка, 40 млн баксаў у год. Украінцы абыгралі, не без цяжкасці, бедных маіх французаў 3:2, забяспечылі сабе месца ў эліце, – я ж зараз буду перажываць за Францыю. Паслязаўтра, спадзяюся, станецца так, што не яны, а аўстрыйцы выскачаць. Пра беларусаў, на жаль, нічога не ведаю. Наўрад ці далей праб'юцца, хоць з амерыканцамі паўпіраліся – 0:1. Шкада. Маглі б, па гульні, і ўнічыю.

Заўтра праважаю Таню. Па дарозе заедзем ва Уладзімірскі сабор, найбуйнейшы і найпрыгажэйшы ў Кіеве. Памяну бацькоў.

Можа, яшчэ што дапішу. А пакуль што – яшчэ раз абдымаю.

*Уначы.*

Дапісаў апошні ліст – Ждану – 5 старонак, Валянціну – 4. Барысу і Уладзю – па 2. Усяго – 13. Табе – 42. У 3 разы болей, ніж усім астатнім, разам узятым, – і гэта мне дужа прыемна.

Ад таго, што напісаў Валянціну, нават атрымаў пісьменніцкае задавальненне: пачаўшы пісаць у двух-трох сказах, чаму не пішу, выдаў раптам са злосці пасаж пра "НН" і Глёбуса з Дубаўцом... Вось нешта накшталт таго, калі не разчэй, сказаў бы ў адказах на твае пытанні. Мяне гэты Глёбус, а заадно і Дубавец, раздражняюць пасля прачытання некалькіх нумароў "НН" і "Архе" ("Парнаграфія" – тут адзін непераўзыдзены Глёбус: там артыкул нейкай Евы С ы с, што быка чырвонаяануча! Пляваццa хочацца. У падзагалоўку ён яшчэ і "геній"! І – канец: "Адам Глёбус будзе жыць вечна". Ну, гасподзь з ім, з гэтым глёбусаўскім, як я мяркую, часопісам, рэдакцыйную калегію якога ўзначальвае Уладзімер Адамчык, не магу адно зразумець, як туды здолеў патрапіць (ці яго туды запхнулі?) Васіль Сёмуха...

Ужо сёння, а шостай гадзіне, ліст гэты паедзе разам з Таняю ў Менск. Спадзяюся, ты ўсё зразумееш і "інтымная галізна" (свядомая) не выкліча ў цябе пярэчанняў. А я дык, сціснуўшы зубы, зноў, сёння ж, зранку, сяду за свой пераклад і адстароньвацца ад яго буду адно ў бок тэлевізара ды Дняпра... Цяпер ужо, нарэшце, бывай, Лёня, канчаткова. Шчасця табе і ўдачы. Здароўя. І блізкім тваім.

Бывай.

Твой Алесь.



Уладзімір Марук



...мы — я і агонь —

аднаго веравыгнання...

# Намоўленае

## *Абрысы няспраўджаных вершаў*

* * *

Ад гэтага дажджу няма аніякага абярогу. Чым жа адмаліцца ад яго? Песняю гаротніка? Крыўдаю нябогі? Ці, можа, атуліць сваім пакутлівым прахам? Шэраю, перашэрхлаю млоснаю глінай? Лісцем перадрыжалага дрэва?.. Стаю перад сабою, як перад даўняю правінаю, на каленях і клянуся жыццём. Але моўчкі, як знямелая рыба, пакуль не вернецца мой выстылы прах, пакуль кроплі дажджу не выгараць на шыбах, бы ў вачах спавядальныя слёзы...

* * *

Няўзнак падміргне віновы валет. І, як быццам яго не было, знікне ў натоўпе. А я пачую: «Хлопец клёвы...» Гэта скажа дзяўчына сваёй непрыгожай сяброўцы. «Жартаўнік...» — прамоўлю ўслед я. А ён недзе рагоча і з дзяўчатак, і з мяне сваім барытоністым смехам. І хоць ты вольны ні пра што болей не думаць,

*Заканчэнне. Пачатак у №5 (48).*

але спрабуеш адчуць: хто ж ты сам? Бо як ні мар, як ні выстарчай — усё далей і далей адносіць Лета ад звабаў і прыўкрас...
Я не баюся за віновага валета гэтак, як за нас — мяне і дзяўчатак.

* * *

На плячы ў патрэсканай гары плюскоча выноснае возера. Ягоныя хвалі, як з-пад неба званары, прарочаць немінучую вечнасць. «Ці магла б такое стварыць прырода?» — пытаюся ў самога сябе. Бо ніяк не разумею, як санскрыту, водсвет традыцыйнага блакіту на крыле касмічнага арла. Ніяк не ўцямлю, што і да чаго, бо душа тут нямее, бы тая рабыня. А монстры, што глядзеліся ў гэтае люстраное бяздонне, памкнулі ў глыбіні стронгамі.

* * *

У пачакальні для смяротных зноў смяялася люстэрка. Толькі той, што быў у светлай магерцы, схаваў за яе свой гаротны твар. А ўсе астатнія крычалі і гнеўна махалі кулакамі, а той-сёй камякамі ўцвярдзелай крыві пазначаў на сцяне ці лічбы, ці літары. А той, што ў магерцы, бараніўся ёю ад мітрэнгі і стараніўся ад натоўпу, як хворы — ад лішняе цукеркі. А найперш — каб не бачыць непрасветлага люстэрка. Астатнія ж адракліся ад усяго, чым даражылі. І першы ўпаў той, што дужа пяўся... А калі ж яны ўсе змагліся ўшчэнт, — нарэшце засмяяўся той, што ў магерцы.

* * *

Я ажно здранцвеў, бо ў мой сад наведаліся міфы. Увайшлі праз старыя рыпучыя весніцы і дазбіраюць апад. А мой ваўкарэз як бы гэтага і не чуе, хоць пачуе і вынюхае злодзея і птаха. Залез у ціхі кут і слухае разам са мною месу Баха, што льецца праз акно... А міфы шчыруюць, каштуюць адно, як ім здаецца, самае пагляднае яблычка. І раяцца, як адзначыць гэты сад, які пакінуць пасля сябе добры след-знак, — пакуль ніхто не чуе і не бачыць?.. Калі ж яны падаліся ў лес, нібыта за таропкім шчасцем і запаволеным ліхам, то за імі ўслед, не скуголячы і не брэшучы, пабег ваўкарэз. Няўжо і сам захацеў зрабіцца міфам?
А ў сад ляціць куваць зязюля. «Ку...» — і моўкне. І не хочацца слухаць Баха. І, забыты, горкне апад.

* * *

Адвечная мая спадарожніца, асцярога, пахаджвае са мною па намоклым парку. Асцярога — ад непатрэбнай сваркі з душою: ці чакаць і сёння Бога? Не збіраецца казаць мне пра гэта і капліца, толькі мовіць, што варта маліцца хоць бы на осліка, што возіць па свеце Хрыста. Ослік?
Ці пасуе гэта Божаму? Але я мушу паверыць, бо чую:
капыткі «цок-цок» паўз душу.

* * *

Ты разагнаная, бы кола, мая памяць. А гэта ж рызыкоўна. Але ты, незбыткоўная назола, не можаш адступіцца ад свайго. Але і я не магу адпрэчыць цябе, бо ты жаданая, як панна. А яшчэ — варушкая, як вогнік, пахаджалая па свеце, як дух Капшая. І багатая, як... смецце. Як не сунімалі цябе пагрозы, як не ўлашчвала пяшчота, ты не змагла застацца цвярозай, як і не зрабілася п’янкою слотай. Ты — мая незаўважная адсутнасць, бы ў памерлым целе душа, ты, як шэлег, — апошняя.
Ты адзіная — як сутнасць.

* * *

Дым так перамяшаўся з чысцінёю, што не чуваць ні дыму, ні чысціні. Тым часам маё вогнішча гарыць і ніяк не можа дагарэць. І ўсё ж душа трывожная, быццам перад тым, як нехта (нешта) пакарае нас за шчырасць. Але вогнішча, на ўздзіў, палае і не тухне, бо яшчэ не час адпрэчыць слёзы, якія залілі б яго. Ён будзе гарэць-палаць дазвання, каб праз ягонае святло і цяпло я змог дажыць да сваіх вяршыняў...
Хоць мы — я і агонь — аднаго веравыгнання.

* * *

Калі доўга падае снег і наліпае нязмушана на голлі, ён нагадвае былыя звабныя ўцехі, якія засланіў ад вачэй. А гэта ж нараджае сумніў пра сваю прысутнасць на свеце, які хочацца адпрэчыць. Бо звыклая, неадольная ява — чысціня, якая іншы раз больш вярэдлівая, чым слотная слота.
І ўсё ж дарэмна перавыхоўваць тое, што сабой зганьбавана. Бо прасветлы зімовы снег адцяняе нашы цёмныя лікі.

* * *

І гэты дзень здаўся несусветным, нібы выпадкова праплыў паром воблака — паміж мінулым і будучым. Паўз пагорклыя слівы, што прыкаваны да гэтага дома. Запалю кнот (надзеі, спадзеву?) і не буду тушыць да самага дня. Хоць і месяц, праведны, як Лот, будзе таксама свяціць да рання і ўзірацца ў душу. А было ж... Вятрыска, расцвяліўшы свой экстаз, залазіў у пакой проста праз сцяну, а ў лесе пачуццяў галосны гук губляўся сярод недаверу зычных. Нават сухі самум здолеў выдзьмуць слязу з непрытульнага вока, што ажно самому Богу было няўтульна. А мы стаялі пры вадзе і кайна слухалі званец, кагадзе распачаўшы сатанец гэтым светам. Монстры — донныя карчы — выплывалі перад намі з глыбіні. І дзяўбала на плячы птушка лёсу нашыя дні. Тым часам шкілет ссохлага куста, як навяглы супермен, вырываў з рук букет незайздросных цыкламенаў. Потым воля, як палын, тузала сэрца, абы толькі ведаў свет, як Божы сын, што запомніць, а што забыць. Перакінем плашчакі нашых ценяў праз раку. Час зыбаецца на іх, пераходзячы на наш бок, але падаць руку не просіць. А як пяройдзе, пачне гырчэць на нас і назнарок пацвельвацца, — як падсвінак перад мячэццю. Было і так, што смакталі сок пад павіслым небам кронаў і выкідвалі дараваны тым жа часам квіток, прачытаўшы на ім: «Флегетон». Перазвоньвалася шкло ў недалёкіх вокнах, як ланцугі на Калыме. І нязвыкла тут было не толькі нам, але і самому д’яблу. А ручай, што цёк паміж куп’я, ажно пачарнеў, як той камінар. І мы зразумелі: ніхто — ні ты, ні я — не гаспадар сам сабе. А спічак нашай шэрасці ўсё роўна не дастане да нябёсаў. Скіне дзень, саступаючы сцежку ночы, свой святлісты фрак. А пад ім — гаркавы лёс. Рызыкоўны час — паўзмрок. Віхор непатрэбных слоў задзьме кнот. Ды не дасць на здзекі зрок вызнаная памяць. Датворыць дня сціплы партрэт, выпрабоўваючы, дзе хвіліна — цэлы свет,
а вечнае — толькі імгненне.

* * *

Вось і крэўнікі на маім двары — столькі, што ажно не відаць небакраю. Я ведаю, што гэтага не будзе, калі не стане мяне, але пакуль што я жыву і за іх небыццё. Баба Вера, дзед Васіль... Не, не буду стамляць імёны... З’ем скрыль прычашчонага хлеба, што высветліць кожнае моўленае мною

слова. А продкі ж не пытаюцца: «Як жывеш?..» Бо так пытаюцца зазвычай у тых, хто вечны. Бо не купіш і не прап’еш нашай крэўнасці Млечны голас...

* * *

Мы... Аўтары бойкі... Стваральнікі звадаў... І нашым прыдумкам няма мяжы. Мы — як прыручаныя коткі, слізкія гады... Шукаем сваяцтва, ды кожны — чужы. Мы... Хто з мяккага воску, хто з цвёрдай пароды, губляем, знаходзім, ідзём ды бяжым, бо свет набліжаем да свае ўроды, шукаючы ў ім дарадцы, хоць кожны ў ім — чужы. Я ж верыў слову, забіраў ад лета для зімы. Але ўсё паасобку, спяшаючыся да згубы, хоць смерць, як заўсёды сцвярджаем, прыдумалі не мы.

* * *

Шукаю адзіноты на строме ў будане. А навокал — лясная цішыня, што пакладзена на ноты маёй адзіноты. А з дупла, як з мёртвага акопа, цэліцца знерваваны пагляд апошняга цыклопа. Дзяцел жа прэзентуе цэлую тыраду, але не мне, пра нейкую там карысць ляснога целаскладу. А пад стромай — нязвыклае сапрана ручая, для беднае душы — як шторм для капітана. Колькі апошніх кропель позняе расы ўзнімаюць на мяне свой некласічны профіль. Каб не карані, пабеглі б наўцёкі ад мяне і маёй пляшкі бярозкі, бы тыя схімніцы-машанкі. Бы я тут проста госць, а так — прыслужваю ў тэатры той гадзіне, што падносіць Клеапатры яд. Нібыта ўсяму наўкол пераказалі фаўны, што я, як час і лёс, бясслаўна народжаны. І колькі ні жыві, а нават з ласкі Божай, імгненнае не зможаш адняць у вечнасці.

* * *

Старое паліто пакінута для молі? Ад паху каніфолі ажно заходзіцца душа. А на тым паліто — скалечаная пража крывога павука... А што ж яшчэ можа крануць дрыготкая рука? Тоненькі альбом, дзе сцішаныя пары, каханкі ды сябры... І твары, твары, твары... Так, усё ў свой час, усё ў забытай ролі. Пакінута для молі юнацтва паліто. У куце сумуе счарнелае піяніна, бо ў ім адзін матыў — што склала Прэзерпіна. Старасць. Матыў.

* * *

Нібыта аб’еўся мудранкаю, пусцее пагляд. Язык нямее, нібыта толькі што быў у кіпені. Хоць адгарадзі жывы далягляд выцінанкаю, каб зрабіцца тым, да чаго прывучалі рабы, якіх лічылі высокай маралі, зломаных душаў ахоўнікамі. А яны — прагуляныя і прапітыя ў апошнія карты. Яны — служкі магічнага «я», ад якога ўцякаць і не хочуць. Але ж на «Я» пачынаюцца самыя брыдкія слоўнікі. З «Я» — хворы на сутнасць сваю народ. А ў ім — сям’я, чалавек, што любіць, недарэка, глядзець, як муштруецца з плоймаю зорак адзіны (сумны, хоць і ўсміхаецца) на выстылым небе месячык. І хочацца здагадацца пакрыёма, а як жа глядзеў на зманныя зоркі мой прашчур. Але ні вяскоўцы, ні месцічы не бачаць між зор людзей, бы нехта напяў на іх вольныя вочы бяльмо. Вось так і балюем, бы плачам пасярод непрыбранае вуліцы, дзе толькі што брыдка зірнулі на айчынную талію і на п’янага плюнулі, як на звыкла павалены плот. І нават кволае думкі чамусьці няма, што напраўду чакае Ардалія, і кружым па стомленым свеце, бы таньчым апошні між зорак факстрот.

* * *

Мне здавалася, што ў мяне няма слыху, пакуль не пачуў казытлівы гук здаўнелай струны, які не спыню. І згадаў, што гэта ж я пазычыў калісь для яе, чамусьці самай вабнай, хіразматычнага агню. І вось сёння яна і яе маленькі скрыпаль, які такі светлы, нібы празрысты, агучылі-асветлілі мае любімыя ноты, забыўшыся на ўсе астатнія. Гэта была... мелодыя басоты, якою я сам некалі быў. Апантаныя гукі аблашчвалі маю несамавітую юдоль. І на смычку, бы слёзы, гойна блішчэла каніфоль.

* * *

Існасць, няўжо гэта яна, тая даліна, дзе шугае вецер вольнасці, твой вецер. Ды ніяк не магу трапіць у даліну, каб адамкнуць яе, існасць, знойдзеным з надзеяю ключыкам. Праз цябе, мая існасць, я столькі страціў думак і вобразаў, а з імі — і светаў. Яна ж такая непрадбачаная, як за воблакам мая самота. Яна ведае пра ўсе мае насмешкі і дрыжыкі, бо часта трымае на далонях мае здзіўленыя вочы. Яна пацалуе мой крыжык і раптам растане сярод учарашняй ночы. Ды застанецца ў вачах дзіўнай тоненькай рыскаю, што назаўсёды раздвоіць маю душу... А ў анямелай далоні паблісквае ключык-сіротка, бо што адмыкаць ім — не ведаю.

* * *

Як інтрыгі і звады, насміхаюцца не заўважаныя ні сном, ні явай воблакі і неўпрашоны вецер. Яны ўпохапкі вылцелі з далікатнай і зачытанай кнігі, што хавае чыесьці вызначальныя пісьмёны. Калі разгадаеш іх, то вызнаеш, як кніжная пекная пані моцна трымае ў руках тонкую нітачку змовы і нітуе яе з сюжэтнаю безгустоўнасцю, куды патрапіла несамахоць. І яе цела сексуальныя намеры — усяго толькі абуральная падманлівая ўмоўнасць. Так знаёма і невыказна пераводзяць нервы яе грудзі, чорная ўтульная ружа расцвітае на белым... Ды ўяўленне, ох, якое ж яно марудлівае!, што няма з чым параўнаць, не дазваляе сабе непрыстойнасць.

* * *

Няўжо гэта апошні чацвер існавання на свеце, які мае звыкла-нязвыклы назоў, такі неадольны да плачу — «Змярканне»? Няўжо ўсё хацімае і нехацімае пачынацьмем з азоў? І, не ўздыхаючы, будзем слухацца сонца, якое сёння казырнае, бо выліжа незамоўленыя цені з камяніцаў, дзе выжылі твае святыя таямніцы, да якіх ты руахаў, не здужаў, усё непарушнае. Уздыхаючы, бо не змаглі раней адрозніваць боскае з мноства, каб прытуліць да яго кроў, каб учора нажытае ўбоства стала хоць маленькаю кропляю існасці-літасці.

* * *

Чырвоныя, белыя, ружовыя... лятаюць над садам вяргіні, якія пасадзіла не мама, не я, а невядома хто. Яны кружляюць пад небам, і я думаю — няўжо гэта час, калі нараджаюць багіні і радуюцца багі. І я, хоць навесь на вочы цемру, да слёз буду дзівіцца і гадаць — якое ж гэта прышэсце ўзняло іх да нябёсаў. Слёзы... Я не буду выціраць іх — хай цякуць і цякуць, бо вяргіняў шкада мне — не знойдуць і там яны раю. Ды іхні імпэт і ўзлёт, які і праз слёзы я бачу, выкрые патаемнае: гэта ж догмы ў душы адміраюць і вяртаецца крэўны свет.

* * *

Нечаканае цяпло. А ці можна без цяпла любіць свае трывогі? Нават калі
мяла нястомная мяцеліца, я не сышоў разам з імі, надзейнымі трывогамі,
з гасцінца. Цяпло... Ды, мабыць, не яно жыло і жыве ў маім настроі
апошняй квадры, нібыта забытае ўчора кіно, дзе хто ні ёсць — героі.
Марнатраўцы, паўдуркі, мудрыя... А як разважыш, дык гэта ледзь
прыкметныя абрысы часу, які ўсё ўбірае, усмоктвае ў сябе.
Баюся, што і мой свет, сабраны пакрысе, раскрадуць пачварныя васіліскі.
Цяпло... Мінецца і яно, уцячэ, сваё майно прыхапіўшы.
Мінецца і ўсё маё — зведанае і нязведанае. Ды там,
дзе ёсць яшчэ дабро і зло, ізноў сатчэцца жыццё.

* * *

Пыл дарожны над полем — цэлы дзень, быццам лёс, які не вымаліш
і не адмоліш ціхім рыпам чужых колаў. Ад пылу пашарэе, зашэрхне
маўклівае лісце ў абраных лёсам садах. Нарэшце, напрошанага ветру
павевы — страсаюць пыл на траву, а з травы на зямлю. А з зямлі? Пыл...
Яго любяць колы не нашых машын, бо ён жа ўздымаецца вышэй за іх...
І хоць бы якая святліна, каб знарок падказала, што ён, гэты зайздроснік, —
пыл, — не з боскае гліны, а з нялюдскіх дарог.

* * *

Па фальварку, не баючыся нікога, блукаюць цікаўныя цені, па вясёлым
ліпняку і гонкім бярэзніку, вакол старажытнага дуба і такога ж панурага
вяза... Тым часам неадольнае неба дало перакрычаць маладому круку мерны
звон спрацаванай жняяркі. А час, нібы сарамлівы ашуканец, не ўзнімае
пярэстых вачэй на пахі кахання любві і памеранцу, на першы рух
аголеных плечыкаў. На ўсё, што льецца-развінаецца ўглыб і ўшыркі,
а ў душы мільгне няўзнак бліпчастаю засцежкай вабнай лакіркі,
што з весніц пабуджаных ступіць на роўны бальшак. Таксама —
на апошнюю фурманку, што залескаціць у белы свет... І калі яна ад'едзецца
далёка, я пачынаю шукаць цень фальварчанкі. Але дарэмна —
яе блізкі-далёкі свет маўчыць. І душа... душа... знябыўшыся, складае псалмы
і выпраўляе мяне назад, на бальшак, дзе чыйсці намоклы ў расе цень
пад астральны звон вымае дзіравы партабак з прахам.

* * *

Заначэла. І ў садку не відно свайго неба. Захінае ад свету лісцем густым
папяроўка. А наўздалёк, нібы першы раз, грукоча-ляскоча цягнік,
як аб стол даміно. А ўслед за ім ляціць па каханне чыясь матароўка.
І ні зоркі, ні подыху следу на зорных шляхах, — неадольнасць самоты
і зведанасць скрухі. Але і цемра не ўтоіць у зыркіх вачах пераменлівых дрэў
сексуальныя рухі. Бы які нетутэйшы варажэй, завінецца апошні цвыркун.
Завінецца, ды раптам нібы анямее. І ўсё цяжэй і цяжэй вяртацца пад неба,
бо не кожны сябе зразумее прад вечным.

* * *

Несусветная халадэча. Ажно запрашае перабрацца да ўтульнага свайго
камінка белатварая панна з палаца. Гэта перад ёю ажно ўгінаецца цмок,
якога я ніколі не бачыў. А яна, абазнаная ў рэдкіх навуках, — як цвяліць,
як на попел кахаць... — запрашае паслухаць цяпельца і зрахаваць дзве
блізкія душы. Ліслівы цмок наколе лучыны, і яна загарыцца,

здзівіўшы мяне, сама... А паміж мною і палацам шырачэннае поле,
праз якое няма нават сцяжынкі. Дык няхай жа панна чакае і з цмокам
дурэе, а потым задумна глядзіць, як гарыць абалонь...
Мяне ж яе далеч сагрэе, як забыты паганскі агонь.

* * *

Гаркаваю краскай самоты кранаецца скроні няўпэўненая цішыня.
Ды гэта ж я плаваю над светам. Мінаю кветнік і вішняк над непагодліваю
плютаю. Зусім забыўшы, што ёсць скон, я лятую над людскім здзіўленнем,
як ніколі не скланяны людствам склон. Ды, бы знямоглы, падаю раптам
у чыюсь, не здагадваюся, мяккую далонь і радую нечый самотны дух,
бо гэта ён уздыхнуў у мяне агонь.

* * *

Я прамаўчаў і не кіўнуў нязгодна галавой, як нехта ў чорным наліваў
у мой келіх невядомага напою. Ды як жа здзівіўся той сугней, —
аж задрыжалі кастлявыя рукі — калі я выпіў і не ап'янеў і зноў падсунуў
да яго келіх. І я ўбачыў, як ён гарэў, як ён жадаў пачуць мае пакуты,
таму падаў мне поўненькі келіх, незаўважна падсыпаўшы ў яго цыкуты.
Я выпіў, бы ўхапіў агню, па целе пабегла мляўкае цяпло. Ды я —
ані знаку, як не піў — зноў падсунуў келіх. І ён пабег у дальні склеп,
як завінуты д'ябал... А я панура-весела падняўся і пайшоў,
каб душой сваёй не цвяліць ягоныя пакуты.

* * *

Зноў выпаў уночы снег. Ніхто не пакінуў следу на цаліку.
Лёгкую руку яліны нязграбна цалуе дуб — стары эстэт.
Умерзлы ў снежны сон, моцна заснуў паром, бы перавёз усё на свеце,
тымчасова спазнаўся з дабром і крыўдай і вывез соль астатніх слёз.
З палёгкаю вернага слугі, дазнаўшыся ў патрэсканага вясла, што берагі,
якія развяла вечнасць, паяднаны назаўсёды.

* * *

У белым стромыя стрэхі. Праз гоні яшчэ відаць вызнаны шлях.
На далоні падае самы балючы ў свеце снег. Падае перада мною і растае, як
цнота непаўторных казак, што чуў даўно, ды потым не перачытваў.
А снег падае, быццам лёс, які самы нечаканы. Ды іх, снегу і лёсу,
нябёсаў не дастанеш вачамі.

* * *

Паветра бясконцай і неспазнанай ісціны цячэ праз вязніцы і храмы.
Яго не прыхаваеш ані ў якой скарбонцы і не прыдбаеш у краме за самыя
вялікія грошы. Яно не месціцца зазвычай у чыйсьці адмысловы ды пыхлівы
гонар. І не кожнага яно паклікае гэтак, як першавызнанае слова.
І які б ты не быў зух і ўпраўны, — яго павеў не здзьмухнеш з душы...
Дзе пачынаецца няпраўда, там і канчаецца бяссмерце.

* * *

У светлаценях намоклых дрэў шукае схову задумны птах. А я свае
скупыя жаданні і модлы вязу на ўпорчывых валах, а за мною цень —
як меч Дамоклаў у запрыгоненых руках. Рыпяць, як змоўнікі, атосы,
злуючы дарогу і валоў. А мой сумніў, як босы хлопчык, глядзіць у вочы,

быццам просіць вярнуцца ў цёплае жытло. І хоць цемра высмакча вачніцы,
я ўчую — цень пыліць за мною. І буду бараніцца ценем, каб да якой,
але бажніцы, прытуліць нарэшце свае жаданні.

* * *

Задуменна гляджу наўкол, як сам на сябе, і незнарок думаю,
ці збываецца лёс. А тым часам вецер, як кроплю дажджу, панёс маю самую
лепшую хвілю жыцця, якая, бачу, упаўшы долу, доўга скубе папас майго
веку. Няўжо гэта часу выдалася імгненне, каб зразумець сябе і мяне?..

* * *

У попелцы поўна перагарэлага дазвання тлуму. Кожнае пачутае слова
выстые, як лёткі дым. Мігатлівую хвілю не расцягнеш, як гуму,
бо на гэта не стае ні волі, ні ўздыху, покуль замоўніцка-змоўніцкі голас,
што нарадзіўся ў раптоўнай слязе, не зварухнецца гідліва, як полаз,
і на шчаку не спаўзе, каб потым з крыку майго выслізнуць да аблачыны...
Рукі падымуць маршчыны і перахрысцяць яго.

* * *

Як толькі ўспыхне мацыёла на вечаровым скрязняку, яна сваё набожлівае
сола мне, як самотнаму паганскаму бажку, будзе нашэптваць пахкімі губамі,
хоць напраўду я не бажок, а жабрак. Мяне дзівіць гэты вільготна-інтымны
шэпт, бо я ўсеўся, збеднены, на камень перад вачамі ў разявак,
якія глядзяць, бы на крамолу, што выдае іх грахоўнасць,
як я цалую мацыёлу ў пахкія далікатныя вусны. З неагляднаю віною
чытаю палымяны санскрыт яе вачэй, а шэры валун,
што зварухнуўся пада мною, гарачы, як метэарыт.

* * *

Звініць праспелая трава. І самы час да яе прытуліцца ласкава,
бо яе кісла-гаркавы смак — як сон недаспелых брусніцаў. Не дорыць
яна фіміяму. І не кожны смяротны здолее чытаць, як класічную драму,
і слёзы яе, і надзеі. Не кожнаму лёсу выпадзе вось так, у абдымкі з травою,
ляжаць і паліць папяросу за папяросаю і помніць — ляжыш
над жарствою. І думаць бясконца, да змогі, мяняючы, як слайды, вачамі
нястомныя воблакі: а што, калі сонца спыніцца за некалькі ісцін да праўды?

* * *

Абрыдла-апрыклы двор. Заўсёднае ляскотнае даміно, ад якога хочацца
зазірнуць у непагляднае акно, хоць яно, можа, — дзверы ў пастку.
Ці — уваход паратункавы ў рай? Ступіш у пад'езд, а ўслед грукне,
як вырак, за спіной бізун дзвярэй. А насустрач — бы знарок — выбіраецца
ў далёкі свет габрэй. Вось і я — радуйся прышэсцю, маленькі пакойчык,
дзе мой неспакой жыве. І чаму гэта люстэрка паглядае так,
бы ў душу эрэб? І толькі добры хохлік падае мне ўзвар, але ж гэтакі горкі,
як старцаў хлеб. І чамусьці ўсё ніжэе і ніжэе столь. Ужо зусім блізка...
Я расту? А можа, нечаканы страх?.. А тым часам у парахнявым куфры
моль даядае і майго дзяцінства пах. А ложак, ложак... — бруднае лагво,
да якога прызвычаіўся нават лёс. Нарэшце, я парушаю статус-кво —
не магу стрымаць язык. Што гэта робіцца? Хохлік спіць,
разявіўшы раток, — адыму ў яго сон. А цяпер не думаю ні пра што
і ні пра кога, бы вынішчаю радавод, як вясною клён, што зацяняе вокны.

Ды дзіва дзіўнае — вось і ты. Бы клёнаў ліст, масянжовы твой загар.
Кот — адважны місаліз — да тваіх прылашчваецца чараў. Стол.
Кілішкі са слязьмі. Два скрыжованы нажы... У рэшце рэшт прачынаемся
звычайнымі людзьмі. Ты — мая. Ды я, хоць і не відно, — чужы.
У сцяне — цвік. На ім, бы жах, вісіць парваны капялюш. Голасу — наймічу
нашых душ — не чуваць: ці ўцёк ён, ці спрах? Цішыня — дачка прамінулай
начы — пачынае нам варажыць. Памаўчы, калі хочаш праўды, а маны —
дык пра ўсё скажы. Вось і ўсё... Ушчэнт пабіты спадак з вераю і цяплом.
І бедны, як студэнт, месяц асвятляе сонны дом. І толькі, як дзіцяці,
застаецца здзіўляцца, што патрапіў на іспыт, дзе пытаецца жыццё,
ды адказвае — нябыт.

* * *

Заспакаенне заспела на тым, як забыўся зусім пра сябе. Вытыліньквалі,
бы забаўляліся са светам, за акном сінічкі і не заўважалі мяне, такога
неўтрапёнага, як скошаная летась трава. Дзе былі мае вочы — што бачылі?
Акравак заружавелага неба над лесам?.. Сцежку, па якой ступаў апошні
дзікун?.. Усялякую несусвеціцу... Толькі не самога сябе.

* * *

І ўсё ж такі ты — рызыкант, калі хочаш убачыць супрацьлеглы бераг мора,
не пераплыўшы яго. Гэта кажу я сам сабе, калі стаю спіною да міфічнай
вады і чакаю, як збавення ад навяглае думкі, твайго фатальнага з'яўлення.
А вось і ты — перада мною... Бяскрайняе мора...

* * *

Нацкуеш, як цэрбера, хоць адно слова на свет,
які цябе не мілуе, — і станеш нямком, бо гэтае слова — апошняе,
якое даспадобы няміламу свету.

* * *

Зорная заквець. Позірк просіцца з акна ў нязведаны прасцяг.
А да золку так далёка — бы скарыць нікім няскораны расстайны шлях.
Ды раптам здасца, што па ўвагнутай спіне ходзіць чыйсьці пагляд,
а тым часам павольны, як слімак, месяц абміне непанараўную хмарку.
І месяц самотны згадае, як бачыў: ні дагоднік, ні слугар — я трымаю тваё
ўчарашняе жоўтае паліто і гляджу ў твой непазнавальна смелы твар,
з якога бы нехта знаёмы сцёр незагойны лёсу пыл. А сукня твая —
у кратку, як дакор мне за тое, што і напраўду сляпы. Крактане па-старэчы
сонны бераст і ўсхвалюе цішыню. Пры акне ходзяць-блудзяць наўцы,
ажно пакуль я не запыню іх. Потым пракажу дзве ліцыі, а больш —
не дасць змога. І не заўважу, як месяц саскрэбвае з зорак іржу
проста на мяне. І нагадае месяц з ухмылкай, як прывёў я цябе на Спас
і гатоўкай, дзівак, хацеў заплаціць за наш час. Прыбіраў цябе
ў лепшы крам, вучыў забытыя словы літасці, але душы (так, душы)
незнарок замінілі нам, адносячы пакрысе хвілі ў вечнасць. Нашыя касачы
схілілі ніц сваю незалежную красу. Паўз іх я нясу табе на далонях пах
і калёр забытых камяніц. А навокала — вусціш. Каля вербаў прымаўкае
самы прымхлівы званец. Тады і месяцу зробіцца так балюча, як і мне —
ажно няўсцерп. І падкажа месяц, дзе мой абярог, кудмень, ад акрутнага.
І нарэшце, зняверaны, ападзе вэлюм — з плечак, потым — з каленяў.
А палкае цела, як гарэла няшчырым агнём, — не загарыцца зырчэй.

І ўсё гэта спыніць — Божа барані! — нецнатлівы бляск вачэй.
Бразне зводдалі ланцуг. Што за сон — сабачы сон. Дзікі рух кожнай жылкі
аддаляе крэўны скон. На дол падае дзічка, нібы на далонь — куля.
Промні месяца, нібыта навяглых пчол, адганяе грываю конь.
І месяц запэўніць: мы абразы шанавалі, так і не прывыклі да гурмы дзве
нашы душы — як два сівыя лязы. Высокі плот адзіноты, а мы —
па два ягоныя бакі. І кожны паасобку думае: да людзей і да істот
ці ўтравелі бальшакі? Аб гарачую шчаку, бы звер, лашчыцца шыба.
Нечы цень, бы той чужавер, падцікоўвае зноў у садку. Выйсці? Выказаць
немы прысуд? Ці спыніцца на мяжы, за якою месяц падае стомлена ўніз
і на крыжы згасае. І не скажа нам месяц, ці мы пабліжэлі да дня.
Няўцям-неўпрыкмет па жыцці патаўкліся, нібыта мурашкі
ля пня спарахнелага. Ці ж адродзім наш кайны род?
А можа, народзім вечны зман: Мёд... Гэтак пахне мёд пчаліны
ў самым-самым густым тумане — у намі створаным свеце.

* * *

Калі ў запаволеных рухах хворага дрэва нічога не ўбачыш святога,
дык цярпліва вярніся ў гадамі стамлёную хату. І калі ў ёй ёсць
яшчэ не запылены часам абраз, у вочы яму зазірні.

* * *

На ўзгорку — дзве хаткі, як птушкі на голым кусце. Там сцежка жарству
абняла і нарадзіла абапал сябе траву. Са стогнам ля вокнаў штоночы
расце мандрагора, а з бяздоннае студні, бы думнасць з кадзіла,
туман выплывае. Дзве хаткі на ўзгорку агукне жаўрук-бесхацінец,
ды надоўга не зможа запомніць бяскрылы свой голас. А памяць смалою
бязважкай пацячэ па сцяне і пахам жывым напалохае ложак пусты.
Дзве хаткі на ўзгорку. Між іх толькі два правады — спрадвечнае лучнасці
нервы ў дзікім тумане. І хто ні прыходзіць сюды — ніколі не зойдзе
ў час пракаветны, да мудрасці светлай Мінервы.

* * *

Белая бальнічная сцяна — воку чорнаму радня. І колькі ні сцінай нервы —
чарапня будзе сніцца да скону. Клюгі рвуць са скроняў нястомны боль,
а прасціррадлы рве немач, бо здавён мая юдоль — у галаве у Гігеі.
Праз дарогу — таньчаць вальс, але гэта не прытачыць да душы.
Што лячыць? Падкажа час, калі лекаваць будзе як. А пакуль — сцяна,
як пляц, па якім пагляд хадзіў купляць лепшую долю, але назад ішоў
ні з чым. Разам з доктаркай выйдзе з палаты ў нямыты калідор спакой.
Не, такой вабнай і стомленай я не знайшоў бы і ў свеце зор.
Можа, я ашуканы? Не, скупы: я ж мог прыдумаць, што прысніў вочы, вус-
ны... І не аддаў нікому. Гэтак я перацёр на пыл свой наіў. Людцы!
Што гэта робіцца са мною: дапаўзаю да акна, покуль сцяною не стаў,
што ўся ў плямах старога віна. А за акном — суцэльны мур ды адзін
аплыты ясакар. І я, як за птушкамі аўгур, назіраю за брыдкімі тварамі
вокнаў насупраць. З-за шкла перным водарам аддае ў душу мурог.
Ізноў хочацца, каб зайшла доктарка — хоць напраўду, хоць знарок.
Хай бы восень не блюзнерыла штодня за акном — мо была б і хвароба
кароткім нязбыўным сном і мяне палохаўся б уласны цень.
Усялякі наўкола свет. Але досыць мудраваць, калі кожны ўкол можа
напляваць у жывую кроў. Досыць выць, крычаць і бубнець, спадзеючыся,

што міне акрутны лёс. Цела зразумець можна, а сябе ў тым целе — не.
Ды сябе на здзек аддаць — толькі вылюдак аддасць.
Што ж, і Хворы — таксама Чалавек, па якім пульсуе несупынная страсць.
Хоць і белая палатная сцяна — працяг чорнага вока...
Спіна доўга-доўга ўздрыгвае, як прабіты цемраю пераможаны сцяг.

* * *

Грыб ужо вылезе з гэтага невядома чаму хцівага моху. А над ім будзе
да рання язычыць веташок. Я не ўчакаю спалоху, хоць можна ўчакацца,
у цьмяна-змяіных пустой леснічоўкі вачах. Ачужэе ціша. А грыб на мяне
азірнецца, калі далей ад тугі я рушу наўпрост па кустэчы. З ціхай пагардай
прачнецца за мною грыбніца і дзікім пахам смугі зноў развярэдзіць душу.
Белую-чорную выбера лісце акрасу, каб рукой недагодна
было дакрануцца. А на шчаку, нібы альясу горкую кроплю,
свой самы трывожны спакой вечнасць ускоціць.

* * *

Ад адзіноты ачужэла самому сабе душа, ды ацалела, бы мезазой у снах.
Сівою слязою зноў адмоўчыць на прыстойна-смяротнае «Хто ты?»
А неабудныя страсці слязы не прыснежыла нават зіма. Ды калі яе ўкрасці
ў душы, — сама яна стане, мабыць, душою.

* * *

Вось і гэтая ноч-вераломніца пакідае на ранні сумнівы. Ды не кожны
запомніцца сон, што прысніцца знянацку. А запомны — не кожны шчаслівы.
Праз прымглёныя вокны дзень зазірне, на ложак падзівіцца, скамечаны вы-
сненым... А шчаслівае — толькі саснёнае, а забытае — спраўдзіцца можа.

* * *

Я і не думаў, што гэтак доўга і пакутна быць самотнай хвілінаю.
Або — карою дрэва. Ці — разгадкаю мігатлівых сноў.
Застаецца хіба цвяліць душу скупою боскаю глінай і дачакацца
на прыцемку месца ля вакна, з якога хоць і не ўбачыш, але здагадаешся,
што хвіліна плача і сцякае па кары кропляю сну... І толькі гліна, бы ўдача
чужая, чытае ў душы, як быццам у лемантары. І няможна зразумець тое,
што магчыма, а немагчымым жыць не дасць знаццё: перад табою —
астрожны свет вакна, а за ім — як жыццё — усяго хвіліна.

* * *

Скрозь цябе палахлівая пройдзе куля і клёну грудзі праніжа.
На ілбе дыядэмаю кропелька скону ўгарыцца. І твой апошні крок да волі
так і застанецца прыкаваным да пераспелай травы. А клён спатоліць сваю
бяду пахам цнотнай жарствы. І ягонага голля плач малітоўны развітае цябе
з белым светам. А спаведнік не паспеў, — куля ўсё ж хутчэй лятае.

* * *

Даўно ўжо стаім, нібы перад крыжам пахілым, усё роўна як з небыцця
ўваскрэслі. А сярод нас віжам цікуе сталасці марудная дзіця. І кожны з нас
мудры, бы тая варона, што на крыжы памірае. А белы свет, як свянцоны
хлеб, крамсаюць позіркаў нашых нажы. І, быццам вырак, з неба нахопіцца
снег. Вырак — за звыклае слова «люблю». І ўсе мы, як вырай, падхопімся,
бязладна залопаем крыламі і тут жа ўпадзём долу.

* * *

Стары бруковы камень пакінуты каля дарог, запэцканы нагамі эпох
і хвілінаў. Пернік пасмоктваючы, на посным пні сядзіць сярдзіты
немавернік і дзень за днём кідае ў крушні. Тым часам лічыць гады,
як шнары на бывалым піраце — хто?! — даўно забыты кацер,
а сёння — ерэтык. Ён пажадліва і чынна аглядвае свой нароб. І хоць бы
кволенькая маршчынка кранула яго лоб каменны. Старанна і хціва выцірае
рукі аб холад рукава, нібыта ўжо забрукаваў сабе шлях да раю.

* * *

Перада мною — пешы шлях. І — няходжаны — Млечны. Ды ўсе мае шляхі
чамусьці прыпыняюцца ў лесе, у лесе, недасяжным, як вечнасць,
дзе хоць адзін пень ды абуральна глухі. Але ўсё ж размаітасць лясное душы
не спаганена тлумам і трасцай. Тут збіраюцца вольныя думаць,
і прыходзяць грашыць аблуды. А лес усё вышэй і вышэй узнімаецца
па збавенне — пад спагадлівы купал нябёсаў. Тут, у напатканым мною лесе,
глыбокае жыццёвага сэнсу карэнне выпраўляе сусветны хаос.

* * *

Сярод птаства — крылаты разлад. Як і мы, цэлы дзень надрыўна крычаць.
Хоць мы, як самі сцвярджаем, — найвышэйшая каста... Што помсна
завецца людзьмі. І ў іх таксама — мітусня і таўкота. І ўгары, бы на зямлі,
блазнота бяздумна блюзнерыць, а ўранні неба мятуць смецяры.
Як цноты зямное напой — пешчы галубіных вачэй, і кпіны, і смяротныя
корчы, і свой у кожнага почат... Усё патуранае, рыхтык праз нашыя думкі
і словы ўзятае. І тут шыхты нехлямяжых і сытых вайною ляцяць на арлоў.
Ні клятва ўжо, ні малітва, не могуць спыніць анікога...
Бо нават мы, вышэйшая каста, бараніць стаміліся свет.

* * *

Рыдзелямі здавён увасланы схілы міфічнае той гары, якою трызняць
да самага скону, не могуць заснуць правадыры ўсіх гільдый.
Мячы куюцца, коўні не моўкнуць, а дарадцы льюць ды льюць чароўны
ўзвар... А за ўсіхнымі спінамі стаіць валадар — шаноўны і не апошні.
На вяршыні ж тым часам свеціць забытае сонца. І добра нават здалёку
відно, як на яе, бы абаронца, далікатна садзіцца найсамы звабны матылёк.

* * *

Не грэх перапытаць не раз, а колькі, каб выведаць у неўпрашонага лёсу
пра свой нязвыкла горкі досціп і свой жа гэтакі акрутны смех.
Спытаць — нечакана для сябе — і чуйна, і адчайна... І між глейкіх дум
неўспадзеў ажыве выкрытая ўсмешкаю таямніца, што была распятая
на тлум жыццём. І сам будзеш доўга-доўга ўсміхацца-ўхмыляцца,
бо рады не зможаш даць сваім ліхім дарадчыкам: твае грахі здавён
падточваюць чарвякі, смаўжы ды гады... Пад маскамі паяцаў яны казы-
чуць, смокчуць і кусаюць, а ты, сухі каўтаючы слязу, усё жыццё асуджаны
насміхацца сам з сябе.

* * *

Заматаны ў нашы спрацаваныя жылы дэбілы прыпасадныя, што ў дамкі
ўлезлі без бою. І самі яны, і іх раздабрэлыя самкі. Гэта ж яны, зладзюганы
ціхамірныя, як вецце, выгінастыя, — перакупшчыкі ідэі, што, як смецце,

заляжалая. Нахапалі, абхітрыўшы, ды ў магілы і пацягнуць... А на шалі іх
як прыкінеш, — усё ж пераважаць нашыя жылы.

* * *

Рызыкоўнае клінікі паветра ўпакавана ў нашы смяротна-журботныя грудзі,
у якіх яшчэ трапечацца несамастойнае сэрца. Цынікі, якія засталіся імі
і тут, па тэлефоне дапісваюць канец службовага рамана.
А аблудніца багемная як цвіла, дык і цвіце, — з усмешкай хворае мілосці.
Нібыта верыць, што яе ўплішчаныя ў цела косці аклемае гойны час.
Узіраючыся ў твары, бы ў шыльды, чытаю па іх, бы паўтараю для сябе,
хто якой гільдыі і веры, хто свае мошчы раю завяшчае... Раскаштоўваю,
як прычасце, смак падгарэлае маннай кашы. А сон раптам наявіцца
паштоўкаю ад шамана, што стаў нечакана літасцівым — жадае здароўя.
А ноч наўлечкай прылашчыцца і нікога больш не згадае-ахае.
А ўвесь белы свет... удыхае праз лёгкія нашы невылечнае паветра.

* * *

Здаецца, што не здаўнела, як па крозах праехалі калясьмі. Услед горкі пыл
прысыпаў большыя і меншыя раны. Тады ж задумлівая будзённасць сівізны
ахінула цёмны небасхіл. Пакалечаных крозаў бясплотны далягляд калацілі
несусветныя сутаргі. Туман цішыні расставіў сіло і забраў-прыняў іх
у свой безнадзейны спрат. І ніхто сляпы не збочыў да крозаў,
ніхто відушчы не ўзяў іх за рукі. І толькі ў балючай цемры прарочыў
калясьмі той, хто даганяў сваю долю.

* * *

Па адным вяртаюцца ссыльныя словы. А на дзікіх котлішчах —
адна толькі ціша. Перад імі каецца скрушна небам Сусвет без'языкі.
Слёзна пакліча на споведзь цэркаўка з купалам воблака, дзе воблікі,
караю кшчоныя, зноў намовяць нешта сваё, грэшнае. Сціпнае слова
прыўзнімецца з каленяў, нібыта рожа скалелая... Ды дараваць усявышняе
не зможа нават і слова.

архівы

Сяргей Шапран



...так будзе доўжыцца да тых часоў,
покуль будзе існаваць беларуская літаратура...

# "Рэкамендую ў наш Саюз..."

## *Пісьменніцкія бласлаўленні*

*Правапіс арыгіналаў – захаваны.*

***Традыцыя даваць рэкамендацыі пры ўступленні ў Саюз пісьменнікаў (спачатку, здаецца, яшчэ не абавязковая) з'явілася, відаць, на пачатку 1950-х гг., аднак «жалезным правілам» стала, пачынаючы недзе з 1955 г. З таго часу ў СП прыняты сотні літаратараў, яшчэ больш напісана рэкамендацый, бо кожны «навабранец» павінен быў прадставіць, як мінімум, тры хадайніцтвы ад калег — сяброў пісьменніцкай гільдыі. Яна, гэтая літаратурная гільдыя, будавалася літаральна як жылы шматкватэрны дом, цаглінка за цаглінкай, дзе змацоўваючым растворам служылі гэтыя самыя пісьменніцкія рэкамендацыі. І якія імёны давалі ў розныя часы літаратурнае бласлаўленне! — А. Адамовіч, Р. Барадулін, П. Броўка, Я. Брыль, Г. Бураўкін, В. Быкаў, Р. Бярозкін, А. Вялюгін, Н. Гілевіч, У. Дубоўка, В. Зуёнак, У. Караткевіч, А. Мальдзіс, У. Някляеў, П. Панчанка, В. Сёмуха, М. Стральцоў, М. Танк, І. Шклярэўскі і многія, многія. (Заўважым, што мы не ставілі на мэце заняцца статыстыкай, але, здаецца, найбольшая колькасць рэкамендацый была напісана***

***двума патрыярхамі: Янкам Брылём і Рыгорам Барадуліным.) Захаваліся, дарэчы, у гэтай скарбніцы рэкамендацыі ад такіх славутых майстроў слова, як Віктар Шклоўскі і Сяргей Баруздзін. І хоць справа гэта была і ёсць па сваёй задуме ў нечым нават троху фармальная (мабыць, лепш за ўсіх сутнасць самой ідэі выразіў Уладзімір Някляеў — яго рэкамендацыя Глебу Лабадзенку ўражвае лаканізмам і адначасова ёмістасцю: «Я, сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў паэт Уладзімір Някляеў, рэкамендую ў сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў паэта Глеба Лабадзенку» — тут усё зразумела: паэт рэкамендуе паэта), аднак некаторымі пісьменнікамі ствараліся не проста своеасаблівыя наказы, а сапраўдныя літаратурныя партрэты, якія і цяпер чытаюцца з цікавасцю. Так, напрыклад, было кожны раз у Ніны Мацяш і Уладзіміра Караткевіча (адзначым, што рэкамендацыі У. Караткевіча падрыхтаваныя для наступнага нумара «Дзеяслова»), так было ў большасці з тых выпадкаў, калі старэйшы таварыш прыкмячаў у сваім маладзейшым калегу літаратурныя здольнасці, што абяцалі развіцца ў сапраўдны сталы талент. І так, упэўнены, будзе доўжыцца да тых часоў, покуль будзе існаваць беларуская літаратура, покуль будзе дзейнічаць старэйшая літаратурная гільдыя — Саюз беларускіх пісьменнікаў, у якой ёсць добрая традыцыя — даваць благаслаўленне тым, хто абраў сваім лёсам шлях служэння роднаму слову.***

**Сяргей ШАПРАН**

### Алесь Адамовіч — Дзмітрыю Бугаёву

Бугаёў Д. Я. — адзін з тых, для каго літаратуразнаўства, крытыка — прызванне. У яго працах і артыкулах аб творчасці М. Лынькова, І. Шамякіна, аб стылі прозы 20-х гг., аб манаграфіях і зборніках літаратуразнаўцаў заўсёды прысутнічае пафас сцверджання ці адмаўлення, ні ў адным сваім слове ён не абыякавы. Пры гэтым ён дастаткова эрудыраваны, каб судзіць аб літаратурных з'явах у іх гістарычнай сувязі з іншымі з'явамі, у ацэнцы літаратурных твораў заўсёды зыходзіць з патрабаванняў самога жыцця, прынцыпова адмаўляючы кан'юктуршчыну і неаб'ектыўнасць у літаратурным жыцці. Тав. Бугаёў Д. Я. валодае добрым эстэтычным густам, піша жыва, цікава, ён закаханы ў мастацкае слова свайго народа.

Лічачы тав. Бугаёва Д. Я. ідэйна і па таленту сталым літаратарам, рэкамендую яго ў члены Саюза пісьменнікаў.

*Член Саюза пісьменнікаў, членскі білет № 4025*
*14 мая 1961 г. А. Адамовіч*

### Рыгор Бярозкін — Дзмітрыю Бугаёву

Дзмітрый Бугаёў з'яўляецца адным з найбольш таленавітых прадстаўнікоў маладой беларускай крытыкі. Упершыню выступіўшы ў рэспубліканскім друку некалькі год таму назад, Дзм. Бугаёў адразу звярнуў на сябе ўвагу як удумлівы, кваліфікаваны літаратар. Яго артыкулы і рэцэнзіі па самых розных пытаннях беларускай савецкай літаратуры вылучае глыбокая павага да фактаў, добрае веданне іх, умельства раглядаць кожную літаратурную з'яву ў перспектыве агульнага развіцця літаратуры.

Дзм. Бугаёў піша жыва, зацікаўлена, эмацыянальна, мінаючы збітыя формулы літаратурнага жаргона. Ён — крытык-чытач у лепшым сэнсе гэтага слова, г. зн. крытык, які актыўна і непасрэдна ўспрыймае кнігу, умее зрабіць гэта сваё чытацкае ўспрыйманне твора неад'емнай часткай яго аналізу, зыходным пунктам аналізу.

Лічу, што Дзмітрый Бугаёў заслугоўвае таго, каб быць прыняты ў члены Саюза пісьменнікаў, бо ён — чалавек з талентам і будучыняй.

*Бярозкін Рыгор Саламонавіч,член ССП з 1939 года, членскі білет № 4036*
*25.V.1961 г*

**Пімен Панчанка — Ігару Шклярэўскаму**

Игорь Иванович Шкляревский, молодой русский поэт, издал первый сборник стихов «Я иду». Стихи талантливы. Молодой автор весь в творческом поиске своего голоса, своей интонации, своего образа, своей темы. От стихов веет свежестью, молодостью, оптимизмом. Любовь к жизни со всей ее сложностью, к нелегкому труду, к дружбе и верности, к Родине — основые акценты творчества поэта.

Перед И. Шкляревским стоит задача: овладеть настоящим мастерством, но это дело наживное. Основное же у молодого поэта есть, это: образное видение мира, поэтическое своеобразие, искренность чувств.

Рекомендую принять Игоря Шкляревского в члены Союза писателей БССР.

*Пімен Панчанка*

*16 октября 1962 г.*

**Алесь Адамовіч — Ігару Шклярэўскаму**

Стихи Игоря Шкляревского, печатавшиеся в республиканских газетах, в журнале «Неман», а также его сборник «Я иду», имеют одно большое и главное качество — это действительно поэзия. Игорь Шкляревский мыслит стихом, и то, что он мыслит по-граждански и не как-то иначе, а стихом, свидетельствует, что он не случайный и не временный в литературе человек.

Я иду и смеюсь
от бездумной,
пронзительной
радости,
что иду по земле
и когда-нибудь
вдруг упаду,
не дойдя до усталости,
подлости,
робости,
старости,
потому что иду и пою
у людей на виду!

Вроде и слова не новые, и чувство, характерное для многих, но читаешь стихи молодого поэта, и не сомневаешься, что и слова и чувства — его, что это выпелось в его душе. Он весь в своем поколении, он счастлив принадлежать своему поколению и времени, верит в ответственность своего поколения.

Наверно тот,
кто очень рано встал,
Для поздно просыпающихся

Как бы ни сложилась биография Игоря Шкляревского, верится, что это будет биография поэта. И хорошо, полезно будет, если на эту биографию активнее влиять будет союз товарищей по перу, Союз Писателей. У Игоря Шкляревского есть те данные, которые дают право быть членом СП.

*Адамович А.*

*[1962—1964 гг.]*

**Янка Брыль — Генадзю Кісялёву**

Творчасць Генадзя Кісялёва зацікавіла мяне задоўга да з'яўлення яго кнігі «Сейбіты вечнага». Маю на ўвазе паасобныя артыкулы, што з'яўляліся на старонках «Полымя» і іншых выданняў. Артыкулы — вельмі цікавыя, таленавітыя, карысныя. Калі выйшла летась кніга, я яшчэ раз — з цікавасцю — прачытаў і пра Каліноўскага, і пра Багушэвіча, і пра іншых, хто дастойны народнай памяці і любові.

Працу Г. Кісялёва лічу вельмі патрэбнай для нашай гісторыі, для нашай літаратуры і з прыемнасцю рэкамендую яго ў члены СП БССР.

*Янка Брыль* *6/IV—64*

**Уладзімір Дубоўка — Міхаілу Грамыку**

Дарагія таварышы!

У звязку з пытаннем аб прыняцці Міхаіла Александравіча ГРАМЫКІ ў члены СП Беларусі маю жаданне выказаць сваю думку.

Прызнаюся шчыра: я вельмі здзівіўся, калі даведаўся, што Міхаіл Александравіч да гэтага часу не з'яўляецца членам Саюза.

Міхаіл Александравіч — адзін з самых старэйшых нашых пісьменнікаў, выявіў сябе як чалавек шматграннага таленту: паэт, драматург, вучоны, педагог, адзін са стваральнікаў нашае навуковае тэрміналогіі.

У літаратурную працу ён уключыўся яшчэ ў 1912-1914 гг., гэта значыцца тады, калі я і мае аднагодкі толькі паспелі атрымаць пачатковую адукацыю і азнаёміцца з беларускім друкаваным словам.

Грамадская і навукова-педагагічная дзейнасць Міхаіла Александравіча сведчыцца ягонаю анкетаю.

Літаратурная праца сведчыцца ягонымі творамі (кніга вершаў «Плынь», драматычныя творы «Над Нёманам», «Каля тэрасы», «Воўк» і многія іншыя). Драматычныя творы ў свой час з вялікім поспехам ставіліся нашымі тэатрамі, вершы чыталіся ў кнігах, уключаліся ў школьныя падручнікі.

У пачатку трыццатых гадоў Міхаіл Александравіч выявіў сябе як актыўны шукальнік НОВАЕ формы для новага зместу, за што быў тады раскрытыкаваны АДНАБАКОВАЮ крытыкаю, хоць, як цяпер мы вельмі добра пераканаліся, аднабаковасць у такіх пытаннях вельмі шкодная. Сапраўды, пакуль свет стаіць светам, ішло і будзе ісці шуканне новае формы...

Згадваючы ўвесь жыццёвы і творчы шлях Міхаіла Александравіча, я адчуваю сябе даволі няёмка: было б зусім натуральна, каб рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў даваў не я яму, а наадварот — каб ён пісаў мне.

Але калі ўжо так здарылася, я магу сказаць толькі адно: буду вельмі рад бачыць Міхаіла Александравіча ГРАМЫКУ ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі і заклікаю усіх таварышаў пісьменнікаў адзінадушна прагаласаваць за прыняцце яго ў члены саюза.

Выказваю шчырую надзею, што Міхаіл Александравіч, карыстаючыся сваімі глыбокімі ведамі, вялікім жыццёвым вопытам, здолее даць яшчэ шмат прыгожых, цікавых твораў для нашага савецкага чытача, для нас усіх.

*28 ліпеня 1965 г.*

*З вялікаю пашанаю і з сардэчным*
*прывітаннем*
*Уладзімір Дубоўка*

**Адам Русак — Рыгору Шырме**

Паэзія і музыка — дзве родныя сястры. Яны заўсёды ходзяць побач і, як

дзве звонкія крыніцы, зліваюцца адна з другою, нясучы свой песенны голас удалячынь.

Паэт не толькі той, хто піша вершы, але і той, хто з вялікай груды вершаў выбірае залатое зерне паэзіі і зლівае яе з музыкай, ператвараючы слова і музыку ў песню, дае гэтай песні крылле, на якіх яна ляціць у свет да народа. Такім чарадзеем-песнятворцам і з'яўляецца народны пясняр Беларусі — Рыгор Раманавіч Шырма.

Сын селяніна-бедняка з вёскі Шакуны, што непадалёку ад гарадка Пружаны на Брэстчыне, з маленства палюбіў музыку, палюбіў песню.

У тыя далёкія дарэвалюцыйныя часы на Беларусі не было ні адной музычнай школы, а песня народа жыла, пераходзіла з пакалення ў пакаленне, расказваючы аб нядолі свайго працавітага, паднявольнага люду. Юнак назаўсёды злучыў свой лёс са сваім народам. Рыгорка падобна маладому дубу рос на сваёй роднай зямлі, разгінаючы плечы сярод бур і навальніц, не здаючыся ні агню, ні навальніцам, ні чорным каршунам, што вязалі яму рукі. Ён шумеў сваім буйным лісцем свайму краю, спяваў яго неўміручыя песні і гэтым самым гаварыў, што народ яго жыве, змагаецца і дачакаецца свабоды.

У гады белапольскай акупацыі Заходняй Беларусі, дзе была забаронена беларуская мова, Рыгор Раманавіч не скарыўся, ён спяваў беларускую песню на яе мілагучнай мове. Ён выхоўваў беларускіх паэтаў-рэвалюцыянераў у глыбокім падполлі Заходняй Беларусі, выдаваў кнігі: Максіма Танка, Піліпа Пестрака, Міхася Машары, Міколы Засіма, Міхася Васілька і іншых, выбіраў залатое зерне з іх паэзіі, зліваў яе з музыкай, ператвараючы ў песню.

Рыгор Раманавіч усё сваё жыццё збіраў народныя песні. У тыя далёкія часы не было яшчэ ніякіх машын-магнітафонаў для гуказапісу, і мы, музыканты, разумеем, якая гэта была ўпартая, клапатлівая праца, колькі разоў трэба было праспяваць адну песню, каб запісаць уручную з усімі яе галасамі. Рыгор Раманавіч сабраў і зберог дзесяткі тысяч народных песень, якія яшчэ не ўсе ўвайшлі ў чатырохтомнік яго фальклорных зборнікаў. Рыгорам Раманавічам напісана многа кніжак, артыкулаў, навуковых работ аб песеннай творчасці, аб вакальна-харавым майстэрстве.

З першага дня ўз'еднання Заходняй Беларусі з Усходняй Рыгор Раманавіч з'яўляецца кіраўніком Дзяржаўнай харавой капелы Беларусі, якая пад яго кіраўніцтвам за высокае майстэрства ўдастоена звання АКАДЭМІЧНАЙ капелы.

Рыгор Раманавіч Шырма — музыкант-песнятворца, народны артыст СССР, грамадскі дзеяч, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, узнагароджаны ардэнамі Савецкага Саюза, унёс вялікі ўклад у беларускую савецкую культуру.

Вось чаму, мне здаецца, я не памылюся, калі скажу, што наша пісьменніцкая чарада будзе ганарыцца, прыняўшы Рыгора Раманавіча Шырму ў сваю сям'ю.

*Адам Русак, член Саюза пісьменнікаў БССР,*
*заслужаны дзеяч культуры БССР*

*15.I.66*

**Максім Танк — Рыгору Шырме**

Рыгора Раманавіча Шырму я знаю на працягу дзесяткаў год, як аднаго з выдатнейшых нашых этнографаў, крытыкаў, публіцыстаў і дзеячоў на культурнай і грамадскай ніве. Нельга пераацаніць яго заслуг перад Заходнебеларускай літаратурай і, асабліва, перад нашай паэзіяй, якую ён на крылах песні ў сваім высокамастацкім выкананні са славай і гонарам пранёс па свету. Яго зборнікі народных песень, частушак, прыказак, загадак — гэта вялізарнейшы ўклад у залаты фонд культуры беларускага народа.

Таму я горача рэкамендую прыняць Рыгора Раманавіча Шырму ў нашу пісьменніцкую арганізацыю.

*Максім Танк*

*Мінск, 19.I.1966 г.*

### Міхась Стральцоў — Васілю Зуёнку

Васіль Зуёнак упершыню звярнуў на сябе ўвагу чытачоў і крытыкі як аўтар вершаў для дзяцей (зборнік «Вясёлы калаўрот»). Вясёлыя і вынаходлівыя, вершы гэтыя падкуплялі натуральнасцю інтанацый, ненатужным пранікненнем у свет дзіцячай фантазіі.

Новыя мастацкія магчымасці аўтара яскрава раскрыліся ў зборніку «Крэсіва», які вылучае зайздросная сталасць паэтычнай думкі, высокая культура радка, умелае, творчае выкарыстанне фальклору, далёкае ад бяздумнай стылізацыі і саладжавай падробкі пад народнасць. Да багаццяў народнай творчасці В. Зуёнак падышоў ва ўсёўзбраенні сучаснай паэтычнай культуры, з сучаснай, глыбока арыгінальнай і плённай думкай. Аўтар знайшоў для сябе (і не толькі для сябе) удалае творчае вырашэнне нядаўніх спрэчак пра традыцыйнае і наватарскае, у сваёй паэтычнай практыцы не супроцьпастаўляючы адно другому. Прыклад, варты ўвагі і глыбока павучальны.

Несумненна, В. Зуёнак варты быць членам Саюза пісьменнікаў.

*Міхась Стральцоў, членскі білет № 6454.*

*3.08.66.*

## Рыгор Барадулін — Адаму Мальдзісу

Я, Рыгор Барадулін, даўно (гэта не традыцыйная фраза) ведаю даследчыка і прапагандыста нашай літаратуры, нашага роднага слова. Пералік артыкулаў і кніг — сумная справа. Той, хто цікавіцца мінулым нашай пісьменнасці, ведае Адама Мальдзіса.

Лічу — Адама Восіпавіча Мальдзіса абавязкова трэба прыняць у сям'ю беларускіх пісьменнікаў.

*Рыгор Барадулін, чл. білет № 5678*

*1.XI.66 г.*

## Віктар Шклоўскі — Івану Мяло

Горячо рекомендую в союз зрелого, талантливого и хорошо знающего современность, писателя Ивана Ильича Мяло. Творчество Ивана Мяло я знаю с 1947 года и вижу, как он овладел мастерством прозы, идя своим путем.

*Виктор Борисович Шкловский*
*Москва А—319*
*ул. Черняховского, 4, кв. 60*
*т. АД1-43-96*

*16 апреля 1967 год*

## Рыгор Барадулін — Юрку Голубу

Я, Рыгор Барадулін, даўно знаёмы з вершамі Юркі Голуба.

Гэта паэт са сваім, адметным почыркам, сваім бачаннем свету, са сваёй тэмай.

Выключна багатая мова, яркая, самабытная метафарычнасць, хуткі, на зайзд-

расць хуткі рост майстэрства — вось што характарызуе творчасць маладога, таленавітага паэта.

Зборнік «Гром на зялёнае голле» (выйшаў сёлета) і новыя нізкі вершаў — сведчанне таго, што ў нашу паэзію прыйшоў па-сапраўднаму харошы літаратар.

Лічу, што Юрка Голуб варты быць прыняты ў Саюз пісьменнікаў.

*Рыгор Барадулін, чл. білет № 5678*

*6.X.69 г.*

## Генадзь Бураўкін — Яўгеніі Янішчыц

Я памятаю адны з самых першых вершаў Жэні Янішчыц. Я рэдагаваў яе пакуль што адзіную кніжку «Снежныя грамніцы». І заўсёды, калі браў у рукі яе рукапісы, мяне не пакідала адчуванне сустрэчы з паэзіяй, хай яшчэ не вельмі глыбокай, не заўсёды дасканалай, але паэзіяй. Даверлівасць, юначая чысціня і ўзрушанасць не маглі не хваляваць. Таму так аднадушна радасна былі сустрэты вершы Янішчыц «Да сутрэчы...», «Ты мне патрэбна...», «Двое», «Будуць вёсны і пралескі...». Ужо не толькі арганічнасць пачуцця, а і думка і пэўная пазіцыя вызначалі вершы «Радзіме», «Мова», «Непрыручаная птушка», «Часціні...», «Смерць Максіма Багдановіча», «Памяці Міколы Сурначова», «Ля ложка хворай маці», «Не шукаю славы...». Невыпадкова многія з іх былі адразу ж заўважаны ўсесаюзнай прэсай і перакладзены на рускую мову вельмі строгімі і арыгінальнымі паэтамі (М. Рыленкаў, Р. Казакова).

Паглыбляць роздум, пашыраць кола інтарэсаў! Такое пажаданне хочацца сёння выказаць Жэні Янішчыц. Але ж як справядліва пажадаць таго ж і сабе і сваім сябрам!..

Ведаючы Янішчыц як чалавека самакрытычнага і патрабавальнага да сябе, чакаю ад яе новых пошукаў, з нецярплівасцю і вялікімі надзеямі чакаю яе духоўнага і паэтычнага пасталення. І лічу, што паэтэса мае права быць членам нашай пісьменніцкай сям'і.

*Генадзь Бураўкін, член СП з 1961 г. членскі білет № 6283*

*19 снежня 1970 г.*

## Алесь Адамовіч — Віктару Казько

Віктар Казько надрукаваў у «Нёмане» аповесць «Цёмны лес, тайга густая», апавяданні, а ў «Новом мире» — аповесць «Высакосны год».

Многа гэта ці мала, каб прыняць аўтара ў члены Саюза пісьменнікаў?

Калі талент не праявіўся моцна, пэўна, не заявіў аб сабе — дык і ў дзесяць разоў болей — будзе ўсё роўна мала.

У дадзеным жа выпадку можна сказаць, што так пачынаюць, як Казько пачаў сваім «Высакосным годам», толькі вельмі значныя і шматабяцаючыя дараванні. Здзіўляе і сіла пачуцця, шчырасці і спеласць думкі маладога аўтара, псіхалагічная праніклівасць.

Ёсць у аповесці «Высакосны год» і «зігзагі», «наезды» на чужую стылёвую паласу (здаецца, што цудоўны Андрэй Платонаў «асляпляе» маладога аўтара), але гэта толькі асобныя праявы маладосці і таленту. У цэлым жа аповесць Віктара Казько здзіўляе, захапляе нас якраз самастойнасцю мастацкага адкрыцця свету.

Лічу, перакананы, што Віктар Казько — пісьменнік надоўга, мастак на ўсё сваё жыццё, і яго можна смела прымаць у пісьменніцкі цэх.

*А. Адамовіч, № білета 4025*

*18.10.1973 г.*

## Васіль Зуёнак — Уладзіміру Някляеву

Кожная сустрэча з паэзіяй Уладзіміра Някляева радуе навізной. Гэта яе неад'емная ўласцівасць. Паэт заўсёды ў пошуку, слова яго ў пастаянным руху. Аб гэтым добра сведчыць і тэматычны дыяпазон вершаў, і іх выяўленчыя якасці.

У паэтычных пошуках Уладзіміра Някляева трывалы грунт — яснасць задумы, адмысловае веданне матэрыялу, класічная адпаведнасць зместу і формы. Гэта асабліва бачна ў яго творах ліра-эпічнага плану — паэмах, дзе распрацоўка тэмы вядзецца з выкарыстаннем і традыцыйных, і самых новых сродкаў і метадаў. І гэта ў Някляева не вонкавае, не фармальнае ўмельства, а стыль — арганічны, уласцівы яго творчай індывідуальнасці.

Словам, Уладзімір Някляеў цікава, з добрым запалам працуе ў нашай паэзіі. Рэкамендую яго ў члены Саюза пісьменнікаў.

*Васіль Зуёнак, членскі білет № 7404*

*9 сакавіка 1978 г.*

## Сяргей Баруздзін — Віктару Трасцянскаму

Очень давно я знаю Виктора Степановича Тростянского, как смелого воина, верного товарища и талантливого, самобытного поэта. Причем все эти качества его, о которых я говорю, неразделимы, ибо именно в творчестве своем Тростянский мужественен, откровенен, открыт людям. Стихи его всегда поражали меня и поражают до сих пор своей откровенной простотой и чистотой, верностью добрым традициям русской классической — как старой, так и нынешней советской — поэзии.

Об этом говорят, прежде всего, три книги поэта — «Расстрелянные листья» (издательство «Молодая гвардия», 1975 г.), «Далеко от войны» (издательство «Советский писатель», 1980 г.) и «Дальние дороги, дальние...» (издательство «Мастацкая литаратура», 1981 г.).

У Виктора Тростянского своя неизменная тема — минувшая Отечественная и это, по-моему, прекрасно. О чем бы ни писал поэт — о минувшей войне или о любви, о природе или о наших днях — главный оселок его поэзии — прошедшая война. Не буду цитировать стихов поэта, но напомню, что его стихотворение «Преемственность» весьма характерно. Впрочем, таких отличных стихов у Тростянского много.

Три книги стихов — хороший творческий запас.

Но задолго до выхода этих книг Виктор Тростянский был профессиональным литератором. Я помню отличные его стихи в «Дружбе народов» и в «Красном воине», в «Смене» и «Радуге», «Просторе» и «Комсомольской правде», «Красной звезде» и московской «Вечёрке». Я помню и его прозу — тонкие, лиричные и глубоко психологичные рассказы «Пожалуйста, следующий!», «Признание», «И так бывает».

Виктор Тростянский — поэт зрелый, сложившийся.

Ему давно пора быть членом Союза писателей СССР.

Во всяком случае, я горячо рекомендую его в нашу писательскую семью.

*Сергей Баруздин,*
*член СП СССР с 1951 года, билет № 0030*

*23 февраля 1981 г.*

*Еще раз горячо рекомендую!*
*С. Баруздин*
*11.V.—1983 г.*

## Алесь Адамовіч — Святлане Алексіевіч

Я ўжо пісаў і гаварыў, выступаючы, і не адзін раз — пра тое, якой ацэнкі, высокай і ўдзячнай, заслугоўвае ўсё, што ўжо зроблена Святланай Алексіевіч, як літаратарам, пісьменнікам. Яе кніга ўспамінаў «Калі жанчыны ваявалі» (раздзелы друкаваліся ўжо, але я знаёміўся з поўным тэкстам) ставіць Святлану Алексіевіч (а заўтра гэта стане відавочна) у шэраг найбольш сур'ёзных «ваенных» аўтараў. І гэта нягледзячы на тое, што аўтар належыць да маладога, да пасляваеннага пакалення.

Яе другая праца ў тым жа жанры «магнітафоннай дакументалістыкі» — аб праблемах міграцыі вясковай моладзі — засведчыла грамадзянскую мужнасць, сталасць, прынцыповасць аўтара. Таксама як і яе нарысы, што друкаваліся ў газетах і часопісах.

А яе проза (друкавалася ў «Полымі») засведчыла, што аўтар добры, яркі стыліст.

Адным словам, усе «слагаемыя» мастака, грамадзяніна, пісьменніка надзейна заяўлены, праявіліся, а таму я з поўнай адказнасцю і ўпэўненасцю, што не памыляюся, рэкамендую Святлану Алексіевіч у наш Саюз пісьменнікаў.

*А. Адамовіч*

*12.9.1982 г.*

## Янка Брыль — Святлане Алексіевіч

Святлану Алексіевіч, як літаратара, я ведаю па нарысах з цыкла «Бабы», «Як Кацярына ў горад ездзіла», па рабоце, апублікаванай у «Маладосці» пад назвай «Калі жанчыны ваявалі», па сцэнарыях дакументальных кінафільмаў «У вайны не жаночы твар» і тэлефільма «Бацькоўскі дом».

Літаратар С. Алексіевіч таленавіты, удумлівы, шчыра адданы справе. Яна ўмее бачыць у жыцці галоўнае, умее расказваць пра гэта патрэбным словам; яна ўмее слухаць народ і належным чынам перадаваць тое, што ён расказвае пра перажытае. Нарысы яе, якія з поўным правам могуць лічыцца апавяданнямі, чытаюцца цікава, у іх уздымаюцца жыццёва важныя пытанні, мова прозы яе сакавітая, шматфарбная, людзі не прыдуманыя, — яна іх добра ведае і шчыра любіць, і цяплом гэтай любові, святлом гэтай шчырасці насычана ўсё, з чым аўтар ідзе да свайго чытача. Тое самае можна сказаць пра выдатную прозу С. Алексіевіч «Калі жанчыны ваявалі». Гэтую кнігу — расказы многіх жанчын, удзельніц вайны, знойдзеных у розных кутках нашай Савецкай краіны, — можна без перабольшання назваць своеасаблівым подзвігам маладой пісьменніцы, якая адна зрабіла тое, чаго хапіла б цэламу творчаму калектыву.

Добрага слова заслугоўвае праца Алексіевіч у кіно і тэледраматургіі.

Я ахвотна рэкамендую Святлану Аляксандраўну ў члены Саюза пісьменнікаў СССР.

*Янка Брыль, членскі білет № 12024*

*6.III.1983 г.*

## Юры Чарнічэнка — Яўгену Будзінасу

Руководствуясь естественным для человека цеха желанием, чтобы дело его жизни длилось, переходя в хорошие руки, чтобы продолжали его энтузиасты, а не холодные сапожники, я рекомендую принять в Союз писателей Евгения Доминиковича Будинаса. Из новых имен не знаю другого, в котором требования Валентина Овечкина к публицисту нового типа — «не дилетанту и не верхогляду в деревенских вопросах, человеку, вооруженному солидной экономической и

агрономической подготовкой», умеющему глядеть в корень вопроса, добираться до первопричин, пытливо анализировать явления и заражать читателя любовью и вниманием к цифре — концентрировались бы основательней.

Характерное его, радиоинженера по диплому, свойство — принадлежность современному городу, изучение села с точки зрения Страны Городов, где население в основном уже урбанизировалось. Однако изучает он с той культурой, методичностью и тщанием, какие отличают электронный век, а темперамент его — бурный, оптимистичный, печалью полей тут и не пахнет.

Дорогого стоит в Будинасе и склонность его к полемике. Полемика — кровь публицистики. Может быть прекрасен скелет, чудные мышцы и нервы, но если каждую крохотку организма не орошает красная, живая и способная сворачиваться кровь — мы имеем дело с трупом. Будинас прекращает спорить, только переставая писать.

Последние из знакомых мне его работ — «Путешествие с Оппонентом» и «Дом в сельской местности» — и отличаются высокой температурой спора. Как ни актуальны предметы полемики, именно свобода, основательность обсуждения, вкус к долгому и уважительному (Оппонент — нужен!) спору делает эти вещи традиционными, т. е. родственными по крови очеркам Энгельгардта, Успенского. Современным же письмом делают вещи Будинаса «спутниковость» обзора, немыслимый прежде территориальный охват.

Открытием Е. Будинаса, вполне достойным литературного патентования, считаю «промежуточного человека» вообще, Федьку из «Дома в сельской местности» в частности.

Считается, что дважды литератору говорят только хорошее в день похорон и в листке-рекомендации. Отступая от канона, скажу, что к сорока годам Е. Будинас выпустил только одну книгу. Мало! Думается, что путь летописца у одного какого-нибудь лица надо ему оставлять, и чем скорей, тем лучше. Полагаю, что в работе над стилем главным для него будет завоевание простоты.

Я желаю Евгению Будинасу писать страстно, но так, чтобы ни от чего спустя срок не отказываться.

*Ю. Черниченко*

*15 февраля 1984 г.*

## Міхась Стральцоў — Леаніду Дранько-Майсюку

Для маладога паэта не можа быць ухвалы больш за тую, што ён арыгінальны. Арыгінальнасць даецца цяжка. Цяжка знайсці сябе, паставіць у літаратурны рад, вызначыць свае адносіны да наяунай у паэзіі традыцыі. Усё гэта дастаткова складана, калі ўлічыць, што маладосці наогул не надта ўласціва шанаваць папярэдні літаратурны вопыт. Яна мае слушнасць у сваім нежаданні паўтараць, але часта памыляецца ў ацэнцы магчымасцей самой традыцыі.

Леанід Дранько-Майсюк чуйны да вопыту папярэдняй паэзіі, у тым ліку класічнай. Ён творча ўвасабляе яе вопыт, ідучы да вытокаў самой паэтычнасці — да фальклору, міфа, гісторыі.

Гэта цень мой вярнуўся дамоў,
Выпіў кварту халоднай вады.
Узышоў на вяршыні дубоў,
Абтрасаючы жалуды.

Часам гэтым стары сталяр
У павеце вычэсваў прамень.
На сабаку, што побач стаяў,
Промні падалі і цень.

Зайдросная свабода ў падарожжы ў часе, прысутнасць вечнасці ў сённяшнім быцці героя. Гэта не стылізацыя, не павярхоўнае выкарыстанне даўніх матываў — гэта складаны духоўны свет сучасніка, які добра [адчувае] свае сувязі з гісторыяй, бытам, з запаветамі мінулага. Гэта падарожжа з сучаснасці ў гісторыю і з гісторыі ў сучаснасць. Нездарма першы зборнік вершаў Л. Дранько-Майсюка названы «Вандроўнікам».

Паэт падрыхтаваў і здаў у друк новую кнігу вершаў, выпрабаваў сябе ў жанры паэмы. Ягонае «Кола» (паэма) лаканічнае, багатае на асацыятыўныя сувязі з сучаснасцю, арыгінальнае жанрава. Паэт пастаянна ў пошуку, ён паглыбляе ўвесь час сваё разуменне сучаснай паэмы і сучаснага майстэрства.

Ахвотна рэкамендую Л. Дранько-Майсюка ў члены Саюза пісьменнікаў СССР.

*Міхась Стральцоў, чл. біл. № 12258*

*16.10.84*

## Васіль Сёмуха — Лявону Баршчэўскаму

Рэкамендую Баршчэўскага Леаніда Пятровіча (Лявона Баршчэўскага) Саюзу пісьменнікаў СССР як перакладчыка з нямецкай, чэшскай, польскай, нідэрландскай і інш. моў на беларускую (паэзія, проза), чыё прафесійнае майстэрства магу засведчыць асабіста, дзякуючы знаёмству з яго працамі, а таксама рэдактарскімназіраннем за працэсам перакладніцтва Л. Баршчэўскага.

Валодаючы некалькімі замежнымі мовамі, Л. Баршчэўскі ўжо даўно выступае ў беларускай прэсе («Химик», «Літаратура і мастацтва», «Крыніца», «Полымя», «Маладосць», «Віцебскі рабочы»), мае выдавецкія выданні («Далягляды», кніга).

Выдадзеная ў 1988 годзе кніга выбраных вершаў Б. Брэхта «На шалях праўды», будучы першай кнігай перакладчыка, стала пакуль што і адзінай кнігай паэзіі Брэхта на беларускай мове, салідна запоўніўшы сабой істотны прагал у беларускай перакладной літаратуры.

Параўноўваючы пераклады Баршчэўскага з паэзіі немца Брэхта, чэха Врхліцкага і галандца Ахтэрберга, можна пераканацца, што Баршчэўскі валодае здольнасцю так званага перакладчыцкага ліцадзейства, што дае поўнае права сцвярджаць, што творчая асоба перакладанага аўтара ў яго на першым месцы, не заслонена асобай перакладчыка, — найбольш цанёная мною якасць у перакладчыка.

Перакладчыцкая палітра Баршчэўскага ўключае і прозу, якая сведчыць пра выдатныя стылістычныя здольнасці. Пераклады з прозы Ф. Кафкі, дагэтуль невядомай беларускаму чытачу, — гэта праца першапраходніцкая, у якой перакладчык не мог абаперціся на традыцыі прачытання прозы Кафкі, і яму належыць яе першая кваліфікаваная інтэрпрэтацыя.

У асобе Баршчэўскага Л. П. мы маем сур'ёзнага даследчыка перакладчыцкіх прац іншых пісьменнікаў. Пры вострым дэфіцыце ў рэспубліцы крытыкі мастацкага перакладу СП БССР мае магчымасць набыць спецыяліста і ў гэтай галіне крытыкі.

Як прафесійны перакладчык Баршчэўскі Л. П. несумненна адбыўся, і я рэкамендую Саюзу пісьменнікаў БССР пацвердзіць гэты ягоны статус прыёмам у члены Саюза пісьменнікаў СССР.

*Васіль Сёмуха, член СП СССР, чл. б. № 12239, выд. 29.12.1979 г.*

*30 мая 1988 г.*

## Янка Брыль — Міколу Ермаловічу

Больш за трыццаць гадоў чытаю ў нашай перыёдыцы выступленні Міколы

Ермаловіча з артыкуламі, нарысамі, рэцэнзіямі, у кожным выпадку — з цікавасцю і пашанай да яго светлай нястомнасці.

Вернасць гістарычнай тэматыцы, больш канкрэтна — гісторыі роднай Беларусі, так характэрная для ўсёй шматгадовай працы Ермаловіча, знайшла свой найбольш поўны выраз у апублікаванай летась у «Маладосці» будучай кнізе «Старажытная Беларусь». Здзіўляе, радуе і глыбіннасці аўтарскай падрыхтаванасці, веданне ім прадмета, мова, стыль, нарэшце — тое, што называецца сапраўдным жыццёвым подзвігам, творчай апантанасцю таленавітага дабрасумленнага вучонага і пісьменніка ў адной асобе.

Несправядлівым, недарэчным бачыцца той дзіўны факт, што Ермаловіч дагэтуль яшчэ ўсё не прыняты ў нашу літаратурную сябрыну.

Рэкамендую Міколу Іванавіча Ермаловіча ў члены Саюза пісьменнікаў.

*Янка Брыль, член СП СССР з мая 1945 года; № білета 12024*

*5.I.1989*

## Ігар Шклярэўскі — Ізяславу Катлярову

Стихи Изяслава Котлярова я знаю давно. Еще в юности на могилевских руинах он читал мне свои искренние строки. И уже тогда было ясно, что фальшь и ложный восторг не уместны на фоне обгорелых стен и крика голодных галок.

Память детства — особый дар, по которому узнаешь, кто перед тобой — поэт или стихотворец. Хотя судьба у стихотворца может быть удачливей. Изяслав Котляров предан детству с большой буквы. Поэтому в его стихах есть просветленная боль и высокий звук, — иначе говоря, — настоящая поэзия.

Лучшие строки Котлярова стихийны. В них есть недосказанность и глубина пространства, свежесть провинциального бытия и быта, сдержанная благодарность жизни.

Горячо рекомендую Изяслава Котлярова в члены Союза писателей СССР.

*Игорь Шкляревский, членский билет № 01878*

*31 марта 1990 г.*

## Пімен Панчанка — Ізяславу Катлярову

Ізяслаў Катляроў не з самых маладых пачынаючых паэтаў. У яго ўжо багаты жыццёвы вопыт, нядрэннае майстэрства вершаў. Ён піша мініятуры, кароткія вершы.

Аснова яго паэзіі — успаміны аб пасляваенным дзяцінстве, аб голадзе і невыносных стратах. Але яго вершы не песімістычныя, а напоўненыя радасцю і шчасцем жыцця, дружбай, прыязнасцю да сваёй радні, любоўю да рана памерлай маці, да франтавіка бацькі.

Яго пачуцці не расплыўчатыя, а канкрэтныя, як і канкрэтныя ў яго любоў, добры ўчынак, замілаванне роднай рэчкай, воблакам, дарогай. Наогул, дабрыня — вызначальная рыса характара паэта і яго герояў. Вы чытаеце верш пра дзяўчынку, якая непадалёк ад магазіна горка плача: згубіла рубель, што дала ёй маці, каб нешта купіць. Хлопчык падыходзіць да яе (відаць, гэта будучы паэт) і пачынае яе ўшчуваць: «Падумаеш, рубель згубіла. Якое гэта гора? Не плач» — і дае ёй свой рубель. А ў хлопчыка гэта рубель таксама быў апошні: маці паслала за хлебам і соллю. Вось так ненавязлівая дабрыня, якая ў гэтага хлопчыка і яго сяброў выхавалася з ваенных гадоў, робіць больш светлым жыццё.

Згубіў хлопчык сваю чаргу, але дабрадзейныя маладзіцы клічуць яго да сябе:

«Ідзі, хлопчык, ты тут стаяў». І, нават, калі родны бацька б'е вінаватага за благі ўчынак былога паліцая, хлопчык заступаецца за яго, бо ненавідзіць усялякае прыніжэнне чалавека.

Вось характэрны верш для І. Катлярова:

Молитва

Дай мне себе не солгать!
Если себе не солгу, —
Может быть, правду сказать
Людям о людях смогу.

Цудоўная мініятура. Мы часта кажам: «Пачынаць перабудову з сябе». Такія радкі цешаць душу, паэту пачынаеш верыць.

Для І. Катлярова характэрныя праўда пачуцця, вобраза, перажывання, думкі. Для яго не характэрныя заклік, мараль, рыторыка. Гэта добра.

Горш, што некаторыя думкі, перажыванні, вобразы, успаміны паўтараюцца, і таму вершы часам падобныя адзін на адзін. Даўгавата заседзеўся паэт на ўспамінах маленства. Варта пільней глянуць на навакольны свет, на наш складаны і цяжкі час. Тады з'явяцца і новыя тэмы, і новыя фарбы.

Лепшыя вершы паэта І. Катлярова кажуць самі за сябе: у паэта добрая паэтычная адоранасць.

Спасибо скажу врагу,
А другу еще не могу.
Так яростно искренен враг,
А друг не однажды врал.
Мне друг за ошибки льстил,
А враг ни одной не простил,
Он тыкал их мне в глаза,
Как молнии тычет гроза,
Чтоб видел, чтоб лучше стал, —
А друг на него роптал.
Спасибо скажу врагу,
А другу еще не могу.

Нельга без хвалявання чытаць верш «Вдруг отец распахивает сени...»

— Шел с вокзала. А со мною — Женя,
Вот до самой хаты довела...

Памёршая Жэня — жонка байца, які вярнуўся з фронта. Фантастыка. Прывід. І... горкая праўда. Недарма нам, франтавікам, да гэтага часу сняцца і баі, і жывыя (у памяці) сябры.

Ізяслаў Катляраў — здольны паэт. Ён друкаваўся не толькі ў рэспубліканскім друку, але і ў Маскве, Ленінградзе — у часопісах «Знамя» і «Нева».

У паэта ў мінулым годзе выйшаў зборнік вершаў «Здесь на трепетной земле» («Мастацкая літаратура»), 1989 г.

У наступным годзе (1991 г.) выйдзе яго зборнік «На расстояньи взгляда и души» (уключана ў план выдання — сам бачыў).

Я лічу, што Ізяслава Катлярова з горада Салігорска, патрэбна прыняць у Саюз савецкіх пісьменнікаў СССР. Яго вершы варты гэтага. Прашу Камісію па прыёму ўлічыць маю рэдкую просьбу.

*Пімен Панчанка, член ССП СССР з 1938 г.*

*3 красавіка 1990 г.*

## Анатоль Вялюгін — Міхасю Скоблу

Я помню, вядомы рускі паэт, вачмі акінуўшы з трыбуны залю ўсесаюзнага з'езда, згадаў дэбют Маякоўскага: «Мир огромив мощью голоса, иду — красивый, двадцатидвухлетний», а потым цяжка ўздыхнуў:

— Красивых здесь не перечесть, а вот двадцатидвухлетних что-то не видно...

Запознена выходзіла ў людзі маладая паэзія: першая кніжка, калі стукне 30—35, такія ўмовы былі — то вайна, то папера. Таму і сёння, калі шчодра сыплюцца раннія лірычныя салюты часопісных бібліятэчак, здзівіў, прыемна ўразіў дзёрзкі дэбют студэнта БДУ Міхася Скоблы: частыя, яркія падборкі на старонках «Полымя», «Маладосці», «Беларусі»; кніжка «Вечны Зніч», выпушчаная «Маладосцю»; другая кніга, здадзеная выдавецтву «Мастацкая літаратура»; дасціпныя, моцна скляпаныя пародыі і эпіграмы ў палымянскім «Дзядоўніку на Парнасе», з якіх можна скласці добры зборнік літсатыры і гумару.

Неадступныя пытанні, трывога за будучыню і за прошласць — усё гэта ў вершах маладога паэта «За век свой недаўгі», «У апошнім музеі Беларусі», «Жаўрукі Паўлюка Багрыма»... І зусім нядаўняя гісторыя жыве ў такіх рэчах, як «Дзяды-88», «Памяці Ларысы Геніюш»:

Клямкі ніхто не падыме,
кветнік зарос лебядою.
Дзе ж ты пайшла, гаспадыня?
Сцежкаю поруч з бядою.

Вернецца словам ці нават
песняй ва ўмёрлыя душы.
Здзеклівы рогат Цанавы,
вочы чужыя і вушы...

«Скапаю дзедаўскі дрывотнік, Па каліву перабяру. І што не змог народ нямотны, Я за яго дагавару», — гэта Уладзімір Хадыка, паэзіяй якога захапляліся Пастарнак і Аўсееў. Варажбітнасць хадыкаўскай інтанацыі часам адчуваецца ў вершах Міхася Скоблы, асветленых чысцінёй непадробленай беларускасці. Такіх паэтаў неабходна мець у нашым гурце.

*Анатоль Вялюгін, член СП СССР з 1946 г., № білета 12040*
*25.3.91 г.*

## Ніна Мацяш — Васілю Дэбішу

Зазіраю ў заўтра я — цямрэча.
Навакол нікога — ноч і змрок.
Толькі на стале трапеча свечка,
Бы ў сіло спайманы матылёк.

Ані зоркі. На засовы дзверы, —
Шоргат ног і рогат за сцяной.
Нібы звер загнаны, па кватэры
Ў спаняверцы сум блукае мой.

Чорны змрок ахутаў лес і нівы, —
Ў цемнаце не адшукаць дарог...
Толькі ветру плач такі шчымлівы,
А ў душы — мінулае і Бог.

Колькі сэрцаў здольны вярэдліва крануць гэты жалейкавы голас? Колькі людзей здольныя пазнаць сябе ў гэтай бязрадаснасці сённяшняга дня і няпэўнасці, беспрасветнасці дня заўтрашняга? Мноства. Некалькі пакаленняў пайшло з

жыцця, як з падмосткаў тэатра абсурду. Але масава расплюшчыць вочы на гэты тэатр давялося толькі нам, чарговым статыстам і аднаязмельцам аўтара вышэйпрацытаванага верша. Так, жыццёвым варункам нашым далёка да ладу, да гармоніі. Так, навакол пануе змрок і страх. Але ж ёсць, хай сабе і кволае, святло свечкі на стале! Але пакуль у душы — «мінулае і Бог», такая душа не можа быць слабою і не шукаць выйсця з атупляльных, расчалавечвальных абставін. І хоць лірычны герой Васіля Дэбіша неяк і ўсклікнуў разгублена: «Каму маліцца мне», — воблік ягонага трыадзінага Бога яскрава вымалёўваецца на паэтычных старонках у іпастасях Радзімы, Дабраты і Кахання. У творчасці Васіля Дэбіша, на маё ўспрыманне, знаходзіць увасабленне пачуццёва-рамантычны свет чалавека, якому вадзіць грубая рэчаіснасць і які сумуе па чулых, далікатных, шляхетных адносінах паміж людзьмі. Лірычны герой Васіля Дэбіша не праклінае і не заклікае. Ён нікому не навязвае сімвалаў сваёй веры, ён толькі ўтаймоўвае ўласныя стому і боль:

...Быць не баюся пакаянным,
Тапіў свой сум я ў віне.
Я Вас кахаў, прабачце, панна.
Ды цесны стаў Ваш замак мне.

Асэнсаванне зямнога побыту і духоўных крыніц жыцця, туга па дасканаласці ў людскіх стасунках, боль за панявечаную памяць і годнасць беларускага народа і спадзяванне на яго нацыянальнае адраджэнне арганічныя для Васіля Дэбіша. Староннія ж разважанні на тэму: паэт ён ці не, варта яго прыняць у суполку пісьменннікаў ці не варта — уяўляюцца мне даволі забаўным дзействам, намерамі статыстаў выступіць у ролі Рэжысёра, бо ўсё даўно ўжо вырашана па-за намі: раз Васіль Дэбіш адчуў патрэбу ў паэтычнай творчасці і зрабіў удалую спробу выявіць свае магчымасці ў гэтай сферы, то каб выканаць сваё духоўнае прызначэнне і не зглуміць боскі дар, яму застаецца толькі адно — развіваць і дасканаліць яго.

Кахай, твары, пакуль на свеце ёсць
Вачэй тваіх агністае святло, —

сказана Васілём Дэбішам.

Хочацца дадаць, што Васіль Дэбіш добра валодае родным словам, шмат і плённа друкуецца, а галоўнае, заўжды працуе над сабой, сваім духоўным «Я». Хай для яго святло агністае не пагасне!

*Ніна Мацяш* *25 мая 1992 года*

## Васіль Быкаў — Валянціну Грыцкевічу

Валянцін Пятровіч Грыцкевіч — паважаны вучоны-публіцыст і пісьменнік, аўтар шмат якіх кніг на важныя навуковыя і грамадскія тэмы жыцця. Жывучы ў Санкт-Пецярбурзе, ён набыў зайздросную якасьць сувязьніка паміж дзьвума літаратурамі, папулярызатара ў расейскім асяродзьдзі шматлікіх здабыткаў беларускай літаратуры.

Рэкамендую прыняць Валянціна Грыцкевіча ў Саюз пісьменьнікаў Беларусі.

*Васіль Быкаў, народны пісьменьнік Беларусі*

*16 травеня 1995 г.*

## Рыгор Барадулін — Марыне Наталіч

Я, Рыгор Барадулін, сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў з 1958 года, даўно ведаю паэтку Марыну Наталіч.

Марына Наталіч — паэтка са сваім адметным голасам у нашай рускамоўнай паэзіі, са сваім творчым і жыцьцёвым лёсам.

Вершы Марыны Наталіч выгодна вылучаюцца глыбінёй думкі, натуральнасьцю гучаньня радка, сваім памкненьнем у вышэйшыя сферы духу.

Пераклады з Максіма Багдановіча радуюць ашчаднасьцю й трапятлівасьцю.

Руская інтэлігентка па лепшых прыкладах расійскай інтэлігенцыі дасканала вывучыла нашую мову. Марына Наталіч і піша й гаворыць па-беларуску бездакорна. Гэта яна адрэдагавала безьліч сур'ёзных тамоў па гісторыі беларускага духу.

Лічу за гонар рэкамендаваць Марыну Наталіч у сяброўства нашай пісьменьніцкай суполкі.

*Рыгор Барадулін, сяброўскі білет № 007*

*Кастрычнік 1996*

## Рыгор Барадулін — Валерыі Куставай

Я, Рыгор Барадулін, сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў з 1958 году, рэкамендую ў пісьменьніцкую сям'ю шалёна таленавітую паэтку Валерыю Куставу.

Гэта новая крывіцкая паэзія, гэта новае й па-новаму пачутае крывіцкае слова ўтрапёнкай, якую чакала паэзія Беларусі.

Аберуч галасую за шчырасьць і непаўторнасьць, за дасьведчанасьць і майстэрства, за першаросавасьць пачуцьця, за паганскі агонь жарсьці, за небазорнасьць роздуму. Карацей — за Валерыю Куставу.

*Памаладзелы ад шалёных радкоў*
*незвычайнай паэткі Рыгор Барадулін*

*14.02.04, Mensk*

## Язэп Янушкевіч — Радзіму Гарэцкаму

Хтось пачынае публічную спробу ўласнага пяра ва ўзросце 19 гадоў карэспандэнцыямі кшталту «Горкі, Магілёўскай губерні» не дзе-небудзь, а на старонках легендарнай «Нашай Нівы» (1912). Каб у 21 займець першы зборнік апавяданняў («Рунь»; Вільня, 1914) і адразу ўслед за ім прычакаць прафесійнай рэцэнзіі не каго-небудзь, а самога Власта-Ластоўскага. Здавалася б, наперадзе плённае творчае жыццё. Аднак творцу жывасілам, у 37 гадоў, адрываюць ад любай пісьменніцкай працы, асуджаючы на выгнаньне. Каб там, на чужыне, у 45 забіць.

Імя яму Максім Гарэцкі (1893 —1938).

Хтосьці пачынае сваё грамадскае служэньне нядаўна паняволенай Бацькаўшчыне таксама блізу 20-годкам, каб у 26 стаць аўтарам дасьледзін «Народны прыбытак Беларусі» (Менск, 1926), а ўслед за гэтым уганаравацца 28-гадовым правадзейным сябрам навастворанай Беларускай Акадэміі Навук — самым маладым Акадэмікам за ўсю 78-гадовую гісторыю існаваньня БАН. Але потым і ягонае жыццё ламаюць, калечаць, тройчы ставячы пад расстрэл.

Імя яму Гаўрыла Гарэцкі (1900 —1988).

Хтосьці адкрывае сваё літаратурнае прызванне ў 50-гадовым веку. І тое, яшчэ доўга не верачы гэтаму, не верачы парадам і намаганням сяброў і блізкіх людзей, не пагаджаецца ўступаць у Саюз беларускіх пісьменнікаў — прафесійнае згуртаванне айчынных літаратараў. Таму я не хаваю гонару, што на ўласны рахунак магу запісаць: гэта мне пашанцавала, пад час апошніх адведзін, у лютым 2006 года, у лякарні (Лечкамісіі), схіліць сівагаловага творцу ўрэшце ў СПБ уступіць.

Імя гэтага чалавека — Радзім Гарэцкі.

Толькі пералік зробленага і надрукаванага Р. Гарэцкім — каля паўтысячы

апублікаваных пазіцый. Зь іх пералік кніг-манаграфій складае не адзін дзясятак.

Аднак рахунак ім хацеў бы працягнуць усяго адной кнігай, не адзначанай яшчэ ў аніводнай энцыклапедыі за персаналіяй Р. Гарэцкага. Гэта — зборнік артыкулаў і замалёвак «Вечна жыве Беларусь!» (Менск: Беларускі кнігазбор, 2003). Менавіта ў ім мяне чарговы раз уразіў такі нечаканы, неспазнаны, непаўторны Радзім Гарэцкі. Абразкі «Санкі», «Горе» запалі ў душу майстэрствам коратка й ярка падаць трагізм жыцьця. І наадварот: апавяданьні «Веснушчатая весна», «Удавчик» ударылі ў самае сэрца сваім маладым, гарачым, палкім пачуцьцём. Праўдзіва — так паўстае «Жыцьцёвы мэланж».

То няхай ён доўжыцца ў Радзіма Гарэцкага на ўсю моц не толькі як у геолага, слыннага грамадзкага дзеяча, заснавальніка беларускай школы тэктаністаў, але і як літаратара.

Бо гэта ў пісьменнікаў, таленавітых пісьменнікаў і думанікаў, праўдзівых апосталаў нацыі, люд паспаліты заўсёды пытаецца: «Скажыце, як жыць далей, што рабіць на жорсткіх, крутых паваротках неспагаднай матухны-гісторыі?».

Асабіста я ў апошняй, названай вышэй, кнізе «Вечна жыве Беларусь!» вычытаў credo: «сапраўдны навуковец, што б зь ім не рабілі, куды б яго ні штурхалі ў час рэфармаваньня, як бы яму ні перашкаджалі, будзе пільна працаваць (праўда, менш эфектыўна), бо галоўнае для яго — адданасьць навуцы, пошуку ведаў і ісьціны» (с. 80).

Такія важныя складніковыя часткі неабходныя і тым, хто прымае на сябе ганаровае званьне беларускага літаратара.

Ганаруся, што гэтая Рэкамендацыя — адна з нешматлікіх, дадзеных мною за дзесяцігоддзе, як самога мяне прынялі ў прафесійны пісьменніцкі цэх.

Дык няхай спаміж нас будзе як мага больш такіх калег, як Радзім, сын Гаўрылы, братанец Максіма з легендарнага роду Гарэцкіх.

*Язэп Янушкевіч, сябра СБП з 1995 г., нумар білета 482.*

*25 сакавіка 2006 г.*

СЛОВЫ

Андрэй Масквін



...паэзія – гэта лад жыцця
і лад мыслення...

# «Я тыповы чалавек эпохі Барока»

***Гутарка Андрэя МАСКВІНА з Вікай ТРЭНАС***

* * *

сталасць не ёсць мудрасцю
схілі свой пасівелы галаў
перад мужнасцю маленькай дзяўчынкі
якую носіць на руках ранішні вецер
якую лашчыць абрыкосавае сонца
і ў душы якой – бурлівасць горнага вадаспаду
усе мы выпалі з калыскі часу
усе мы хочам пакаштаваць бяссмерця
усе мы цягнем рукі да любові
і атрымліваем аплявухі
яна танчыць у цэнтры
замкнёнага кола
застаецца адно
схіліць перад ёю галаў

*Віка Трэнас, Экзістэнцыйны пейзаж.*
*Мінск 2008, с. 58.*

***– Ці памятаеце вы момант, калі быў напісаны гэты верш?***

– Я вымушана адкрыць сакрэт. У прынцыпе я замкнуты ў сабе чалавек, тым больш, калі гэта тычыцца працэсу творчага мыслення. Па вялікім рахунку я лічу сябе чалавекам, які піша тэксты, але паэтам да гэтае пары сябе не лічу. Паколькі ў вершы ідзе апісанне любові, то я думала зрабіць гэты твор больш празрыстым і паставіць вядомы яшчэ са старажытных часоў эпіграф аб тым, што мы ўсе павінны пакарыцца любові. Але вырашыла, што гэта будзе „занадта ў лоб".

Што тычыцца стварэння, то гэта стыхійны працэс. Я сказала б, што гэта плынь несвядомага. Усе мае вершы з'яўляюцца такім чынам. Я нават не магу згадаць, дзе і пры якіх абставінах ён быў напісаны. Гэта можа адбывацца дзе заўгодна: едучы ў грамадскім транспарце, працуючы над рукапісам іншага аўтара, мыючы на кухні талеркі, пры напісанні нейкага артыкула... Гэта адбываецца абсалютна стыхійна. Таму я не магу згадаць і дакладна акрэсліць перадумовы стварэння верша, і, шчыра кажучы, мне нават і не хацелася б гэтага рабіць. Працэс творчага мыслення настолькі інтымны для мяне, што ім ні з кім не хочацца дзяліцца. Усё, што я магла сказаць – абсалютна шчыра сказала. Я заўсёды стараюся быць максімальна шчырай. Бо няшчыры паэт не цікавы людзям і не будзе імі ўспрымацца. Гэта для мяне аксіёма.

***– Калі чытаеш вашыя вершы, першае ўражанне – паэзія з'яўляецца вашай існасцю. Без паэзіі вы не маглі бы існаваць. Вашыя вершы цякуць, льюцца, як рака, і хочацца ў іх паглыбіцца.***

– Я вельмі ўдзячная вам за такое тонкае разуменне, бо вы, мне здаецца, абсалютна дакладна і даслоўна акрэслілі маю пазіцыю. Насамрэч, так яно і ёсць. Для мяне паэзія – гэта лад жыцця і лад мыслення.

У апошнія гады я пачала цікавіцца пытаннямі фемінізму, эстэтычных і сацыялагічных практык, але высветліла, што ў мяне занадта вялікая залежнасць ад стыхіі паэзіі. Кожны раз дзень маіх народзінаў – гэта дзень вялікіх рэфлексій. Я разважаю, падводжу рахункі за апошні год, думаю, чым магу пахваліцца або наадварот. Збольшага прыходжу да высновы, што ў мяне не атрымалася рэалізаваць усё, што хацела. Якраз у гэтым годзе прыйшла да высновы, што за дваццаць чатыры гады жыцця я не маю нічога, акрамя паэзіі. Мяне гэта не суцяшае.

Можа, я выказваюся занадта патэтычна. Насамрэч мне шмат чаго хапае. Але ў глабальным, быційным сэнсе... Побытавыя пытанні, узаемаадносіны паміж людзьмі мяне цікавяць толькі праз прызму паэтычнага мыслення. Вось гэта мой свет, у якім я жыву, ёсць нейкай абалонкай, а ўсё астатняе знаходзіцца па-за ёй.

***– Падчас прачытання гэтага верша з'яўляецца ўражанне, што Вы чалавек крайнасцяў. З аднаго боку, цішыня, спакой, а з другога – «бурлівасць горнага вадаспаду». Тое самае мне ўдалося адчуць у іншых вершах. Гэта ваш унутраны стан, ці вашае адчуванне свету, у якім вы жывяце? Ці, можа, проста маладосць?..***

– Мне думаецца, што я заўсёды такой буду. Калі казаць пра маю эстэтычную прыхільнасць, то я сапраўды тыповы чалавек эпохі Барока. Калі вучылася на філалагічным факультэце БДУ, то займалася медыевістыкай і даследавала літаратуру эпохі Барока, творчасць Мялеція Сматрыцкага, аўтара «Трэнаса», а таксама праваслаўнага пісьменніка-палеміста Андрэя Мужылоўскага. Вельмі хутка я зразумела, што па сваіх адчуваннях, па нейкіх унутраных арыенцірах з'яўляюся чалавекам барока. Калі мы пазнаёмімся з дакументамі, калі пачытаем вершы і дыярыушы тых часоў, то звернем увагу на адну рэч, а менавіта – на спалучэнне супрацьлегласцяў, супярэчнасцяў. Гэта такі закон жыцця. Вельмі часта супярэчлівае змяшчаецца ў адным.

***– Верш пачынаецца са словаў, якія можна палічыць афарызмам: «Сталасць не ёсць мудрасцю». Такое можа сказаць чалавек, які пражыў бага-***

***тае, інтэнсіўнае жыццё. А што менавіта вас прывяло да гэтай думкі?***

– Сакрэты творчага мыслення я стараюся не раскрываць. Я сама не ведаю, што здарылася. Гэта абсалютна рэфлексіўны, падсвядомы працэс. Я напісала тэкст, і з моманту стварэння ён пачынае жыць сваім жыццём. Праз нейкі час, канечне, адбываецца больш канкрэтная праца. Адключаецца Віка як стваральнік тэксту і ўключаецца Віка як рэдактар. Гэта дзве розныя іпастасі. І тады я раюся са сваімі старэйшымі калегамі, магу нешта паправіць. Але саму сутнасць, нейкую экзістэнцыю наўрад ці змагу растлумачыць. Я яе сама не ведаю. Дарэчы, існуе перакананне, што немажліва неяк спасцігнуць крыніцу натхнення. Для мяне самой гэта вялікая таямніца.



Віка Трэнас.

***– Гераіняй верша з'яўляецца маленькая дзяўчынка. Ці можна сказаць, што ў нейкім сэнсе верш аўтабіяграфічны?***

– А што, я сапраўды маленькая дзяўчынка? Я не такая ўжо і маленькая. *(смяецца)* Усе мае вершы аўтабіяграфічныя. Гэта самае галоўнае. Я ніколі не пішу таго, чаго не перажыла. Калі ў дзевятнаццаць гадоў выйшла мая першая кніга «Цуд канфіскаванага дзяцінства» (2005), у яе ўвайшлі вершы, напісаныя ў пятнаццацьсямнаццаць гадоў. Канечне, на іх быў адбітак падлеткавага мыслення. Там было многа згадак крыві, смерці. Але сама па сабе кніга насіла больш архетыповы характар, і ў хуткім часе я адышла ад гэтай эстэтыкі. Старэйшыя сябры і калегі казалі мне, што я не магу так пісаць, бо я гэтага не перажыла. Але памерці можна не толькі фізічна, але і маральна. Такія рэчы трэба разумець. Я сказала б, што неперажытых вершаў у мяне няма. Кожны верш для мяне – як самае сакральнае.

***– Калі вы пішаце «усе мы выпалі з калыскі часу», то каго маеце на ўвазе: сваё пакаленне, якое не атрымала таго, на што разлічвала, ці, можа, увесь беларускі народ?***

– У паэзіі даволі дзіўныя суадносіны часу і прасторы. Гэтыя знакамітыя хранатопы мы ўсе вывучалі ва ўніверсітэце. Існуе некалькі варыянтаў прачытання гэтай думкі. Можна разглядаць фразу як разважанне пра пакаленне саракагадовых, пра пакаленне Андрэя Федарэнкі. А можна таксама пра маё пакаленне. Гэта дваццаці-дваццаціпяцігадовая моладзь, якая прыйшла пасля «Бум-Бам-Літу». Яны ўсе, гэтыя маладзёны, самадастатковыя, ім нічога не патрэбна: ні падтрымка, ні вялікія залы і поўныя стадыёны. Яны самі па сабе. І я таксама адношуся да гэтага пакалення і лічу, што калі мне нешта трэба, то я пайду і арганізую. У савецкія часы шмат гаварылі пра тое, што дзяржава павінна падтрымліваць творцаў. Я гэта ўсё цудоўна разумею. Але часы змяніліся. Многія нашы старэйшыя пісьменнікі настальгуюць па тых часах, калі іх няньчылі. Часта і цяпер сутыкаюся з гэтым. Мне ж не трэба, каб мяне няньчылі.

«Выпалі з калыскі часу» – гэта таксама значыць выпасці з кантэксту. Большая частка тых людзей, з якімі зараз мы супрацоўнічаем, вельмі дакладна размяжоўваюць асабістае жыццё, побытавыя праблемы, узаемаадносіны з роднымі і творчасць. Я лічу, што гэтыя рэчы трэба сапраўды адрозніваць. Гэтыя людзі

нічога ні ў кога не патрабуюць. Калі ім неабходна – яны арганізуюць вечарыну, знойдуць мажлівасць надрукавацца і г. д. Яны «выпалі з калыскі часу», таму што не лезуць на барыкады, не прад'яўляюць да жыцця ніякіх высокіх, адмысловых патрабаванняў. Гэта нармальна, усе сучасныя паэты такія.

***– Вашы героі «хочуць пакаштаваць бяссмерця» і «цягнуць рукі да любові». Амаль ва ўсіх вашых вершах так ці інакш закранаецца тэма кахання. Вашыя героі імкнуцца спазнаць гэтае пачуццё хутчэй за ўсё не ў фізічным сэнсе, а больш у духоўным.***

– Па вялікім рахунку, большасць тэкстаў у гэтай кнізе, дзевяноста пяць адсоткаў, закранаюць тэму кахання. Але мне б хацелася звярнуць увагу на тое, што заўсёды існуе некалькі ўзроўняў інтэрпрэтацыі, некалькі трактовак. Гэта не толькі каханне жанчыны да мужчыны. Гэта агульнахрысціянскае паняцце любові як такой. Мы ўсе ведаем, што Бог ёсць любоў. Акрамя таго, тут ёсць і дахрысціянскае разуменне свету.

У некалькіх крытычных матэрыялах мае вершы былі зведзеныя да банальнай жаночай лірыкі. Канечне, жаночае тут ёсць. Напрыклад, мая першая кніга была абсалютна не жаночая. Я не разумею самога паняцця «жаночая літаратура»: можа, маюцца на ўвазе стандартныя вобразы – карункі, кветачкі; пакінутая каханым дзяўчына, якая сядзіць ля вакна і плача... Што ж датычыцца больш глыбокага асэнсавання, да якога я імкнуся, то варта сфармуляваць гэта як «быційнае адчуванне закаханасці». Як тое патлумачыць – не ведаю. Я пішу вершы таму, што не магу патлумачыць.

***– На другой вокладцы вашага зборніка прыводзіцца прадмова Рыгора Барадуліна пад назвай «Дыктант». Паэт зазначае: «Віка піша дыктант кахання. Піша і традыцыйным, і вольным, і разбураным вершам, і верлібрам без косак і кропак [...]. Піша старанна. Адзнаку хай ставіць чытач». Дыктант звычайна нехта дыктуе. Пад чыю дыктоўку вы пісалі гэты верш? Ці вы бачыце таго, хто дыктуе?***

– Не, не бачу, не ведаю. Напэўна, Пан Бог дыктуе. Не маю паняцця. *(смяецца).*

***– Вы сказалі некалькі слоў пра ваша пакаленне. А скажыце, якую паэзію яны пішуць? Чым яна, напрыклад, адрозніваецца ад пакалення трыццацігадовых ці саракагадовых?***

– Маладыя творцы пішуць жанрава, тэматычна і эстэтычна разнастайную паэзію. Якраз у вялікай размаітасці і заключаецца спецыфіка іх творчасці, збольшага арыентаванай на лепшыя ўзоры еўрапейскай літаратуры. Гэта агульнакультурная, глабальная тэндэнцыя, датычная прадстаўнікоў многіх іншых народаў, не толькі беларусаў.

***– Ці ведаеце вы свайго чытача, да якога звяртаецеся? Які ён? Ці маглі бы вы яго абмаляваць?***

– Калі ў дадзены момант згадаць чытацкую аўдыторыю, перад якой мне calі-кольвек даводзілася выступаць, то я магла б сказаць, што мае чытачы – самыя розныя і па ўзросце, і па сацыяльным статусе, і па сферы сваіх заняткаў, і па эстэтычным гусце. Вывесці нейкую агульнасць надзвычай складана. Зрэшты, у працэсе стварэння таго ці іншага верша я ні да кога не звяртаюся – я медытую, калі можна так выказацца. І калі мае шчырыя эмоцыі і патаемныя думкі знаходзяць водгук у сэрцы іншага чалавека, чытача – гэта якраз і ёсць найвялікшая радасць творчай самарэалізацыі.



Раіса Крывальцэвіч



...гэта магло быць вельмі смешна,
не вельмі смешна альбо зусім не смешна...

# Асцярожна! Дзверы...

## *Зацемкі з натуры*

З усіх відаў гарадскога транспарту найбольш люблю трамвай. За няспешнасць, пастукванне-пагойдванне, якое дае магчымасць апомніцца ў гарадской мітусні, супакойвае і настройвае на разважлівы лад.

У грамадскім транспарце розныя людзі ствараюць розныя сітуацыі.

Як звычайна, трагічнае і смешнае – побач.

Бывае, гавораць адчайнае.

Чула, як адзін мужчына ў трамваі з нейкай нагоды з горыччу, у нікуды, казаў пра тое, што ў 1968 годзе яго паслалі ў Чэхаславакію і ён вярнуўся адтуль інвалідам – ён што, прасіў яго туды пасылаць?..

Адна маладая жанчына ў адказ на нейкую заўвагу нярвова выкрыквала, што ездзіць ёй ужо засталося няшмат, у яе прызналі невылечную хваробу.

Пасля размовы ў трамваі вам нават можа паступіць прапанова выйсці замуж.

Пра гэта загаварыла нечакана маці “жаніха”, з якой мы перакінуліся парай прыязных словаў, як суседкі па трамвайных сядзеннях.

Гэта мая кароткая летняя сукенка і адносная танклявасць збілі жанчыну з панталыку... Я моўчкі разыгрывала з сябе “нявесту”.

Яе сын ніколі не быў жанаты, працаваў на “хуткай дапамозе”, і жыццё яго, па словах маці, складалася з дзяжурстваў і адсыпанняў пасля іх. Паказала фотаздымак. Жылі яны з маці ў “прыватным сектары”, дом вось-вось знясуць, і час з жаніцьбай падціскае: трэба вызначацца з новай жылплошчай, сяліцца асобна ад мамы.

Быў жнівень, жанчына прапаноўвала паехаць збіраць на дачы маліны, якія прападалі ў вялікай колькасці. Яна была мяккая, простая і добрая, медсястра-пенсіянерка, муж якой, доктар, пайшоў ужо ў іншы свет.

Я запісала тэлефон, сказаўшы ёй пра незамужнюю дарослую дачку. Але дачка нечакана для самой сябе і ўсіх сваякоў праз месяц хуценька выскачыла замуж...

У трамваі можна назіраць сутыкненне светапоглядаў. Гэта калі дзяўчаты на пярэднім сядзенні бесперастанна і голасна рагочуць. Пажылая жанчына робіць ім даволі рэзкую заўвагу – ёй баліць галава. Тыя спалохана замаўкаюць. За дзяўчат уступаецца іншая, таксама пажылая жанчына, якая выгаворвае “рэзкай” за тое, што тая едзе з кіслай мінай і іншым настрой псуе. Маладыя павінны смяяцца...

Альбо калі маладыя не саступаюць, як гэта заклікае голас дыктара, месца сталым. Тады нехта са старых дакарае-ушчувае моладзь, а хто-небудзь з такіх жа сталага веку людзей заступаецца: маўляў, і маладым цяжка, няпроста, стамляюцца, здароўя не маюць, няма чаго нападаць.

З усімі што-небудзь здаралася ў транспарце. Гэта магло быць вельмі смешна, не вельмі смешна альбо зусім не смешна...

## Смешны выпадак

Самы смешны выпадак распавяла пляменніца, яго сведка. Гэта было напачатку 90-х, падчас, калі ў сем’ях захоўвалі купоны і падлічвалі талоны, радаваліся назапашанаму цукру і купленым дзіцячым калготкам.

У набіты людзьмі трамвай ускочылі, ледзь дабегшы, дзве сяброўкі. Уляцелі, не згаварыўшыся, у розныя дзверы. Тая, што забегла ў пярэднія, была жанчына спраўная. Пабачыўшы, што з цяжкасцю здабытым у чарзе дэфіцытным яйкам (тады за іх якраз “браўся” прэзідэнт) пагражае небяспека быць раздушанымі, яна папрасіла ў кіроўцы дазволу паставіць гэтыя каштоўныя дзясяткі, упакаваныя ў фігурных выемках-паглыбленнях кардонных ёмкасцяў, у кабіне.

“Галя, где ты, иди сюда!” – паклікала здалёк нябачная ў натоўпе пасажыраў сяброўка. “Не могу, я у шофёра яйца держу!” – пачулася на ўвесь тралейбус з першых дзвярэй... і тралейбус грымнуў, пакаціўся са смеху... Найдаўжэй ад рогату не мог адысці сам шафёр.

Значыць, у трамваі ехалі не да канца зрусіфікаваныя вясковыя беларусы, для якіх беларускае слова “яйкі” суадносіцца з курыцай, а расійскае “яйца” успрымаецца па-вясковаму, як недалікатная назва вельмі далікатнай часткі мужчынскага цела.

Думаю, што і рэклама Салігорскай птушкафабрыкі на мінскім трамваі “Яйца молодецкие с селеном – залог бодрости, здоровья и долголетия» шмат каму навявае думкі не пра той прадукт. Не з-за разбэшчанасці, а па той жа моўнай прычыне. Яны ж яшчэ і маладзецкія – значыць, хлопцу-малайцу належаць. Засела ў нас беларускае. Няхай у такой форме...

Недарэчная рэклама не толькі на “яечным” трамваі.

“Ідэалагічны” трамвай-агітка – у чырвона-зялёных сцягах і са словамі «За

сильную и процветающую Беларусь!» таксама выклікае пытанні. Наконт Беларусі.

### Шчымлівы выпадак

Гэта было мо ў якім 2004-м, перад чарговымі выбарамі, калі дурню было зразумела, што апаненты ўлады ўжо прайгралі, народ "спіць" і, загнаны на ўчасткі, прагаласуе, як загадаюць. Наперадзе – чарговае расчараванне, таптанне на месцы, шкадаванне няздзейсненага, боль з-за ўпушчаных магчымасцяў, прыніжанасць ад несправядлівасці, грубай хлусні.

З раніцы ехала на працу. На пярэднім сядзенні трамвая сядзеў мужчына гадоў пад 70, граў на баяне і спяваў.

Ён займаў два месцы – на адным побач з шапкай з грашыма ляжала вялікая колькасць нотаў. Спяваў толькі беларускае, голасна, як на сапраўдным канцэрце, абвяшчаў аўтара словаў і музыкі.

Ён спяваў песню на словы Генадзя Бураўкіна:

Мы здалёк убачылі свабоду
І яшчэ не вырваліся з пут.
Божа, не дабаў майму народу
Пошасці, няпраўды і пакут.

Людзей у трамваі было шмат, яны стаялі побач з песеннікам з каменнымі тварамі, не глядзячы на яго і як бы не чуючы. Яны не хацелі яго чуць. Ён перашкаджаў. Яны для сябе ўжо ўсё вырашылі.

Божа, не дабаў майму народу...

Хацелася плакаць ад бачнай прадвызначанасці нашага агульнага шляху.

...А грошы дзядзьку клалі вялікія, не такія, як заўсёды. У шапцы ляжалі не дробныя, "капеечныя" купюры, а немалыя як для падаяння грошы. Гэта была не падачка на беднасць, а падзяка за аднадумства, за мацаванне духу.

### Віншаванні ў трамваі

Яны прысвечаныя святам, напрыклад, Новаму году ці Дню горада... Акрамя неабходнага "шчасця і здароўя" гарадскія ўлады жадаюць мясцовым бюргерам чаго матэрыяльнага (а што яшчэ гэтым ненасытным грамадзянам ад уладаў трэба?), што выражаецца ў расплывістым слове "дабрабыт".

На Новы 2010 год грамадзянаў у Мінску віншавалі, акрамя гарадскіх уладаў, БРСМ і "Белая Русь" – самыя масавыя арганізацыі, эрзац камсамола і партыі савецкіх часоў. Гэта павінна супакойваць жыхароў краю – "Старыны не рушыць, навіны не ўводзіць".

Найлепей віншуе са святамі аўтапарк – простым, добрым, не пастаўленым голасам маладога, дабрадушнага, няспітага хлопца-рабацягі.

## АБ'ЯВЫ Ў ТРАМВАІ

### Аб'явы па-беларуску

Яна аглушае сваім фармалізмам. Варта адразу перакласці на чалавечую мову: калі ў вас няма талончыка, набудзьце яго ў кіроўцы і пракампасціруйце.

"Пры ўваходзе ў транспартны сродак пры адсутнасці праязнога дакумента шматразовага карыстання прад'явіце дакумент аднаразовага карыстання...".

Чуючы штодзённа яшчэ адну аб'яву: "...Не дапускайце пашкоджвання шкла,

сядзенняў, не пакідайце пасля сябе смецця...” Міжволі пачынаеш адчуваць сябе дробнай хуліганкай, якая едзе з патаемнай думкай парэзаць ножыкам мэблю, накідаць паперкаў, а на развітанне высадзіць вакно.

Слых спатыкаецца аб слова “пашкоджванне” – такое час ад часу хуткае, пакуль ніхто не бачыць, утварэнне якога паскудства.

### Прабачальная аб’ява

Яна наконт зменаў у маршруце з-за рамонту пуцей. Гаворыцца доўга, па-руску, напружаным, амаль левітанаўскім голасам: ”По причине ремонта участка дороги... Организовано движение от ...до...” Напружанне ў голасе мадэратара нарастае, і пакуль даходзіць да халодна-ветлівай фразы: “Приносим свои извинения за причинённые неудобства”, ужо хочацца выскачыць і пайсці па шпалах, абы не чуць.

А потым нерваваць аб’явай нарэшце перастануць. На 7 лістапада, да Дня Рэвалюцыі (у лепшых савецкіх традыцыях) пусцяць трамвай, і ўсе ўздыхнуць з палёгкай. Але ненадоўга, бо праз некалькі дзён участак трамвайных пуцей зноў закрыюць на рамонт, мала таго, разбураць зробленае і стануць перарабляць. І навошта было спяшацца. Але як іначай можна адзначыць рэвалюцыйнае свята? Трэба, каб запомнілася працоўнымі “перамогамі”.

### Антыгрыпозная аб’ява

Улады хвалююцца пра здароўе жыхароў Мінска. Хочаце ўберагчыся ад грыпу і доўга жыць? Гэта так проста, толькі сядзьце ў трамвай, заплаціце 700 (з нядаўняга часу) рублёў за талончык і праслухайце парады Цэнтра эпідэміялогіі і гігіены Першамайскага раёна.

Парады ўражваюць сваёй даступнасцю. Занатоўваць не трэба. Можа, толькі словазлучэнне “респираторный этикет” уразіць. Нельга цалавацца, ці што...

Каб нас абмінула грыпозная навала, “свяцілы” з Першамайскага раёна раяць (з падкупнай інтанацыяй угаворвання непаслухмяных і цёмных):

– соблюдать респираторный этикет;
– избегать встреч с больными людьми;
– мыть руки с мылом;
– проветривать помещение;
– вести здоровый образ жизни...

І хто ў нас на Беларусі вядзе здаровы лад жыцця? Не дзіва, што грыпам хварэем.

### “Трамвай следует в парк...”

У пярэднія дзверы трамвая зайшоў мужчына, сеў на сядзенне, што тварам да ўсіх і, пачуўшы аб’яву: “Трамвай следует в парк...”, заўсміхаўся і загаварыў адразу да ўсіх жанчын насупраць: “О, колькі прыгожых жанчын едзе ў парк... Нарэшце пакінулі дома ўсе хатнія клопаты і – гуляць, у парк... Шчаслівыя...”

Жанчыны моўчкі і не вельмі весела ўсміхаліся нечаканаму жарту.

### “Работает кондуктор”

“Работает кондуктор” – ужо некалькі год можна ўбачыць такую шыльду паперадзе кабіны кіроўцы трамвая.

Кандуктаркі... Тыя, каго палічылі непатрэбнымі на працы і “скарацілі”. Спачат-

ку гэта былі жанчыны, якім трохі за сорак. З сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Мілавідныя, інтэлігентныя. Прыгажуні, найдалікатнейшыя асобы. Такім хочацца глядзець услед. І здзіўляцца, як яны апынуліся сярод выпадковых людзей у гэтым вечаровым паўзмроку салона тралейбуса, які ідзе праз восеньскі дождж...

Час ад часу з'яўляліся і маладзенькія, здаецца, толькі пасля школы.

Гэта было некалькі гадоў таму.

Цяпер кандуктарскі склад у Мінску змяніўся. Прыгажуні амаль зніклі. Сярэдняга веку жанчыны ўжо бясформенныя, жоўта-чырвона-сіняя кандуктарская накідка абдымае цела-тумбачку. Нешта губляецца, не хапае свежасці і жаноцкасці. Але ёсць надзея адрадзіцца... Мужчыны пры з'яўленні кандуктаркі расцвітаюць, называюць яе "Дзевушка", стараюцца пажартаваць. Гэта простыя "хлопцы", якія любяць выпіць, абдзеленыя жаночай ласкай. Яны лагодна глядзяць на раптам узніклую перад імі жаночую постаць: вось, нехта і імі зацікавіўся, нешта ад іх хоча (няхай сабе толькі аплаціць праезд).

Кандуктаркам нельга старэць. У адной на "бэджыку" прачытала: "Ира Владимировна Мурашка".

Кандуктаркі дзеляцца на тых, хто можа і хоча панаваць у салоне, ствараць настрой, дарыць слова, усмешку, і хто не мае на гэта сілаў, духу.

Адныя адчуваюць сябе гаспадынямі, просяць каго ўстаць, каб пасадзіць нямоглага, іншыя моўчкі даюць рэшту і білет.

Кандуктаркі ўважлівыя. Яны стараюцца запамінаць пасажыраў, не пытацца паўторна пра талон, бо час ад часу нарываюцца на раздражненне.

Яны цярплівыя. Доўга стаяць і чакаюць, пакуль яго вялікасць пасажыр (як правіла, малады), не абшарыць усе кішэні і са шкадаваннем не выцягне скамечаныя паперчыны грошай.

Ім не пазайздросціш, бо людзі ў транспарце розныя – могуць незаслужана пакрыўдзіць. Самая лёгкая крыўда – калі стаяць, як каменныя, і не рэагуюць на пытанне пра праязны. Бывае і горш...

Кандуктаркі руплівыя. Снуюць і снуюць па салоне. Сабраць 50 тысячаў рублёў, едучы ў адзін бок, няпроста. Каб неяк дабраць прызначаную суму, даводзіцца выходзіць на працу ў выхадныя, альбо ўвечары, калі іншыя жанчыны з сем'ямі. Задача нялёгкая – выканаць, але не перавыканаць план. Гэта як у савецкім, прабачце, канцлагеры.Трэба асцерагацца перавыканання, бо начальства дадасць план, і мяжа выжывання – трывання ссунецца.

## КАНДУКТАРКІ

### Самая ветлівая

Адна кандуктарка ў 53-м тралейбусе заўсёды, на працягу дня, шмат месяцаў запар, уручаючы талончык, жадала ўсім "Шчаслівай дарогі!" Каму ж не прыемна! Ёй нават пісалі за гэта ў газету падзяку.

Яшчэ нядаўна ў тралейбусах Мінска а таксама ў метро дыктарскі голас кожныя хвілін 15 напамінаў пра небяспеку быць абкрадзенымі тым рамантычна-даверліва настроеным грамадзянам, якія радаваліся, што не йдуць пешкам і наіўна верылі ў дабрасумленнасць суседзяў справа і злева. Голас вяртаў іх да суровай рэчаіснасці: "Грамадзяне! Будзьце пільныя! Асцерагайцеся крадзяжу з кішэняў і сумак!"

Высветлілася, што гэтае папярэджанне гучала і для наймілейшай кандуктаркі – аднойчы яна не знайшла ў сябе на поясе сумачкі з выручкай. Даўка была... Колькі паездзіць з канца ў канец, пабегаць-пашнураваць па салоне прыйшлося, каб скласці з драбязы дзве сотні тысяч!

Стала дрэнна, выклікалі хуткую...

### Няшчасная

Вельмі энергічная. Тлумачыла мужчыне, відаць, калегу па былым месцы працы, як жывецца: “Дачку зімою пахавала... Ішла ўвечары дадому, патэлефанавала, што хутка будзе, і не прыйшла... Следчыя справу не раскрылі, спісалі на самазабойства“.

Доўга не магла ачуняць пасля няшчасця, а зараз вось, напачатку восені, выйшла на працу.

### Спагадлівая

Яна не выносіць, калі нагружаная да немагчымасці рознымі вандзэлкамі жанчына едзе, стоячы. Шукае месца, усаджвае, а пасадзіўшы, робіць вымову: ”Берагчы сябе трэба, няма чаго шкадаваць іх, мужыкоў гэтых...”

Я так два разы пападалася.

### Вясёлая

Тоўсценькая, як большасць кандуктарак, яна жартам заклікае: ”Усе да мяне з грашыма!”

“Злоснаму неплацельшчыку”: “У парку на арэлях гушкаюцца, і то плоцяць!”

Жанчыне, якая кажа, што “задумалася”: “Зараз выведу Вас з задумлівасці...”

Яшчэ некаму патэнцыйнаму “зайцу”: “А вы ведаеце, у зайца вушы адрастаюць, нават калі яму абарвуць. Я перадачу глядзела...”

### Мужчыны-кандуктары

Яны стрыманыя, не выклікаюць такой цікавасці да сябе, як жанчыны. Менш звяртаюцца да пасажыраў, працуюць, эканомячы словы.

### Усе мы з трамвая

У трамваі ездзяць заклапочаныя мужы і жонкі, сябры і калегі, лагодныя ці знерваваныя сталыя, вясёлыя малыя з камандзірамі-дарослымі ці без іх, а таксама закаханыя.

У трамваі можна пачуць: ”Даўно Вас не бачыў, успамінаў...”

Калі б я была кандуктаркай, звяртала б увагу на закаханых і дадумвала іх гісторыі...

Аднойчы, едучы з вакзала, доўга назірала за парай. Яны былі немаладыя, відаць, шмат разам пражылі. Абое неяк занадта добра, аж да сумнасці, апранутыя. Ехалі ўсю дарогу моўчкі, потым яна прытулілася галавой да яго пляча. Думалася: маўчаць усю дарогу. Якое сумоцце, гэтае доўгае сумеснае жыццё, ужо і пагаварыць няма пра што... На адным з прыпынкаў яна выйшла, на развітанне доўга і з любоўю паглядзеўшы на яго. Ён паехаў далей.

Здаецца, я памылілася...

*4 снежня 2009 – 25 сакавіка 2010*

Эдуард Дубянецкі



…неадольная цяга да ўцех і забаваў найчасцей аказваецца больш магутнай, чым імкненне да высокага мастацтва…

# Хаатычна-фрагментарная культура: шлях у бездань або падмурак для росквіту?

Гэтае эсэ ўяўляе сабой па сутнасці своеасаблівы погляд збоку зацікаўленага чытача і аўтара навуковых і літаратурных тэкстаў на сучасны стан і перспектывы развіцця сусветнага і айчыннага мастацтва. Прычым у большасці выпадкаў ацэнкі будуць давацца, як кажуць, “па гамбургскім рахунку” – г. зн. па магчымасці максімальна шчыра, непрадузята і строга. Хаця, безумоўна, асобныя аўтарскія высновы могуць падацца занадта суб’ектыўнымі. Аднак трэба мець на ўвазе, што практычна ўсе выказванні (асабліва датычныя складаных феноменаў этнакультурнага і духоўнага жыцця) якраз і з’яўляюцца менавіта нашым суб’ектыўным поглядам на розныя з’явы і падзеі. І тут адразу ўзгадваюцца паказальныя словы сучаснага расійскага філосафа і філолага Вадзіма Руднева пра тое, што аб’ектыўнасць – гэта “не болей чым род аўтарытарнай ілюзіі”. У гэтым вызначэнні выклікае пэўныя сумненні і пярэчанні перадапошняе слова, але ў астатнім, відаць, варта пагадзіцца з аўтарам. Сапраўды, на поўную аб’ектыўнасць не можа прэтэндаваць ніводзін

чалавек у свеце, паколькі магчымасці нашага пазнання заўжды абмежаваны недастатковай развітасцю нашых органаў пачуццяў і інтэлекту, немагчымасцю быць цалкам бесстароннім з-за наяўнасці ўласных сімпатый, прыярытэтаў, асутнасцю адпаведных ведаў і г.д.

Размова ідзе пра розныя віды мастацтва, але найперш пра літаратуру, якая складае своеасаблівае ядро любой нацыянальнай культуры. Прычым найбольшая ўвага ўдзяляецца сучаснай паэзіі. Спецыфіка тэксту заключаецца яшчэ і ў тым, што ў ім амаль нідзе не будуць называцца прозвішчы тых аўтараў, якія паслужылі своеасаблівымі прататыпамі для дадзеных развагаў. Гэта звязана з тым, што асноўнай задачай аўтара з'яўляўся не агляд творчасці асобных персон, а высвятленне глабальных тэндэнцый у развіцці сусветнага і айчыннага мастацтва. Прычым ніжэйпрыведзеныя вострыя ацэнкі нельга лічыць праявай нейкага ментарства, імкненнем кагосьці павучаць ці перавыхаваць, а выкліканыя найперш маёй шчырай заклапочанасцю крызісным станам сусветнай культуры ў цэлым і сучаснага айчыннага мастацтва ў прыватнасці, а таксама ў нейкім сэнсе дон-кіхоцкім жаданнем знайсці найкарацейшыя шляхі да сапраўднага ўздыму беларускай культуры.

## Росквіт здрабнелай “бес-культуры”

У сучасным свеце адчуваецца заўважнае “здрабненне” культуры. Тут маецца на ўвазе тое, што артэфакты культуры сёння сталі больш дробнымі па форме і больш павярхоўнымі па змесце. У выніку атрымліваецца своеасаблівая “здрабнелая культура”. Пра гэта сведчыць мноства фактаў: безліч невялікіх па аб’ёме літаратурных і музычных твораў (кароткія вершы, аповесці, раманы, песні, фільмы, спектаклі, невялікія жывапісныя работы і інш.); зусім нязначная колькасць буйных мастацкіх артэфактаў; распаўсюджанне т.зв. беспрадметнага мастацтва, якое і сапраўды не мае акрэсленай тэмы, прадмета, сюжэта; надзвычай рэдкія “павароты” сучаснага мастацтва да асэнсавання вострых маральна-этычных і грамадска-палітычных праблем і да т.п.

На першы погляд, можа скласціся ўражанне, што нічога кепскага ў гэтым няма – прыгадайма, напрыклад, надзвычай кароткія паэтычныя творы ва ўсходняй паэзіі, асабліва ў японскай, дзе панавалі такія жанры, як хайку і танка.... І сапраўды, аб’ём мастацкага твора звычайна не мае надта вялікага значэння, бо колькі ў мінулыя стагоддзі і дзесяцігоддзі было створана сапраўдных маленькіх шэдэўраў. Але ў сучасны перыяд сітуацыя істотна змянілася, прычым не толькі (і нават не столькі!) ў сэнсе здрабнення памераў, а што больш важна – “здрабнення” сэнсу, зніжэння змястоўнай насычанасці твораў мастацтва. І таму цяпер сталі надзвычай распаўсюджанымі (што раней у такіх маштабах ніколі не сустракалася ў сусветным мастацтве), так бы мовіць, маленькія творы з маленькім зместам, альбо нават творы з амаль поўнай адсутнасцю апошняга.

Больш за тое, вобразна кажучы, сёння практычна ва ўсім свеце сфармавалася т.зв. здрабнелая “бес-культура”. Хтосьці можа падумаць, што аўтар намякае тут, гаворачы па-руску, на “бесноватую культуру”, але насамрэч расшыфроўка тут зусім іншая, а менавіта – бессэнсоўная/бессаромная/беспрынцыповая/бестактоўная культура. Культуру падобнага кшталту можна замяніць і іншым, але па сваім змесце блізкім словам – “без-культура”, якую можна трактаваць як культуру безгустоўную, беззмястоўную, безпачуццёвую. Зразумела, што вышэйпрыведзеныя характарыстыкі здаўна былі ўласцівыя найперш масавай культуры, аднак з цягам часу ўсе гэтыя “бес-/без” пачалі больш актыўна пранікаць, прасочвацца і ў сферу нібыта высокага, элітарнага мастацтва.

І вось такая, выбачайце, культура, якая па сутнасці бывае часта больш па-

добная на бескультур'е, сёння, на вялікі жаль, падтрымліваецца, прапагандуецца разнастайнымі сродкамі масавай інфармацыі. Чаму падтрымліваецца? Ды таму, што ўзоры такой нізкапробнай культуры значна лягчэй і хутчэй (у параўнанні з сур'ёзнымі мастацкімі артэфактамі) ствараць і адпаведна атрымліваць ад іх "рэалізацыі" большы ці меншы прыбытак. А з другога боку, культура падобнага кшталту зараз запатрабавана большасцю абывацеляў, якія практычна поўнасцю адвучыліся думаць, разважаць і таму з задавальненнем "клююць" на няякасную мастацкую прадукцыю.

Праўда, у гэтым няма нічога асабліва дзіўнага і нечаканага, паколькі практычна ва ўсе часы (а асабліва пачынаючы з XX стагоддзя) ў розных краінах свету было нямала людзей, арыентаваных у спажыванні артэфактаў культуры не на ўласнае самаразвіццё, самаўдасканаленне, а найперш на бяздумны адпачынак, на ўсялякія забавы і на атрыманне пэўнай пачуццёвай асалоды. Нездарма яшчэ ледзь не стагоддзе таму назад выдатны нямецкі філосаф, тэолаг, музыкант і ўрач Альберт Швэйцар у сваёй фундаментальнай працы "Заняпад і адраджэнне культуры" выказаў вельмі актуальную і сёння думку пра тое, што разнастайныя сацыяльныя і культурныя інстытуты (найперш тэатры, газеты і часопісы), якія замест таго, каб стымуляваць духоўнае жыццё, самі "праніклісь" духам легкадумнасці, павярхоўнасці і пачалі садзейнічаць скочванню (у арыгінале – сползанию. – Э.Д.) грамадства да такога ж стану і накладваць на яго пячатку шэрасці і бяздум'я". Пры гэтым, на яго погляд, менавіта падобнае бяздум'е "стала для чалавека другой натурай". Ну, а як вядома, і першая, і другая натуры вызначаюць паўсядзённыя паводзіны людзей, іх светаўспрыманне, іерархію жыццёвых каштоўнасцей.

Прычым асабліва сумна тое, што за прамінулы час пасля вышэйпрыведзенага выказвання сітуацыя, безумоўна, толькі пагоршылася і цяпер з'яўляецца проста крытычнай, нават амаль катастрафічнай. Па маім перакананні, сённяшняя канцэнтрацыя шэрасці, глупства, безгустоўнасці, цынізму, блюзнерства, бязглуздасці і брыдкаслоўя ў сферы культуры сапраўды дасягнула крытычнай масы. І далей натуральным чынам пойдуць (а дакладней, ужо і пайшлі!) незваротныя працэсы маральна-духоўнай дэградацыі, выраджэння сучасных абывацеляў і т.зв. новых геданістаў.

Апошняе словазлучэнне тут выкарыстана невыпадкова, паколькі сёння амаль што ўсе кантыненты свету ахапіў своеасаблівы "новы геданізм", які не мае нічога агульнага са старажытным этычным вучэннем і разглядаецца мною як непераадольнае імкненне многіх людзей (найперш маладых) да атрымання пачуццёвай асалоды ўсімі магчымымі шляхамі і сродкамі. Агульнавядома, што найбольш папулярнымі "каналамі" дасягнення асалоды (дакладней, відаць, будзе сказаць псеўда-асалоды) з'яўляюцца ўжыванне алкаголю, наркотыкаў, неўтаймаваны секс ва ўсіх ягоных формах, захапленне псіхадэлічнай музыкай, сумніўнымі містычнымі практыкамі і г. д. І можна толькі гіпатэтычна ўявіць, наколькі б магла быць багацей сусветная культура, калі б сапраўды адораныя людзі замест ужывання наркотыкаў, алкагольных напояў, псіхадэлікаў і безлічы выпадковых інтымных кантактаў заняліся б напісаннем літаратурных, музычных, жывапісных твораў! Але што ж зробіш, калі неадольная цяга да ўцех і забаваў найчасцей аказваецца больш магутнай, чым імкненне да высокага мастацтва...

## Узнікненне і пашырэнне фрагментарна-хаатычнага мастацтва

З пэўнай доляй умоўнасці яшчэ можна сцвярджаць, што ў сучасным свеце культура паступова робіцца ўсё больш хаатычнай і фрагментарнай. Такая культура пачынае нагадваць своеасаблівыя аскепкі былой мазаікі, што была, фігуральна

кажучы, разбіта ў роспачы якойсьці невядомай нам вышэйшай істотай, якой урэшце рэшт канчаткова надакучыланазіраць зверху за людзьмі-мурашамі і іх няўхільна дэградуючай культурай.

Прыкметнае пашырэнне падобнага фрагментарнага мастацтва можа мець і ўжо, безумоўна, мае пэўныя негатыўныя наступствы для маральна-духоўнага развіцця соцыуму. Гэта звязана з тым, што сучасная культура, няўхільна становячыся ўсё больш і больш хаатычнай, не можа болей закранаць, усхваляваць душу і сэрца гледача/чытача/слухача, не можа выклікаць бадай што ніякіх станоўчых эмоцый і пачуццяў – хіба што за выключэннем адмоўных, негатыўных (напр., раздражнення, адчужэння). У супрацьвагу сённяшняй сітуацыі, у мінулыя стагодддзі і нават тысячагоддзі сапраўдная культура заўжды выклікала суперажыванне, духоўнае хваляванне, часам прыводзіла да своеасаблівага ачышчэння – т.зв. “катарсісу” (паводле старажытнагрэчаскіх уяўленняў пра ролю мастацтва ў жыцці чалавека).

Інакш кажучы, з сучаснага мастацтва актыўна выціскаецца чалавечая душа з яе імкненнем да святла, дабра, хараства, чысціні. І адначасова з гэтым, у мастацтве ў супрацьвагу былому “светламу” відавочна ўзмацняецца “цёмны” пачатак, падваліны якога закладваюцца ў бязмежных глыбінях чалавечай падсвядомасці – дакладней, карыстаючыся тэрміналогіяй Фрэйда і Юнга, індывідуальнага і калектыўнага неўсвядомленага. У выніку мастацкія творы нібы “паднімаюцца” з гэтых падвалінаў падсвядомасці і амаль без ніякай апрацоўкі выдаюцца, як кажуць, “на гара”. Падобныя спантанныя творы найчасцей пішуцца і практычна адразу друкуюцца, выстаўляюцца напаказ, выносяцца на публіку. З-за гэтага ў шырокі свет “выходзіць” мноства твораў, для якіх іманентна ўласцівы нязграбнасць, аляпаватасць, неахайнасць формы, незразумеласць сэнсу, хаатычны набор няўцямных вобразаў, метафар і да т.п. Зразумела, што такія артэфакты нярэдка пакідаюць іх спажывальнікаў абыякавымі або выклікаюць духоўнае непрыманне. Чаму? Ды проста таму, што з даўніх часоў найбольшае эмацыянальнае ўздзеянне на чытачоў, гледачоў аказвалі творы (найперш – паэтычныя) альбо з глыбокім зместам, вытанчанай формай, альбо з яркімі арыгінальнымі вобразамі, альбо з запамінальнымі рытмамі, рыфмамі, непаўторнай “мелодыкай”. Але найчасцей усе вышэйназваныя складнікі высокага мастацтва ўздзейнічалі не паасобку, а адначасова, ствараючы ў выніку незвычайны мастацкі эфект.

У мінулым і ў пачатку 21 стагоддзя адмысловая “цьмянасць”, неахайнасць і “непрасветленасць” літаратурных твораў пачалі лічыцца знакам мастацкай каштоўнасці, праявай нібыта элітарнай культуры, адлюстраваннем “літаратурнай моды”, тады як творы ясныя, празрыстыя па зместу, прыгожыя па форме ўспрымаюцца як праява больш нізкапробнай, неглыбокай культуры, увогуле як з'ява ў сучасным свеце надзвычай старамодная, архаічная, кансерватыўная. У гэтым сэнсе варта прыгадаць выдатнае эсэ Рыгора Барадуліна “Не разбіць, не спыніць, не стрымаць...” (1991), прысвечанае творчаму шляху Максіма Багдановіча. У ім народны паэт Беларусі слушна адзначаў, што ў класічнай паэзіі традыцыйнага кшталту нават і коска мае велізарнае значэнне, у той час як у процівагу ёй “у мадэрновай паэзіі, дзе не патрабуецца ні думкі, ні пачуцця, дзе толькі паток альбо падцёк свядомасці, дастаткова валодаць машынапісам”.

У гэтым кантэксце ўяўляецца цікавай і паказальнай пазіцыя аднаго з найбольш адораных англамоўных паэтаў мінулага стагоддзя Дылана Томаса, якога некаторыя лічылі сюррэалістам, але сам ён не пагаджаўся з такім меркаваннем і абгрунтаваў сваё непрыманне гэтага мастацкага кірунку наступным чынам: “Задача паэта – зрабіць зразумелым тое, што сыходзіць з яго падсвядомасці. Адна з асноўных вялікіх функцый інтэлекта – адбіраць (падкрэслена мною. – Э.Д.) з аморфнай масы народжаных падсвядомасцю вобразаў тыя, якія лепш за ўсё спрыяюць дасягненню творчай мэты”.

У цэлым, сучасная хаатычна-фрагментарная культура, на мой погляд, з'яўляецца бадай заканамерным вынікам, з аднаго боку, нарастаючай інфантылізацыі (інфантылізму) асобы ў сённяшнім свеце, а з другога – узмацненне адчужанасці паміж людзьмі ў іх паўсядзённых стасунках. Прычым дзве гэтыя тэндэнцыі, як ні парадаксальна гэта можа гучаць, даволі цесна паміж сабой узаемазвязаны. Такую сітуацыю можна патлумачыць тым, што інфантылізм (духоўная і інтэлектуальная "няспеласць" асобы) пачынае больш праяўляцца з-за ўзмацнення адчужанасці, а апошняя, у сваю чаргу, становіцца распаўсюджанай з'явай часткова з-за наяўнасці асобаснай інфантыльнасці.

Падобная адчужанасць і ўзаемная непрыхільнасць сярод прадстаўнікоў мастацтва ўзрастаюць яшчэ і з-за таго, што творцы часта бываюць "падзелены" на шматлікія арганізацыі, суполкі і групоўкі. (Зразумела, што тут гаворка не ідзе пра здаровую творчую канкурэнцыю, якую ў цэлым можна лічыць станоўчай з'явай для любога віда мастацтва). Акрамя таго, пэўная адчужанасць існуе таксама і ўнутры гэтых творчых супольнасцяў. Пра вышэйназваную тэндэнцыю сведчыць таксама і такі адмысловы феномен, сутнасць якога можна вызначыць як непрачытанасць/непрагледжанасць/непраслуханасць мастацкіх твораў.

Прычым асабліва насцярожвае той факт, што не прачытваюць паэтычныя і празаічныя творы, не праглядаюць жывапісныя работы, не праслухоўваюць музычныя творы не толькі звычайныя, шараговыя чытачы/гледачы/слухачы, але і самі творцы, якія, здавалася б, як ніхто іншы павінны добра ведаць творчыя здабыткі сваіх калег (сяброў, знаёмых і незнаёмых людзей), уважліва сачыць і абмяркоўваць іх новыя опусы. Але ж не! Выглядае на тое, што сёння большасць творцаў "зацыклена" толькі на стварэнні ўласных "шэдэўраў", а на творчасць іншых майстроў (між іншым, часцяком больш таленавітых, чым яны самі) пазірае або высакамерна, або паблажліва-абыякава, або з непрыхаваным сарказмам. У выніку атрымліваецца своеасаблівая дэзарыентацыя творцы, калі ён з-за падобнай "неазнаёмленасці", (маўляў, "навошта ж чытаць, слухаць творцу X або Y, калі я іх на дух не пераношу!") часта бывае проста не ў стане больш-менш адэкватна ацаніць сваё рэальнае месца ў айчынным мастацтве.

І вось такія адчужаныя і ўнутрана ў большай або меншай ступені інфантыльныя асобы ствараюць мноства хаатычна-фрагментарных мастацкіх твораў, практычна поўнасцю пазбаўленых глыбокіх думак і пачуццяў. Прычым паколькі падобныя опусы сёння часта актыўна друкуюцца, агучваюцца падчас публічных выступленняў, то гэта ўмацоўвае веру аўтараў ва ўласнай таленавітасці, велічы, геніяльнасці і яны нібы пачынаюць "падбухторваць" іншых неафітаў хутчэй далучацца да іх багемнай суполкі.

У сучасны перыяд гэтая сітуацыя становіцца ўсё больш і больш характэрнай не толькі для мадэрнісцкага мастацтва, але і традыцыйнага, у якім таксама відавочна заўважаецца "крызіс жанру", здрабненне тэм і вобразаў, своеасаблівая інфляцыя абясцэньванне зместу. Пры гэтым і ў тым, і ў другім выпадку заўважаецца нарастаючая "дэпрафесіяналізацыя" мастацтва, дыскрэдытацыя "рамяства літаратара", арыентацыя на ўжо даўно вядомыя ва ўсім свеце падыходы, стылі, творчыя напрацоўкі. Строга кажучы, галоўная розніца паміж традыцыяналісцкім (рэалістычным) і мадэрнісцкім мастацтвам заключаецца ў тым, што калі першае арыентавана пераважна на свядомае захаванне агульнавядомых прыкмет літаратурнага твора (напр., у вершах – традыцыйных рыфмаў, строфікі, метрыкі, тэматыкі), то другое – адпаведна на разбурэнне тых жа самых знешніх прыкмет мастацкіх твораў.

Іншымі словамі, калі першых можна назваць адоранымі або бяздарнымі "захавальнікамі", то другіх (па аналогіі) адоранымі або бяздарнымі "разбуральнікамі". У абодвух выпадках няма, па сутнасці, нічога прынцыпова новага,

паколькі "захавальнікі" вядомы ўжо як мінімум некалькі тысячагоддзяў, а "разбуральнікі" – не менш чым стагоддзе. Калі казаць вобразна, то адмысловая "літаратурная стужка" традыцыяналістаў вельмі доўгая, а мадэрністаў – яшчэ адносна кароткая. Толькі і ў першых, і ў другіх гэтыя стужкі з былых яркіх, шматколерных і тоўстых пастунова пераўтварыліся ў даволі бледныя, аднастайныя і тонкія.

У сваёй знакамітай кнізе "Скуты розум" (1951) выдатны польскі паэт, эсэіст, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Чэслаў Мілаш дае цікавае тлумачэнне істотным зменам у стылі і змесце сваіх твораў да пачатку Другой сусветнай вайны і падчас апошняй. Ён адзначае, што да 1939 г. ягоная паэзія (як і ўлюбёная ім французская) была малазразумелая і набліжаная да сюррэалізму, але досвед вайны і акупацыі заўважна паўплывалі на яго творчасць і светаўспрыманне. Тады аўтар больш выразна ўсвядоміў грамадскае значэнне літаратуры і ў выніку, па ягоных словах, "мая паэзія стала больш зразумелай – як здараецца звычайна, калі паэт хоча пераказаць нешта важнае сваім чытачам".

І сапраўды, больш-менш працяглае жыццё творцы ў экстрэмальных ці проста ў складаных умовах, як правіла, спрыяе яго хуткаму сталенню (па-руску – "возмужанию"), імкліваму пераадоленню сваіх інфантыльных поглядаў. Улічваючы гэта, становіцца зразумелым, чаму найбольш глыбокія, пранікнёныя, па-сапраўднаму гуманістычныя творы ў айчыннай літаратуры (як, між іншым, і ў большасці іншых нацыянальных літаратур) былі створаныя менавіта тымі творцамі, хто прайшоў немалыя жыццёвыя выпрабаванні, пакуты. Падобныя творы найчасцей напісаны яснай, зразумелай мовай па той прычыне, што іх аўтары прыкладалі ўсе інтэлектуальныя сілы дзеля таго, каб данесці да самага шырокага чытача-суразмоўцы свае патаемныя перажыванні, найбольш важныя ідэі, думкі, падзяліцца сваімі пачуццямі, трывогамі.

Нярэдка ў сучасным свеце сустракаецца і, на жаль, часта вітаецца, не толькі здаўна вядомая музычная, але і т.зв. "літаратурная какафонія" – па сутнасці, набор выпадковых, амаль нічым не звязаных паміж сабой слоў/фразаў, якія тым не менш выдаюцца за нібыта глыбакадумныя і завершаныя літаратурныя творы. Зусім верагодна, што аўтары падобных опусаў альбо часцяком і самі амаль нічога не разумеюць у сваіх адмысловых "гульнях розуму", альбо, наадварот, спецыяльна пішуць такія знешне нібыта найскладанейшыя, надзвычай мудрагелістыя (узгадаем тут "заумь" Веліміра Хлебнікава) творы, якія на самой справе нярэдка не нясуць заўважнай сэнсавай нагрузкі і часам, строга кажучы, з'яўляюцца па сутнасці простай бязглуздзіцай/ахінеяй/лухтой/мурой.

Сёння мне ўяўляецца вельмі актуальнай задачай хутчэйшае пераадоленне гэтай какафоніі ў сферы культуры і стварэнне на яе падвалінах новай гармоніі – хай сабе і "пранізанай" асобнымі нотамі ці акордамі дысгармоніі. Хаця і здаецца, што хаатычна-фрагментарная культура "цягне" ўсіх нас у культурную бездань, альбо ў мастацкі тупік, аднак яна ў перспектыве ўсё-такі можа стаць своеасаблівай "пляцоўкай" паспяховага развіцця культуры на новым вітку яе гістарычнай эвалюцыі.

З такой хаатычнай культуры, як з рассыпаных шкельцаў, магчыма, калісьці можна будзе скласці новую, больш прыгожую культурную мазаіку. Праўда, для гэтага неабходна найперш "вылушчыць" з вялізных масіваў мастацкага "шлаку, смецця" сапраўдныя каштоўнасці, жамчужынкі мастацтва і захаваць іх для наступных пакаленняў. Акрамя таго, спатрэбяцца яшчэ проста тытанічныя высілкі многіх надзвычай адораных творцаў, якія змаглі б за больш-менш кароткі час інтэграваць, сінтэзаваць у сваёй творчасці найлепшыя здабыткі розных мастацкіх кірункаў, стыляў і на аснове падобнага сінтэзу вытварыць нешта сапраўды арыгінальнае і непаўторнае.

## Мітусліва-тусовачная творчасць і дэпачуццёвасць грамадства

У сучасным свеце відавочна заўважаецца арыентацыя не столькі на ўнутранае (у сэнсе – на сам змест мастацкага твора і яго мастацкія вартасці), а больш на знешняе – г.зн. на атрыманне грошай, прызнання, славы, пасад, званняў, прэмій і г.д. Сучасны творца зараз (мажліва, як ніколі раней) хоча як мага хутчэй дабіцца славы, прызнання, але ў наш жорсткі час дасягнуць гэтага стала надзвычай складана. Многія аўтары хочуць напісаць, намаляваць што-небудзь істотнае, але паколькі на гэтым шляху паўстае мноства ўсялякіх перашкодаў, то творцы пачынаюць адчуваць псіхалагічны дыскамфорт, што ў сваю чаргу сказваецца на немагчымасці ажыццявіць, здзейсніць задуманае.

Адной з прычын такога адмысловага феномену (яго можна ўмоўна вызначыць як "няздольнасць стварыць завершаны мастацкі твор") з'яўляецца, на мой погляд, нечуваная раней "разбэрсанасць" нашага часу, усеагульная сумбурнасць, мітуслівасць паўсядзённага жыцця, калі чалавеку сапраўды прыходзіцца (найперш у гарадах) вельмі шмат мітусіцца, нямала высілкаў траціць на малазначныя, несур'ёзныя справы і дзеянні. Таму ў такой мітусні бадай не застаецца часу для заняткаў сур'ёзнай творчасцю, для глыбокай унутранай засяроджанасці і спакойнай працы, а потым для дапрацоўкі і шліфоўкі сваіх опусаў. У выніку створаныя ў падобных неспрыяльных абставінах творы таксама нібыта "насычаны" гэтай мітуснёй, разбэрсанасцю, што, як правіла, прыкметна зніжае іх мастацкія вартасці.

Можна нават сказаць, што ў выніку ўзнікае т.зв. "мітуслівая культура", якая з аднаго боку адлюстроўвае, спасцігае не метафізічныя пытанні быцця, а яго павярхоўны, знешні пласт, а з другога, у саміх творцаў у выніку паўсядзённага існавання ў такой сітуацыі паступова фарміруецца "мітуслівае мысленне" (ментальнасць), што накладвае адпаведны адбітак на змест і форму мастацкіх твораў. Пры гэтым апошнія становяцца падобнымі на серыю своеасаблівых ментальных "ласкуткоў" (фрагментаў), дзе часам немагчыма зразумець змест твора, дзе няма адчування завершанасці і магчымасці чытацкага суперажывання.

У выніку навідавоку своеасаблівая "дэпачуццёвасць" мастацтва – г.зн. надзвычай слабая ў ім выяўленасць або поўная адсутнасць практычна ўсялякіх пачуццяў. А ў кожнага ж чалавека эмоцый і пачуццяў вялікае мноства – мажліва, каля сотні, прычым большасць з іх адмоўныя, негатыўныя! Так ствараецца своеасаблівая дэпачуццёвая паэзія, дэпачуццёвае выяўленчае мастацтва і да т.п.

У эсэ-успаміне Барыса Пятровіча "Нічый Чарнобыль" (2009) аўтар, гаворачы пра надзвычайныя нашыя бесклапотнасць, бестурботнасць і абыякавасць (да саміх сябе, сваіх блізкіх, нашчадкаў, да сваёй роднай зямлі і ўсёй Планеты), галоўную прычыну такой сітуацыі бачыць у тым, што "мы даўно ўжо не абыякавыя, мы – пачуццёва мёртвыя". Безумоўна, гэтае сцвярджэнне надзвычай вострае, горкае, але ж па глыбіннай сутнасці (прызнаемся шчыра!) слушнае.

Мне здаецца, што адлюстраваннем (а мо, натуральным следствам?!) падобнага стану грамадства з'яўляецца і стварэнне своеасаблівага "мёртвага ці змярцвелага мастацтва", у творах якога, на вялікі жаль, амаль што не сустрэнеш (за рэдкім выключэннем) выяўлення яркіх пачуццяў, перажыванняў, не знойдзеш глыбокіх думак, свежых ідэй, запамінальных метафар. Тут адразу ўзгадваюцца словы з лекцыі "Музыка паэзіі", прачытанай класікам сусветнай паэзіі 20 ст. Томасам Эліётам яшчэ ў 1942 г. у адным з брытанскіх універсітэтаў, дзе ён падкрэсліваў, што кожны верш можна лічыць значным і вартым публічнай увагі толькі тады, "калі ён паведаміў нам нешта важнае, чымсьці нас закрануў; калі ж ён (верш. – Э.Д.) нас нічым не закрануў, то паэтычна ён бессэнсоўны".

Абсалютная большасць тых твораў, што сёння друкуюцца ў персанальных і

калектыўных зборніках, на старонках перыядычных выданняў і Інтэрнэце, вызначаецца або відавочнай банальнасцю, прымітыўнасцю, або (другая крайнасць!) надзвычайнай цьмянасцю, няўцямнасцю, за якімі нярэдка хаваецца ўнутраная пустата, духоўная спустошанасць аўтара. Але ў той жа час пры ўсіх мастацкіх недасканаласцях падобных опусаў іх аўтары звычайна вызначаюцца завышанай самаацэнкай (ажно да ўспрымання саміх сябе выдатнымі творцамі і нават геніямі), фанабэрыстасцю, няздольнасцю зірнуць на свае творы больш-менш аб'ектыўна і непрыняццем любой крытыкі ў свой адрас.

На мой погляд, у наш час мастацтва ўсё больш пачынае нагадваць своеасаблівыя багемныя клубы па інтарэсах. Культура стала па сутнасці тусовачнай з'явай. Інакш кажучы, сёння ўзнікае адмысловае "тусовачнае мастацтва" – г. зн. як створанае ў межах пэўнай нешматлікай тусоўкі, так і прызначанае пераважна для яе ж прадстаўнікоў. Прычым у такія творчыя суполкі ў асноўным уваходзяць людзі маладога і сярэдняга ўзросту, аб'яднаныя дзейнасцю ў галіне канкрэтнага віда мастацтва. Але кожны творца, хто пачынае ствараць сапраўды выдатныя мастацкія каштоўнасці, звычайна вельмі хутка "перарастае" гэтую тусоўку і выходзіць на больш шырокія абсягі.

Гаворачы пра багемна-тусовачны лад жыцця маладых мастакоў, паэтаў, празаікаў, класік французскай літаратуры Анарэ дэ Бальзак у сваёй аповесці "Прынц багемы" (1840) з пэўнай доляй сарказму адзначае, што амаль усе яны "ў сваім родзе геніяльныя, хаця пакуль яшчэ мала вядомыя" і пры гэтым "сапраўдны дух багемы перадаецца словам бахвальства". Як жа трапна выдатны знаўца чалавечай душы сказаў пра светаўспрыманне і паводзіны большасці прадстаўнікоў мастацтва! Прычым гэтая характарыстыка не страчвала і, відаць, ніколі не страціць сваёй актуальнасці. Хіба ж яшчэ сто семдзесят гадоў таму Бальзак сказаў гэта і не пра многіх сучасных беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў?! Мне здаецца, што ён, як кажуць, "патрапіў у яблычак". І сёння сярод айчынных творцаў заўважаецца нямала праяваў славалюбства, бахвальства, цынізму, зайздрасці, непрыхаванай непрыязі адзін да аднаго і да т.п. Мяркую, што калі б нашыя творцы (а сярод іх нямала і сапраўды таленавітых людзей) скіроўвалі ўсю сваю энергію і ўвагу не на "заганныя" думкі і ўчынкі, а на ўласную творчасць, на імкненне да няспыннага інтэлектуальна-духоўнага самаўдасканалення, то было б створана значна больш высокаякасных, дасканалых мастацкіх твораў.

## Сапраўдны творца – канатаходзец і… "моцны арэшак"

Дык з чым ці з кім у сённяшні час можна параўнаць сапраўднага Мастака, сапраўднага Творцу? Для гэтага, здаецца, можна падабраць шмат больш-менш яркіх, запамінальных вобразаў, метафар, але мы тут спынімся толькі на некалькіх. Адзін з магчымых адказаў на пастаўленае пытанне можа заключацца ў параўнанні сапраўды адоранага мастака з травой, якая насуперак усяму ўсё-ткі "прабіваецца" праз асфальт. Таксама і творца – спачатку нікому не вядомы расце, сталее, а затым урэшце "прабіваецца" праз нагрувашчванні паўсядзённага хаосу, сумбуру, глупства да вяршыняў майстэрства, да прызнання і славы.

У наш жорсткі і нелітасцівы час любы творца заўжды павінен быць своеасаблівым "моцным арэшкам" (прыгадаем тут аднайменную назву вядомага фільма), здольным вытрымліваць адначасова як пакуты і супярэчнасці сваёй душы, так і ўсведамленне недасканаласці сваіх уласных твораў, а з другога боку, больш-менш вострую крытыку з боку калег па пяру, літаратурных крытыкаў і ўсялякіх неафітаў ад літаратуры. Толькі тады можна плённа, паспяхова тварыць на працягу многіх гадоў і дзесяцігоддзяў, няўхільна ўдасканальваючы сваё літаратурнае майстэрства і адпаведна павышаючы мастацкі ўзровень сваіх твораў.

У адваротным выпадку, калі гэты “арэшак” не вытрымае і ўрэшце ад udaраў з розных бакоў расколецца, гэта будзе азначаць па сутнасці канец (ці, прынамсі, пачатак канца) яго ўласнай творчасці і ў перспектыве можа прывесці яго да творчага здранцвення, духоўнай дэградацыі.

Сапраўднаму пісьменніку, безумоўна, супрацьпаказаныя ўсялякае піжонства і сібарыцтва, бо інакш вельмі лёгка можна адарвацца ад рэальнасці і скаціцца ў прорву бездухоўнасці, пафаснай ілжывасці, інтэлектуальнай апустошанасці. Як вядома, літаратурныя піжоны любяць на шырокай публіцы ці ў прыватных, кулуарных асяродках пахваліцца сваёй нібыта надзвычайнай адоранасцю, геніяльнасцю, сваімі надрукаванымі ў вядомых і прэстыжных перыядычных выданнях Беларусі і замежных краін творамі, сваімі выдатна афармленымі кніжкамі. Але ж, па-першае, многія з гэтых выданняў цяпер ужо наўрад ці можна назваць прэстыжнымі, а па-другое, пра ступень адоранасці творцаў павінны, па майму перакананню, казаць не самі аўтары, а найперш іх удумлівыя і адукаваныя чытачы, незаангажаваныя літаратурныя крытыкі. Прычым сімптаматычным з’яўляецца тое, што такія “геніі” практычна ніколі не гавораць пра змест сваіх “шэдэўраў”. І сапраўды, такімі творамі (па вялікаму рахунку) няма сур’ёзных падстаў ганарыцца, паколькі яны нярэдка з’яўляюцца своеасаблівымі літаратурнымі пустышкамі ці ў лепшым выпадку падробкамі пад глыбакадумныя творы.

Калісьці выдатны французскі філосаф і пісьменнік Жан-Поль Сартр выказаў слушную ідэю пра выключную важнасць для пісьменніка ўмець чакаць да тых часоў, калі нарэшце “вопыт і спеласць не пачнуць свае вялікія дыктоўкі”. І сапраўды, любому сапраўднаму творцу варта навучыцца цярплівасці, чаканню дзеля таго каб няспешна ўдасканальваць сваё майстэрства, выявіць увесь свой талент (натуральна, калі ён ёсць у наяўнасці!) і толькі затым выходзіць на публіку не з “сырымі”, а ўжо набліжанымі да дасканаласці творамі.

Аднак, безумоўна, можна зразумець жаданне маладых аўтараў як мага хутчэй пачаць друкавацца, часцей бачыць сваё імя на старонках кніг, перыядычных выданняў і ў Інтэрнэце, чуць свой голас па радыё і бачыць свой твар па тэлебачанні (праўда, “супрацоўніцтва” з апошнім па агульнавядомых прычынах у абсалютнай большасці сучасных творцаў не атрымліваецца). У цэлым падобнае імкненне творцаў выглядае даволі натуральным і звязана ў першую чаргу з юнацкім максімалізмам або з яго непераадоленымі “рэшткамі” ў сталым узросце.

І ўсё-ткі, на мой погляд, тут больш істотнымі і карыснымі былі б не жаданне найхутчэй апублікавацца, “засвяціцца”, а заўсёднае адчуванне творчай незадаволенасці і нястомныя спробы пераадолець вышэйназваны максімалізм, зменшыць свае надзвычай вялікія амбіцыі і пастаянна займацца самаўдасканаленнем, духоўным узбагачэннем, няспынным “выхаваннем пачуццяў” (узгадаем аднайменны раман Густава Флабэра), набыццём неабходных ведаў і своеасаблівай “выпрацоўкай густу” – у супрацьвагу цяпер даволі пашыранай безгустоўнасці. І ўжо потым набытыя веды і жыццёвы вопыт будуць сапраўды “дыктаваць”, “падказваць” творцу, што, як і чаму трэба пісаць.

Усё гэта дасць магчымасць альбо зусім не друкаваць і не выстаўляць на ўсеагульны агляд свае яшчэ няспелыя, кепскія, дрэнныя опусы, а адразу (хаця і з большым ці меншым спазненнем) выходзіць да чытача з ужо даспелымі, выпакутаванымі творамі. І ад гэтага будзе яшчэ адна карысць – не прыйдзецца ў сталым узросце саромецца мастацкай спадчыны часоў сваёй маладосці. У адваротным выпадку хутчэй за ўсё непазбежным будзе сітуацыя, здаўна вядомая сярод мноства літаратараў усіх часоў і народаў – калі творцы альбо па сутнасці адмаўляюцца ад сваіх няспелых твораў і забараняюць сабе і іншым іх друкаваць, альбо спрабуюць іх перапісаць па-новаму, ужо з вышыні сваіх гадоў і свайго сапраўднага майстэрства.

Яшчэ сапраўднага творцу можна параўнаць з канатаходцам над безданню жыццёвай мітусні і бездухоўнасці. І дзеля таго каб яму паспяхова прайсці ўвесь найскладанейшы шлях ад творчага пачатку/няспеласці/невядомасці да творчага росквіту/прызнання/славы, надзвычай патрэбныя немалое майстэрства, смеласць, вопыт, вытрымка, максімальная канцэнтрацыя, мабілізацыя ўсіх сваіх фізічных і духоўных сілаў, неверагоднае жаданне ісці наперад, да сваёй жаданай мэты. Шляху назад няма, немагчыма нават проста стаць і азірнуцца. Толькі наперад, толькі да мэты! Безумоўна, такі творца-канатаходзец можа з-за розных абставін, прычын аступіцца, упасці ўніз і так і застацца непрызнаным, незразумелым, альбо нарэшце толькі пасля апошняга фатальнага падзення атрымаць большае ці меншае пасмяротнае прызнанне (што, на вялікі жаль, часам мела месца ў гісторыі нацыянальных літаратур).

Літоўскі паэт і перакладчык Томас Венцлава ў сваім эсэ, прысвечаным творчасці польскага паэта Чэслава Мілаша, слушна адзначаў, што апошні, як выдатны творца даволі рана зразумеў, што сапраўдны Паэт – гэта “не столькі пераўтваральнік, колькі сумленне свету”. Дарэчы, гэты класік польскай літаратуры калісьці казаў, што “таталітарызм гатовы дазволіць авангардныя дзівацтвы, каб паэт быў чым-небудзь заняты і не імкнуўся ўздзейнічаць на рэальнасць”. У посттаталітарны перыяд звычайна яшчэ больш-менш працяглы час захоўваюцца ранейшыя метады і практыкі “работы” з дзеячамі культуры – усялякае задобрыванне найбольш лаяльных і яўная ці прыхаваная барацьба з нелаяльнымі, з іншадумцамі. Таму невыпадкова, што яшчэ і сёння сучасныя творцы па сутнасці ніяк не могуць (і ў большасці нават не спрабуюць!) хоць неяк уздзейнічаць на рэальнасць і на нейкія змены ў грамадскім жыцці. І прычын такой з’явы некалькі. Гэта і “выцясненне” сапраўднага мастацтва ў маргінальную зону, на перыферыю ўвагі соцыума, і захаванне пэўных цэнзурных абмежаванняў, і наяўнасць у многіх творцаў уласнай самацэнзуры, абумоўленай у значнай ступені і іх унутранымі комплексамі, страхамі, трывогамі.

А вось як ёміста выявіла сутнасць паэзіі і адметнасць светаўспрымання сапраўдных творцаў наша слынная паэтка Ларыса Геніюш, стогадовы юбілей з дня народзінаў якой літаратурная грамадскасць адзначыла мінулым летам. Прывядзем тут толькі першае чатырохрадкоўе з яе верша “Паэты”:

Поўнае сэрца узнёслых турбот,
Красою зямлі захапленне.
Паэты – зусім не манашаскі род.
Паэты – жывыя стварэнні.

Так, гэта ў ідэале Паэты такімі павінны быць, але ж, шаноўныя чытачы, уважліва прачытайце ўсё тое, што друкуецца сёння на старонках дзяржаўных і прыватных выданняў, на розных Інтэрнет-сайтах і, паклаўшы руку на сэрца, шчыра спытайцеся ў саміх сябе: “Ці ж многа зараз ёсць творцаў (з тых многіх соцень членаў абодвух Саюзаў пісьменнікаў), якія шчыра перажываюць за лёс Беларусі, яе мовы і культурнай спадчыны, хто паказвае нам прыклад высокай духоўнасці, сумленнасці, гуманнасці, у каго сапраўды “поўнае сэрца узнёслых турбот”? Адказ, мяркую, будзе адназначна-несуцяшальны – у сённяшні мітуслівы і цынічны час такіх пісьменнікаў, на вялікі жаль, засталося няшмат, прычым гэта пераважна асобныя паэты і празаікі старэйшага, сярэдняга ўзросту і зусім рэдка прадстаўнікі творчай моладзі.

У адной са сваіх рэцэнзій на вершы Наталлі Арсенневай выдатны беларускі паэт і перакладчык Уладзімір Жылка, даючы ў цэлым станоўчую ацэнку яе творчасці, тым не менш слушна раіў аўтарцы, што ў далейшым “толькі сур’ёзней і стражэй трэба адносіцца да сваіх твораў, толькі больш вымагаць ад сябе, і мы пабачым многа-многа каштоўных і сапраўды мастацкіх рэчаў нашай пясняркі”.

Якую ж харошую параду змог даць зусім яшчэ малады дваццацігадовы паэт яшчэ больш маладой паэтцы! Ды, здаецца, гэта была парада не толькі ёй адной, гэтаксама і ўсім маладым (і не толькі) паэтам свайго пакалення і ўсіх будучых часоў. Можна толькі марыць, каб гэтае цудоўнае пажаданне, агучанае яшчэ дзевяноста гадоў таму, узялі на "ўзбраенне" сучасныя айчынныя творцы, каб для іх яно стала своеасаблівай пуцяводнай зоркай на пакручастым шляху да вяршынь літаратурнага майстэрства.

Выдатны беларускі паэт, празаік і эсэіст Міхась Стральцоў калісьці слушна выказаўся пра тое, што сапраўднае высокае мастацтва "не бывае ні бессэнсоўным, ні вычварным", а найгалоўнейшы "клопат усялякага слова – знайсці найкарацейшы шлях да суразмоўніка, слухача, чытача". Добрае ўяўленне пра спецыфіку і складанасць творчай працы сапраўднага Творцы дае эсэ "Паэт" (1995) Генадзя Бураўкіна, прысвечанае асэнсаванню выбітнага месца Рыгора Барадуліна на айчынным паэтычным Алімпе. Адзначаючы надзвычайную працавітасць, нястомнасць і апантанасць народнага паэта Беларусі, аўтар выказвае даволі цікавую здагадку аб тым, што, мажліва, Барадулін "не дае сваёй музе ні хвілінкі спачынку, не прыпыняе "творчы працэс" і ў сне".

Ну што ж, калі гэта і так, то для айчыннага прыгожага пісьменства гэта вельмі добра. Бо дзякуючы такой творчай апантанасці нашага лепшага сучаснага паэта сёння мы маем мноства (дзясяткі? – не! – сотні!) па-барадулінску лёгкіх і нязмушаных, выкшталцоных шэдэўраў практычна ва ўсіх паэтычных жанрах. А прыгадайма яшчэ незлічоную колькасць ягоных непаўторных перакладаў – ды такіх, у якіх перакладчыка можна з поўным на тое правам лічыць сапраўдным су-аўтарам, су-размоўцам выдатных майстроў замежнай паэзіі. Вось што значыць талент ад Бога, памножаны на незвычайную працаздольнасць (а мо, лепей сказаць верша-здольнасць?) і выключную патрабавальнасць да самога сябе! Вось дзе цудоўны прыклад для сучасных маладых творцаў, праўда, толькі для тых, кім не авалодала манія ўласнай велічы і хто яшчэ ў стане зірнуць крытычным вокам на свае літаратурныя спробы!

Безумоўна, у агромністай творчай спадчыне народнага паэта Барадуліна (дарэчы, як і любых іншых Паэтаў – класікаў мінулых стагоддзяў і сённяшняга дня) ёсць геніяльныя, ёсць выдатныя, ёсць добрыя вершы, а ёсць, даруйце, і не вельмі харошыя, не вельмі ўдалыя, хтосьці можа сказаць нават слабыя, што звычайна абумоўлена шэрагам прычын. Калі казаць абагульнена (не маючы тут на ўвазе канкрэтнага аўтара), то прычынамі творчых няўдач нават самых таленавітых літаратараў могуць быць, напрыклад, неспрыяльныя для творчасці знешнія абставіны; жаданне як мага хутчэй адгукацца ў перыядычным друку на ўсялякія грамадскія падзеі; адсутнасць належнага майстэрства і жыццёвага вопыту ў гады юнацтва; напісанне асобных "заказных" твораў (па просьбе партыі, камсамола, сяброў, сваякоў, калег па пяру і інш.) і іх стварэнне не ў лепшым псіха-эмацыянальным і фізічным стане; часам недахоп якіх-небудзь ведаў; адсутнасць пачуцця гумару і самаіроніі (што нярэдка негатыўна ўплывае на мастацкі ўзровень асобных твораў); выпадковая "здрада" густу ў момант "нараджэння" якіх-небудзь вобразаў ці рыфмаў і да т.п.

Сапраўды, такія творчыя "правалы" заўжды былі і будуць, бадай, ва ўсіх выдатных паэтаў – не гаворачы ўжо пра менш адораных творцаў і проста літаратурных рамеснікаў. Але ж тут трэба мець на ўвазе, што падобныя вершы з'яўляюцца няўдалымі, слабымі найчасцей не з-за таго, што яны проста кепска напісаны, а менавіта ў параўнанні з найлепшымі творамі Майстра. У той жа час для абсалютнай большасці паэтаў сярэдніх і больш нізкіх здольнасцяў стварэнне нават такіх "правальных" (для класікаў) твораў з'яўляецца, як правіла, недасягальнай мэтай.

А цяпер, паважаныя чытачы, параўнайце творы нашых лепшых паэтаў мінулых і старэйшых пакаленняў (напрыклад, Л. Геніюш, М. Стральцова, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна і інш.) з вершамі большасці сучасных паэтаў маладога і сярэдняга ўзросту. Ці шмат вы знойдзеце сярод безлічы твораў сённяшніх "прасунутых" (у розных сэнсах гэтага слова) пісьменнікаў такія прыклады, якія б маглі па-сапраўднаму ўскалыхнуць душу і сэрца, выклікаць пачуццё суперажывання, інспіраваць уласныя роздумы? Ці шмат творцаў зараз спрабуюць зразумела-празрыстай і ў той жа час ярка вобразнай мовай (што, між іншага, сведчыць яшчэ і пра павагу да сваіх патэнцыйных чытачоў), без усялякіх надуманых цьмянасцяў і піжонскага сцёбу выказаць свае набалелыя думкі, пачуцці, сказаць нарэшце ўсім аматарам мастацтва сапраўды нешта важнае, істотнае. Не ведаю, як вы, шаноўныя, адкажаце на пастаўленыя пытанні, але на мой погляд, такіх твораў сустракаецца сёння зусім няшмат і яны выглядаюць невялічкімі яркімі каменьчыкамі на беразе мора пасярод мноства цёмных, шэрых камянёў і ўсялякага бруду, выкінутага морам падчас шторму.

## Ці скончыцца калі-небудзь заняпад культуры?

Падводзячы папярэднія вынікі, можна канстатаваць, што сённяшняя сітуацыя ў сферы культуры з'яўляецца крызіснай. Прычым гэты крызіс мае татальны характар, паколькі ахоплівае практычна ўсе віды і жанры мастацтва. Здаецца, што практычна ўсё самае істотнае, важнае і па-мастацку дасканалае ўжо напісана, прадумана, прагаворана, выказана дзесяць, пяцьдзясят, сто, тысячу гадоў таму назад у Еўропе, Азіі, Амерыцы, Афрыцы. І што ж далей? А далей, як кажуць, пойдуць і ўжо ідуць усялякія паўторы (таго, што ўжо было калісьці выказана на больш высокім мастацкім узроўні творцамі мінулых часоў) і самапаўторы сучасных аўтараў. Але усё ж такі нам – сучасным творцам – яшчэ застанецца што сказаць ў сваёй творчасці, паколькі новыя абставіны жыцця заўжды будуць "падказваць" нам і нейкія новыя мастацкія вобразы, параўнанні, ідэі.

Думаецца, што ў бліжэйшай перспектыве нас хутчэй за ўсё чакае непазбежнае нарастанне эпігонства, яўнага ці прыхаванага плагіяцтва, а значыць і ўзмацненне крызісных з'яў у розных культурных асяродках. Аднак, безумоўна, нельга ўсё ўяўляць толькі ў змрочных танах. Па справядлівасці трэба прызнаць, што шанец на аздараўленне айчыннага мастацтва поўнасцю яшчэ не страчаны. І дзеля таго патрэбна своеасаблівае сукупнае ўздзеянне многіх чыннікаў. Па-першае, патрэбна каб нашы найлепшыя сучасныя паэты пажылога і сярэдняга веку яшчэ больш-менш доўга трымаліся (у плане фізічнага і духоўнага здароўя) і працягвалі нас радаваць новымі высокамастацкімі творамі. Па-другое, было б пажадана, каб здольныя маладыя творцы больш патрабавальна і самакрытычна ставіліся да сваёй творчасці і пачалі, нарэшце, пісаць менш павярхоўна-неахайных, сцёбна-цынічных, і адпаведна больш глыбокіх па змесце, дасканалых па тэхніцы і выкшталцоных па форме мастацкіх твораў.

Па-трэцяе, айчынным пісьменнікам было б варта больш дэталёва разглядаць, аналізаваць творчасць сваіх калег і засяроджвацца ў першую чаргу на станоўчых (але не заплюшчваць вочы і на адмоўныя) баках іх творчай дзейнасці. Па-чацвёртае, было б карысным перастаць "грызціся" прадстаўнікам розных мастацкіх суполак, арганізацый, і больш думаць пра ўласную творчасць, а не пра тое, каб як мага больш балюча "падкалоць" свайго апанента. Па-пятае, калі зараз казаць пра паэтычнае мастацтва, то надзвычай важна перастаць урэшце рэшт любіць сябе ў паэзіі, а пачаць любіць паэзію ў саміх сябе. Праўда, тут неабходна зрабіць адну важную агаворку пра тое, што для гэтага паэзія абавязкова павінна быць "унутры" чалавека, заўжды "жыць" разам з ім.

У будучым абавязкова адбудзецца пэўная трансфармацыя беларускай культуры, паколькі ёй прыйдзецца “прыстасоўвацца” да новых абставін, да новых рэалій заўтрашняга дня. І вось тады, канчаткова прайшоўшы пакручасты шлях свайго развіцця і няўхільнай дэградацыі, можа ўзнікнуць сапраўды яркае, надзвычай самабытнае “новае мастацтва”. Інакш кажучы, з сённяшняга мастацкага хаосу можа ўрэшце рэшт “нарадзіцца” сапраўдная гармонія, а праз шырокія абсягі творчага пустазелля мусяць прабіцца і ўзрасці прыгожыя кветкі ці нават магутныя дрэвы высокага мастацтва. Прычым “інспіратарамі” такіх пазітыўных зрухаў могуць стаць як тыя таленавітыя творцы, якім зараз дзесьці па 20-30 гадоў, так і яшчэ зусім маленькія, але надзвычай адораныя хлапчукі і дзяўчынкі (у тым ліку і маленькія вундэркінды ў мастацтве). Прычым паступова колькасць такіх вундэркіндаў, верагодна, будзе павялічвацца, узрастаць і яны будуць (дакладней, павінны!) аказваць ўсё большы ўплыў на этнакультурнае і духоўнае развіццё ўсяго грамадства. І яшчэ тут варта падкрэсліць, што ў бліжэйшай перспектыве будзе няўхільна пашырацца прысутнасць жанчын у сферы элітарнай і масавай культуры. Менавіта больш ці менш адораныя жанчыны ўсё часцей і часцей выходзяць у авангард сусветнага і айчыннага мастацтва, а ў будучым гэты адмысловы трэнд стане яшчэ больш відавочным. Акрамя таго, мяркую, што калісьці ў высокае мастацтва вернецца своеасаблівая мода на сацыяльна значныя сюжэты, на мастацкае асэнсаванне вострых праблем грамадскага жыцця.

Праўда, чакаць падобных радыкальных, глабальных зрухаў спатрэбіцца, магчыма, яшчэ вельмі доўга ў межах жыцця аднаго чалавека, але зусім няшмат у маштабе гістарычнага Часу – верагодней за ўсё, гэта адбудзецца не раней чым праз некалькі дзесяцігоддзяў. Прычым для такога ўзлёту павінны, як гаворыцца, “быць у наяўнасці” спрыяльныя знешнія і ўнутраныя ўмовы – напрыклад, павінна мець месца сапраўдная свабода творчасці, павінна ўзмацніцца падтрымка культуры з боку дзяржавы і мецэнатаў, павінна палепшыцца якасць мастацкай адукацыі і да т.п. У цэлым жа ёсць пэўныя (і небеспадстаўныя) спадзяванні на тое, што калісьці беларуская культура ўсё ж зойме пачэснае, ганаровае месца ў вялікім сукveцці высокаразвітых нацыянальных культур не толькі Еўропы, але і ўсяго свету.

Аляксей Каўка



…Не хлопам беларус, героем
Гасцінцам крочыць векавым…

# Вуліцай Генадзя Кісялёва

***Згадкі пра старэйшага сябра***

На літаратурных абсягах Беларусі гожая асоба Генадзя Кісялёва свяцілася і свеціцца ярка, непаўторна – вабячы глыбокім інтэлектам, душэўнай ласкаю, спагадай. Хаця... Пафасныя азначэнні, можа, не вельмі стасуюцца да стрыманае, засяроджанае ў сабе натуры Генадзя, сына Васілёва – зазвычай іранічнага да эмацыйных усхліпаў. Але ж, крылатую атэстацыю сваёй надзіва працавітае й празарлівае парсуны праніклівага даследніка — «кротус Генус Кісялёў», увечнены віртуозным сцілом Ведзьмака-Лысагорца, ён успрымаў належна, не без гумарыстычнага задавальнення.

От жа, помніцца, з гэтага забаўна-загадкавага «кротуса» на цянюткіх машынапісных лістках знакамітае паэмы, дасланай недзе ў 70-х на мой маскоўскі адрас сябрам з Чэрвеня, пачалося нашае, тады завочнае, знаёмства. Падвышала значнасць, зацікаўленне таемным персанажам яго суседства, на той жа старонцы, з «кротам» Сцяпанам Александровічам – маім у раннім юнацтве настаўнікам, зноў жа – знаным рупліўцам Беларушчыны.

Па нейкім часе, ужо дапінаючы беларускае сцежкі з хмызу «саўковае» лухты, нацыянальнае дрымоты, чытаў я ў маскоўскай «гістарычцы» ягоных «Пачынальнікаў». Бібліятэка, унікальная кнігазборамі, уключна з беларусікай, туліцца ў Старасадскім завулку, недалёчка, праз квартал, ад былога гісторыка-архіўнага інстытуту. У чытальні таго ж кніжнага храму не раз заседжваўся і наш студэнт-віцеблянін, а пазней яго крыху маладзейшы калега-пабрацім па творчай справе, другі Генадзь – маладзечанец Каханоўскі...

«Пачынальнікі»... Зачароўвала, варушыла прыспаны розум тая дзівосная кніга. Сваімі, раней амаль нязнанымі мною імёнамі, роздумамі-споведзямі, драматычнымі лёсамі Рамуальда Падбярэзскага, Адама Кіркора, Арцёма Вярыгі-Дарэўскага. Францішка Карафы Корбута (Вуля), Аляксанда Рыпінскага, Войслава Савіча-Заблоцкага. Дый вядомыя постаці Багрыма, Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, Абуховіча, Гурыновіча, Янкі Лучыны праз новыя крыніцы ў той жа кнізе зіхатнулі жывейшымі блікамі-фарбамі. Да чаго ж гаманкім, духоўна-насычаным пульсавала з тых старонак літвінска-беларускае, здавалася, «маўклівае» XIX стагоддзе. Наколькі надзённымі, інтымнымі нават, успрымаліся спавядальныя словы «беларускага шляхціча з-пад Лучосы»: «Беларушчына... Гэта мой ідэал». І там жа – яго, Арцёмава, балеснае, нібы й маё ўласнае да ствральніка незвычайнае кнігі прагненне: «Ажыві ...рассеяннае беларускае сэрца! І падмацуй мой дух!». Зразумела, пры ўсёй уражлівасці ад знаёмства з наватарскім, фактычна энцыклапедычным выданнем «Пачынальнікаў» не адразу ўсвядомілася непрамінальнае значэнне гэтае працы, зрэшты, як і належны кошт фізічных і духоўных намаганняў яе аўтара, сціпла «прытуленага» ля малавыразнага слова «ўкладальнік». Кожнаму кемнаму ў справе зразумелыя кошты і вынік падобнага «ўкладальніцтва» – узорнага суплёту літаратурнага крыніцазнаўства, археаграфіі, тэксталогіі, каментароў і г. д. «Пачынальнікі», пазней шчасліва набытыя мною ў кніжным куточку аднае мястэчковае крамкі ў Беларусі, бадай што самая чытаная-перачытаная, пацёртая ад бясконцага гартання-перагортвання кніга ў маёй хатняй бібліятэцы. Бачыў, яна свяцілася і на рабочым стале М. Улашчыка, на яе, дарэчы, класік наш, гісторык, удзячны чытач публікацыяў Кісялёва, адгукнуўся адмысловым роздумам.

Восенню 1982 года выпала мне, тагачаснаму савецкаму дыпламату ў Варшаве, удзельнічаць у міжнароднай навуковай канферэнцыі па славянскіх культурах, зладжанай у Мінску пад патранатам ЮНЕСКА. Памятаецца вірлівая атмасфера таго прадстаўнічага, «многаязычнага» форуму. На ім, абок розных, здаралася натхняльных, сустрэчаў, адбылося, як пазней аднатуецца ў маім «Жывом!», «незабыўнае знаёмства з Генадзем Кісялёвым, кнігі якога, побач з кнігамі Мікалая Улашчыка, Сцяпана Александровіча, Адама Мальдзіса, Генадзя Каханоўскага, і творамі забароненымі («спецхраннымі») Івана і Антона Луцкевічаў, Вацлава Ластоўскага, Усевалада Ігнатоўскага. Аляксандра Цвікевіча, кс. Адама Станкевіча былі маім самаадукацыйным, беларускім па сутнасці... універсітэтам.

Наступнай, праз два гады, восенню мы абодва, правам добрых знаёмцаў, бавілі цёплы вечар у яго «высокай» кватэры (пяты, без ліфта, паверх) на вуліцы Ленінскай – успрынятай мною ад пэўнага часу як вуліца Генадзя Кісялёва. Быў я тады заклапочаны скарынаўскай тэмай, чытаў усё больш-менш прыдатнае ў маскоўскіх, віленскіх, ленінградскіх і, вядома, менскіх архівах, бібліятэках. Маладасведчаны пачатковец не мог не параіцца з вядомым Беларусазнаўцам. Генадзь, памятаю, адразу ўхваліў накірунак маёй задумы – паказаць пераемнасць спадчыны Францішка Скарыны ў станаўленні новае беларускае літаратуры, нутраную повязь старадаўняе і маладой Беларусі. Перасцерагаў, між іншым, ад паспешлівых, маладоказных абагульненняў пры асэнсаванні даволі складанай, на тую пару амаль не кранутай літаратуразнаўствам праблемы. Пазней, ужо на

зыходзе сваіх гадоў, сам ён адкрыецца глыбокім, праніклівым скарыназнаўцам. Тады ж, пад развітанне, адарыў мяне «з душэўнай сімпатыяй» сваёй кнігай «Героі і музы». На маё захапленне кранальна рамантычным загалоўкам заўважыў: добрая назва – ледзь не палова працы, але ж не адразу на яе натрапіш.

Генадзева душэўная светлыня пазначыцца й на наступных яго кнігах-дарунках, кожная з якіх адкрывала новыя і новыя засекі нятускных скарбаў Беларусі, высакародства, ахвярнасць яе лепшых сыноў і дачок, высвечвала з-пад пластоў забыцця, ажыўляла несупыннае бруенне жывога-звонкага слова беларускага.

Знешне замкнёны, здавалася, строгі паглядам, у таварышаванні ён раскрываўся сонечна раскаваным, шчодрым на трапнае слова, гумарыстычную рэпліку ад чаго перад табой, нудотнікам, не раз святлеў, праясняўся затуманены далягляд, мацнела жаданне жыць і працаваць. Падобнае ўзрушэнне выклікала яго саліднейшая кніга – «Ад Чачота да Багушэвіча» і дароўны надпіс (праз занадтую ў ім шчодрасць не цытую), дакляраваная аўтарам на атрыманне навуковае ступені доктара філалогіі.

Генадзь Васільевіч прапанаваў мне выступіць у якасці аднаго з апанентаў. Нішто сабе прапанова! Не надта спрактыкаванаму чалядніку прынародна цанаваць, не без крытычных заўвагаў, творчую дасканаласць Першамайстры. Але ж – «уничижение паче гордости», пракаментаваў бы Генадзь евангельскай прытчай мае сумневы. Так што адмаўляцца не выпадала, хаця ў маім выпадку не абышлося без псіхічнага мандражу цягам прадумвання, дапрацоўкі пісьмовага водгуку на тую густоўную кнігу-дысертацыю. Яна прываблівала глыбінёй, разлегласцю пошукаў-роздумаў аўтара, яго празорлівай здольнасцю нязлічонае мноства крыніцазнаўчых фактаў-адкрыццяў выбудаваць у стройна-вывераную, паслядоўную сістэму: эвалюцыі беларускага літаратурна творчага шляху, як шляху нацыянальнага самапазнання й самасцверджання – ад «краёвасці» да нацыянальнасці, ад «тутэйшасці» да беларускасці. Вельмі блізкімі, духоўна сугучнымі маім пошукам-перажыванням успрымаліся роздумы-высновы старэйшага, зацнейшага калегі. Належала аднак, прытлуміўшы лірычнае ўзрушэнне, з акадэміцкай суважнасцю выказаць свае меркаванні. Тым часам маё ўнутранае напружанне, напятае, на дадатак, тадышняю бойкаю за ўладу ў Маскве Прэзідэнта з паплечнікамі, лагодзіла, падвясельваючы, гарэзлівае слоўка майго зацнага спаборніка ў дактары («суіскальніка», паводле некаторых вучоных таварышаў): «Харошае (вельмі Каўкаўскае) пісьмо сёння атрымаў, – паведамляў ён 23.09.1993 г., не тоячы перасмешлівае засцярогі: – Глядзі, не ўздумай там лезьці на якія барыкады. Мне патрэбны жывы, здаровенькі апанент». Таму мне, на жаль, не выпала з-за сур'ёзных акалічнасцяў непасрэдна прысутнічаць пры важнай падзеі, але водгук быў своечасова дасланы ў Інстытут літаратуры Беларускай Акадэміі і зачытаны пры абароне. Пазней тэкст той будзе змешчаны ў маёй кнізе «От Скорины до Купалы», выдадзенай Інстытутам сусветнай літаратуры Расійскай Акадэміі. За выняткам заключнага меркавання – скрозь, лічу, актуальнага: калі б дайшло да заснанавання Беларускай гуманітарнай акадэміі (лунала такая думка) – Генадзь Васільевіч Кісялёў сваім практычным навуковым набыткам: фактычны доктар навук і акадэмік, быў бы ў ліку першых правадзейных сяброў гэтае высокае ўстановы.

Праз які тыдзень у мой тагачасны Вуглавы завулак прыходзіць з Менску цёплае, праменнае лісцянятка: «Сёння вычытаў у кнізе «Старабеларускія лексіконы» на стар. 6: «Алексей пособитель» – і падумаў, што гэта якраз пра майго бясцэннага А. К. Шчыра дзякую за падтрымку, за вельмі высокага кшталту водзыў...». Далей паведамляў пра ганарар, налічаны Інстытутам апаненту, пытаючыся, што з тым фактам рабіць. Папрасіў па тэлефоне набыць для мяне толькі што выдадзеныя «Добрыя весці» Сыракомлі (мілай памяткай сяброўскае ласкі

стаяць на маёй кніжнай паліцы...). Заставалася нейкая рэшта, якую неўзабаве, пры маім чарговым адскоку ў Менск, выдаткавалі на кручок моцнага напою, – карцела, мне прынамсі, адзначыць «трыумфальнае шэсце» доктара Кісялёва.

У той вечар Генадзь спяшаўся сустрэць з працы Яніну Міхайлаўну. Кожнага разу, па завядзёнцы, у дакладным месцы і часе, спатыкаў ён сваю верную абранніцу і творчага супольніка. Нельга было пазніцца і мы разам падаліся да метро «Кастрычніцкая». Памятаю, пад суровы позірк пані Яніны пачаў я нешта мармытаць у апраўданне: узялі, маўляў, па чарцы, але закусіць па-належнаму не паспелі,

– Бачу, што вы «недазакусатыя», – лагаднеючы, жартаўліва заўважыла яна. І ўжо зусім весялей, падбадзёрваючы, дадала: – То падымемся да нас ды закусім.

Следам і Генадзь — тануючы далікатнай, несварлівай жонцы:

– Ну што, браце, трэба ісці, жанчынам не адмаўляюць...

І мы гуртом рушылі на дранікі да вышыні Кісялёвых...

Так вось і прынадзіўся «маскаль» да гасцявання. Злоўжывання гасціннасцю не было, але кожнае аказійнае наведванне – аднойчы разам з маёй Соняй Іванаўнай – сяброўскае кватэры, незмушоная гамонка пры бяседным стале, пад дасціпныя ўсмешкі Гаспадара і незмушоную ветлівасць гаспадыні, цепліла азяблую на чужых вятрах істоту, варушыла светлыя мроі-спадзяванні. Акрыляючы іншым разам новаю кнігай нястомнага творцы-адкрывальніка, чые лірыка-філасофскія медытацыі ўспрымаліся мною нечым вельмі асабістым: «У жыцці кожнага чалавека агульнае суседнічае з прыватным, публічнае пераплятаецца з інтымным, невядома, што пакідае ў душы большыя меткі». Гэта – з Генадзевых «Жылі-былі класікі» – літаратурнага, таксама класічнага, падарожжа таямніцамі іскрыстых паэмаў «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», іх загадкавых творцаў Вікенція Равінскага і Канстанціна Вераніцына. Там жа, у кнізе, абок «беларускага» антычнага Энея, каларытнага палясоўшчыка Тараса незнарочыста высвечана неспасціжная асоба самога аўтара – сваімі творчымі клопатамі, роздумамі-перажываннямі, суцешлівымі азарэннямі – праз далучэнне да таемных глыбіняў нацыянальнае гісторыі, культуры, да несамавітых рупліўцаў беларускае ідэнтычнасці – Бадзянскага, Шафарыка, нашых суродзічаў – Карскага, Эпімаха-Шыпілы, Мачульскага, віцебскага краязнаўцы Плавінскага, нарэшце, да славутых майстроў слова беларускага і сусветнага – Коласа, Купалы, Танка, Куляшова, Брыля, Гілевіча, Разанава, Пушкіна, Шэкспіра, Конан-Дойля... Кніга, у пэўным сэнсе – нашае беларускае ўсё: грунтоўныя ўводзіны ў беларусазнаўства, над якімі развыжаць-хваляваЦца не аднаму пакаленню студэнтаў, аспірантаў, наступнікаў Генадзя Кісялёва.

Не магу не згадаць пра іншыя нашыя ўзаеміны. Памятаю, на першых Скарынаўскіх чытаннях ён прапанаваў мне паразважаць над толькі што выдадзеным «Беларускай Савецкай Энцыклапедыяй» фаліянтам «Кніга Беларусі» – для рыхтаванага ім зборніка «Шляхам гадоў». Перад тым у маскоўскіх «Вопросах истории» была змешчаная мая невялічкая нататка пра згаданую кнігу з упамінаннем «крамольнага» на той час прозвішча Вацлава Ластоўскага. У Маскве – пачатак «перестройки» – такая вольнасць ужо дазвалялася, прынамсі, не заўважалася. Але у Мінску... Пільныя цэнзары да апошняга касавалі які-кольвечы станоўчы ўспамін, намёк на адраджэнцаў-«нацдэмаў». Зважаючы на сітуацыю, дасведчаны калега падварушваў, далікатна «падстрахоўваючы», аўтара тае нататкі: «У такім духу прысылай і мне... Але помні, што абачлівасць, заснаваная на вопыце, не шкодзіць мужу...».

Не забудзецца нашае супольнае падарожжа ў траўні 1988 года на адкрыццё надмагільнага помніка Карусю Каганцу – у Навасёлках, блізу Койданава (пра-

бачце, Дзержинска). Захаваўся фотаздымачак з таго кранальнага прычашчэння да Карусёвае магілкі: абліччы Галіны Кастравіцкай, дачкі паэта (з Масквы прыязджала), Генадзя Кісялёва, Міколы Ермаловіча, Арсена Ліса...

Падтрымаў і Генадзь Васільевіч пранiклiвым словам сваім, мудрай парадай нашыя ў Маскве старанні над засваеннем спадчыны Мікалая Улашчыка – артыкулам у зборніку «Русь-Литва-Беларусь», рэцэнзаваннем «Твораў» гісторыка. Даверыў «Скарынічу» некалькі старонак са сваіх «падарожных» роздумаў – шляхам Францішка-Палачаніна. З яго ж, Генадзевага намаўлення і пісьмовае рэкамендацыі адважыўся я «прапісацца» ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў. На той жа, рэкамендацыйнай старонцы яго, Кісялёва, не мітынгоўна-аратара, але зацятага маўчуна, зануранага ў пошукі навукоўца, выбухова агністы вокліч: «Беларусь была, ёсць і будзе!» – выклікам скрутнаму часу і запаветам змагарам за яе, Сінявокай, вольную будучыню...

Прашэптваю яго апошнія радкі (не думалася пра апошнія...) на Крылацкіх халмах у Белакаменнай: «Твой сімпатычны матэрыял пра «Халімона» [Дуніна-Марцінкевіча], здаецца, паспеў учапіцца за хвост будучай кнігі з матэрыяламі канферэнцыі. «За хвост» амаль літаральна, бо збіраюцца яго надрукаваць не «папераду», як звыклі мы трактаваць масквічоў, а недзе ззаду, каб не парушаць вёрстку... ».

Сонечнае, падсвечанае вясёлым гумарком, Генадзева слоўка – дасюль цепліць акаёмы схаладзелае душы.

Пэўна, наперадзе – следам за Каласавінамі, Купалаўскімі, Багдановічаўскімі, Эпімах-Шыпілаўскімі чытаннямі, будуць чытанні Кісялёўскія. На ўзведзеным ім гісторыка-літаратурным архіпелагу Беларусі адна – асабліва прыкметная, амаль недасяжная: Кастусь Каліноўскі. Яго, Кісялёва, даследаванні-адкрыцці найбуйнейшае постаці беларускага лёсу і шляху не перастануць вабіць-паланіць сэрцы і галовы даследчыкаў, пісьменнікаў, мастакоў – кожнага апантанца беларускае думкі, нашага вызвольнага змагання.

Сёння тым ярчэй, надзённей высвечваецца з туманоў гісторыі волатаўская постаць легендарнага Кастуся. Бо ў дзяржаўна-незалежнай Беларусі, за якую калісьці ўзышоў на эшафот яе змагарны пакутнік, распаношылася плойма мондрых «доцентов с кандидатами», брудзячы пераліцаваным «западнорусизмом» многавечны змагарны шлях забранае краіны, узʼюшыліся пісакі на легендарнага Яську-гаспадара, прадстаўляючы яго нейкім чужым для беларусаў «польскім» тэрарыстам, адначасна ўхваляючы яго вешальніка – расійскага генерала, як узорнага адміністратара, нават асветніка ў колішнім Северо-Западном крае... Прыкра, што «лінія» Мураўёва ў цяперашняй дзяржаўнай сістэме краіны запанавала над прасцягам Каліноўскага – братоў Луцкевічаў.

Аднак жа, згадваючы Паэта-празарліўца: «Не вечно коршуну кружить, не вечно Роднне тужить... », скажам: «Будам сеяць, беларусы!». І сеем ужо – буйным, праrослым зернем Кастуся Каліноўскага, зернем Генадзя Кісялёва.

Яго чалавекалюбная светлыня... Мабыць, ад лірычна-стоенае душы, якая нене, ды і ўстрапечвалася, усхвалёваная кранальным мастацкім словам-вобразам... Памятаю ўзрушлівае Генадзева ўражанне, выказанае Нілу Гілевічу ад прачытанае паэмы «Лодачкі». Прыкметна збянтэжаны аўтар не таіў свайго ўзрушэння: крытыка, маўляў, твор нібы не заўважыла, а чытач... Між тым, падазраю, ён, чытач, мог і сам злёгку, ненатужліва, асядлаць крылатага Пегаса (паэтычныя вопыты Кісялёва – пакуль у сутонні). І сяброўства яго з прыкметнымі парнасікамі – Уладзімірам Караткевічам, Янкам Брылём, а таксама з Данілам Міцкевічам – сынам Якуба Коласа, іншымі словатворцамі Беларусі, не кажучы пра калегаў па Інстытуту літаратуры імя Янкі Купалы, – невыпадковае.

У свой час яго светлая галава засяроджвалася пад адным з першых нашых

Пачынальнікаў (кніга «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча»). Спасцігальнікам Пачынальніка Кісялёва – таксама ёсць і будзе над чым разважаць, клапаціцца, натхняцца.

* * *

На той жа вуліцы нарадзіліся аднойчы вершаваныя радкі, абнародваныя «Нашай Нівай» да юбілею Класіка. Цяпер тыя строфы – у вянок светлае памяці Генадзя Кісялёва:

Не кожнаму такое сніцца,
Хоць споры класікаў між нас,
Каб і Чачот, і Вераніцын
Цябе пазвалі на Парнас.
Там люду рознага нямала
Таўпецца навакол багоў,
Яго ж – Скарына і Купала
Прывецяць пэўна за свайго.
Ён Караткевічам аблашчан,
Яму на вечны успамін
Наш летапісец, сам Улашчык
Склаў адмысловы перкгамін.
І не адзін руплівец, з клёвых,
Адвечнай сцежкаю хадок
Габлюе мысль пад Кісялёва
Майстроў шнуруючы радок.
З дзівосных кнігаў – думкі роем,
Зарок і мёртвым і жывым:
Не хлопам беларус, героем
Гасцінцам крочыць векавым.
Хоць не адно геройствам спрыцен –
Калі па шчырасці казаць –
Той-сёй за поліўку ў карыце
Чужацкі біч жадзён лізаць.
Ад сораму нясцерпнай рана
Смыліць і рана, і ўначы –
Дакуль жа будзеш, край забраны,
Ярмо на карку валачы?
Суродзіч мой, да блазнаў гонкі,
Сумленню атлусцець не дай –
Гартай пякучыя старонкі,
Думу пра Беларусь чытай.
Не, далакопам не знаровіць
Прагнёных волі Божы дар –
Жыве і думаннік-змагар,
Упарты Генус-каліновец!

Хада мая Яго вуліцай таксама блізіцца крэсу. Але тым самым напрамкам рушаць і рушылі ўжо новыя, маладыя хадакі. Шчасці ім, Божа...

*Кастрычнік-лістапад 2009*
*Масква-Менск*

## Васіль Якавенка:
# “Пакутны век”

***Гэтым разам Бліц-крыт, які мы рыхтавалі цягам цэлых чатырох нумароў, апынуўся найбольш дыскусійным і, магчыма, супярэчлівым з усіх нашых ранейшых абмеркаванняў, з дыяметральна супрацьлеглымі ацэнкамі экспертаў што да разгляданай кнігі. Як і раней, звышмэтай нашай рубрыкі ёсць не ўсталяванне нейкае праўды ў «апошняй інстанцыі», а – жаданне прыцягнуць увагу чытача да актуальных праблемаў сучаснага літаратурнага працэсу. Стварыць палеміку, скіраваць да роздуму і, урэшце, – справакаваць да дзеяння. І аўтара, і чытача.***

***Адносна таго, якія выданні Вы хацелі б пабачыць у крытычным прыцэле далейшых “дзеяслоўскіх” абмеркаванняў, калі ласка, лістуйце на адрас: a_thomas@tut.by. ДЗЕйнічайце!***

**Яўген Гучок, паэт, публіцыст:**

### Раман “без берагоў”

Чытаць трылогію Васіля Якавенкі “Пакутны век” нялёгка, часам вельмі цяжка, бо яна чапляе за жывое, адбірае спакой і нават можа парушыць сон. А прычына тут адна – насычанасць твора бясстрашнай і безагляднай праўдай, а таксама мастацкае майстэрства. “Пакутны век” мала разглядаць у кантэксце беларускай літаратуры (гл. творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Змітрака Бядулі, Кузьмы Чорнага, Віктара Вальтара, Васіля Быкава, Вячаслава Адамчыка і інш.); ён варты разгляду ў кантэксце сусветнай класікі. Па праблематыцы этнічнага існавання і выжывання твор В. Якавенкі зойме годнае месца сярод твораў такіх пісьменнікаў, як “Апошнія лісты Якопа Ортыса” італьянца Уга Фасткола, дзе намаляваны трагедыя італьянца-патрыёта ў гады, што папярэднічаюць карбанарызму, матывы пратэсту і скрухі, выклік прыгнятальнікам, запавет нашчадкам непакорлівасці і прагі помсты; “Апошні з магікан” амерыканца Джэймса Фенімора Купера, дзе паказаны трагічны лёс індзейскага народа, што вынішчаецца буржуазнай

цывілізацыяй; “Востраў Сахалін” рускага Антона Чэхава, дзе падаюцца сцэны рабаўніцтва і гвалтоўнай смяротнай расправы з мясцовымі жыхарамі расейскіх авантурыстаў і латруг; “Дух пушчы” амерыканца Джэка Лондана, дзе малююцца карціны вынішчэння аўтахтонаў – карэнных жыхароў Аляскі – індзейцаўалеутаў расейскімі перша“прахадзімцамі” і каланістамі; паэтычны зборнік “На перакрыжаванні часоў” ірландца, нобелеўскага лаўрэата па літаратуры Уільяма Батлера Ейтса, дзе ў кожным радку паэта пульсуе палымяная кроў патрыёта і нянавісць да ворагаў яго Радзімы; патрыятычная паэма “Баск” баска Н. дэ Армаэчэа, дзе з гневам распавядаецца аб перашкоджаннях іспанскага фашызму развіццю баскскай літаратуры. На лініі пералічаных твораў В. Якавенка ў “Пакутным веку” конгеніяльна малюе сітуацыі, калі бязлітасна узурпуецца, марнуецца, пляжыцца светлы бок беларускага “жывога жыцця”.

Васіль Быкаў, класік беларускай літаратуры, у сваіх мастацкіх і публіцыстычных творах часта гаворыць пра нялюдскую ўладу і праявы гэтых яе асаблівасцей у Беларусі ці то ў мірны час, ці то ў час вайны. Больш за тое, ён гэта вельмі рэльефна паказвае. Калі гаварыць у гэтым плане пра В. Якавенку, то ён ідзе яшчэ далей. Ён, гістарычна і метафізічна раскрываючы дужкі званай нялюдскасці, пераканаўча перадае яе прыроду, яе генезіс цераз абагульненне фактаў паводзін прадстаўнікоў гэтай нялюдскай улады. Да ўсяго, В. Якавенка падае схему сусветна-мясцовага зла, што балюе на Беларусі. Гэта – вось: Масква – Варшава – Берлін са сваімі маральна-палітычнымі “лагатыпамі”: Сталін – Пілсудскі – Гітлер. Але гэта яшчэ не ўсё. Над названай воссю лунае дух Агасфера. І, вядома, тут праяўляюць сваю гнюсную актыўнасць мясцовыя дробныя нячысцікі тыпу Даніка Плюнгера.

Калі ж узяць тэарэтычнае абгрунтаванне дзеянняў прадстаўнікоў названых субстанцый на месцы, то яно даволі яскрава раскрываецца ва ўзаемаадносінах са светам, а тым часам і між сабой характэрных персанажаў, такіх як Скірмунты, Раман і Костусь, як Махно – Троцкі, Мэндаль – Клямка, Рамановіч – Плюнгер, Геніюш – Цанава, Кубэ – Штраух, Кіт – Кушаль, Астроўскі – Абрамчык, Стрыгуноў... Мазураў – Хрушчоў... І вось у вір, дзе скрыжоўваюцца ўсе размаітыя погляды, пазіцыі, памкненні, кінуты неспрактыкаваны ў палітычных, класавых, расавых і іншых гульнях беларускі народ.

Каб шматбакова, аб’ёмна, пераканаўча паказаць праявы сусветнага зла, што абрынулася на Беларусь і драпежна трымае ў сваіх абхопах яе дзяцей – Рамановічаў (асабліва Барыса), Васіля Захарку, Мікалая Шчорса, Кастуся Езавітава, Барыса Кіта, Ларысу Геніюш і іншых волатаў беларускага духу, бескарыслівых падзвіжнікаў у служэнні Бацькаўшчыне (усё гэта, падкрэслім, гістарычныя персанажы), пісьменніку дапамагае яго энцыклапедычная дасведчанасць і эрудыцыя ў галіне гісторыі, паліталогіі, філасофіі, этналогіі і інш. Пералічаныя героі ў прыклад нашчадкам вылучаюцца яшчэ і сваёй змагарнай актыўнасцю ў супрацьстаянні экспансіі зла. І ці не таму “Пакутны век” мае пэўную энцыклапедычна-анталагічную асаблівасць і скіраванасць, асабліва для тых, хто неабыякавы да лёсу Беларусі?

Калі гаварыць аб жанравых асаблівасцях “Пакутнага веку”, то гэта раман-эпапея, хоць сам аўтар не пазначае гэта ні на тытуле выдання, ні ў анатацыі да яго, але мы, несумненна, маем справу з раманам, праўда, не ў чыстым выглядзе, а раманам “без берагоў”. Тут са стоадсоткавымі старонкамі мастацкага тэксту суседнічаюць старонкі публіцыстыкі, рэпартажу, хронікі, эпісталярыя і інш. Зразумела, такое суседства спараджае і розныя стылёвыя асаблівасці твора. Але тут яны апраўданы і нікольк не зніжаюць агульны высокі мастацкі ўзровень трылогіі, наадварот, так бы мовіць, паўсталая стылёвая мазаічнасць пашырае магчымасці аўтара разгарнуцца “ва ўсе чатыры бакі свету” і праз шматпланавасць, полісюжэтнасць прадставіць вялікі роскід і адпаведна сабарнасць беларускай

ментальнасці (пераважна барочнай афарбоўкі) як у дыяспары, так і ў метраполіі, даць больш поўную панараму падзей эпохі, выявіць багатую і ў той жа час больш ушчыльнёную галерэю герояў і антыгерояў часу і, вядома, больш канцэнтраваную іх псіхалагічную напоўненасць.

Адносна структурнай пабудовы, дакладней – кампазіцыі "Пакутнага веку". Тут таксама ўсё спрацавана бездакорна. Кожная частка трылогіі ("Кабала", "Надлом", "Гульня на згубу") самой назвай і насычанасцю гістарычнай, псіхалагічнай і бытавой пераканальнасці сведчаць аб кампетэнтнасці і глыбокіх удумлівых адносінах аўтара да таго, аб чым ён піша. Часам прасочваецца ў пэўным сэнсе тэндэнцыйнасць і дактрыннасць, уласцівыя для немалой колькасці старонак трылогіі. Але такія, гаворачы фігуральна, пасажы не тое што даравальныя, яны – апраўданы, больш таго – непазбежны і неабходны, каб падкрэсліць вялікі гуманістычны і адначасова гнеўны патрыятызм твора, а праз зададзеную фактуру розных паведамленняў лепш раскрыць і выявіць сістэму вобразаў увогуле і кожнага персанажа асобна. І што важна – у гэтым сэнсе ў аўтара няма ніякага перабору. Тут, да прыкладу, нават, здавалася б, табуяваныя моманты ў сусветнай інфармацыйнай прасторы падаюцца зусім не ў лоб, а вось кропкі над "і" расстаўляюцца.

Неабходна сказаць хоць колькі ўхвальных слоў пра прысвячэнне твора ("Радзіме, высокім парываннем продкаў, вольнаму духу зямлі прысвячаю. Аўтар") і пралог да яго. Гэтыя складнікі "Пакутнага веку" ад самага яго пачатку настройваюць чытача на трансцэндэнтна-патрыятычны лад. У гэтым і сэнс жыцця аўтара трылогіі і светлых вобразаў яе герояў.

Нельга не звярнуць увагу і на тое, што многія старонкі кнігі насычаны экзістэнцыяльнасцю, дакладным псіхалагізмам, лірызмам, вострай сатырай і мяккім гумарам. Вядома, усё гэта дасягаецца праз багатыя моўныя сродкі. Што тычыцца дыяпазону моўнага выяўлення "Пакутнага веку", ён надзвычай шырокі. Яго насычаюць адпаведна ладнае лексічнае багацце, вобразнасць, афарыстычнасць і інш.

Улічваючы тое, што "Пакутны век" – гэта яшчэ і кніга ідэй, варта было б пашырыць яе назву, а менавіта: "Пакутны век, пакутная зямля". Але гэта прыватная, можа, залішне суб'ектыўная думка.

Пры чытанні трылогіі, бывае, адчуваецца адсутнасць карпатлівай работы рэдактарскай рукі. Напрыклад, зусім недапушчальна, малечу Маню Рамановіч называць Раманавічанка, а сусветна вядомага, славутага вучонага, вялікага патрыёта Беларусі называць не Барыс Кіт, а – Барыс. Тут, як кажуць, не ўлічваюцца ўзроставыя асаблівасці герояў. Можна было б назваць прыклады і іншага кшталту, але яны – для аўтара і рэдактара.

І яшчэ. Каб пераканацца ў слушнасці мастацкай праўды, дакладнасці надзвычай багатага інфармацыйна твора В. Якавенкі, (калі яны ні ў чым і нічым не саступаюць адно аднаму, а наадварот, пасуюць і дапаўняюць адно аднаго, аб чым мімаходзь гаварылася вышэй), для гэтага "Пакутны век" павінен чытацца ўважліва і пранікнёна. Трылогія напісаная знаўцам гісторыі, майстрам слова, вялікім і актыўным патрыётам Беларусі. Нашая яму ўдзячнасць і нізкі паклон.

**Маргарыта Аляшкевіч, літаратурны крытык:**

## Цяжкая кніга

Мы чакалі і прагнулі буйной кнігі, эпапеі, нашай "Вайны і міру" як нібыта адзінай магчымай легітымізацыі беларускай літаратуры. Нечага, відавочна, не стае коласавым "Ростаням" і мележавым "Людзям" – хіба чытацкай памяці? Піяру на пераадоленне школьнай алергіі? Радуйся, о чытачу! Маем трылогію "Пакутны век" Васіля Якавенкі, якая ў спрэчцы наконт сённяшняга існавання нашага пісьменства даволі важкі аргумент.

Важкі настолькі, што каб не прыбіў нас, далікатных дзетак празмернага інфармацыйнага спажывання. Ледзь не 900 старонак – у наш век “інцярнету”!

З аднаго боку, крытыкі і культуролагі сцвярджаюць, што эпоха вялікага тэксту завяршылася[1], а блогеры тут ставяць “+1” і не чытаюць, калі “многа букаф”. З іншага боку, у кансерватыўным грамадстве дажывае век літаратурацэнтрызм, і, каб улітасцівіць гэтага цмока, крытыкі і культуролагі мусяць прынесці ў ахвяру свае разумныя сцверджанні, а пісьменнікі – кінуць зверу ў пашчу выкшталцоныя постмадэрныя росшукі. Потым усе бяруцца за рукі, утвараюць сугестыўнае кола і пад напеўку “ёсць буйны твор – ёсць літаратура”, “ёсць “Вайна і мір” – ёсць беларусы” спрабуюць заклясці сонечнае надвор’е, усеагульнае працвітанне і масавы дабрабыт.

Разумею ахвоту чытача хутчэй далучыцца да свята; але мусім зважаць на немач, якая пашырылася, пакуль гугль мяняў нашыя звычкі рэцэпцыі – пошуку і засваення інфармацыі[2].

Таму прапаную сумеснае пераадоленне парогу “Пакутнага веку” (а хто не мае праблемаў з лінейным успрыняццем тэксту, можа смела наступнае не чытаць і адразу занурацца ў першыя пецьдзясят старонак трылогіі).

Парог, адзначу, высокі. Ці лепей – як у правільнай беларускай хаце, надта нізкі, каб той, хто ўваходзіць, добра пакланіўся гаспадарам. Уся хата ў нашым выпадку складаецца з трох пакояў: кніг “Кабала” (235 м.кв.), “Надлом” (354 м.кв.) і “Гульня на згубу” (278 м.кв.), у якасці сенцаў слугуе пралог (4 м.кв.), а на панадворку маецца брама “Мастацкі ўзор і веліч праўды” (Роздум над трылогіяй А. Лойкі).

Хто пойдзе праз браму, набярэцца мудрасці, але разам з ёю і гатовых станоўчых ацэнак. Таму падкасаем нагавіцы і лезем цераз плот, а праз браму, гузоў набіўшы, потым выйдзем.

У сенцах можна абтрэсці паўсядзёншчыну і наладавацца на ўспрыняцце прыўкраснага:

*“Восень. Мяккі супакой у шызым сыраватым паветры, і даволі лёгкага подыху ў навакольнай прасторы, каб заварушыліся сцішаныя, дрымотныя галінкі дрэў і, сарваўшыся, паляцела на зямлю з клёнаў і ліп вільготнае лісце, яркае, бы вышуканае з сапраўднага золата; ад мяккага, насычанага водсвету яго на душы ў прахожых рабілася ўрачыста, утульна”.*

Гэта не дынаміка пачатку, калі чытача ці то білі адразу ў твар, ці то за горла хапалі; гэта і не шматабяцальнае “Груша цвіла апошні год”, дзе чатыры словы гавораць і аб красе, і аб яе хуткім сконе, ну і крышачку аб гвалце, бо ж дрэвы самі сабой рэдка гінуць. Аднак не будзем спяшацца з высновамі і адсоўваць таміну ўбок: доўгі разгон бяруць і тыя, хто хоча далёка скочыць.

Тэма заяўлена манументальная: у анатацыі гаворыцца аб “драме і трагедыі станаўлення народа як нацыі”, у пралогу – аб згасанні пасіянарнасці беларусаў, якіх, да бяды, душаць хіжыя суседзі. У адпаведнасці з палатном падбіраюцца і фарбы. І калі пралог завяршаецца вершаваным запытаннем “Хто сёння мы? Дзе наша слава?” – чытач ужо мусіць настроіцца на патрэбны пафас і забыцца на часы скразной і татальнай іроніі. Не, Васіль Якавенка не іранізуе, і ён тут не ў гульні ўзяўся гуляць, але, кажучы словамі літаратуразнаўцы і культуролага Аляксея Рагулі, “не зважаючы на модныя патрабаванні дэканструкцыі і разбурэння

---

[1] Драпежныя вавёркі беларускага лесу: актуальныя праблемы сучаснай літаратуры. – Arche-пачатак, №10, 2009, с. 31

[2] Nicholas Carr. Is Google Making Us Stupid? What the Internet is doing to our brains, http://www.theatlantic.com/magazine/archive/2008/07/is-google-making-us-stupid/6868.

логацэнтрызму, аўтар выразна акрэсліў арганізуючы матыў трылогіі”[1]. Як пабачым далей, пісьменнік не будзе з святарных кароў рабіць каралеўскіх біфштэксаў, а толькі пашыхтуе іх і ўпарадкуе цэтлікамі.

З пралогу, дзе на фоне залатой восені дыскутуюць паэт, геолаг і аўтар, трапляем на піцбуржскую канферэнцыю лекараў. Тут пані Марыя Дзямковіч з няпэўным славянскім акцэнтам тлумачыць амерыканцам, дзе ёсць яе радзіма Беларусь:

“*...[амерыканцы] убачылі ў ёй дзіўную асобу, прастата, шырасць і праніклёнасць якой, пэўна, пераходзілі ў чуллівасць. Таму і слёзы, загадкавыя слёзы, што перапоўнілі чашу спакутаванай жаночай душы*”.

Трэба зважаць на высокі лад, заяўлены пралогам, эпіграфам і самой назвай твору, і вонкавым афармленнем, каб пабачыць за стылістычнымі клішэ нейкае сэнсава-эмацыйнае напаўненне, якога тут, насамрэч, багата. Пасля таго, як яе дзеда і дзядзьку, гэтаксама ўсіх габрэяў мястэчка ды яшчэ процьму добрых знаёмцаў забілі без суда і следства, а рэшткі сям’і туляліся, раскіданыя, па свеце, пані Марыя мае права на слабіну, героі – на нярэдкі кніжна-высокі стыль у гутарках, а аўтар – на роўна столькі інверсіяў, колькі яму будзе заўгодна (але ж, але ж, абвыкнем).

Зацемім яшчэ адну карысную для чытання рэч: не варта прызвычайвацца да герояў. Адзіны нязменны герой твору – беларуская нацыя. Вакол яе адбываецца безупынная ратацыя кадраў: герой можа з’явіцца ў эпізодзе, потым захапіць аповед на цэлы нарыс, потым саступіць месца іншым і зноў эпізадычна з’яўляцца ў наступных сцэнах (як, скажам, Радаслаў Астроўскі, які спярша фігуруе як меркаваны здраднік беларускага руху, прыгнечаны дэфензівай, потым выступае заснавальнікам Беларускага Кааперацыйнага банку ў Вільні, ахвярай інтрыгаў беларускіх нацыстаў у Менску 1941 года...).

Згаданая місіс Дзямковіч з’яўляецца бадай што адзіным героем, хто перыядычна суправаджае чытача ад пачатку твора і да яго фіналу. Спярша паспяховая амерыканка з сваёй “невялічкай камяніцай на два паверхі”, затым яна фігуруе ўжо як маталянка Маня, кемлівае дзіцятка, якое цягнецца да пракаветнай мудрасці, увасобленай у ейным дзедзе. Так і хочацца накінуць на дзеўку архетып, маўляў, Маня – гэта і ёсць Беларусь; але ж вобраз не тыпізуецца. Яе лёс – адзін з магчымых, адзін са шматлікіх, а пад канец трылогіі ён і ўвогуле губляецца пад напластаваннямі іншых лёсаў – як выбітных асобаў беларускага нацыятварэння, так і падобных да Мані, выхапленых з нябыту шарагоўцаў. Яшчэ адзін прэтэндэнт у галоўныя героі – Пятро Рамановіч, дзед Мані па мянушцы Пісарчук, звычайны, а ўсё ж такі і не звычайны мотальскі селянін. Ці шмат сялянаў вядзе сяброўства з панамі і нават карыстаецца іхняй бібліятэкай, такіх сялянаў, да каго пан звернецца па параду, забіўшы выпадкам чалавека? Вось і камандзір партызанскай брыгады Баравік такіх не ведаў, таму нават запрасіў селяніна на сустрэчу – падзівіцца.

Каб “Пакутны век” апавядаў гісторыю сям’і Рамановічаў скрозь усё мінулае стагоддзе, усё было б надта проста, сага-фарсайтава, знака-бядынска ці там ветрам-знясёна. Карацей, не па-наску, не па-сучаснаму было б, немудрагеліста, надта лёгка б чыталася і не магло б тады, пэўна, прэтэндаваць на нешта, апроч чытацкае любові (а як жа, як жа гістарычная праўда-матка?). Таму трэба аповед аб сям’і разарваць устаўнымі нарысамі аб самім месцы і яго размаітых насельніках, іх прозвішчах (якія ўсе заканчваюцца на “-іч”, але вось каралева Бона засяліла некалькі сваіх суграмадзянаў, адтуль і розныя інакшыя прозвішчы пайшлі), гісторыі, этнаграфіі і геалогіі глебы, дапоўніць фрагментамі аб дзея-

[1] Аляксей Рагуля. Светласкоп Васіля Якавенкі, http://arche.by/by/16/20/763/

чах беларускага адраджэння, вытрымкамі з дакументаў, улёткамі, адозвамі і газетнымі артыкуламі, усё без бібліяграфіі, перасыпаць гэта малавядомымі фактамі з гісторыі другой сусветнай, забіць добрага дзеда Пятра ўсярэдзіне кнігі, ну і звесці да мізэрных дзвюх-трох сцэнаў амурныя справы, пра якія мы з вамі так любім чытаць. (Не-не, любошчы тут ёсць, не бойцеся, гарэм Даніка Плюнгера і ягоная манера заляцацца парадуюць наш непатрабавальны густ, але ж яны ўстаўленыя ў аповед без якой-кольвечы звязкі з папярэднім і наступным тэкстам). Не будуць на імя Васіля Якавенкі слаць зычлівыя лісты Барысу Рамановічу і Ганцы Міховічаў, а праклёны – барысаваму юру Ёўдзе Хвілюсісе. Эпізоды залётаў ды грамадска-сямейнага суду над “блудлівым катом” выпісаны з надзвычайнай далікатнасцю і лаканічнасцю, чытач ледзь паспее перавесці дых паміж высокіх парыванняў і разважанняў аб сусветнай змове. Дый увогуле тое, што не датычыць нацыянальнага адраджэння, не ёсць прадметам адлюстравання: вызваленне Барыса з-пад арышту паказана як цікавае здарэнне, незвычайны выпадак (шляхетныя паводзіны арыштанта ўразілі пані жонку следчага, і яна выпрасіла хлопцу вызваленне), а пра тое, што перанесла сям’я, згадана мімахадзь: “Яшчэ не забыўся Барысаў арышт і неспакой з-за яго”. Згадайма арышт Васіля Дзятліка з “Людзей на балоце” – якая там псіхалагічная распрацоўка вобразаў, якое багацце рэакцый, якая праверка характараў! Залезці ўсярэдзіну герояў, выяўляць іхныя вярэды – а якой можа быць вярэда ў нацыяналіста, апроч стварэння і абароны нацыі? Вось і даводзіцца аўтару адно пераказваць тыя пачуцці і думкі герояў, якія не датычаць пастаўленай мэты (якой, памятаем, застаецца паказ станаўлення беларускай нацыі).

Цікава, што Курані – гэта вельмі пэўная частка Беларусі, дакладны кавалак Палесся, які проціпастаўлены і гарадам, і цэламу свету, і нават суседняму мястэчку. А Моталь нібыта прэзентуе ўсю краіну ў мініяцюры[1]...

Прадэманструем, якім чынам увага ад Рамановічаў непазбежна адцягваецца гераіняй Беларускай Нацыяй. Барыс, сын Пятра і бацька Мані, пачынае з захаплення камуністычнымі ідэямі, а сканчае дзейсным беларускім нацыяналістам на эміграцыі. Адзін з важных пунктаў у змене яго светапогляду – сустрэча з нацыянальна ангажаваным Раманам Скірмунтам, панам і былым дэпутатам 1-й Дзяржаўнай Думы. У выпадку сямейна-гістарычнай хронікі мы б мелі толькі перажыванні Барыса з нагоды пачутага. Іх стае:

*“Барыс маўчаў, прысаромлены і ўражаны. Так уразіла б яго, напэўна, калі б пан Скірмунт раптам дастаў з-пад сядзення пралёткі і пачаў ірваць тоўстую кнігу, на якую камуністы моляцца, – “Капітал” Маркса”.*

Але поруч з гэтым і далейшымі трапнымі апісаннямі стану героя маем падрабязны радавод паноў Скірмунтаў з пералічэннем заслугаў кожнага перад сялянствам і радзімай, суплёт версіяў паходжання беларусаў, лірычнае адхіленне пра слыннага сына беларускага Напалеона Орду. Анатоль Мяльгуй называе твор “арыгінальным для айчыннай літаратуры сінтэзам сацыяльна-псіхалагічнага рамана з элементамі публіцыстыкі, гістарычнага, дакументальнага і эпісталярнага жанраў”[2]. У звязку з тым, што атрымалася, так і хочацца згадаць прымаўку пра двух зайцоў, за якімі не варта ганяцца адначасова, а лепей – па чарзе, чын чынам, тым больш што кожны асобны кавалак выдае велізарны пісьменніцкі талент аўтара. Той, хто здолеў паказаць знелюдзенне людзей, разбурэнне пракаветнага ладу ў адным эпізодзе, – калі ліхадзеі вымаразілі за адну ноч усіх

---

[1] Барыс Паўлоўскі. На слізкім раздарожжы, http://www.vb.by/article.php?topic=4&article=6949&%20action=results&poll_ident=87

[2] Анатоль Мяльгуй. Лёс нацыі ў адным творы? Чытайма раман “Пакутны век” В. Якавенкі, http://budzma.org/literature/lyos-nacyi-w-adnym-tvory-chytayma-raman-pakutny-vyek-v-yakavyenki.html

руплівых пчолак гаспадара Пятра, – цалкам мажліва, проста не ставіў сабе задачы скласці цэласны тэкст і паслядоўнае апавяданне. Мажліва, тут спадар аўтар меў разлік на аўдыторыю, якой збіраць цэлае з удалых фрагментаў будзе гэтаксама лёгка, цікава і ўжо проста неабходна, як праглядаць адначасова з тузін закладак у браўзеры. Так што дарма мы з вамі баяліся вялікага тэксту. Але, на мой одум, усё ж такі бракуе нейкай структуры, нейкіх падзагалоўкаў-падказак і вынясення іх у змест – гэта вельмі паскорыла б засваенне тэксту, аблегчыла б паўторныя звароты да яго.

Такім чынам, прапаноўваю перад карыстаннем тэксту азнаёміцца з мануалам:

1. Наладзьцеся на высокі стыль і сур’ёзную размову;
2. Адкладзіце ўбок усялякі спех, падрыхтуйцеся да слабой дынамікі дзеяў у першых пяцідзесяці старонках[1];
3. Не прызвычайвайцеся да герояў; каб пазбегнуць блытаніны і раздражняльнага дэжавю, выпісвайце імёны новых герояў і старонку іх уваходжання ў тэкст (яны, мажліва, яшчэ неаднойчы сустрэнуцца, старонак гэтак праз дзвесьце);
4. Не шукайце спісу выкарыстаных дакументаў пры канцы кнігі, яго там няма; аўтар не выдае сваіх сакрэтаў – ці то ён узнаўляе дакументы паводле сваёй фенаменальнай памяці, часам называючы месца і год выдання, а часам не, ці то карыстаецца сямейным архівам, ці то не хоча загрувашчваць тэкст яшчэ і бібліяграфічнымі спасылкамі. Што яшчэ неверагодней: аўтар вядзе хітрую постмадэрнічную-такі гульню – спярша выракся “моднай дэканструкцыі”, а потым містыфікуе гісторыю, як яму заманецца;
5. Калі цікавяць сямейныя стасункі – глядзіце серыялы; калі хочацца да іх беларускага каларыту – чытайце Мележа (Палеская хроніка, том першы). Каму мала жывасці ў героях, бракуе іх актыўных учынкаў і перажыванняў – гл. п. 1; калі хтосьці хоча і гаворкі аб нацыянальным, і living рознабаковых герояў – чытайце Караткевіча.

### Трава зялёная, а малако белае

Цяпер вы мусіце мяне спытацца: а навошта тады чытаць Якавенку? Нам хопіць для абуджэння нацыянальнай годнасці Караткевіча, для праўды пра калектывізацыю – Зарэцкага і Мележа, пра вайну – Быкава энд К°, пра беларуска-польскіх ваеннапалонных Брыля, пра жыдоўскую змову Эка ці там Браўна, а пра калабарантаў, эмігрантаў ды заходнікаў столькі ўсяго СМІ панапісалі, ажно галава гудзе.

Усё так. Гудзе. Але ж цэласнага ўяўлення няма? Дык вось. Апрача спробы нам яго даць, аўтар ахвяруе сваёй кармай і бярэцца разганяць ідэалагічныя міфы – святарных кароў, марудных істотаў, якіх нельга чапаць, нават калі тыя разлегліся пасярод дарогі на светлую будучыню.

Статак можна ўмоўна падзяліць на некалькі групаў: міфы рэвалюцыйныя, міфы ваенныя, міфы нацыяналістычныя. Паўтаруся – раздзяленне вельмі

[1] Дазволю сабе такі вось вульгарны пераказ, мо камусьці ён дапаможа звязаць у адно цэлае пачатак трылогіі: Марыя выступае на з’ездзе, едзе дадому, сніць дзеда. Дзеянне вяртаецца ў мінуўшчыну, дзе і застаецца: дзед Пятро спаткаецца з сябрам святаром, гамоніць аб Нестары Махно, бальшавіках і юдах. Барыс выпраўляецца па крамах, сустракае Рамана Скірмунта, вядуць пра паўстанне нацы, ролю буржуяў. Эпізод пасяджэння пракамуністычнай “спулкі”, эпізод мітынга, апісанне арыштаў, цудоўнае вызваленне Барыса. Барыс чытае кнігу і разважае пра яе, вязе мёд у Парэчча, п’е і гутарыць аб буржуях з гандляром Клямкам; мілуецца і шлюбуецца, сыходзіць у войска... (першыя 5 раздзелаў, 60 с.)

ўмоўнае і патрэбна адно для паслядоўнасці разгортвання думкі; у кнізе, як і ў жыцці, усё пераплецена ў клубок. Да таго, у кнізе паўстаюць міфы таго часу, які апісваецца – скажам, у Заходняй Беларусі сярэдзіны і канца 20-х верылі, быццам бы ў "камуніі", то бок савецкай частцы краіны, на платах каўбасы растуць, але першы ж хадок, якому ўдалося вярнуцца назад, разбівае гэтую цудоўную казку аб лепшым свеце, дзе насамрэч "калгасы, а не каўбасы" ды людзі радыя бульбяному лушпінню. Заўпынімся на тым, што непасрэдна датычыць сённяшняга ўспрыняцця мінулых падзей.

У рэвалюцыйным блоку звыкла ацэньваюцца і падлягаюць далейшай міфікацыі асобы правадыроў, прытым Ленін – герой станоўчы, які ледзь не адзін паўстаў супраць жыдоў-расеягубаў, за што і атрымаў атручаную кулю, а ад страшнага Сталіна сын ажно ў войска збег (характэрна, што Якуб Джугашвілі наскрозь геройскі, дый да бацькі піетэт адчувальны); Троцкі, адпаведна, галоўны дзеяч габрайскай перабудовы свету (чаму б не Парвус?). Міф аб прыгнечаных заходніх братах цалкам пацверджаны, пашыраны, дапоўнены і пазбаўлены ўсялякае міфалагічнасці – пры польскіх панах беларусам сапраўды жылося цяжка, іх апалячвалі, не давалі развіваць нацыянальную культуру, падаткамі абкладалі. Пры саветах, праўда, стала яшчэ горай, але міфа гэта ўжо не датычыць.

Вокліч "Бі жыдоў, ратуй Расею!" пачынаеш скандаваць пасля першай жа гутаркі дзеда Пятра з сябрам (а гэта вельмі пашыраная ў тэксце форма вядзення аповеду) – селянін дабіраецца да кораню ўсіх бедаў:

*"...павінны ператварыць Расею ў пустыню, населеную белымі неграмі. Калі мы выйграем рэвалюцыю, парушым Расею, то шляхам тэрору, крывавых бань мы давядзем рускую інтэлігенцыю да поўнага атупення, да ідыятызму, да жывёльнага стану. А пакуль нашы юнакі ў скураных куртках – сыны гадзіннікавых спраў майстроў..."* (пераказ бацюшкам Георгіям прамовы Троцкага)

Неўзабаве спадар Пятро і сына да навукі даложыць, падкінуўшы таму патрэбную літаратуру:

*"Апошнім часам жыхары Моталя дужа збяднелі, бо яўрэі не давалі ім грошай пад вексалі, а замест працэнтаў бралі або засевы, або што-колечы з дамашняй скаціны – каня ці карову, а пад заклад выдадзенай ім сумы патрабавалі дамы ці іншыя збудаванні. Рэдкі моталец вольны ад кабальных пазык... і жыды, – зазначала яна [аўтарка брашуры 1888 г.], – давёўшы справу да гвалту, прадаюць усю маёмасць з малатка*".

(і чым, уласна кажучы, вінныя жыды – што дабіваліся вяртання пазыкі? Мусіць, так, бо пры апісанні камерцыйнай дзейнасці самога Барыса, які намагаўся пераадолець гегемонію габрэяў у гандлі, гаворыцца, што ён даваў тавар людзям напавер і казаў пры гэтым – будуць грошы, аддасцё. На жаль, Другая сусветная затым перапыніла філантрапічна-камерцыйную дзейнасць героя і не дала чытачам пабачыць прыбыткаў з такога бізнесу).

Падобныя эскапады суседнічаюць з апісаннем местачковых габрэяў – збольшага людзей добрых, разумных і адукаваных, якіх дзед Пятро з цікаўнасцю слухае, якім пры патрэбе дапамагае схавацца. Тут жа – і высмейванне антысемізму: паліцай не паленаваўся пацягнуцца за Барысам Кітам ажно ў лазню, бо падазраваў у тым габрэя, але ж быў прысаромлены голай праўдай...

Міфы ваеннай тэматыкі таксама пазнавальныя. Не ведаю, як вам, а мне дзед усё дзяцінства прабубніў, што немцы былі добрыя і нават дапамагалі – плацілі за ежу, а партызаны апошняе адбіралі. У "Пакутным веку" падзяленне на "нашых" і "нянашых" адбываецца па мяжы чалавечнасці – калі немец дапамагае сям'і Германкі (у час Першай сусветнай), дык ён і за ворага не лічыцца, і не сорамна ад яго дзіцё займець ды выхаваць; калі ж партызан прыходзіць да сваяка,

які дапамагаў яму хавацца ад арышту, жлукціць з ім пяршак, а потым спрабуе забіць, бо той сваяк абрыд партызану бясконцымі ўпікамі ў адрас савецкае ўлады – такому герою аўтар прыхаваў жахлівы канец. Але і тут не ўсё адназначна, і нельга казаць, быццам Данік Плюнгер – галоўны адмоўны персанаж. Калі герой – нацыя, дык і супрацьстаяць ёй адна асоба не можа, таму на ролю антыгероя выходзіць сам час:

*“Па гэтай зямлі ўздоўж і ўпоперак, злева направа і справа налева, паўсюль кружылі і гойсалі страхалюдныя віхуры, і яны высмоктвалі чалавечую кроў” (с. 489).*

Данік – таксама ахвяра часу. Так, з-за пэўных адмысловасцяў характару, а дакладней – з заўсёднай ахвоты лезці на ражон хлопец у часы пракамуністычнай дзейнасці патрапіў на вока карнікам дэфензівы. Страху бацькоўскай хаты двойчы раскідвалі, другім разам з страхой раскідалі і майно, так што раззлаваны бацька нават прылюдна выцяў і выракся сына – дзе ж тут не зазлаваць, супраць усяго свету не паўстаць, а асабліва супраць тых, хто пад цэлымі стрэхамі сядзіць сціхатою ды пыніць гаспадарку.

Не абмінае аўтар увагай і постаць Кубэ, які атрымліваецца шчырым сябрам беларусаў, чалавекам адукаваным і з густам да мастацтваў, не абмінае і супярэчлівасцяў вакол яго забойства. Атрымліваюць голас таксама іншыя добра вядомыя асобы, але ж, за немагчымасцю спраўдзіць, наколькі блізка аўтар трымаецца цытаваных тэкстаў, не маю магчымасці казаць аб якіх-кольвечы тут мастацкіх дасягненнях.

Вельмі, вельмі шмат можна гаварыць аб руйнаванні савецкага ваеннага міфу – але гэта тэма для асобнай гаворкі, як то ўпісаць фрагменты, датычныя ваенных дзеянняў, у кантэкст іншых твораў пра вайну, не дазваляюць памеры і так разбухлай рэцэнзіі. Заўважу толькі, што большасць думак, выказаных аўтарам, ужо знаёмыя нам ад часоў галоснасці, і вартасць падобнага міфаразбурэння хіба ў тым, што матэрыял сабраны пад адной вокладкай, каб лёгка было рабіць самастойныя высновы.

Затым, міфы нацыянальныя. Скажам, ці ёсць калабаранты здраднікамі? Каму яны здраджвалі? У “Птушках і гнёздах” Янкі Брыля яны, як памятаем, зусім не сімпатычныя і нават агідныя ў параўнанні з сапраўдным беларусам Алесем Руневічам. Што сталася з колішнімі прабеларускімі ўтварэннямі ў цяперашнім свеце? Дзе сёння і што робяць славутыя дзеячы адраджэння? Ладныя кавалкі тэксту “Пакутнага веку” адведзены намаганням разабрацца, хто і з якім імпэтам спрычыніўся да ўтварэння БНР, хто каму сцяжынку перабег у час фармавання беларускай дзяржаўнасці, што адбывалася ў акупаваным немцамі Менску, як мабілізаваліся нацыянальныя сілы за мяжой краіны, што прынёс новы век. Здраднікі і героі, ашуканыя і ашуканцы – каб з гэтым асвойтацца, напраўдзе варта прачытаць “Пакутны век”, прытым некалькі разоў (а таму купляйце, купляйце кнігу, пакуль яна каштуе нейкіх 60 тысячаў – вось стане класікай або патрапіць пад забарону, дык і за большыя грошы не набудзеце: або школьнікі разбяруць, або гандляры тры скуры злупяць за апошні асобнік).

Самым цікавым, на мой міфалагічны густ, застаецца ўтвораны трылогіяй пазітыўны вобраз беларуса – не цёмнага мужыка з каўтуном на галаве і заўсёднай нішчымніцай на стале, не мужнага змагара, якому пры экзістэнцыяльным выбары невядомыя сумненні, і нават не рамантыка, які мае справу з ажылай мінуўшчынай. А гаспадарлівага разумніка, чалавека цвярозага і дапытлівага розуму, няспешлівага і поўнага ўнутранай годнасці, прывязанага да зямлі і паяднанага з яе пракаветнай памяццю.

Цяжкая, цяжкая гэта кніга. І не толькі з-за вагі і памеру (у торбачку дый у галаву не кожнай кабеце ўмесціцца). І не толькі з-за недахопу эмацыйных сувязяў між удалымі, бадай што самакаштоўнымі нарысамі. Яшчэ і з-за таго, што сам

час, апісаны ў трылогіі, быў такі няпросты – супярэчлівы, бла-бла, самі ведаеце, адным словам – пакутны.

Жыццё страшэнна неўпарадкаванае – столькі ўсяго адбываецца, прытым усё ў дробязях, сярод якіх і не адрозніш кавалачак вялікай дзеі. Потым ужо, калі жыццё рушыць далей і пачынаюцца ўспаміны, можна вылучыць тое-сёе з гэтага гармідару, прыняць вылучанае за галоўнае. Але выбірае кожны пад сябе, і больш упарадкаванай ад гэтага мінуўшчына не робіцца. Таму каштоўнасць трылогіі “Пакутны век” бачыцца менавіта ў тым, што можа на першы погляд падацца яе хібай – у непрычасанасці, размаітасці матэрыялу, зведзенага разам. Кніга ўяўляецца наборам фрагментаў, эпізодаў або сцэнаў, паміж якімі існуюць храналагічныя, гістарычныя, часам лагічныя сувязі. Частку з іх можна аспрэчваць, частку прымаць да ведама, часткай шчыра захапляцца. А нашчадкам застаецца воля ў карыстанні гэтага факталагічна-вобразнага канструктару.

**Міхась Малько:**

## Выяўленне нацыі

Трылогія “Пакутны век” Васіля Цімафеевіча Якавенкі з’яўляецца вялікім дасягненнем не толькі самога аўтара, але і ўсёй беларускай літаратуры. У творы – трагічны лёс беларускага народа на працягу апошняга стагоддзя, пачынаючы ад першай сусветнай вайны і заканчваючы сённяшнімі днямі. Падзеі, апісаныя ў трылогіі, развіваюцца ў мястэчку Моталь, у Янаве, Пінску, Слуцку, Мінску, Гомелі і іншых беларускіх гарадах, у Варшаве, Познані, Берліне, Кёнігсбергу, Мюнхене, Франкфурце-на-Майне і іншых гарадах Германіі, у сталіцы Вялікабрытаніі Лондане, у Чыкага, Дэтройце, Балтыморы, Лос-Анжэлесе і іншых гарадах ЗША. Дзеючымі асобамі трылогіі з’яўляюцца простыя сяляне, рабочыя, ваенныя, палітыкі, уключаючы такія гістарычныя постаці, як Гітлер, Кубэ, Чэрчыль, Сталін, Хрушчоў, Мазураў і інш. Дакладна паказана палітыка такіх беларускіх кіраўнікоў, як Кебіч, якія, па сутнасці, рабілі ўсё дзеля таго, каб Беларусь зноў апынулася ў Расійскай імперыі. Усе гэтыя асаблівасці трылогіі «Пакутны век» вызначаюць яе як асаблівы, унікальны твор беларускай літаратуры, якому наканавана доўгае жыццё.

Лічыць, што эпапея “Пакутны век” апісвае трагічны лёс сям'і Пятра Рамановіча, было б памылкай, паколькі галоўны герой трылогіі на самой справе з'яўляецца літаратурным выяўленнем самой беларускай нацыі. «Пакутны век» – гэта шырокая мастацкая панарама, якая адлюстравала важнейшыя падзеі, і гэта надае асаблівую вартасць трылогіі Васіля Цімафеевіча.

Яе адметнай асаблівасцю з'яўляецца наўздзіў дакладнае, амаль дакументальнае апісанне важнейшых гістарычных падзей і важнейшых гістарычных асоб, што вызначалі лёс беларускага народа раней і вызначаюць сёння. Асабліва выразна гэта бачна пры азнаямленні са старонкамі кнігі, дзе паказаны ваенныя дзеянні. Тут, упершыню для беларускай літаратуры, сустракаешся з загадамі армейскага кіраўніцтва, з вытрымкамі з журналаў баявых дзеянняў і г.д. Але гэта не дакументальны твор. Гэта высокамастацкая кніга, напісаная з вялікай зацікаўленасцю да дзеючых асоб, пранікнутая тонкім лірызмам і філасофскімі роздумамі. Можна не сумнявацца, што прыйдзе такі час, калі гэта кніга будзе выдавацца масавымі тыражамі і стане вядомай і даступнай для ўсіх нашых людзей.

Да асаблівых дасягненняў аўтара трэба аднесці мастацкае вырашэнне трох надзвычай важных задач. Як вядома, усе тыя беларускія дзеячы, якія спрычыніліся да стварэння Савецкай Беларусі, былі знішчаныя вылюдкамі з НКВД. Тыя ж беларускія палітыкі, якія былі не дасягальнымі для НКВД, былі афіцыйна аб'яў-

леныя здраднікамі беларускага народа. І гэтае таўро, прыклеенае ворагамі Беларусі, застаецца на іх і сёння. Васіль Цімафеевіч пераканаўча паказаў, што ўсе гэтыя так званыя ворагі Беларусі на самой справе з'яўляюцца нацыянальнымі героямі і патрыётамі нашай краіны. Гэта найперш Раман Скірмунт, Радаслаў Астроўскі, ксёндз Гадлеўскі, Юры Сабалеўскі, доктар Шчорс, Аўген Калубовіч, Барыс Кіт, паэтэсы Наталля Арсеннева, Ларыса Геніюш і іншыя. Менавіта іх дзейнасць і стварыла падмурак для сягонняшняй Беларусі, для краіны, у якой, прыйдзе час, і сапраўдныя патрыёты будуць называцца патрыётамі, і вуліцы беларускіх гарадоў будуць мець назвы ў гонар іх, а не ворагаў Беларусі, свядомых праціўнікаў беларускай незалежнасці.

Другой важнай тэмай трылогіі «Пакутны век» стала праўдзівае апісанне жыцця насельніцтва Заходняй Беларусі пад польскай акупацыяй. Як вядома, панская Польшча праводзіла тут палітыку нацыянальнага і сацыяльнага ўціску. Сягоння на старонках некаторых выданняў з'яўляюцца артыкулы, у якіх робяцца спробы паказаць, што прыход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь з'явіўся трагедыяй для насельніцтва, якому жылося пад польскай акупацыяй намнога лепш, чым пры ўладзе бальшавікоў. Аднак пры гэтым не згадваецца, што польскія ўлады адкрыта заяўлялі: іхняя задача на Усходніх Крэсах – поўная паланізацыя беларускага насельніцтва на працягу аднаго пакалення. Такая палітыка Польшчы была сфармулявана ўжо ў 1919 годзе Юзафам Пілсудскім. У 1919 годзе Польшча падпісала з краінамі Антанты спецыяльную дамову, згодна з якой абавязвалася садзейнічаць нацыянальнаму развіццю нацыянальных меншасцяў, што аказаліся пад польскай уладай. Толькі Польшча не збіралася выконваць дамову. У 1934 годзе Ліга Нацыяў запатрабавала ад Польшчы спыніць тую ганебную практыку. Але ж Польшча і далей праводзіла сваю шалёную каланіяльную дзейнасць.

Трэцяя задача, якую паспяхова вырашыў пісьменнік – ён пераканаўча прадэманстраваў, яскрава паказаў, што ўсе беды беларускага народа ў апошнія 100 гадоў выкліканы трыма драпежнікамі: Масквой, Варшавай і Берлінам. Сёння Беларусь нібыта суверэнная дзяржава. Няхай... Але сквапны ўсходні сусед амаль адкрыта заяўляе: мэтай яго палітыкі ў адносінах да Беларусі з'яўляецца інкарпарацыя краіны. Відавочна, што для таго, каб адстаяць незалежнасць нашай краіны, трэба не толькі забяспечыць яе суверынітэт у галіне энергетыкі, але і стварыць такія ўмовы, пры якіх кожны грамадзянін будзе дакладна ведаць: яго дабрабыт і нават фізічнае існаванне магчымыя толькі ў вольнай беларускай дзяржаве, асновы якой заклалі сваёй самаахвярнай барацьбой і працай, працай і барацьбой слаўныя сыны і дочкі беларускага народа. І гэта момант ісціны.

**Вітаўт Мартыненка, музычны крытык, журналіст:**

## Вяртанне эпасу

Калі ў 80-я гады юнаком я, дзякуй Богу, падсеў на моду штучна створанага саветамі кніжнага бума, здаючы цюкі макулатуры дзеля атрымання жаданага талончыка на права купіць нейкую надзвычайную кнігу (а былі ж тое насамрэч вялікія Дыкенс, Бальзак, Мапасан, Бакача, Сэрвантэс, Ільф і Пятроў, Булгакаў), у пэўны момант натыкнуўся на пытанне: а чаму ж у беларусаў няма ніводнай беларускай кнігі ў гэтай акцыі? Падзяліўшыся з сябрам маладосці – паэтам Анатолем Сысам – сваімі пакутамі, што не магу сабраць паўнавартасную беларускую бібліятэку, бо напароўся спярша на нейкага пралетарскага рыфмаплёта, а потым на калгасны раман пра Івана Батрака, які цягнуўся за плугам, радасна нюхаючы шчодрыя пахі гною, я атрымаў адназначны адказ. Анатоль Сыс параіў тады: «Чытай Якавенку, за ім – будучыня».

Акурат прадавалася ў той час у крамах нейкая кніжыца Васіля Якавенкі ў шэрай каленкоравай вокладцы, але я толькі пагартаў яе ў кнігарні. Потым Сысу кажу: «Ну які Якавенка? Ну любіць чалавек родную прыроду, ну намагаецца падзяліцца гэтай любоўю... А дзе ж вастрыня сюжэту, дзе таямнічая фабула?».

Мне падалося, што паэта вабіць менавіта жыццёвая проза, а не дэтэктывы й фантастыка, як мяне тады. Праз чвэрць стагоддзя давялося падзяліцца тым успамінам з самім Якавенкам на адной з прэзентацыяў, дык і ён здзівіўся: «Сыс рэкамендаваў мяне? Ён – паэт... Не можа быць! Я ж для яго быў публіцыстам, і раман «Надлом», і потым трылогія «Пакутны век» – мае першыя чыста мастацкія творы».

Ці то Сыс апынуўся сапраўдным прарокам, ці то спадар Якавенка не дагаворвае, як ён назапасіў той неверагодны аб'ём матэрыялу, архіўнага і эмацыйнага, якім прасякнуты ягоны твор, але маштабная кніга «Пакутны век» (каля тысячы старонак) стала для мяне найбольшым літаратурным адкрыццём апошняга часу, хоць ужо маю ў сваёй бібліятэцы унікальныя кнігі Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава, Кастуся Акулы, Ларысы Геніюш, Наталлі Арсенневай, цудоўныя беларускія пераклады Платона, Марка Аўрэліюса, Уітмэна, Лангфэла, Джойса, Оруэла, Гашэка, Сянкевіча, Дастаеўскага...

Парадокс яшчэ ў тым, што чытаў я той «Пакутны век» акурат пасля найбольш поўнага трэцяга выдання, калі прэзідэнт краіны гучна заявіў: «На скаргі пісьменнікаў хачу запытаць: а дзе вашы эпапеі, накшталт «Вайны і мір» Талстога, «Ціхага Дону» Шолахава?»

Ды ў «Пакутным веку» я акурат жа ўбачыў і маштабнасць Талстога, і эмацыйнае багацце Шолахава. Але...

Не з Шолахавым і Талстым хочацца насамперш параўноўваць гэты твор, бо менавіта такія параўнанні падаліся мне недастатковымі ў прадмове Алега Лойкі, якую ініцыятары трэцяга выдання ўзялі з актуальных газетных публікацыяў («Наша слова» №46, 12.11.2008). Насамперш хочацца адштурхнуцца ад свайго, у дадзеным выпадку тэматычна больш роднаснага і адэкватнага.

Прыгадваецца колішняе знаёмства з двойчы ўжо перавыданым у Менску («Мастацкая літаратура», 1994, «Логвінаў», 2005) раманам «Змагарныя дарогі» канадскага беларускага генія Кастуся Акулы (маё інтэрв'ю з ім «Дзеяслоў» друкаваў у №3 2006 г.). Ці мо яшчэ з выдадзенай у Канадзе ягонай жа неверагодна праўдзівай трылогіяй «Гараватка» пра вычварэнствы калектывізацыі («Дзярлівая птушка», «Закрываўленае сонца», «Беларусы, вас чакае зямля»).

Я ніколі не быў прыхільнікам батальнай прозы, але Акула ўразіў нават нестандартна аб'ёмным выяўленнем самой сутнасці вайны. У яго не было звыклых схем, дзе праклятыя чорныя напалі на няшчасных белых, тыя тужыліся-пыжыліся, але лёгка перамаглі, бо «наше дело правое, посему победа и могла быть только за нами». А ў Акулы людзі, якія зведалі пакуты сталіншчыны ды баяліся пакутаў гітлераўшчыны, пакутліва ж вырашаюць, з кім быць у бойцы двух тыранаў. На злом галавы чыталіся тыя старонкі, дзе маладыя байцы бралі ў рукі фашысцкую зброю і... ў першым баі здаваліся французам, каб назаўтра страляць у тых, з кім учора дзялілі акоп. Натуральна, там былі беларусы, якія ваявалі супраць Гітлера ў савецкіх войсках, былі й такія, якія ў нямецкіх войсках змагаліся з бальшавізмам за Беларусь, былі й тыя, што трапілі ў Польскі корпус брытанскай арміі Андэрса, каб змагацца і з Сталіным, і з Гітлерам... Хто з іх чорны, а хто белы – не вырашана й да сёння, бо, як піша Васіль Якавенка, «тэрор вяршыўся пры розных носьбітах улады й сілы, пры розных асобах і абставінах» (стар. 613). Але гэта не азначае, што аўтар абвінавачвае ўсіх і ўсё. Бо нават у складаным габрэйскім пытанні, якое шматаблічна разгортваецца ў эпапеі “Пакутны век”, ёсць і пакуты купца Мэндаля, выгнанага

вайной з Польшчы ў Беларусь, яго прытулілі мотальцы і сябруе з ім галоўны герой Рамановіч, разважанні таго самага Рамановіча над згаданымі кімсьці вычварэнскімі «Пратаколамі сіёнскіх мудрацоў», якія можна параўноўваць – ні больш, ні менш – з «Майн Кампф». Менавіта ў размове з Пятром Рамановічам Мэндаль з Хэлму сцвярджае: «Не ведаю, пане Пятро, радавацца мне з гэтай нагоды ці слёзы ліць, толькі наш габрэйскі Талмуд і «Майн Кампф» Гітлера – творы, вартыя адзін аднаго» (стар. 578).

У рамане, зрэшты, нямала эпізадычных палітычных згадак, якія спярша выглядаюць неяк сумбурна, але ў агульным кантэксце твора складаюць надта пераканаўчую паралель нават паміж знешне процілеглымі дактрынамі – сіянізм, камунізм, фашызм. І ўсе яны надта характэрна адзначыліся ў нашай святой зямлі – Беларусі, якая выйшла з войнаў і рэвалюцыяў ХХ стагоддзя нібыта пераможцай (у нас нават Плошча Перамогі ў сталіцы ёсць), але з найвялікшымі людскімі й тэрытарыяльнымі стратамі: 20-мільённы народ проста разарвалі на часткі, як курдаў. Расеі адышло 183 039 кв. км з насельніцтвам каля 6,5 мільёнаў душ, Польшча прысабечыла 102 000 кв. км (4,5 млн. чал.), Латвія – 12 000 кв. км (паўмільёна), Жмудзь заграбла не толькі 5 433 кв. км (231 000 чал.), але й назву Літва разам з багатай ліцвінскай гісторыяй. Чаму такі лёс зазнаў народ у цэнтры цывілізаванай Еўропы, які стварыў дэмакратычны звод законаў «Статут Вялікага Княства» яшчэ тады, калі не было ні магутнай Нямеччыны, ні вялікай Брытаніі, ні хцівай Польшчы, а магутная імперыя, жыхары якой яшчэ сядзелі на калах свайго цара Пятра І за збор шышак па дрэвах з галадухі, яшчэ й не марыла прысабечыць нават назву старажытнай Русі, бо не забыла пакуль «исконного» найменне Залатая Арда? Дый што казаць: амерыканская канстытуцыя пісалася з аглядкай на «Статут» нашага Льва Сапегі.

А падзеі раману якраз і разгортваюцца не толькі вакол вайны: выразна апісана атмасфера рэвалюцыйных пераўтварэнняў першай трэці стагоддзя, нямала старонак займае тэма беларуса ў выгнанні, на абшарах далёкай Амерыкі, Аўстраліі і іншых краін.

Беларусь сярэднявечная, БНР, Беларусь савецкая адлюстраваныя ў кнізе праз унікальныя дакументы пэўнай эпохі, праз згадкі мастацкіх твораў і легенд, якія гарманічна ўпісваюцца ў сюжэт. Дый што казаць, калі героі твора не толькі чытаюць кнігі Ларысы Геніюш і Наталлі Арсенневай, але й згадваюць пра асабістыя сустрэчы з тымі вялікімі паэткамі, з іншымі гістарычнымі персанажамі. Што казаць, калі сярод тых персанажаў – дэпутат польскага сэйма ды адзін з стваральнікаў БНР Раман Скірмунт, унікальны матэматык Барыс Кіта, які стаў свяцілам сусветнай касманаўтыкі пад імем Барыс Кіт, якое ўмуравана адмысловай ганаровай капсулай у камяніцы Капітоля, дзеячы розных палітычных партый таго пакутнага для Беларусі ХХ веку – ад Фабіяна Акінчыца да Міколы Ганько, ад Вітаўта Кіпеля да Радаслава Астроўскага, ад Васіля Захаркі да Мікалая Шчорса. Ды нават Янка Геніюш, муж той самай славутай паэткі, паўстае надзвычай жывым і блізкім чалавекам.

Нягледзячы на рэалістычную манеру выкладання матэрыялу, надзвычай удалымі ў кнізе падаюцца й старонкі містычнага гарту, напрыклад, калі падпіты бацька калгаснага камунякі-кар'ерыста сустракаецца з духам забітых ягоным сынам людзей: «Постаць, якая ў святле месячыка адарвалася ад дому, была ў светлым, а цені цёмныя, чорныя, і яны неўзабаве захінулі светлую здань. Толькі ж варта было падысьці Кузьме да брамкі могілак, як за ёй паказаліся чатыры постаці ў белым, мала таго, на труне-чаўнаку падплыла шчэ й пятая: «– Кузьма, гэта ты?, – за простым пытаньнем чуўся голас Пятра Рамановіча, – Балюеш, нячысцік?..» Ад страху ў таго й мову адняло, і ён кіўнуў галавой» (стар. 795). Вось такая гогалеўшчына!

Майстэрства пісьменніка падалося мне яшчэ і ў тым, што, пішучы пра складаныя перыпетыі лёсу людзей, якіх зваблівае ў свой калаўрот то камунізм, то польскае «вызваленне», то нямецкае, то расейскае, ніколі не бярэ чыйсьці бок, хоць часам бянтэжыць тым пэўнага чытача: ну не кожнаму верыцца, што сумленныя людзі, якіх вязуць у быдлячым вагоне на высылку ў Сібір, шчыра спяваюць «мілагучныя акупанцкія песні» – «Катюша», «Идёт война народная». Але ў кантэксце ўсяго твору адчуваеш, што яго будуць чытаць і праз 20, і праз 100 гадоў, бо аўтар пераўвасабляецца ў ролю неангажаванага летапісца. Часам нават спачуваеш таму самаму будучаму крываваму забойцу й кар'ерысту Багдану Плюнгеру, з-за фанабэрыстасці якога пілсудчыкі не раз раскідваюць сціплае гняздо ягоных бацькоў. Аўтар вышэй за нашыя актуальныя ўражанні напрацягу ўсяго твора:

*«– Дарагія таварышы, слаўныя чырвонаармейцы, дзякуй вам, што вызвалілі нас ад польскага ярма», – дэкламуюць у 1939-м заходнебеларусы з леванастроеных, а ў адказ чуюць добрую ўсмешку салдата-вызваліцеля: «– Ад ярма вызвалілі, а хамут надзенем!» (стар. 182).*

Асабліва важным аспектам у гэтай рэцэнзіі стаў для мяне й асабісты чытацкі досвед: паляка Генрыка Сянкевіча некаторыя мае сябры не змаглі асэнсаваць і дагэтуль, а сам я, напрыклад, пакутліва пераадольваў першыя 30 старонак уваходжання ў глыбокі гістарычны кантэкст рамана «Quo Vadis», каб потым так зліцца з героямі, што пакутлівым стала растанне. Прыблізна такі ж шлях знаёмства прайшоў і ўлюбёны мой раман Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». А вось з Якавенкам адбылося зусім іначай: ён захапіў з першых старонак, хоць пераадольваць стэрэатыпы давялося якраз перад тым.

Бываючы яшчэ на прэзентацыях першых выпускаў, я абыякаваназіраў за мітуснёй чытацкай аўдыторыі вакол аўтара. Кніга адразу прывабіла істотную ўвагу многіх, а я думаў, што гэта чарговы раман пра наша бязрадаснае калгаснае ўчора і такое ж калгаснае заўтра. Але лёс так насурочыў, дзякуй Богу, што Якавенку спадабаліся на нейкім канцэрце песні Андрэя Плясанава на мае вершы, і ён запрасіў гурт «P.L.A.N.» на некалькі агульнакраёвых прэзентацыяў. Пасля ўжо трэцяга сумеснага выступу Андрэй тэлефануе мне: «Я ўжо сам купіў сабе гэтую кнігу, бо ў ёй пра ўсё, чым мы з табой жывем, пра што размаўляем, пра што песні пішам».

«Ну-ну, – падумаў я. – Але песні й так пішуцца». Аднак, на далейшых рэпетыцыях я ўжо ніяк не мог абысці гэтую кнігу, бо Андрэй сыпаў і сыпаў яркімі, хоць часам і парадаксальнымі цытатамі:

*«Уцякаючы з няволі, селі мы ў цягнік. На нас – рабочыя камбінезоны, і гэта непакоіла. Але ж потым, як мы агледзеліся, дык амаль увесь люд, што ехаў разам, быў апрануты абы-як, абы ў што. На некаторых такое рыззё, што глядзець страшна. Расея... Спазналіся людзі з жабрацтвам. У Менску мы нырнулі ў натоўп, каб згубіцца, а потым купілі нейкія лахманы, каб пераапрануцца. Беларусь! Зноў Беларусь, але мы вольныя!..» (стар. 79).*

*«У Менску яшчэ ў сярэдзіне 20-х гадоў пачаў працаваць прафесар Ленц; якому за тры гады ўдалося сабраць даволі значны й доказны матэрыял, з якога вынікала, што кроў беларуса генетычна адрозніваецца ад крыві расейца... Калі казаць пра сваяцтва, то яго з расейцамі лацвей шукаць не беларусу, а мардвіну, татару, манголу» (стар. 519).*

*«Хаім Вайцман абвесціў вайну Гітлеру ад імя ўсіх габрэяў і збег кудысьці, далей ад Жэневы! – Іншымі словамі пёрднуў і схаваўся за вугал? – Але ж наш Моталь і выкарміў-такі Напалеона Хаіма!» (стар. 137).*

*«Кніжку Генію́ш «Ад родных ніў», – даводзіў Рамановіч, – выдаў Беларускі нацыянальны камітэт у Берліне. Ахвота да кнігі вялікая, адно шкада, што наклад*

*не такі вялікі, скажам, як у «Майн Кампф». – Ого, чаго захацеў! – доўжыў далей доктар Малецкі» (стар. 475).*

*«Хто ж іх, нячысцікаў, столькі наставіў сюды?.. А той, хто вынішчае нацыянальны падмурак рэспублікі. Гэта кадравая акупацыя краіны. Зноў тутэйшым даводзіцца чухаць патыліцу. Калі Гітлер у сваёй кніжцы пагражае вынішчыць некаторыя народы, дык тут, пад Саветамі, гэтым даўно ўжо займаюцца: жах бярэ – практычна беларусаў у БССР адцерлі ад улады, ад дзяржаўнага й культурнага жыцця» (стар. 249-250).*

А я ж акурат маю ў сваёй бібліятэцы і кнігі Ларысы Геніюш, і Язэпа Малецкага, і Аўгена Калубовіча, і Вітаўта Кіпеля, сам сустракаўся з «фюрэрам беларускай моладзі Ганько» ў Канадзе, а з Алесем Мазанікам, праўнукам забойцы Вільгельма Кубэ, мы цяпер нярэдка сустракаемся на беларускіх рок-канцэртах. Усе яны трапілі ў мудрагелістыя калізіі Якавенкаўскай эпапеі.

Хтосьці скажа: «Во Мартыненка накуралесіў палітычнага трызнення ў сваёй рэцэнзіі на раман, які, па сутнасці, з'яўляецца звычайнай сямейнай хронікай жыхароў Заходняй Беларусі за мінулы век!» Мо і сапраўды, лепш было б спыніцца на старонках складаных сямейных адносін Паўлюка Рамановіча з ягонай жонкай Зосяй, які хоць і рана загінуў, разам з бацькам, але пакінуў па сабе трох цудоўных дзетак. Або распавесці пра сусветныя бадзянні ягонага брата Барыса, які вывеў сваю дачку Марыю ў глабальныя эліты медыцыны. Але наўрад ці рэцэнзент мусіць пераказваць сюжэт, марнуючы аўтарскую інтрыгу. Мо вам яшчэ раскрыць тайну смерці галоўнага героя: дзе, калі і як? Мо назваць імя забойцы? Не ў гэтым задача. А ў тым, каб падштурхнуць вас на пошук шматлікіх эмацыйных перажыванняў, інтэлектуальных адкрыццяў ды простых энцыклапедычных ведаў, якімі напоўнены эпічны раман Васіля Якавенкі «Пакутны век». Адно магу параіць: пільнуйце менавіта трэцяе выданне гэтага твору (на тытуле яно пазначана як другое, бо не ўлічвалася выданне рамана "Надлом"), калі жадаеце разабрацца і ў вызначальных постацях найноўшай беларускай гісторыі. Гісторыі ўжо рэальна незалежнай краіны з сваім прэзідэнтам, з сваім прэм'ерам, з сваім народам, які хоць і карыстаецца пакуль роднай мовай з дапамогай слоўніка, але на перапісах называе роднай менавіта яе, беларускую мову.

На завяршэнне гэтых разваг мушу згадаць мімавольны абмен думкамі з пісьменнікам пасля прачытання кнігі. Ён цікавіўся, ці ўразіў мяне пільна выпісаны ім эпізод смерці галоўнага героя Пятра Рамановіча, бо нехта казаў яму, што эпізод той больш узрушлівы за Талстоўскую смерць князя Валконскага. Я шчыра прызнаўся, што такія эпізоды не прываблiваюць мяне ні ў Талстога, ні ў Якавенкі, бо ў прадчуванні сваёй смерці гатовы хоць у глотку зубамі ўпіцца на развітанне з забойцамі, а вось насамрэч уражваюць містычныя моманты, калі душа Пятра Рамановіча пасля тае смерці бянтэжыць душы яшчэ жывых крыўдзіцеляў.

Праўда, ёсць і рэалістычны эпізод, які выклікае найбольшы эмацыйны катарсіс у гэтай эпапеі: бліжэй да фінішу, як вядома, старэюць галоўныя персанажы, паміраюць. І вось стогадовы Барыс Кіт, які перад новым годам тэлефанаваў маладзейшай, Марыі Раманавічанцы, ды пачуў трывожную вестку пра ейны інфаркт, на праваслаўныя каляды раптам дачакаўся новага званка: *«– Hello, Барыс Уладзіміравіч! Я жывая! Я шчаслівая, што зноў магу гаварыць з вамі!» (стар. 891).*

І акурат аптымістычны, душэўны дыялог двух шчырых беларусаў па розныя бакі Атлантыкі – у Вашынгтоне й Франкфурце – стаў прасякнутым надзеяй шчаслівым канцом гэтага аб'ёмнага ды ёмістага літаратурнага палатна, сапраўднай беларускай эпапеі – «Пакутны век».

**Матыльда Гонта, выкладчык:**

## Дыназаўр у мегаполісе

*Аўтар "Пакутнага веку" ўзняўся на такую вышыню прафесійнага майстэрства, што яго ўжо і перахваліць немагчыма.*
Уладзімір Дамашэвіч,
рэдактар апошняга выдання трылогіі, падчас прэзентацыі кнігі

Не ў першы раз беларускі пісьменнік больш дбае аб сэнсатворчасці, міфатворчасці, выхаванні маладога пакалення, помніку на радзіме і, хто ведае, нобелеўскай лекцыі, чым аб сваім чытачы. Зараз, натуральна, замоўлены звыш раман "Вайна і мір" *нам строіць і жыць памагае*, любім мы ўсялякіх франкенштэйнаў вырошчваць (беларускую Данцову, Уліцкую і Стывена Спілберга ў прыдачу).

Асобнае пытанне, ці чытае моладзь "Вайну і мір", а тыя, хто робяць гэта пад адукацыйным прымусам, ці атрымліваюць задавальненне. У нашым выпадку студэнтам, якія скардзяцца на перагруз па ўсіх трох літаратурах, а самі крадком чытаюць Браўна, Геймана ці дзённік Брыджыт Джонс і лічаць духоўным гуру Каэлья, пагражае таміна на 892 старонкі. "Ізноў пра вёску/ ізноў пра вайну!" – ньюоць студэнты, пагартаўшы "Пакутны век" Васіля Якавенкі. Калі ў выпадку з Мележам ці Зарэцкім можна ўгаварыць іх, маўляў, трэба ведаць традыцыю, каб атрымліваць асалоду ад яе парушэння ў шчаслівым "сёння" нашай літаратуры, дык у выпадку Якавенкі ўжо не ўгаворыш, а тое і зусім аўтарытэт выкладніцкі страціш, бо абяцанка не спраўджваецца.

Пытанне на залік: адшукайце паралелі паміж сярэдзінай XX ст. і пачаткам XXI ст., прааналізуйце складнікі грамадска-палітычнай сітуацыі, у якой можа быць запатрабаваны раман-эпапея.

Трылогія "Пакутны век" выглядае спараджэннем мінулага стагоддзя не толькі таму, што яго і апісвае, і не толькі таму, што вытрымана ў найлепшых традыцыях буйной беларускай прозы. Яна, як любы вялікі тэкст, "тоўсты раман", упісваецца ў постмадэрную эпоху гэтаксама, як Гадзіла ў сучасны Нью-Ёрк. Кажаце, інтэртэкстуальнасць ды інтэлектуальныя гульні з чытачом? Азохэнвэй і хвастом ця па галаве! Смерць аўтара і гетэраглосія? – "У гэты момант Генрык Скірмунт устаў і ціха выйшаў з пакоя", бо кожны герой носіць акурат на лобе вялізны цэтлік, на якім пазначана колькасць калорыяў, шкодных для вашай фігуры, перапрашаю, аўтарскую ацэнку карысці героя для Беларусі. Што да фрагментарнасці, мазаічнасці, якія адлюстроўвае нашае рассеянае ўспрыняцце і спрычыняецца да яго, дык у тэксце гэтага нават і зашмат, тэкст рассыпаецца на безліч самастойных гісторыяў пра асобных дзеячаў нашай гісторыі (Кубэ, Гітлер, Барыс Кіт, Мікалай Шчорс, Радаслаў Астроўскі...), пакідаючы ў руцэ заміж залатых зернейкаў казытлівае адчуванне пустэчы.

Дыназаўр мае значную перавагу над раманам – рэптылія страшыць і захапляе адначасова, а яшчэ – схрумае нагу герою, тут гераіня і зразумее, як яна, аказваецца, кахае, з чаго вынікае пацалунак цягам трох хвілін або любоўная сцэна на тры старонкі на тле ўсясветных разбурэнняў і падзення вавілонскай вежы. Вернемся да нашых баранаў, то бок навучэнцаў, адзінага ў краіне масавага пласту, які чытае беларускую літаратуру (настаўнікаў не бярэм пад увагу – бо яны людзі, па-першае, апантаныя, а па-другое, паднявольныя; ну а іншыя таварышы, якія цікавяцца літаратурай, складаюць мізэрную частку нашага пярэстага грамадства, што і па накладах літаратурна-мастацкіх выданняў бачна). Раман "Людзі на балоце" многія чытаюць запоем, за што мусяць дзякаваць моцнаму меладраматычнаму складніку: то Васіль з Ганнай мілуюцца-сварацца, то Яўхім да Ганны, засляпіўшы вочы, лезе ды ў нос локцем атрымлівае, то Хадоська ідзе ў лясны абартарый вызваляцца ад плёну Яўхімавай жарсці... За гэтай лініяй

амаль губляецца нейкае там землеўпарадкаванне, пачатак калектывізацыі – гэта як музычнае суправаджэнне, якое дадае напругі дзеянню, а само застаецца амаль незаўважным, так што слухаеш потым саўндтрэк і дзіву даешся.

Што ж да другой і трэцяй кніг "Палескай хронікі" – іх чытаюць па інерцыі або з цікаўнасці: дык як там з героямі. У прынцыпе, пасля таго як рыбу прынадзілі і на кручок заманілі, можна яе весці пісьменніцкай вудай куды заўгодна, але не бясконца доўга. Пасля двухсотай старонкі пра ўгаворы сялянаў абагульніць маёмасць, акунькі б'юць хвастом і даюць дзёру. І гэта не толькі праблема беларусаў: пакуль Джон Галсуорсі апісваў, як каханне разбураецца з-за кансерватыўных поглядаў грамадства ("The End of the Chapter", у прыватнасці – "Flowering Wilderness"), яго чыталі з надзвычайнай хуткасцю, праглынаючы падрабязнасці побыту англічан як прыемную экзотыку. А калі пісьменнік пайшоў разбірацца ў гэтых самых грамадскіх поглядах, шукаць іх вытокі (уся "Сага пра Фарсайтаў" як цэласнасць) – дык адразу ж абвясцілі нудным, надта разумным і малачытэльным.

Каб чытач не доўга мучыўся здагадкамі, што тут наплёў рэцэнзент, сфармулюю свае пажаданні да любога вялікага тэксту: *каб больш за дваццаць радкоў прачыталі, тэкст павінен быць цікавым, напоўненым чароўнымі прыгодамі, як у Роўлінг, дэтэктыўнай напругай, як у Дастаеўскага, Караткевіча або Рублеўскай, ці нейкай іншай няўлоўнай магіяй, імя якой талент.*

**Ліпавае золата**

Пройдземся па тэксце.

Пралог адбываецца, на мой асабісты жаль[1], не ў нябёсах, і не залаты яблык з падступным надпісам абмяркоўваюць тры постаці (шкада, шкада, што не прыўкрасныя багіні!) – аўтар, паэт і геолаг. Пачаўшы з абмеркавання восеньскай прыроды, у апалым лісці якой бачацца змарнаваныя пакаленні, героі кіруюць гутарку на справы дзяржаўныя, выкрываюць сусветную змову багацеяў і ТНК, абсякаюць "шчупальцы спрутаў з усходу", якія прагна цягнуцца на родную старонку, абмяркоўваюць магчымасці культурнай разнастайнасці ў час глабалізацыі, праблемы мовы, беларусаў як гістарычнага рэлікту[2]... Калі шукаць пад гэтым золатам ліпавага лісця ключы да трылогіі, дык можна паспрабаваць утыркнуць у тэкставы замок такое: лёс людзей, якія вымушана здраджваюць беларускай нацыі, прытым прымусам выступаюць размаітыя ліхадзеі ды беларускае прастадушша, даверлівасць да хіжых суседзяў (для цэласнасці ўласнага тэксту не пазначаю тут цытаты і нават дазваляю сабе прыводзіць іх недакладна, ахвотным схапіць за руку варта зазірнуць на стар. 14). Мудрагелістыя коды падбіраць дарэмна – пераконвае пралогавы паэт і б'е наводмаш то патрыятычнай дэкаламацыяй ("вершаў уласнага вырабу", так, так у аўтара), то патэтычнымі прамовамі:

*"...колькі разоў ліхадзеі, ворагі нашы, рэзалі, рвалі тонкія струны, а яны ж узнаўляліся і гучалі па-новаму".*

Быццам бы і камар носа не падточыць, слушна сказана, але нейк... спазнілася на цэлы пакутны век. Музычны інструмент у якасці вобраза народнай душы і яе выразніка – літаратуры: згадайма "Дудку беларускую", скрыпачку з цымбаламі, а

---

[1] Пасля аднаго "нябеснага" пралогу адзін сляпы стары ўчыніў такі экшан, што дасюль сцэнарыстам не спіцца. Хаця, мушу прызнаць, і ў гэтага міфічнага старога былі спісы такой даўжыні, што чытаць іх паэтычнай бессані хапала толькі да паловы...

[2] Маем процьму прыкладаў глыбокадумных гутарак, якія вядуцца абы-дзе і выглядаюць пры гэтым цалкам натуральна: скажам, у вазочку "Сталкера" версіі Таркоўскага ці ў задушлівай парыжскай кватэры "Гульні ў класікі", дзе пад акампанемент матэ й метафізікі спіць ды спіць памерлае дзіця... Нашы героі разводзяць свае анціноміі на "сталічным бульвары", у час шпацыру, там жа і вершы чытаюць (спадзяюся, на ўсю вуліцу?)

да іх і смык, і поўныя гуслі дукатаў, і Сымона-музыку, асобныя прыгоды цымбал... Потым пайшлі буры-граніты-танкі ды зусім іншая музыка. Пасля кідкіх мадэрнавых пошукаў, пасля вытанчанай прозы інтэлектуалаў-постмадэрністаў, пасля шкляных перлаў і Борхеса – раптам рэканструяваная лявоніха ў музейных строях:

*“Ад шкодніцы-глабалізацыі ёсць, бадай, адзін паратунак – з’яднаны народ, яго несмяротная духоўная спадчына!”*

Скарына казаў яшчэ пафасней, але яму даравальна, бо – першы. Багушэвіч яшчэ больш плакаў, за што, урэшце, атрымаў і ад Ластоўскага, і ад Акудовіча. Пыл на старых прымятых карунках можа быць вельмі эстэтычным – але не будзеш жа надзяваць папсаваны моллю ды мышамі кажух, гойсаць у ім толькі таму, што ён належыў твайму слаўнаму продку! Кожны мадэльер ведае каштоўнасць класікі – і добры той мадэльер, які ўдыхне ў яе новае жыццё... Але ж, як сведчыць Яраслаў Мальдзіс, “В. Якавенка пакінуў без увагі моду на паэтыку “адстутнасці”...”

Як і да кожнага аўтара буйной прозы, да В. Якавенкі трэба прывыкнуць. Пакрысе раман зацягвае, забірае ў сябе, каб даць пажыць на адным мотальскім двары, вакол якога праносяцца падзеі – пілсудчына і першыя камуністы, прыход і сыход Чырвонай Арміі (апяць уласць мяняецца!), войны, калектывізацыя, паўстанне незалежнай Беларусі. Чытанне, рыхтуйцеся адразу, няспешлівае, проста дзіва, як аўтару ўдаецца запаволіць ліхаманкавыя падзеі першай квадры ХХ ст. За тэкстам пакрысе становіцца чуцён голас разважлівага гаспадара, які ведае свой дзень і не мае патрэбы ў гадзінніку, ведае парадак жыцця і рушыць з ім у ладзе.

Другаснасць – праклён нашага часу, ну што ж паробіш, трэба аглядаць назапашанае і запускаць трактар “Беларусь” на біяпаліве.

# Праўда як рэлігія

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Андрасюк Міхась. Вуліца Добрай Надзеі: апавяданні. – Мінск: Медысонт, 2010. – 304 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 7.)**

Вядомы на Беласточчыне празаік і паэт, лаўрэат прэміі "Залаты апостраф" за 2009 год, супрацоўнік "Радыё Рацыя" Міхась Андрасюк нарэшце "мае кнігу" і на Беларусі. Чытачы "Дзеяслова"добра знаёмыя з творчасцю слыннага аўтара, але гэты зборнік будзе і для іх прыемным сюрпрызам. Бо гэта будзе падарожжа ў малазнаёмыя нам (хоць і блізкія) белавежскія, пушчанскія вёсачкі і мястэчкі, населеныя каларытнымі асобамі, якіх Міхась Андрасюк апісвае з асаблівай любоўю, а таксама лірычнай іроніяй і дасціпнасцю.




**Багданава Галіна. Сакрамэнта: апавяданні, аповесці. – Мінск: Медысонт, 2010. – 308 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 9.)**

Галіна Багданава чакала гэтую кнігу доўгіх шаснаццаць гадоў.Так, менавіта ў 1994 годзе выйшла яе апошняя кніга "Дом іхняе мары". У гэта цяжка паверыць, але гэта ёсць сапраўдная трагедыя літаратараў пакалення Г. Багданавай, якім цяпер зусім няшмат гадоў – каля 50, і якіх "рыначная эканоміка" і "дзяржаўная палітыка" пазбавілі сваіх чытачоў... Новая кніга Галіны Багданавай, якая цяпер выступае пад псеўданімам Галіна (друкавалася таксама як Галіна Ланеўская) – "шчырая споведзь перад сабою і перад чытачом пра наш час, пра вечныя пераўтварэнні кахання ў жыцці і вобразным свеце мастацтва".




**Бічэль Данута. Мост святога Францішка: успаміны. – Мінск: Медысонт, 2010. – 290 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 8.)**

Папярэднюю кнігу Дануты Бічэль з дзіўным назовам «Хадзі на мой голас» (2008, Гародня-Вроцлаў) паспелі ўжо ацаніць і палюбіць чытачы. «Мост святога Францішка» – своеасаблівы працяг гэтага зборніка. Аснову кнігі склалі згадкі пра людзей найраднейшых для Дануты Бічэль. Гэта кніга пра каханне і сяброўства, пра любоў да Бацькаўшчыны і людзей "духоўна прыгожых, якія жылі для саміх сябе, для сваіх блізкіх і для Радзімы, – у тым сэнсе, як яны разумеюць паняцце Радзімы"...

**Гілевіч Ніл. Дзверы ў гісторыю: сатыра і гумар. – Мінск, 2010. – 64 с. (Кніга выдадзеная на сродкі Алеся Усені).**

Назву кнізе далі наступныя дасціпныя радкі:

Дзверы ў гісторыю вузкія вельмі
Цяжка праходзяць і людзі, і шэльмы,

> Дзверы ж адтуль – шырэй за вароты:
> Вылеціш вон – і не ўспомняць хто ты.




Вядома, гэта не першая кніга сатыры і гумару Народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. За шэсцьдзясят гадоў жыцця ў літаратуры ён выдаў больш за дзесяць такіх кніг, у тым ліку “Званковы валет”, “Як я вучыўся жыць”, “Сказ пра Лысую гару”, “Ачмурэнне”, “Гэй наперад” Гэй назад!” і інш. У новую кнігу ўвайшлі сатырычныя вершы і эпіграмы, напісаныя з 1995 па 2010 год. Напрыканцы зборніка – гумарыстычныя сяброўскія пасланні ды жарты.




**Зуёнак Васіль. Выбраныя творы. Уклад., камент. аўтара; прадм. Н. Заяц. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 512 с.: [8] с. іл. – («Беларускі кнігазбор» Серыя 1. Мастацкая літаратура).**

У пяцьдзясят пяты том “Кнігазбору” ўвайшлі выбраныя творы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы Васіля Зуёнка – вершы, паэма «Маўчанне травы» (адна з пяці паэм кнігі «Пяцірэчча»), а таксама празаічныя элегіі, эсэ, эцюды і літаратурна-крытычныя артыкулы. “Гаспадар паэтычнай Сялібы” – так назвала сваю прадмову да зборніка Наталля Заяц. Дык адгукнемся ж на яе і аўтара кнігі запрашэнне “судакрануцца з багатым набыткам гэтай Сялібы” і акунемся ў найбагацейшы паэтычны свет Паэта Васіля Зуёнка.




**Залоска Юрась. Праўда як рэлігія: гутаркі з Васілём Быкавым. – Мінск: Медысонт, 2010. – 192 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 6.)**

Рыгор Барадулін назваў у свой час Васіля Быкава Пракрокам... Гутаркі журналіста і літаратара Юрася Залоскі з Народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым адбыліся ў сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя, але чытаюцца гэтак, нібыта не прайшло з таго часу 15 гадоў... Усё, пра што гаворыць Васіль Уладзіміравіч, якія “дыягназы” ставіць тагачаснаму ладу і як прагназуе будучыню – быццам прамоўленае сёння. Гэта, як сказана ў анатацыі, “нацыянальная споведзь «песіміста ў адносінах да пакалення свайго веку» і валадара беларускай нацыянальнай ідэалогіі будучыні – вялікага літаратара, мастацтвазнаўцы, філосафа, палітыка, грамадзяніна і прарока”.




**Кандрацюк Ганна. Дзядоўскае турнэ з Анатолем С. – Беласток: Праграмная рада тыднёвіка «Ніва», 2010. – 116 с.: іл.**

Кніга журналісткі тыднёвіка «Ніва» (Беласток, Польшча) Ганны Кандрацюк-Свярубскай – гэта расповед пра падарожжа на Беларусь, на радзіму паэта Анатоля Сыса ў вёску Гарошкаў у Рэчыцкім раёне, дзе адзначалася ягонае 50-годдзе, якое яна разам з паэткай Мірай Лукшай здзейсніла летась. Кніга насычаная ўспамінамі пра сустрэчы з Анатолем Сысам, ураженнямі ад наведання Беларусі – а вандроўніцы пабывалі яшчэ і ў Гародні, Мінску, Жыровічах, дзе сустракаліся з вядомымі на Беларусі людзьмі, сябрамі Анатоля і тымі, хто яго ведаў. Кніга багата ілюстраваная фотаздымкамі, большасць з якіх друкуецца ўпершыню.

# ЗМЕСТ часопіса "Дзеяслоў" №1-6 (44-49) за 2010 год

***Конкурс***



***Пераклады***



***Тэатр***



***Дзённікі***



***Інтэрв'ю***

***Спадчына Архівы***



***Эсэ***



***У вянок памяці Ларысы Геніюш***



***У вянок памяці Уладзіміра Караткевіча***



***У вянок памяці Анатоля Сыса***



***Юбілеі. Памяць***



***Мастацтва***



***Крытыка. Рэцэнзіі. Водгукі.***

***Кнігапіс***



***Бліц-крыт***



***Практыкум***



***Дзеяпіс***

# Нашыя аўтары

**Асташонак Алесь** — драматург, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст. Аўтар кніг «Фарбы душы», «Жоўты колер белага снегу». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў Мінску. Памёр у 2004 годзе.

**Ахроменка Уладзіслаў** – празаік, драматург. Аўтар кніг «Здані і пачвары Беларусі» (у суаўтарстве з Максімам Клімковічам, кінарамана-фарса «Янкі, альбо Астатні наезд на Літве» (у суаўтарстве з Максімам Клімковічам), «Праўдзівая гісторыя Кацапа, Хахла і Бульбаша» (у суаўтарстве з Максімам Клімковічам). Апавяданні, навелы, эсэ друкаваліся ў калектыўных зборніках, альманахах і часопісах. Перакладзены на ўкраінскую і польскую мовы. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску і Чарнігаве.

**Балахонаў Сяргей** – паэт, празаік. Аўтар зборнікаў вершаў «Сонцавароты», «Брама сталасьці», «Мой беларускі...», «Дваццатае вока вясны, «Паляваньне на тэкст» , кнігі прозы «Імя грушы» і інш. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

**Бураўкін Генадзь** — паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980 г.). Аўтар кніг паэзіі «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Дыханне», «Жніво», «Выток», «Варта вернасці», «Пяшчота», «Паміж зоркай і свечкай», «Чытаю тайнапіс вачэй», «Лісты да запатрабавання» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Шуляціна на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

**Вабішчэвіч Віктар** – паэт. Аўтар кніг паэзіі «Чорны боль», «Кахаю і люблю», «Уражанне». Нарадзіўся ў 1960 годзе ў вёсцы Рубель на Століншчыне. Жыве ў Давыд-Гарадку.

**Гапеева Вольга** — паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кніг «Рэканструкцыя неба» і інш. Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Данільчык Аксана** – паэт, перакладчыца. Аўтар кніг «Абрыс Скарпіёна», «IL MEZZOGIORNO. Поўдзень.». Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Дубянецкі Эдуард** – культуролаг, псіхолаг, гісторык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар кніг «Таямніцы народнай душы», «Цяжкі шлях да адраджэння», «Сусветная культура: Ад старажытнасці да нашых дзён», «Культуралогія» і інш. Вершы друкаваліся ў розных перыядычных выданнях Беларусі. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Ганцаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Забораў Барыс** – мастак. Творы захоўваюцца ў карцінных галерэях і музеях Беларусі, Францыі, Германіі, ЗША, Японіі, Расіі, Англіі і інш. Нарадзіўся ў Мінску ў 1935 годзе. З 1980 года жыве ў Парыжы.

**Іванькова Алеся** – празаік. Студэнтка другога курса МДЛУ. Нарадзілася ў 1991 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Івашчанка Анатоль** — празаік, паэт, літаратуразнаўца. Аўтар кнігі «Вершnik». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Капусцінскі Рычард** — польскі пісьменнік, публіцыст, журналіст. Аўтар кніг «Калі б уся Афрыка», «Яшчэ адзін дзень жыцця», «Футбольная вайна», «Падарожжа з Герадотам» і інш. Нарадзіўся ў 1932 годзе ў Пінску. Памёр у 2007 годзе.

**Каўка Аляксей** — публіцыст, літаратуразнаўца, гісторык. Аўтар кніг «Тут мой народ», «Жывом!» і інш. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Равецкі Бор на Чэрвеншчыне. Жыве ў Маскве.

**Качаткова Паліна** — празаік, публіцыст, журналіст. Апавяданні друкаваліся ў тыднёвіках «Літаратура і мастацтва» і «Наша ніва», часопісах «Дзеяслоў», «Крыніца» і іншых выданнях і зборніках. Нарадзілася ў 1968 годзе ў Оршы. Жыве ў Оршы.

**Клімковіч Максім** – празаік, драматург. Ааўтар п'ес «Віта Брэвіс, ці Нагавіцы Сьвятога Георгія», «Вольная сцэна», «Чорны квадрат», дэтэктыўных аповесцяў і раманаў «Сцэнар смерці», «Карона Вітаўта Вялікага», «Люстраная фіранка», «Здані і пачвары Беларусі» (у суаўтарстве з Уладзіславам Ахроменкам, кінарамана-фарса «Янкі, альбо Астатні наезд на Літве» (у суаўтарстве з Уладзіславам Ахроменкам) «Праўдзівая гісторыя Кацапа, Хахла і Бульбаша» (у суаўтарстве з Уладзіславам Ахроменкам) і інш. Нарадзіўся ў 1958 годдзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Крывальцэвіч Раіса** – празаік, эсэіст. Аўтар навуковых артыкулаў, звязаных з культурнай спадчынай. Выкладчыца ЕГУ. Нарадзілася ў 1960 годзе на Наваградчыне. Жыве ў Мінску.

**Марук Уладзімір** — паэт, перакладчык, эсэіст. Аўтар кніг «Зоркі ў кронах», «Ліст рабіне» і інш. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Гута на Ганцавіччыне. Памёр у 2009 годзе.

**Масквін Андрэй** – тэатразнаўца, культуролаг, перакладчык. Дацэнт Варшаўскага ўніверсітэта, выкладае беларускую мову, літаратуру, мастацтва і культуру. Аўтар манаграфіі «Станіслаў Пшыбышэўскі ў расійскай культуры канца XIX пачатку XX стагоддзя» (Варшава, 2007). Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Нясвіжы. Жыве ў Варшаве.

**Рублеўская Людміла** — паэт, празаік, крытык, драматург, нарысіст. Аўтар кніг паэзіі «Крокі па старых лесвіцах», «Адукацыя», «Замак месячнага сяйва», прозы «Міфы горада Б'», «Сэрца мармуровага анёла», «Пярсцёнак апошняга імператара», «Шыпшына для пані» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Сітніца Рыгор** — мастак, паэт, публіцыст. Акадэмік Беларускай акадэміі мастацтваў. Творы знаходзяцца ў музеях Беларусі, Польшчы, Грэцыі, у прыватных зборах Беларусі, Летувы, Польшчы, Германіі, Галандыі, Ізраіля, Вялікабрытаніі, Грэцыі. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Курыцічы на Петрыкаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Тарайкевіч Рыта** – паэт, педагог, мастак-калажыст. Скончыла БДПУ імя М.Танка. Працавала ў гімназіі і ў школе-інтэрнаце. Студэнтка магістратуры па спецыяльнасці "Сацыякультурная дзейнасць". Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Тарановіч Алесь (Алесь Эроціч)** – эсэіст, паэт, празаік, мастак, мастацтвазнаўца. Аўтар кнігі «Песня Эмігранта». Сябра трох берлінскіх літаратурных клубаў. Творы друкуюцца ў розных берлінскіх часопісах і альманахах. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Менску. Жыве ў Берліне.

**Трэнас Віка (Вікторыя Ляйкоўская)** – паэт. Аўтар кніг "Цуд канфіскаванага дзяцінства", "Экзістэнцыйны пейзаж". Літаратурны аглядальнік інтэрнэт-выдання "Новая Эўропа", супрацоўнічае з часопісамі "Паміж", "pARTisan", "Тэксты". Займаецца арганізатарскай і менеджэрскай дзейнасцю: супольна з паэткай Юліяй Новік ажыццяўляе доўгатэрміновыя літаратурна-мастацкія праекты "Выявы", "Францыя ў сэрцы Беларусі". Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Шамецька Юрась** – паэт. Скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут.Творы друкаваліся ў перыядычным друку, у альманаху "Беларус". Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску. Жыве ў Атаве (Канада).

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, якія друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Советская молодежь» (Рыга), «Белорусская деловая газета» і інш. Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры передруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука, Міхася Скоблы,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага, Юрыя Дзядзінкіна.